Нацыянальная акадэмія навук Беларусі
Інстытут гісторыі

Шадыра В.І.

# Беларускае Падзвінне
# (І тысячагоддзе н.э.)

Мінск
Інстытут гісторыі НАН Беларусі
2006

УДК 903/904 (476.5) “0/1”
ББК 63.44 2 (4 Бел)
Ш 165

*Навуковы рэдактар*

Г.В. Штыхаў, докт. гістар. навук

*Рэцэнзенты:*

Е.А. Шмідт, докт. гістар. навук,
Л.У. Дучыц, канд. гістар. навук

**В.І. Шадыра**
**Ш 165** Беларускае Падзвінне (I тысячагоддзе н.э.) – Мінск: ДНУ “Інстытут гісторыі НАН Беларусі”, 2006. – 150 с., іл. – Бібліяграфія ў канцы кн.

**ISBN 985-6769-14-0**

У манаграфіі разглядаюцца вынікі 30-гадовых археалагічных даследаванняў аўтара на тэрыторыі басейна Заходняй Дзвіны ў эпоху жалезнага веку і ранняга сярэднявечча. Упершыню на шырокім археалагічным матэрыяле з выкарыстаннем дадзеных пісьмовых крыніц, лінгвістыкі і антрапалогіі даецца рэканструкцыя гістарычнага развіцця насельніцтва Поўначы Беларусі на працягу I тысячагоддзя н.э.

Выданне разлічана на навукоўцаў, гісторыкаў, археолагаў, краязнаўцаў, студэнтаў, усіх тых, хто цікавіцца і вывучае гісторыю Беларусі.

УДК 903/904 (476.5) “0/1”
ББК 63.44 2 (4 Бел)

*На вокладцы змешчаны аўтарскія малюнкі,*
*па матэрыялах праведзеных археалагічных даследаванняў*



**ISBN 985-6769-14-0**

*Светлай памяці майго настаўніка —*
*Аляксея Рыгоравіча Мітрафанава*
*прысвячаецца*

# УВОДЗІНЫ

Матэрыялы археалагічных даследаванняў на тэрыторыі басейна Заходняй Дзвіны ў межах Беларусі сведчаць аб тым, што да пачатку І тысячагоддзя н.э. у жыцці плямёнаў, якія засялялі паўночную частку сучаснай Беларусі, значных зрухаў ці змен не назіралася. Насельніцтва эпохі жалезнага веку днепра-дзвінскай археалагічнай культуры развівалася даволі павольна: доўгі час выкарыстоўвалі прылады працы з косці, каменю, гліны і зрэдку з металу. Іх гаспадарчая дзейнасць была звязана, перш за ўсё, з жывёлагадоўляй, паляваннем, збіральніцтвам. З цягам часу паступова набірае сілу ляднае земляробства, якое з першых стагоддзяў н.э. становіцца асноўнай галіной гаспадаркі насельніцтва Беларускага Падзвіння.

З цягам часу ўсё прыкметней выдзяляюцца лакальныя асаблівасці, якія адпавядаюць асобным рода-племянным групоўкам унутры днепра-дзвінскай этнічнай супольнасці. Прычынай з'яўлення адметных рыс з'явіліся фактары ўнутранага і знешняга характару, якія прывялі да фарміравання на асноўнай тэрыторыі Беларускага Падзвіння заходняга варыянту днепра-дзвінскай культуры. Гэтыя рэгіянальныя адметнасці выразна праявіліся ў апошні перыяд існавання днепра-дзвінскай культуры. Своеасаблівасці ў пасяленчаскай структуры, матэрыяльнай культуры, гаспадарчай дзейнасці мясцовага насельніцтва, а таксама адрозненні ў рэлігійных поглядах, сацыяльных фактарах — усё гэта адбілася на далейшых культурагенетычных працэсах другой паловы І тысячагоддзя н.э.

Разглядаемая ў рабоце тэрыторыя Беларускага Падзвіння ўключае ў сябе басейн беларускага цячэння Заходняй Дзвіны і па сучасным адміністрацыйным дзяленні ўсю Віцебскую вобласць (без самай паўднёвай ускраіны) Рэспублікі Беларусь. Храналагічныя рамкі работы ахопліваюць значны перыяд гісторыі насельніцтва паўночнай Беларусі (басейн Зах. Дзвіны) ад рубяжа н.э. да Х ст. н.э. Гэты адрэзак часу ў І тысячу год з'яўляецца важным перыядам у сацыяльна-эканамічным жыцці насельніцтва Беларускага Падзвіння. Ён ахоплівае складаны працэс разлажэння родавага ладу і складвання ўмоў да ўзнікнення дзяржаўнай структуры — Полацкага княства-зямлі.

У манаграфіі Беларускае Падзвінне разглядаецца як гісторыка-культурная вобласць з адпаведнай сукупнасцю археалагічных помнікаў, якія існавалі ў дастаткова пэўных тэрытарыяльных межах на працягу І тысячагоддзя н.э. Яны супадалі з характарыстыкамі адпаведных археалагічных культур і адрозніваюць дадзеную тэрыторыю ад суседніх гісторыка-культурных рэгіёнаў.

У І тысячагоддзі н.э. ў заходнедзвінскіх плямёнаў адбыліся вельмі важныя пераўтварэнні, якія склалі, па сутнасці, новы этап у іх гісторыі. Жывёлагадоўча-земляробчы ўклад жыцця, які склаўся яшчэ ў ранні перыяд жалезнага веку, надоўга стабілізаваў аблічча матэрыяльнай культуры і побыту мясцовых плямёнаў і трывала прывязаў іх да сваіх тэрыторый. У разглядаемы час жалеза атрымлівае шырокае распаўсюджанне як апошняе і найважнейшае з усіх відаў сыравіны. Рост вытворчых сіл, звязаны з выкарыстаннем вырабаў і прылад працы з жалеза, спрычыніў значныя сацыяльна-эканамічныя змены, якія можна прасачыць на археалагічным матэрыяле з Беларускага Падзвіння. У гэты перыяд распад першабытнаабшчыннага ладу ўваходзіць у завяршальную стадыю. Пашырэнне эканамічных сувязяў вядзе да разбурэння родавай замкнутасці, пашырэння кантактаў і перамяшчэння насельніцтва. Ускладняецца і ўдасканальваецца сацыяльная структура насельніцтва.

Сацыяльна-эканамічныя змены канца эпохі жалеза супадаюць па часе з узмацненнем еўрапейскага працэсу Вялікага перасялення народаў, звязанага з перыядам бесперапынных войн варвараў з Рымскай імперыяй. Падзенне імперыі абумовіла выхад на шырокую гістарычную сцэну амаль усіх еўрапейскіх народаў. Менавіта трансеўрапейскі працэс Вялікага перасялення народаў вызначыў мяжу паміж старажытнасцю і сярэднявеччам. Нягледзячы на аддаленасць, еўрапейскія падзеі не маглі не адбівацца на гістарычным лёсе плямёнаў, якія пражывалі на тэрыторыі Беларусі. Адбываюцца складаныя этнагенетычныя працэсы, звязаныя з шырокімі перамяшчэннямі племянных аб'яднанняў, якія садзейнічаюць фарміраванню раннесярэдневяковых этнакультурных груповак: культуры тыпу Банцараўшчыны і Тушамлі, ранніх доўгіх курганоў, паселішчаў з аблітой і гладкасценнай керамікай. Рассяленне славян у басейне Заходняй Дзвіны і працэс славянізацыі мясцовага насельніцтва, у сваю чаргу, стварыў падмурак для пачатку фарміравання ўсходнеславянскіх этнакультурных асаблівасцей, якія ў далейшым ляглі ў аснову генезісу беларусаў.

Намаганнямі даследчыкаў, галоўным чынам XX стагоддзя былі сабраны разнастайныя матэрыялы, якія дазволілі скласці ўяўленне аб гісторыі і культуры вялікай групы плямёнаў, якія засялялі з эпохі жалеза Беларускае Падзвінне. Дзякуючы даследаванням аўтара некаторыя аспекты, звязаныя з пытаннямі тыпалогіі і храналогіі матэрыяльнай культуры насельніцтва Падзвіння, развіццём асноўных вытворчых галін гаспадаркі (жывёлагадоўлі, земляробства), удзельнай вагі і характары такіх заняткаў насельніцтва, як паляванне, рыбалоўства ў пэўнай меры ўжо знайшлі сваё вырашэнне. У той ці іншай ступені высветлены этнічныя пытанні; пытанні класіфікацыі гарадзішчаў, заканамернасцей іх размяшчэння і забудовы; грамадскія адносіны і рэлігійныя вераванні насельніцтва. Значная частка матэрыялаў з Беларускага Падзвіння эпохі жалеза ўведзена ў навуковы зварот. Важныя пытанні матэрыяльнай культуры, датыровак, тэрыторыі, гаспадаркі, сацыяльных адносін, лакальных асаблівасцей у пэўнай ступені вырашаліся аўтарам у манаграфіі «Ранний железный век северной Белоруссии». Мн., Наука и техника, 1985, калектыўнай фундаментальнай працы «Археалогія Беларусі. Т. 2. Жалезны век і ранняе сярэднявечча». Мн., 1999 і ў шэрагу артыкулаў.

У дадзенай рабоце аўтар імкнуўся акцэнтаваць увагу на даследаванне жыцця насельніцтва Беларускага Падзвіння ў апошні перыяд днепра-дзвінскай культуры і асвятліць, галоўным чынам, гістарычнае развіццё насельніцтва паўночнай Беларусі ў эпоху ранняга сярэднявечча і таксама прасачыць яго лёс падчас складвання першай дзяржавы — Полацкага княства-зямлі. У рабоце разглядаюцца пытанні фарміравання археалагічных культур 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э., высвятляюцца этнічныя кампаненты, якія ўдзельнічалі ў фарміраванні гэтых культур, вызначаюцца адносіны старажытнасцей ранняга сярэднявечча Беларускага Падзвіння з іншымі сінхроннымі культурамі сумежных рэгіёнаў. Безумоўна, аўтар не мог абысці пытанні этнічнай інтэрпрэтацыі помнікаў V—VIII стст. н.э., высвятлення часу і характару славянскага засваення краю і ўзаемаадносін з мясцовым насельніцтвам. Для канчатковага вырашэння гэтых і іншых праблем патрэбны яшчэ час і намаганні многіх даследчыкаў як археолагаў, так і спецыялістаў іншых навук.

Аўтар абагульняе вынікі сваіх 30-гадовых археалагічных даследаванняў на тэрыторыі Беларускага Падзвіння, выкарыстоўвае даныя іншых даследчыкаў, аналізуе пэўны спектр пісьмовых этнаграфічных, лінгвістычных, антрапалагічных звестак, якія таксама дапамагаюць зрабіць рэканструкцыю гістарычнага развіцця насельніцтва паўночнай Беларусі ў I тысячагоддзі н.э.

Сваё бачанне этнакультурнага развіцця Беларускага Падзвіння аўтар раскрывае праз характарыстыку такіх важных перыядаў у гісторыі насельніцтва Падзвіння, як

1. Фінальны этап днепра-дзвінскай культуры і культурна-гістарычнае развіццё насельніцтва ў I—IV стст. н.э.
2. Эпоха Вялікага перасялення народаў і рэгіянальныя асаблівасці гістарычнага развіцця насельніцтва Беларускага Падзвіння ў 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э.
3. Рассяленне славян на тэрыторыі краю і этнакультурныя ўзаемаадносіны ў апошняй чвэрці I тысячагоддзя н.э.
4. Гістарычны лёс насельніцтва Беларускага Падзвіння на рубяжы I — II тысячагоддзяў.

У падрыхтоўцы кнігі да выдання прынялі ўдзел супрацоўнікі аддзела археалогіі жалезнага веку Інстытута гісторыі НАН Беларусі: Л.У. Дучыц, В.Г. Белявец, А.В. Пашык. Аўтар выказвае вялікую падзяку ўсім, хто садзейнічаў выхаду ў свет гэтай манаграфіі.

# РАЗДЗЕЛ 1

## ГІСТАРЫЯГРАФІЧНЫ АГЛЯД ДАСЛЕДАВАННЯЎ СТАРАЖЫТНАСЦЕЙ І ТЫСЯЧАГОДДЗЯ Н.Э. БЕЛАРУСКАГА ПАДЗВІННЯ

### 1.1. Гісторыя вывучэння эпохі жалеза на тэрыторыі Прыдзвіння

Намаганнямі даследчыкаў, пачынаючы з XIX ст. былі сабраны разнастайныя матэрыялы, якія дазволілі скласці пэўнае ўяўленне па гісторыі насельніцтва, якое пражывала ў басейне Заходняй Дзвіны ў межах сучаснай Беларусі. У полі зроку энтузіястаў старажытнасцей у XIX ст. былі не толькі курганы, якія ўжо на той час шмат раскопваліся, але і гарадзішчы. Аб гэтым мы ўжо пісалі ў манаграфіі (Шадыро, 1985). Адзначым толькі некаторыя сюжэты, якіх няма ў ёй.

У сярэдзіне XIX ст. вывучэннем старажытнасцей у акрузе Полацка займаўся К.А.Гаворскі. Ён апісваў каменныя магілы, гарадзішчы; вёў запісы народных паданняў аб іх. Гарадзішчы ён лічыў скопішчамі — месцамі збору старэйшын для вядзення суда (Говорский, 1853а, с. 88—97; 1853б, с. 98—103). У 1863 г. член Імператарскага маскоўскага археалагічнага таварыства А.М. Семянтоўскі, які працаваў у Віцебскім губернскім статыстычным камітэце, пачаў працу па складванню археалагічнай карты Віцебскай губерніі. Ён адзначаў, што ў 1867 г. яму было вядома 120 помнікаў археалогіі, а к 1890 г. больш за 250 аб'ектаў. Найбольш плённа ён працаваў на тэрыторыі Полацкага ўезду ў 1884 — 1887 гг. (Сементовский, 1890). Напярэдадні IX Археалагічнага з'езду на тэрыторыі Браслаўскага Паазер'я раскопкі кurganoў праводзіў супрацоўнік Віленскага музея старажытнасцей Ф.В. Пакроўскі (Покровский, 1895, с. 166—220). У гэтыя ж гады Ф.В. Пакроўскі з дапамогай мясцовай інтэлігенцыі склаў археалагічныя карты Віленскай, Ковенскай і Гродзенскай губерній. Тут мы можам знайсці шмат якія звесткі аб помніках археалогіі, выпадковых знаходках, паданнях, якія адносяцца да заходняй часткі Беларускага Падзвіння (Покровский, 1893; 1899).

У канцы XIX пачатку XX стст. шмат звестак аб помніках археалогіі паўночнай Беларусі трапляла ў перыядычны друк, часцей за ўсё ў неафіцыйную частку «Витебских Губернских ведомостей». Газету яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. рэдагаваў К.А. Гаворскі, які змяшчаў там і шмат сваіх публікацый па выніках археалагічных даследаванняў. Пазней тут друкавалі археалагічныя матэрыялы М.Ф. Кусцінскі, А.М. Семянтоўскі, Е.Р. Раманаў, Л.Ю. Лазарэвіч-Шэпелевіч і інш. У 1890 г. Е.Р. Раманаў і А.П. Сапуноў надрукавалі «Спіс пытанняў для складвання археалагічнай карты Віцебскай губерніі». Матэрыялы па археалогіі Падзвіння змяшчаліся ў «Ковенских губернских ведомостях», «Полоцких Епархиальных ведомостях», «Витебском Вестнике», «Виленском Вестнике», «Рубоне». Звесткі аб старажытнасцях краю можна сустрэць у расійскай прэсе («Сын Отечества», «Журнал Министерства Народного Просвещения», «Московские ведомости», «Всемирная иллюстрация» і інш.).

Аб адносна шырокім маштабе археалагічных росшуках на Віцебшчыне сведчыць той факт, што па ініцыятыве старшыні Імператарскага Маскоўскага археалагічнага таварыства графіні П. Уваравай у Віцебску ў 1914 г. была праведзена арганізацыйная канферэнцыя, дзе вырашаліся пытанні правядзення ў горадзе чарговага археалагічнага з'езду. Адкрыццю яго перашкодзіла Першая сусветная вайна. Пасля яе заканчэння ў Віцебску працягвала сваю дзейнасць аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута, заснаванага яшчэ ў 1911 г., які налічваў тры факультэты: археалагічны, археаграфічны і гісторыі мастацтваў. Пасля закрыцця ў 1922 г. Археалагічнага інстытута ў Маскве былі зачынены і ўсе яго аддзяленні. У гэты час у Віцебску яшчэ існавала акруговае таварыства краязнаўцаў, якім кіраваў М.І. Каспяровіч. Яно займалася і складаннем археалагічнай карты Віцебшчыны.

Калі ў цэлым прааналізаваць работы па археалогіі Беларусі XIX — пачатку XX стст., то можна пераканацца, што ўзровень ведаў аб жалезным веку, аб матэрыяльнай і духоўнай культуры насельніцтва, аб яго паселішчах і занятках, быў вельмі нізкім. Пытанні, звязаныя з храналогіяй рэчаў, узнікненнем гарадзішч, сацыяльнай структурай, этнічнай прыналежнасцю насельніцтва і г.д., заставаліся зусім невядомымі. І натуральна, што ў тагачасных гістарычных працах абагульняючага характару па Беларусі эпоха жалезнага веку з-за амаль поўнай адсутнасці археалагічных матэрыялаў адлюстравана вельмі слаба, павярхоўна і схематычна (Турчинович, 1857; Беляев, 1872; Довнар-Запольский, 1891). Але нельга не бачыць і заслуг першых археалагічных першапраходцаў Беларусі. І яны, перш за ўсё, звязаны з выяўленнем, апісаннем і картаграфаваннем шматлікіх археалагічных аб'ектаў, у тым ліку і гарадзішчаў.

Са стварэннем (1922 г.) Інстытута беларускай культуры (ІБК) — цэнтральнай навукова-даследчай установы БССР, пераўтворанай у 1929 г. у Акадэмію навук БССР, на Беларусі пачынаюцца праводзіцца планамерныя і сістэматычныя археалагічныя даследаванні. Супыняюцца хаатычныя і бескантрольныя раскопкі археалагічных аб'ектаў. На падставе першага агульнарэспубліканскага закона аб ахове помнікаў мінулага і прыроды (пастанова СНК БССР ад 24.12.1923 г. «Аб рэгістрацыі, прыёме на ўлік і ахове помнікаў мастацтва, даўніны, быту і мясцовай прыроды, якія знаходзяцца ва ўладанні ўстаноў і таварыстваў, а таксама ў прыватных асоб») Інбелкульт атрымаў выключнае права выдачы «Дазволаў» («Открытых листов») на даследаванне помнікаў археалогіі (Вяргей, 1992, с. 25—26).

У 20-я гады археалагічныя даследаванні пачынае праводзіць Беларускі дзяржаўны універсітэт і мясцовыя музеі. У гэты час пад Мінскам на гарадзішчы Банцараўшчына былі праведзены першыя раскопкі. У далейшым гэта гарадзішча стала эталонным помнікам і дала назву археалагічнай культуры сярэдзіны і 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. Сярэдняй і Паўночнай Беларусі. У 1926 г. у Мінску праходзіў I з'езд даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі. На пленарным паседжанні вядомы рускі археолаг А.А. Спіцын у сваім дакладзе падкрэсліў, што інвентар беларускіх і смаленскіх гарадзішч падобны інвентару літоўскіх пількальнісаў (гарадзішчаў — ***В.Ш.***) і выказаў меркаванне аб засяленні ўсёй гэтай тэрыторыі ў VII—VIII стст. літоўцамі (балтамі — ***В.Ш.***) (Працы Першага з'езду даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі. Мн., 1926, с. 25—30).

Пачатак навуковага і сістэматычнага вывучэння старажытнасцей эпохі жалеза на тэрыторыі Беларусі звязана з імем выдатнага беларускага археолага А.М. Ляўданскага. Аб яго археалагічнай дзейнасці на поўначы Беларусі мы пісалі раней (Шадыро, 1985, с. 5, 6; Шадыра, 1993, с. 134—136). Узгадаем, што яго даследаванні ў Падзвінні, вярхоўях Лаваці і на Смаленшчыне дазволілі вучонаму ўпершыню выявіць ідэнтычнасць старажытнасцей Смаленскага Падняпроўя і Беларускага Падзвіння і аднесці іх да адзінага этнакультурнага масіву — «прыбалтыйскага» (балцкага — ***В.Ш.***). У адрозненне ад А.А. Спіцына, беларускі вучоны адносіў гарадзішчы не да вузкага храналагічнага дыяпазону, а да цэлай эпохі — I—IX стст., «а магчыма, і больш ранняга часу…». Ён даў першую класіфікацыю гарадзішчаў Беларусі і Смаленшчыны, падзяліўшы іх на 4 храналагічныя групы. Малая крыніцазнаўчая база не дазволіла, аднак, А.М. Ляўданскаму размежаваць керамічныя тыпы, характэрныя для розных храналагічных перыядаў. Аб'яднаўшы ўсе гарадзішчы з гладкасценнай керамікай у адну групу, даследчык не бачыў адрозненняў паміж ранняй (днепра-дзвінскай — ***В.Ш.***) і керамікай 3-й чвэрці I тысячагоддзя (банцараўска-тушамлінскай — ***В.Ш.***). Аднак калі ўлічыць генетычную сувязь гэтых культур, то ідэнтыфікацыю керамічных тыпаў (без храналагічнага аспекта), можна разглядаць як гіпотэзу А.М. Ляўданскага аб роднаснай сувязі гэтай керамікі. Дарэчы, даследаванні 60—80-х гг. XX стагоддзя (А.Р. Мітрафанава, Я.А. Шмідта, К.П. Шута, Г.В. Штыхава, аўтара і інш.) пацвердзілі ў асноўным усе погляды А.М. Ляўданскага на старажытнасці эпохі жалеза Верхняга Падняпроўя і Падзвіння.

Маскоўскі археолаг Л.В. Аляксееў, які, дарэчы, праходзіў падрыхтоўку ў аспірантуры Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі ў 50-х гадах XX стагоддзя, праводзіў археалагічныя разведкі і невялікія раскопкі на Падзвінні. У манаграфіі, прысвечанай старажытнасцям Полацкай зямлі, Л.В. Аляксееў выдзяляе заходнедзвінскую культуру гарадзішчаў і адзначае яе блізкасць культуры смаленскіх гарадзішчаў (Алексеев, 1966, с. 21). Нізкая ступень даследаванасці не дазволіла вучонаму даць абгрунтаванне гэтым меркаванням.

Вядомы беларускі археолаг А.Р. Мітрафанаў, зыходзячы з матэрыялаў сваіх разведак і раскопак на тэрыторыі былой Полацкай вобласці (Дзявічкі, Язна, Паддубнікі, Гаравыя), у 50-х гадах XX ст. выказаўся аб існаванні асобнай групы верхнедняпроўскіх гарадзішчаў у межах Беларусі (Митрофанов, 1955). Пазней, зыходзячы з новых матэрыялаў са Смаленшчыны і паўночнай Беларусі, ён прыходзіць да высновы аб тым, што гэтыя старажытнасці адносяцца да агульнага і аднароднага этнакультурнага масіву, які ён назваў днепра-дзвінскай культурай. Яго пункт гледжання ўвайшоў у навуковы зварот і быў прыняты ўсімі даследчыкамі. У раздзеле аб помніках днепра-дзвінскай культуры Беларусі ў першай частцы працы «Очерки по археологии Белоруссии» ён дае агульную характарыстыку матэрыяльнай культуры, тэрыторыю распаўсюджання яе помнікаў; падае звесткі аб грамадскім ладзе, сувязях з іншымі культурамі і адносіць іх да балцкай моўнай групы (Митрофанов, 1970, с. 184—225). Большасць высноў і меркаванняў А.Р. Мітрафанава прайшлі выпрабаванне часам. Аднак тэзіс аб культурна-археалагічнай адпаведнасці днепра-дзвінскай культуры па ўсім арэале можна, і то з агаворкамі, аднесці толькі да самага ранняга этапу развіцця днепра-дзвінскай культуры. Матэрыялы апошніх дзесяцігоддзяў сведчаць аб тым, што з цягам часу лакальныя асаблівасці на абшары днепра-дзвінскіх старажытнасцей праяўляліся ўсё больш і больш рэльефна. Пасля рубяжа н.э. на працягу першых стагоддзяў можна ўвогуле казаць аб розных напрамках гістарычнага развіцця ў межах адной днепра-дзвінскай супольнасці.

П.М. Траццякоў, вылучаючы смаленскія гарадзішчы ў асобную групу, абмежаваў іх распаўсюджанне на Заходняй Дзвіне смаленскім і часткова віцебскім цячэннем (Третьяков, 1963, с. 21). Танкасценную слабапрафіляваную, неарнаментаваную кераміку правабярэжжа Заходняй Дзвіны, падобную да смаленскіх узораў, ён спачатку аднасіў да асобнай групы старажытных гарадзішчаў з танкасценнай керамікай з аздабленнем, тыповым для гарадзішчаў юхнаўскай культуры. У 70-х гадах XX ст. П.М. Траццякоў спрабуе аб'яднаць старажытнасці правабярэжжа Заходняй Дзвіны і поўдня Пскоўшчыны ў адну археалагічную культуру «типа Осынского городища» (Третьяков, 1976, с. 203—216).

Даволі плённа, але на жаль, нядоўга, вывучаў старажытнасці жалезнага веку на поўначы Беларусі беларускі археолаг К.П. Шут. Ён у 1963—1967 гг. правёў раскопкі на гарадзішчах Кублічы, Загаваліна Вушацкага раёна; Урагава і Абрамава Верхнядзвінскага; Буракова, Казінова Гарадоцкага; Кастрыца Лепельскага раёна Віцебскай вобласці (усяго даследавана каля 2 тыс. кв.м). Атрыманыя матэрыялы К.П. Шута значна дапоўнілі ўяўленні аб матэрыяльнай культуры, гаспадарцы, жыллёвых і гаспадарчых пабудовах насельніцтва Беларускага Падзвіння (Шут, 1966; 1967; 1969 а,б). На падставе вынікаў сваіх даследаванняў ён зрабіў спробу вылучыць у басейне Заходняй Дзвіны два варыянты днепра-дзвінскай культуры — себежскага (правабярэжжа — ***В.Ш.***) і смаленскага (левабярэжжа — ***В.Ш.***) (Шут, 1966, с. 168—169). Аднак сукупнасць усіх даных на сённяшні дзень ні на ранніх, ні на позніх этапах развіцця днепра-дзвінскай культуры не дазваляе правесці межаванне старажытнасцей па Заходняй Дзвіне.

Вядомы спецыяліст па жалезнаму веку Усходняй Еўропы В.В. Сядоў у 1969 г. публікуе невялікую зводную работу аб днепра-дзвінскіх гарадзішчах Падняпроўя і Падзвіння (Седов, 1969, с. 116—125), у якой даецца агульная характарыстыка і іх матэрыяльнага комплексу, асвятляюцца пытанні храналогіі культуры і яе прыналежнасць да балцкага этнічнага масіву. У сваёй манаграфіі, прысвечанай гісторыі славян Верхняга Падняпроўя і Падзвіння (Седов, 1970), ён падводзіць чытача да высновы аб тым, што носьбіты днепра-дзвінскай культуры з'яўляліся субстратам смаленска-полацкай групы крывічоў. У 90-х гадах выходзіць шэраг публікацый, прысвечаных ранняй гісторыі Беларускага Падзвіння і Смаленскага Падняпроўя (Седов, 1994, 1998а, с. 54—67; 1998б, с. 50—59). Так, у манаграфіі «Славяне в древности» (Седов, 1994, с. 296—304) даследчык сцвярджае, што на рубяжы IV — V стст. у лясной зоне Усходняй Еўропы з'яўляюцца дзве буйныя групы насельніцтва, якія можна звязваць з нашчадкамі пшэворскіх перасяленцаў з Павіслення. Адна частка перасяленцаў генерыравала культуру ранніх (пскоўскіх доўгіх курганоў V — VIII стст.), а іншая прайшла далей да Валдайскага ўзвышша. Сярод перасяленцаў былі не толькі славяне, але і заходнія балты.

Бясспрэчны аўтарытэт у вывучэнні днепра-дзвінскіх старажытнасцей належыць смаленскаму археолагу Я.А. Шмідту, які звыш 50 год даследуе помнікі эпохі жалеза і ранняга сярэднявечча ў басейнах Сажа, Дзясны, Дняпра, Заходняй Дзвіны. У манаграфіях «Племена верховьев Днепра до образования Древнерусского государства» М., 1992 і «Верхнее Поднепровье и Подвинье в III—VII вв. н.э. (Тушемлинская культура)» Смоленск, 2003 вучоны абагульняе ўсе даследаванні па вывучэнню днепра-дзвінскіх старажытнасцей і раскрывае гістарычнае развіццё плямён Смаленскага Падняпроўя і Падзвіння ў I тысячагоддзі н.э. да стварэння старажытнарускай дзяржавы. Яго заслугі ў вывучэнні днепра-дзвінскай культуры апісаны ў нашым спецыяльным артыкуле (Шадыро, 2002, с. 8—9).

У сувязі з храналагічнымі рамкамі нашай работы адзначым, што Я.А. Шмідт вялікую ўвагу ў сваіх работах адвёў вывучэнню асаблівасцей развіцця днепра-дзвінскай культуры ў першых стагоддзях н.э. Вельмі важны для разумення гістарычных лёсаў насельніцтва гэтага перыяду, як падкрэслівае даследчык, адчувальны скачок у развіцці вытворчых сіл, які залежаў ад уплываў зарубінецкай культуры. Гэтыя змены адбываюцца ў першай палове I тысячагоддзя н.э. і праяўляюцца, перш за ўсё, у змяненні тыпаў паселішчаў, г. зн. замене гарадзішчаў на селішчы. У наяўнасці тэндэнцыя да змены старых патрыярхальна-абшчынных узаемаадносін і развіццё новых, якія прывялі ў далейшым да фарміравання сельскай ці тэрытарыяльнай абшчыны. Аўтар падкрэслівае, што апошні перыяд існавання днепра-дзвінскай культуры, які наступіў у першых стагоддзях н.э. быў звязаны таксама з прыкметнай зменай матэрыяльнай культуры, што асабліва адчувалася ў керамічным комплексе. Прычым змены дайшлі да такога ўзроўню, што калі б нават не адбылося змены насельніцтва, то апошні перыяд можна разглядаць у якасці новай асобнай археалагічнай культуры. Праўда, аўтар тут жа робіць агаворку, што на сённяшні дзень з-за недахопу матэрыялаў пакуль яшчэ недастаткова падстаў для выдзялення позняга перыяду ў самастойную культуру і яго трэба разглядаць як этап развіцця днепра-дзвінскай культуры ранняга жалезнага веку (Шмидт, 1992, с. 143).

На працягу апошніх 32 гадоў галоўным даследчыкам эпохі жалеза і ранняга сярэднявечча на тэрыторыі Беларускага Падзвіння з'яўляецца аўтар. Ім абследавана звыш 100 гарадзішчаў і адкрыта

каля 10 новых помнікаў. На адным з адкрытых гарадзішчаў каля в. Барсукі Верхнядзвінскага раёна былі праведзены ў 1975—1976, 1980 гг. раскопкі (500 кв.м), матэрыял якіх уяўляе пэўную цікавасць, асабліва ў вывучэнні абарончых збудаванняў гарадзішчаў дадзенага рэгіёну. У 1977—1980 гг. аўтар даследаваў гарадзішча паблізу в. Замошша Полацкага рэгіёна (550 кв.м). Вынікі раскопак дапамаглі больш дакладна характарызаваць матэрыяльную культуру заходнедзвінскіх плямён на ранніх этапах жалезнага веку. Атрыманыя аўтарам і папярэднімі даследчыкамі матэрыялы былі абагульнены і прааналізаваны ім ў манаграфіі «Ранний железный век северной Белоруссии» Мн., «Наука и техника», 1985 г.

У 1981—1982 гг. раскопкі вяліся на гарадзішчы «Марыліна Гара» паблізу в. Цясты Верхнядзвінскага раёна (300 кв.м). Помнік I—V стст. даў матэрыял для характарыстыкі паселішчаў позняга перыяду і рэгіянальных асаблівасцях вывучаемай тэрыторыі. З сярэдзіны 80-х гадоў аўтар асноўную ўвагу ўдзяляў даследаванню старажытнасцей другой паловы I тысячагоддзя н.э. (селішчы, гарадзішчы, курганы), але ў полі зроку знаходзіліся і гарадзішчы з напластаваннямі эпохі жалеза (Вышадкі Гарадоцкага раёна 1991, 1995, 1996 — 230 кв.м), Буракова (1991 г. — 120 кв.м), Гарадок Полацкага раёна 1980 г. (60 кв.м), Канічы Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці 1996 г. (80 кв.м), Клішына Крупскага раёна Мінскай вобласці 1999—2005 гг. — 400 кв.м). У раздзеле «Днепра-дзвінская культура» калектыўнай фундаментальнай працы «Археалогія Беларусі. Т. 2. Жалезны век і ранняе сярэднявечча» Мн. «Беларуская навука», якая выйшла ў 1999 г., аўтар падсумаваў і прааналізаваў усе наяўныя матэрыялы, што дазволіла дадаткова асвятліць шэраг момантаў у гісторыі заходне-дзвінскіх плямёнаў Беларусі, і перш за ўсё ў пытаннях матэрыяльнай культуры, датыровак, узроўню гаспадарчай дзейнасці, перыядызацыі і лакальных асаблівасцей насельніцтва эпохі жалеза на тэрыторыі Беларускага Падзвіння.

## 1.2. Ступень даследавання і крыніцы вывучэння перыяду ранняга сярэднявечча

Упершыню старажытнасці 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. былі адкрыты па выпадковых знаходках яшчэ ў пачатку XX ст. Першыя раскопкі праводзілі С.А. Дубінскі, А.Н. Ляўданскі, А.З. Каваленя, І.А. Сербаў, якія даследавалі ў 20—30-х гадах Банцараўскае гарадзішча каля Мінска, па назве якога большасць вучоных называюць культуру 3-й чвэрці цэнтральнай і паўночнай Беларусі (Дубінскі, 1927, с. 360—363; Лявданский, 1932, с. 54—61). Раскопваліся таксама селішчы Малое Стахава, Прыгань; гарадзішчы Дабужа, Лукомль, Старое Сяло і іншыя помнікі. У той жа час былі пачаты даследаванні пахавальных старажытнасцей у Падзвінні (Бачыха, Гаравыя, Лятохі, Старое Сяло і інш.) (Дубінскі, 1928, с. 276; Ляўданскі, 1930а, с. 103—104; 1930б, с. 173—195). Даследаванні тых гадоў насілі ў асноўным разведачны характар і былі атрыманы толькі няпоўныя звесткі аб выглядзе паселішчаў, жылых, гаспадарчых і абарончых збудаванняў, пахавальным абрадзе і рэчавым матэрыяле. Адкрытыя помнікі А.Н. Ляўданскі папярэдне датаваў VI—VII стст. і аднёс іх да даславянскага насельніцтва (Ляўданскі, 1932а, с. 54—61; 1932б, с. 215—218).

У заходняй частцы левабярэжнага Падзвіння (тэрыторыя Польшчы да 1939 г. — ***В.Ш.***) да пачатку 30-х гадоў амаль ніякіх даследаванняў не праводзілася. У 1933—39 гг. у басейне левабярэжжа Заходняй Дзвіны (у межах сучасных Міёрскага і Браслаўскага раёнаў) даволі значныя працы, у асноўным разведачнага характару былі праведзены супрацоўнікамі Віленскага універсітэта Ул. Галубовічам і А. Цэгак-Галубовіч. Яны правялі раскопкі курганоў у былых Дзісненскім і Браслаўскім паветах (Чэрневічы, Паддубнікі і інш.). Сярод даследаваных курганоў было шмат насыпаў з трупаспаленнем. Даследчыкі выказалі думку, што курганы з трупаспаленнем неабавязкова звязваць з «літоўскімі плямёнамі» (балтамі — ***В.Ш.***) і што сярод іх могуць быць і славянскія (Голубовичи, 1945, с. 126—137). Была складзена карта археалагічных помнікаў Віленскага ваяводства, сярод якіх вялікая колькасць адносілася да другой паловы I тысячагоддзя н.э.

Планамерныя даследаванні помнікаў другой паловы I тысячагоддзя н.э. у вывучаемым рэгіёне пачаліся ў пасляваенны перыяд, галоўным чынам з 50-х гадоў. Пачынаючы з 1949 г. А.Р. Мітрафанаў даследуе помнікі, размешчаныя на тэрыторыі былой Полацкай вобласці — у раёнах Полацкім, Верхнядзвінскім, Расонскім, Міёрскім і Пастаўскім. Ім былі адкрыты шэраг двухслойных гарадзішчаў, якія ўтрымлівалі матэрыялы 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. (Урагава, Субачава і інш.). У 70-х гадах XX ст. А.Р. Мітрафанавым праводзіліся раскопкі помнікаў 3-й чвэрці на поўначы Беларусі (гарадзішчы Бораўна Лепельскі раён (1972), Свіла 1, Глыбоцкі раён (1974), селішча Пруднікі, Міёрскі раён (1978—1980).

У 1963—1968 гг. вялікую працу па вывучэнню паселішчаў Беларускага Падзвіння, у тым ліку з матэрыяламі 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. (Урагава, Загаваліна, Кублічы, Казінава, Кастрыца, селішча Буракова, Шуляціна) правёў К.П. Шут (Шут 1966, 1969, 1969б, 1969в).

Вельмі важнае значэнне маюць даследаванні ў Полацкім Падзвінні Г.В. Штыхава. Разам з вывучэннем помнікаў X—XIII стст. даследчык удзяліў увагу больш раннім пластам V—IX стст. Ім упершыню ў гісторыі археалагічнага вывучэння Беларускага Падзвіння была адкрыта новая для гэтай тэрыторыі катэгорыя старажытнасцей тыпу ранніх доўгіх курганоў (Янкавічы ва ўроч. «Атокі» і «Павалішына», Дарахі). З 1965 г. па 1980 г. Г.В. Штыхавым было даследавана звыш 200 курганоў. Аказалася, што па характару магільных збудаванняў, дэталях пахавальнага абраду і па інвентару шмат якія курганы аналагічныя адначасовым раннім доўгім курганам басейна р. Вялікай і раёна Себежскіх азёраў і складаюць з імі адзіны культурны археалагічны масіў. Больш таго, Г.В. Штыхаў у апошні час схільны сцвярджаць, што распаўсюджванне культуры ранніх доўгіх курганоў на Пскоўшчыну і Наўгародчыну пачалося менавіта з рэгіёна Паўночнай Беларусі (Археалогія Беларусі, 1999, с. 384). Пасля даследаванняў Г.В. Штыхава стала зразумелым, што раннія доўгія курганы V—VII стст. па форме магільных збудаванняў, па інвентару і па кераміцы істотна адрозніваюцца ад курганоў полацка-смаленскага тыпу VIII—XI стст. і генетычна не звязаны з імі. Г.В. Штыхаў мяркуе, што раннія доўгія курганы ўваходзяць у кола старажытнасцей тыпу Банцараўшчыны і, хутчэй за ўсё, належалі славянам (Штыхаў, 1992, с. 32, 33—36). Акрамя курганных старажытнасцей, Г.В. Штыхаў вывучаў раннесярэднявечныя пласты гарадоў Полацка, Віцебска, Лукамля, паселішчаў Кастрыца, Варганы, Дарахі, Бельчыцы, Лужасна і інш., што значна пашырыла крыніцазнаўчую базу старажытнасцей трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н.э. (Штыхов, 1978; Штыхаў, 1992).

Падчас даследавання раннефеадальных помнікаў IX—XIII стст. у Браслаўскім Паазер'і і значную колькасць курганных старажытнасцей 2-й паловы I тысячагоддзя раскапала Л.У. Дучыц. Пласты 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. вывучаліся ёю на гарадзішчах Маскавічы, Рацюнкі (Дучыц, 1991).

Матэрыялы 3-й чвэрці I тысячагоддзя выяўлены Т.С. Бубенька і Л.У. Калядзінскім пры даследаваннях у Віцебску.

З 90-х гадоў у Браслаўскім Паазер'і даследаванні вядзе А.А. Егарэйчанка. Акрамя вывучэння старажытнасцей ранняга жалезнага веку, ён выявіў старажытнасці 3-й чвэрці на селішчы Зазоны пад Браславам (Егорейченко, 1996б; 1997).

Важную значнасць у вывучэнні помнікаў I тысячагоддзя на тэрыторыі Віцебскага Падзвіння маюць даследаванні В.М. Ляўко (Левко, 1994, с. 207—226; Левко 2004). У Гарадоцкім раёне яна даследавала цікавы помнік 2—3 чвэрці I тысячагоддзя н.э. — селішча Лугавое каля райцэнтра Гарадок, дзе выяўлена штрыхаваная, тыпу Абідні і смаленскіх доўгіх курганоў кераміка (Левко, Колосовский, 1990, с. 57—59).

Матэрыялы 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. у апошнія гады атрыманы П.М. Падгурскім пры раскопках гарадзішча і селішча Старое Сяло пад Віцебскам (Подгурский, 2002, с. 173—175).

У вывучэнні сумежных тэрыторый трэба адзначыць даследаванні раннесярэднявечных паселішчаў Смаленскага Падняпроўя і Падзвіння, якія праводзіў П.М. Траццякоў (гарадзішчы Гарадок, Лахцеева, Слабада-Глушыца, Тушамля, Шапырэва (Третьяков, Шмидт, 1963, с. 9—14). У ходзе далейшых работ, працягнутых Я.А. Шмідтам, былі адкрыты і вывучаны новыя паселішчы (гарадзішча Акатава, Блізнакі, Вязавенькі, Дзямідаўка, селішчы Кіслая, Кісялі, Купрына, Шугайлава) (Шмидт, 1963, с. 51—67; 1972, с. 3—46; 1975, с. 12—15; 1992). Я.А. Шмідту належыць галоўная роля ў вывучэнні старажытнасцей 2—3-й чвэрці I тысячагоддзя ў Верхнім Падняпроўі (тушамлінская культура), што ў значнай ступені спрыяла разуменню шэрагу пытанняў, звязаных з сацыяльна-эканамічным і этнакультурным жыццём роднасных плямёнаў Беларускага Падзвіння ва ўсходнім рэгіёне (Шмидт, 2003).

Пэўную цікавасць для нас уяўляюць даследаванні Я.В. Станкевіч доўгіх курганоў Жабіна, Міхайлаўскае і селішча Жабіна (Станкевич, 1960, с. 7—327). Цікавы комплекс, які складаецца з селішча і могільніка, даследаваны каля в. Узмень на поўдні Пскоўшчыны Р.С. Мінасянам (Минасян, 1972, с. 112—117; 1979, с. 169—185).

Важнае значэнне па вывучэнню пытанняў, звязаных з культурагенетычнымі з'явамі, датыроўкамі, матэрыяльнай культурай, гаспадарчай дзейнасцю насельніцтва Падзвіння маюць даследаванні і публікацыі 80—90-х гадоў беларускіх археолагаў Г.В. Штыхава, А.А. Егарэйчанкі, В.М. Ляўко, Ю. Каласоўскага, А.А. Седзіна, а таксама расійскіх — Я.А. Шмідта, В.В. Сядова, А.М. Мікляева, В.Б. Перхаўкі, Б.С. Караткевіча, А.Н. Мазуркевіча, М.У. Лапаціна, А.Г. Фурасьева і інш.

З 80-х гадоў мінулага стагоддзя помнікі ранняга сярэднявечча Беларускага Падзвіння мэтанакіравана даследуе аўтар. На працягу 1977, 1983—2000 гг. ім інтэнсіўна вывучаліся старажытнасці 2-й паловы I тысячагоддзя н.э. на гарадзішчы і селішчы каля в. Пруднікі (Міёрскі раён). Гэты унікальны археалагічны комплекс утрымлівае велізарную колькасць артэфактаў шырокага храналагічнага дыяпазону ад IV—V стст. да н.э. да XVI ст. н.э. — на гарадзішчы «Замак» і ад V ст. н.э. да X — пачатку

XI ст. н.э. — на селішчы. У выніку праведзеных раскопак на гарадзішчы (ускрыта 900 кв.м) і на селішчы (1300 кв.м) атрыманы даволі вялікі рэпрэзентатыўны матэрыял для рознабаковай характарыстыкі насельніцтва беларуска—латышска— літоўскага парубежжа ў 2-й палове I тысячагоддзя н.э. (Заходні раён вывучаемай тэрыторыі — ***В.Ш.***). Вынікі шматгадовых даследаванняў на комплексе Пруднікі часткова адлюстраваны аўтарам у шэрагу публікацый. Цалкам яны будуць змешчаны ў манаграфіі «Фартэцыя на Вяце» (археалагічны комплекс «Пруднікі»)», якая рыхтуецца да друку.

У гэтым жа рэгіёне на тэрыторыі Браслаўскага Паазер'я раскопвалася селішча Тарылава (1989, 1990, 1992 гг. — 250 кв.м), размешчанае на беразе возера Укля каля гарадзішча эпохі жалеза. Селішча Тарылава, як і Пруднікі, адносіцца да тыпу прыбалтыйскіх паселішчаў з аблітай і гладкасценнай керамікай і разам з матэрыяламі гарадзішча дапамагае высвятляць этнакультурныя ўзаемаадносіны насельніцтва ў розныя храналагічныя перыяды (Шадыро, 2000, с. 189—204).

На тэрыторыі Віцебскага Падзвіння (Усходні раён вывучаемай тэрыторыі — ***В.Ш.***) аўтар правёў даследаванні на гарадзішчах Буракова (1991 г. — 120 кв.м), Вышадкі (1991, 1995, 1996 — 230 кв.м) Гарадоцкага раёна, якія далі дадатковыя даныя па асаблівасцях развіцця днепра-дзвінскай культуры на апошнім этапе і працэсе складвання культурна-археалагічнай супольнасці тыпу Тушамлі-Банцараўшчыны.

У апошнія гады (1999—2006 гг.) аўтар даследуе гарадзішча каля в. Клішына Крупскага раёна на выспе возера Сялявы (480 кв.м). Геаграфічнае размяшчэнне помніка (водападзел басейнаў Заходняй Дзвіны, Дняпра), зона сутыкнення розных археалагічных культур днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі, банцараўскай, перыяду Полацкага княства адбілася на матэрыяльнай культуры паселішча, якое ў розныя часы выкарыстоўвалася як паселішча, культавае месца, гарадзішча-сховішча, сядзіба феадала. Побач з гарадзішчам выяўлена селішча 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э.

Акрамя раскопак паселішчаў, аўтар даследаваў і курганныя старажытнасці Беларускага Падзвіння: курганныя групы — Вусце, Майшулі, Шалтэні (Рацкі Бор) Браслаўскага раёна; Вята, Кублішчына, Міёрскага раёна; Субаўшчына Полацкага раёна; Свіла 1 Глыбоцкага раёна; Вышадкі Гарадоцкага раёна, Дакучын Крупскага раёна. Сярод курганных пахаванняў з трупаспаленнем асаблівую цікавасць выклікае доўгі курган (60 м) каля в. Субаўшчына (на мяжы Полацкага і Міёрскага раёнаў), які датуецца VII—VIII стст. і з'яўляецца самым заходнім і адзіным пакуль аб'ектам культуры ранніх доўгіх курганоў на левабярэжжы Заходняй Дзвіны.

На тэрыторыі Полацкага Падзвіння (Цэнтральны раён вывучаемай тэрыторыі — ***В.Ш.***) даследавалася гарадзішча-сховішча Свіла 1 Глыбоцкага раёна (1989, 1990 — 200 кв.м). Матэрыялы даследавання аўтара разам з раскопкамі А.Р. Мітрафанава (1974 г.) далі магчымасць прасачыць працэс асіміляцыі балтамоўнага насельніцтва (носьбітаў банцараўскай культуры) славянамі-крывічамі. У гэтым жа рэгіёне вывучаліся пласты сярэдзіны і 3-й чвэрці I тысячагоддзя на гарадзішчах Гарадок Полацкага раёна (1980 — 60 кв.м), Барсукі (1975, 1976, 1980 — 500 кв.м) і Цясты (1981, 1982 — 300 кв.м) Верхнядзвінскага раёна. Матэрыялы, атрыманыя аўтарам, дазволілі асвятліць пытанні, звязаныя з: 1) размежаваннем старажытнасцей банцараўскай культуры і літоўска-латышскіх паселішчаў з аблітой і гладкасценнай керамікай, а таксама; 2) этнакультурнымі працэсамі ў сярэдзіне і другой палове I тысячагоддзя н.э. у Беларускім Падзвінні; 3) характарам славянскага рассялення.

Такім чынам, аўтар на падставе сваіх шматгадовых даследаванняў у Беларускім Падзвінні, а таксама выкарыстоўваючы матэрыялы папярэдніх і сучасных даследчыкаў як вывучаемага, так і сумежных рэгіёнаў, спрабуе вырашаць шэраг праблем, звязаных з этнакультурным развіццём насельніцтва Беларускага Падзвіння ў I тысячагоддзі н.э.

# РАЗДЗЕЛ 2

## НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСКАГА ПАДЗВІННЯ Ў ПЕРШЫХ СТАГОДДЗЯХ Н.Э. (ФІНАЛЬНЫ ЭТАП ДНЕПРА-ДЗВІНСКАЙ КУЛЬТУРЫ)

### 2.1. Характар рассялення і паселішчы

Тэрыторыя Беларускага Падзвіння, якая разглядаецца ў рабоце, уключае ў сябе беларускую частку басейна Заходняй Дзвіны, якая ў перыяд жалезнага веку была заселена плямёнамі днепра-дзвінскай археалагічнай культуры. Мяжа распаўсюджання помнікаў гэтай культуры была вызначана ў адносна нядаўні час і працэс тэрытарыяльнага межавання быў звязаны з высвятленнем ідэнтыфікацыі заходнедзвінскіх старажытнасцей і суаднасін іх з сумежнымі рэгіёнамі (Шадыро, 1985) (карты 1, 2).

Фарміраванне сучаснага рэльефу Паўночнай Беларусі, яе раслліннасці і жывёльнага свету звязана з чацвярцічным перыядам. У выніку дзейнасці ледавікоў, цякучых вод і ветру на вывучаемай тэрыторыі шырока распаўсюдзіліся марэнныя, водналедавіковыя, азёрныя, рачныя лёсападобныя, эолавыя, дэлювіяльныя і балотныя адкладанні. Паверхня поўначы Беларусі — гэта чаргаванне марэннаградавых узвышшаў і размешчаных паміж імі водналедавіковых, азёрналедавіковых і азёрнабалотных нізін.

У цэнтральнай частцы і на захадзе Полацкая нізіна займае амаль палову тэрыторыі; на паўночным усходзе — Суражская, на ўсходзе — нізіна Лучосы, на поўдні — Чашніцкая раўніна і Верхнебярэзінская нізіна. На ўсходзе — Гарадоцкае, Віцебскае і Аршанскае ўзвышшы; на захадзе — Браслаўская і Свянцянская грады; на поўдні — Лукомскае ўзвышша.

Па гушчыні рачной сеткі (на 100 км тэрыторыі 28 км рачной сеткі) басейн Заходняй Дзвіны займае першае месца ў Беларусі. Па колькасці і плошчы азёраў Падзвінне займае таксама 1-е месца ў Беларусі. Большая частка яе ў межах Беларускага Паазер’я. Азёры пераважна ледавіковага паходжання.

Геаграфічныя ўмовы ў значнай ступені ўплываюць на гаспадарчую дзейнасць людзей не толькі ў сусветным маштабе, але і ў межах невялікіх тэрыторый. Рэльеф басейна Заходняй Дзвіны не перашкаджае гаспадарчаму асваенню тэрыторыі. Наяўнасць вялікай колькасці ўзвышшаў і град, нізін і плато значна ўплывае на размеркаванне і рэжым рэк, азёраў, балотаў. З усім гэтым, безумоўна, трэба было лічыцца ў гаспадарчай дзейнасці. Напрыклад, пакатыя схілы ўзвышшаў маюць добры сцёк і таму яны больш прыдатныя для земляробства ў адрозненне ад больш стромкіх, дзе назіраецца змыванне глебы талай і дажджавой вадой.

У жыцці чалавека, у яго разнастайнай гаспадарчай дзейнасці вялікае значэнне мае клімат. Разглядаемы ў рабоце перыяд (I тысячагоддзе н.э.) сінхронны, на думку А.М. Мікляева, з рэгрэсіяй 7 і пачаткам перыяду SA-2 (малы кліматычны оптымум), які доўжыўся да XI—XII стст. (Микляев, 1992, с. 46, табл. на с. 58). Трэба адзначыць, што ў разглядаемы перыяд уся тэрыторыя сучаснай Беларусі была пакрыта лясамі, выключэнне складалі ўчасткі адкрытых балотаў і поймаў вялікіх рэк. Узровень грунтавых водаў, а таксама ўзровень вады ў рэках і азёрах быў больш высокім у параўнанні з сучасным. З пачаткам малага кліматычнага оптыпуму, прыкладна ад рубяжа н.э., пачынаецца пацяпленне, і насельніцтва Беларускага Падзвіння асвойвае новыя ўчасткі, якія вызваляюцца ад вады.

Нанясенне на ландшафтную карту вядомых у цяперашні час гарадзішчаў Беларускага Падзвіння (карта 3) паказвае, што яны размяркоўваюцца далёка не раўнамерна. У раёнах (Лёзненскі, Сенненскі, Глыбоцкі, Пастаўскі), дзе пераважае раўнінны (без узгоркаў і зручных пад паселішчы мысаў) ландшафт, гарадзішчаў параўнальна мала. У той жа час у раёнах (Гарадоцкі, Расонскі, Ушацкі, Міёрскі, Верхнядзвінскі, Браслаўскі і інш.) з пагоркава-азёрным ландшафтам падобных паселішчаў значна больш (карта 4; раздзел 3.3, табл. А). У большасці выпадкаў яны размяшчаюцца не раўнамерна, а асобнымі групамі. Вылучаюцца групы па 2—3 і болей гарадзішчаў.

Узвышанае месца выбіралася з такім разлікам, каб, па меншай меры, два яго бакі былі надзейна абаронены прыроднымі ўмовамі ў выглядзе рэчак, ручаёў, балот і стромкіх схілаў. З неабароненага напольнага боку пагоркі ці мысы ўмацоўваліся сістэмай штучных пабудоў, якія складаліся з драўляных агароджаў, земляных валоў і равоў. Часам для пабудовы гарадзішчаў выкарыстоўваліся высокія адзіночныя ўзгоркі, размешчаныя сярод даліны каля рэчышча рэчкі.

Такім чынам, найбольшая шчыльнасць гарадзішчаў у перыяд усёй эпохі жалезнага веку характэрна для камава-марэнна-азёрнага ландшафту нерасчлянёнай рачной даліны. Некалькі меншая — для ландшафта лёсавай раўніны, а ў іншых родах ландшафтаў шчыльнасць гарадзішч на парадак ніжэй ці роўная нулю (Коляда, 1985, с. 37—39).




**Карта 1.** Археалагічныя культуры і асноўныя помнікі жалезнага веку на тэрыторыі Беларусі.

Форма і паверхня пляцоўкі гарадзішча залежала ад канфігурацыі выбранага ўчастка, характару абарончых збудаванняў на вяршыні, а таксама працягласці жыцця на паселішчы. Няроўныя месцы з цягам часу ніверліраваліся. Пляцоўкі мысавых гарадзішч часта маюць схіл у бок стрэлкі мыса. Плошча мысавых і ўзгоркавых гарадзішч жалезнага веку ў сярэднім хістаецца ад 500 да 1500 кв.м і мае тэндэнцыю да пашырэння з цягам часу (Шадыро, 1985, с. 13). Размеркаванне гарадзішчаў Беларускага Падзвіння па формах пляцоўкі і іх плошчы дадзены на мал. 1, 2.

***Фартыфікацыя.*** Матэрыялы даследаванняў паказваюць, што з рубяжа н.э., г.зн. у апошні перыяд існавання днепра-дзвінскай культуры, гарадзішчы ўмацоўваюцца максімальным чынам, ператвараючыся ў паселішчы-крэпасці. Мысавыя гарадзішчы, якія мелі невялікія валы з напольнага




**Карта 2.** Арэал днепра-дзвінскай культуры і сумежныя тэрыторыі ў пачатку I тыс. н.э.:
1 — днепра-дзвінская культура; 2 — заходні варыянт культуры; 3 — верхнеокская; 4 — юхноўская; 5 — штрыхаванай керамікі; 6 — мілаградская; 7 — дзякаўская; 8 — помнікі Прыбалтыкі; 9 — зарубінецкая; 10 — мяжа РБ.

боку, умацоўваюцца ў гэтым месцы моцнымі валамі і равамі ў два, тры і больш радоў. Узгоркавыя гарадзішчы агароджваюць на схілах кальцавымі, а ля падножжа, часам, дадатковымі дугападобнымі валамі. Прыкладам таму можа служыць гарадзішча Панізава Міёрскага раёна, а таксама гарадзішча ля в. Заронава Віцебскага раёна, дзе па краі пляцоўкі быў насыпан вал да 5 м вышынёй, а па схіле таксама ішоў вал, пераходзячы месцамі ў тэрасу, ніжэй якой размяшчаліся яшчэ два валы з равамі. Замыкаў уваход на пляцоўку пабудаваны пазней велізарны вал курганападобнай формы (Шут, Архіў ІГ, д. 237).

Тыповым узгоркавым гарадзішчам, якое мела развітую сістэму абарончых умацаванняў з трох кальцавых валоў на схілах, з’яўляецца гарадзішча Барсукі Верхнядзвінскага раёна. Акрамя кальцавых, тут яшчэ з паўднёвага і паўднёва-ўсходняга боку былі пабудаваны два дадатковыя дугападобныя валы (Шадыро, 1985, с. 18, рис. 7) (мал. 3). Па два магутныя кольцападобныя валы з равамі паміж імі ёсць на гарадзішчы ў в. Панізава Міёрскага раёна (Митрофанов, Архіў ІГ, д. 473). З трох кальцавых валоў і равоў (глыбінёю да трох м) складаецца абарончая сістэма на Абрамаўскім гарадзішчы Верхнядзвінскага раёна (Шадыро, 1985, с. 17, рис. 6) (мал. 3).

Вывучэнне абарончых пабудоў паказвае, што складаную структуру звычайна мае толькі ўнутраны вал, тады як знешнія амаль заўсёды насыпаны з аднароднага грунту і відавочных слядоў шматразовых перабудоў у іх не заўважана. Так, на гарадзішчы Барсукі прарэзка трох валоў паказала, што яны насыпаны з аднароднага грунту — жоўтага пяску. Падобнае назіраецца і на гарадзішчы Абрамава Верхнядзвінскага раёна (Шадыро, 1985, с. 22, рис. 6). Такім чынам, сістэма ўмацаванняў працяглы час была простай і толькі ў апошні перыяд існавання гарадзішчаў днепра-дзвінскай культуры склалася




**Карта 3.** Гарадзішчы Беларускага Падзвіння:
1 — Слабодка; 2 — Рацюнкі; 2а — Зазоны; 3 — Шавуны; 4 — Замошша; 5 — Укля; 6 — Сабалеўшчына;
7 — Гвардзейская (Кукішы); 8 — Чурылава; 9 — Панізава; 10 — Шарагі; 11 — Мазурына; 12 — Субачава;
13 — Язна; 14 — Паддубнікі; 15 — Пілаты; 16 — Падгаі; 17 — Запрудзе; 18 — Латыгаль; 19 — Зарубіна;
20 — Удзела; 21 — Зубкі; 22 — Шыпы; 23 — Псуя; 24 — Сушкі; 25 — Малое Абухава; 26 — Урагава;
27 — Васілеўшчына; 28 — Царкоўна; 29 — Чапаеўскае; 30 — Дубровы; 31 — Абрамава; 32 — Гарадзілавічы;
33 — Маскаленкі; 34 — Цясты; 35 — Дадэкі; 36 — Барсукі; 37 — Княжыцы; 38 — Дзегцярова; 39 — Асеткі;
40 — Пескаватка; 41 — Варганы; 42 — Бірулі; 43 — Сакалішча; 44 — Сінск; 45 — Межава; 46 — Грачушына;
47 — Даўгабор'е; 48 — Заазер'е; 49 — Рылі; 50 — Старыца; 51 — Межна; 52 — Латышы; 53 — Няшчэдна;
54 — Янкавічы; 55 — Хоцькава; 56 — Перавоз; 57 — Амосенкі; 58 — Карпіна; 59 — Якубенкі; 60 — Гаравыя;
61 — Баркі; 62 — г. Полацк; 63 — Мінтурова; 64 — Палата; 65 — Дзявічкі; 66 — Труды; 67 — Смарагі;
68 — Гараны; 69 — Арлея; 70 — Званае; 71 — Загацце; 72 — Гарадок; 73,74 — Замошша; 75 — Лісічна;
76 — Кублічы; 77 — Белюкоўшчына; 78 — Ваўчо; 79 — Ушачы; 80 — Гарадзец; 81 — Чамярычна;
82 — Турасполле; 87 — Селішча; 88 — Загаваліна; 89 — Падрэзы; 85 — Старыя Тарасы; 86 — Бадзяліна;
90 — Малая Вядрэнь; 91 — Азерцы; 92 — Бароўна; 93 — Загліннікі; 94 — Аўгустава (Звязда); 95 — Кастрыца;
96 — Камень; 97 — Стары Лепель; 98 — Стараселле; 99 — Бортнікі; 100 — Стрыжава; 101 — Застарынне;
102 — Рубеж; 103 — Чарнагосце; 104 — Запруддзе; 105 — Гародна; 106 — Галі; 107 — Гарадзішча;
108 — Кардон; 109 — Сінякова; 110 — Бокішава; 111 — Бібіна; 112 — Цары; 113 — Лахі; 114 — Марчанкі;
115 — Жукава; 116 — Шнітніца; 117 — Лялеўшчына; 118 — Сцяпанавічы; 119 — Затарочча; 120 — Селязні;
121 — Вышадкі; 122 — Бяскатава; 123 — Бярозна; 124 — Буракова; 125 — Пруднікі; 126 — Казінова;
127 — Баравыя; 128 — Кулі; 129 — Старое Сяло; 130 — Заронава; 131 — Дрыколле; 132 — Лужасна;
133 — Зайцава; 134 — Баронікі; 135 — Жалнерава; 136 — Мяклова; 137 — Канькі; 138 — Кузьменцы;
139 — Белынічы; 140 — Шапуры; 141 — Бабінавічы; 142 — Выхадцы; 143 — Буракі; 144 — Замошша;
145 — Машчаны; 146 — Новае Сяло; 147 — Клішына.

больш складаная фартыфікацыя. Уздоўж краю пляцоўкі ўзводзіліся драўляныя агароджы, якія служылі першапачатковым умацаваннем. Характар драўляных пабудоў, звязаных з земляныміваламі, застаецца пакуль яшчэ нявызначаным. Хутчэй за ўсё яны мелі такое ж аблічча, як і на смаленскіх гарадзішчах (Третьяков, 1963, с. 74—75, рис. 35). Для ўнутранага вала — гэта масіўныя слупы, паміж якімі былі пакладзены бярвенні з земляной прысыпкай. Такая сцяна з аднаго боку стрымлівала насып вала ад апаўзання на пляцоўку гарадзішча, а з другога — служыла падпорай і знешняй сцяной пабудовы.




**Мал. 1.** Размеркаванне гарадзішчаў Беларускага Падзвіння па форме пляцоўкі.




**Мал. 2.** Размеркаванне гарадзішчаў Беларускага Падзвіння па велічыні пляцоўкі.




**Карта 4.** Шчыльнасць гарадзішчаў Беларускага Падзвіння эпохі жалеза (па дадзеных аўтара зрабіў В.В. Каляда)

Сустракаюцца гарадзішчы, якія на працягу ўсяго перыяду існавання культуры не мелі ніякіх земляных умацаванняў і абмяжоўваліся толькі драўлянымі агароджамі. Тлумачыцца гэта тым, што надзейная прыродная ўмацаванасць месца паселішча не патрабавала ад людзей пабудовы дадатковых абарончых збудаванняў. Прыкладам падобных паселішчаў могуць служыць гарадзішчы Загаваліна, Гаравыя, Дзявічкі, Замошша, Кублічы, Вышадкі. Тут не было земляных умацаванняў (вал, роў) на працягу ўсяго перыяду існавання гэтых паселішчаў (Шадыро, 1985, с. 23).

На сённяшні дзень мы маем даныя па 163 гарадзішчах, на падставе якіх можна меркаваць аб характары абарончых збудаванняў на паселішчах Беларускага Падзвіння (табл. А).[1]

**Табліца А**

Характар абарончых збудаванняў гарадзішчаў Беларускага Падзвіння (па наяўнасці звестак)

| Абарончыя збудаванні | Колькасць гарадзішчаў | % |
|---|---|---|
| Роў | 26 | 16,0 |
| Вал | 7 | 4,3 |
| Вал і роў | 48 | 27,2 |
| Сістэма валоў і равоў (два і больш) | 71 | 43,1 |
| Адсутнасць штучных Збудаванняў | 12 | 7,4 |
| Усяго | 163 | 100 |

Улічваючы даныя па гэтых гарадзішчах (тапаграфія, характар абарончых збудаванняў), намі распрацавана іх тыпалогія (Археалогія Беларусі, 1999, с. 180—181). Па месцы размяшчэння гарадзішчаў яны падзелены на 2 тыпы: I — узгоркавыя і II — мысавыя. Па характару абарончых умацаванняў унутры кожнага тыпу вызначаны асаблівасці (варыянты) (мал. 3):

***Тып I*** — узгоркавыя. Пабудаваны часцей за ўсё на ўзгорках ці астанцах, звычайна акруглай формы. Вылучаюцца 4 варыянты (мал. 3).

[1] Дадзеныя ўключаюць усю Віцебскую вобласць.




**Мал. 3.** Тыпалогія гарадзішчаў Беларускага Падзвіння.

**А.** Стромкасць схілаў штучна павялічана. Наяўнасць прыродных перашкод. Без штучных земляных умацаванняў (Замошша, Гаравыя, Дзявічкі, Кублічы і інш.);

**Б.** З адным валам на пляцоўцы (Сабалеўшчына);

**В.** З адным ці некалькімі кальцавымі валамі і равамі на схіле (Панізава);

**Г.** З кальцавымі і дадатковымі дугападобнымі валамі (Барсукі).

Тып I самы распаўсюджаны на поўначы Беларусі і складае больш 2/3 гарадзішч гэтага рэгіёна.

***Тып II*** — мысавыя. Тут вылучаюцца два падтыпы (мал. 3):

**1.** Пабудаваныя на мысах, абмежаваных двума амаль паралельнымі ярамі, якія самастойна ўпадаюць у галоўны яр ці ў поплаў вадаёма;

**2.** Пабудаваныя на мысах пры зліцці двух яраў.

Усе бакі гарадзішчаў гэтага тыпу, акрамя таго што злучаюцца з плато карэннага берага, добра абаронены прыроднымі стромкімі схіламі. Напольны бок умацоўваўся штучна. У залежнасці ад характару абарончых пабудоў тут вылучаюцца некаторыя варыянты:

**А** — наяўнасць унутранага вала (Бароўна);

**Б** — наяўнасць дадатковага вала, размешчанага адразу за ўнутраным ці на некаторай адлегласці ад яго, абмяжоўвае роўную пляцоўку (Асінавік — Навасёлкі);

**В** — гарадзішчы з валамі, якія аб'ядноўваюцца ва ўзаемазвязаную абарончую сістэму (Урагава);

**Г** — наяўнасць валоў на схілах, акрамя валоў з напольнага боку (Абрамава).

Падкрэслім, што ў апошні перыяд днепра-дзвінскай культуры фартыфікацыя гарадзішчаў атрымлівае максімальны ўзровень і звязана гэта як з унутранымі прычынамі нарастаючага працэсу разлажэння радавога ладу і абвастрэннем сацыяльных супярэчнасцяў паміж родамі і плямёнамі, так і знешнім.

У пачатковы перыяд (III—IV стст. н.э.) трансеўрапейскіх працэсаў, звязаных з перамяшчэннем гоцкіх плямёнаў, пазней гунскіх, выклікалі адэкватныя зрухі і перамяшчэнні насельніцтва на вялікіх абшарах лясной і лесастэпавай часткі Усходняй Еўропы і, у тым ліку ў разглядаемым рэгіёне басейна Заходняй Дзвіны. Прыпыненне існавання зарубінецкай культуры, распаўсюджванне познезарубінецкіх старажытнасцей, экспансія плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі ў паўночным і ўсходнім напрамках — усе гэтыя з'явы маюць археалагічную фіксацыю. Знешнім адлюстраваннем іх з'яўляецца як змены ў матэрыяльнай культуры насельніцтва, так і ў структуры іх пасяленняў і менавіта ў максімалізацыі іх абарончых збудаванняў.

***Жытлы.*** Дaследаванні гарадзішчаў паказваюць, што жылымі пабудовамі на заходнедзвінскіх паселішчах у першых стагоддзях н.э. былі наземныя пабудовы слупавой канструкцыі. Сляды іх прасочаны амаль на ўсіх даследаваных гарадзішчах. Існаванне пабудоў на гарадзішчах пацвярджаецца наяўнасцю ў мацерыку слупавых ям. Трэба адзначыць, што на помніках Паўночнай Беларусі, у адрозненне ад Смаленшчыны, не выяўлены сляды калковых ям. Магчыма, гэты факт указвае на характэрныя асаблівасці мясцовага домабудаўніцтва.

Жытлы гарадзішчаў Беларускага Падзвіння па сваім характары мелі шмат агульнага з жытламі культуры штрыхаванай керамікі і аднакультурнай вобласці Смаленскага Падняпроўя. Як і ў Сярэдняй Беларусі (Митрофанов, 1978, с. 15—28), на Смаленшчыне (Шмидт, 1992, с. 8) форма і памеры іх змянялася з агульнай тэндэнцыяй пераходу ад прамавугольных падоўжаных пабудоў да невялікіх квадратных (Шадыро, 1985, с. 27).

З рубяжа н.э. адбываецца павялічэнне плошчы асобных жылых памяшканняў, а таксама будаўніцтва параўнальна вялікіх, асобна стаячых аднакамерных дамоў, якія размяшчаліся па ўсёй плошчы паселішча, а не толькі па краях. Для характарыстыкі гэтых змяненняў могуць служыць жылыя пабудовы, выяўленыя на гарадзішчы Кастрыца Лепельскага раёна. Гэта амаль квадратныя жытлы плошчай 12—14 кв.м з паглыбленымі ў зямлю вогнішчамі Сляды падобных жытлаў выяўлены таксама на гарадзішчах Урагава, Дзявічкі, Загаваліна, Абрамава, Барсукі, Язна, Казінава і інш. (Шадыро, 1985, с. 28—30). Яны адносяцца да таго перыяду, калі ў асяроддзі балцкіх плямён стала распаўсюджвацца своеасаблівая забудова ў выглядзе асобных чатырохвугольных дамоў слупавой канструкцыі. Гэтая сістэма забудовы па нашай класіфікацыі можа быць аднесена да 3-га (позняга) этапу існавання культуры (I ст. н.э. — III—IV ст. н.э.) (Шадыро, 1985, с. 117, 118). З характэрным стварэннем дасканалай сістэмы ўмацаванняў на гарадзішчах. Прыкладам забудовы гэтага часу з’яўляюцца жытлы III, IV, V, VII, VIII і інш., выяўленыя на гарадзішчы Кублічы (Шут, 1969, с. 267—268) і аўтарам на гарадзішчы Барсукі Верхнядзвінскага раёна (Шадыро, 1985, с. 20, 21). Яны ўяўлялі сабой чатырохвугольныя ў плане пабудовы слупавой канструкцыі плошчай каля 15 кв.м з падковападобнымі і круглымі каменнымі вогнішчамі дыяметрам 0,8—1,0 м. Так, на Язненскім гарадзішчы А.Р. Мітрафанаў побач з найбольш доўгімі дамамі, што размяшчаліся па краі пляцоўкі выявіў рэшткі невялікіх жылых пабудоў, якія займалі не толькі край паселішча, але і ўсю яго плошчу. Падобныя жытлы слупавой канструкцыі сустрэты ім у верхнім слаі гарадзішча Паддубнікі (Митрофанов, 1956).

Згаданая забудова праіснавала на поўначы Беларусі да канца V ст. н.э. і асобных канструкцыйных змяненняў у домабудаўніцтве ў апошні перыяд эпохі жалеза не зафіксавана. Дынаміка развіцця звязана з больш дробнымі дэталямі ў будаўніцтве жытлаў: з’яўленне каменнай вымасткі падлогі, зафіксаванай на некаторых гарадзішчах; гліняная абмазка, якая сустракаецца амаль паўсюдна на позніх гарадзішчах эпохі жалеза на поўначы Беларусі. Па кавалках абмазкі можна меркаваць аб таўшчыні бярвенняў, якая складала прыкладна 0,12—0,25 м. Абмазка сцен глінай на тэрыторыі Беларускага Падзвіння распаўсюджваецца з рубяжа н.э.

***Агмені.*** Адным з галоўных элементаў жытлаў былі адкрытыя вогнішчы, якія служылі для абагрэву жылля і прыгатавання ежы. Іх храналагічныя асаблівасці вызначыць цяжка і на ўсіх этапах развіцця домабудаўніцтва іх канструкцыя была амаль аднолькавая. Агмені будаваліся ў выглядзе пляцоўкі з буйназярністага пяску, насыпанага слоем у 0,15—0,20 м, і абкладзенай па краях невялікімі камянямі, утвараючымі ў плане круглую, авальную і радзей падковападобную формы. На некаторых гарадзішчах (Буракова, Барсукі, Кастрыца) сустрэты агмені ў выглядзе вялікай колькасці камянёў, заглыбленых у мацярык (Шадыро, 1985, с. 30). Часта сустракаюцца на гарадзішчах і агмені ў выглядзе скаплення камянёў (Барсукі, Вышадкі, Клішына, Кастрыца і інш.). Цяжка вызначыць, ці гэта канструкцыйная асаблівасць, ці развал агменю. Аналіз матэрыялу сведчыць аб тым, што больш старажытныя агмені мелі круглую і авальную формы. Паглыбленне ў зямлю агменяў звязана, хутчэй за ўсё, з мэтамі бяспекі ў невялікіх па памерах жытлах і звязана з больш познім часам, калі з’яўляюцца невялікія асобныя дамы. Гэта з’ява зафіксавана намі пры раскопках гарадзішча Барсукі Верхнядзвінскага раёна.

## 2.2. Развіццё матэрыяльнай культуры насельніцтва ў першай палове I тысячагоддзя н.э.

Пры раскопках гарадзішчаў Беларускага Падзвіння выяўлена шмат разнастайных рэчаў як спецыфічнага характару, так і ўласцівых усходнееўрапейскім старажытнасцям лясной паласы. Па абліччы матэрыяльнай культуры бліжэй за ўсё да плямёнаў эпохі жалеза на разглядаемай тэрыторыі стаіць культура штрыхаванай керамікі Цэнтральнай Беларусі. Прыкметны ўплыў адчуваецца з боку прыбалтыйскіх старажытнасцей, а таксама фіна-угорскіх. Нягледзячы на тое, што асобныя рысы (элементы) днепрадзвінскай культуры сустракаюцца ў суседніх культурах жалезнага веку, аднак у комплексе яны характэрны толькі для яе. Больш таго, унутры арэала культуры канстатаваны лакальныя асаблівасці і спецыфічныя рысы, якія, відаць, адпавядаюць асобным родава-племянным групоўкам унутры роднаснай этнасупольнасці. Найбольш рэльефна адрозненне ў межах адной культуры назіраецца паміж ўсходнім (дняпроўскім) і заходнім (заходнедзвінскім) рэгіёнамі. У матэрыяльнай культуры гэта фіксуецца і ў керамічным комплексе, і ў рэчавым матэрыяле.

Запазненне ў жалезаробчай вытворчасці паклала свой адбітак і на характар матэрыяльнай культуры. Гэтае адставанне з'явілася вынікам панавання да рубяжа нашай эры вырабаў з каменю і косці. У пачатку I тысячагоддзя н.э. насельніцтва Беларускага Падзвіння па-ранейшаму выкарыстоўвала прылады працы і разнастайнага ўжытку з косці, гліны, каменю і металаў. Але безумоўна, на першае месца выходзіць металічная сыравіна, якая трывала ўваходзіць ва ўсе сферы чалавечай дзейнасці.

У гэтым раздзеле мы засяродзім увагу на аналізе вырабаў з металу, косці, керамікі, якія ўжываліся ў першых стагоддзях н.э. — гэта значыць на апошнім этапе развіцця днепра-дзвінскай культуры. Падрабязная характарыстыка вырабаў больш ранняга часу дадзена ў нашых працах (Шадыро, 1985, с. 31—90; Археалогія Беларусі, 1999, с. 184—195). У сувязі з гэтым трэба зрабіць агаворку, што шэраг артэфактаў, аб якіх мы будзем узгадваць, маюць і больш раннюю датыроўку, аднак шырокі храналагічны дыяпазон іх ужывання і традыцыйная форма дазваляюць адносіць іх і да пачатку I тысячагоддзя н.э.

Пачнём з важнейшай сыравіны ў жыццядзейнасці насельніцтва 1-й паловы I тысячагоддзя н.э. — металу.

***Вырабы з металу.*** На тэрыторыі Беларускага Падзвіння жалезныя вырабы ў шырокі ўжытак уваходзяць толькі з рубяжа н.э. і характарызуюць позні этап днепра-дзвінскай культуры. Жалезныя вырабы выкарыстоўваліся часцей за ўсё ў сельскай гаспадарцы.

*Сякеры* (знойдзена 9 экз.). Правушныя сякеры жалезнага веку служылі, галоўным чынам, для высечкі лясных участкаў, неабходных для земляробчых заняткаў. Вядомыя з раскопак сякеры падзяляюцца на 2 тыпы:

***I тып*** — паўднёва-прыбалтыйскі (Аўгустава, Паддубнікі, Клішына, Барсукі) (табл. 1: 3—6). Падобныя экземпляры знойдзены ў Латвіі (Граудонис, 1967, с. 103, табл. XXVII: 4, 5). Гэтыя сякеры на погляд Х.А. Маора, які, дарэчы, вызначыў гэты тып (2-я група), маюць падабенства са знаходкамі латэнскага перыяду (Moora, 1938, s. 495). Вытворчасць сякер паўднёва-прыбалтыйскага тыпу ўзнікла ў асяроддзі плямёнаў Сярэдняй і Паўночнай Беларусі ў другой палове I тысячагоддзя да н.э. у якасці пераймання прыбалтыйскіх узораў з бронзы. Яны існавалі на працягу ўсёй эпохі жалеза (Шадыро, 1985, с. 52, 53), аб чым сведчаць іх знаходкі на гарадзішчах Барсукі, Клішына, у слаях першых стагоддзяў нашай эры. Можна толькі канстатаваць, што сякеры паўднёвапрыбалтыйскага тыпу часцей сустракаюцца на поўначы Беларусі, чым у цэнтральнай яе частцы.

***II тып*** — так званага скіфскага тыпу (Кублічы, Бароннікі) (табл. 1: 1, 2). Выкарыстанне гэтых тыпаў сякер мае вельмі шырокі арэал. Яны вядомы ў скіфскіх, юхнаўскіх, падгорцаўскіх, мілаградскіх, днепра-дзвінскіх і прыбалтыйскіх старажытнасцях (Шадыро, 1985, с. 51—52). Названы тып сякер паходзіць з зон уплыву скіфскай культуры і адтуль шырока распаўсюджваецца на паўночныя тэрыторыі. У Верхнім Падняпроўі яны з'явіліся каля IV ст. да н.э. і існавалі значна даўжэй чым на поўдні (Шмидт, 1963, с. 170). З распаўсюджваннем далей на паўночны захад яны фіксуюцца ў Латвіі рубяжом н.э., альбо некалькі раней (Граудонис, 1967, с. 103). На разглядаемай тэрыторыі з'яўленне і распаўсюджванне іх можна адносіць да першых стагоддзяў нашай эры. Далейшая эвалюцыя іх, відаць, звязана з акругленнем абуха, выцягваннем правушнай адтуліны, павялічэннем часткі ляза, што характэрна ўжо для тэрыторый балцкіх і суседніх фіна-угорскіх плямёнаў сярэдзіны і другой паловы I тысячагоддзя н.э.

*Сярпы* (табл. 2/I: 1—14). Усе сярпы (звыш 50) з улікам класіфікацый Ю.А. Краснова (Краснов, 1971, с. 74—85) і Р.С. Мінасяна (Минасян, 1978а, с. 74—85) можна падзяліць на тры тыпы:

***I тып.*** Сярпы, у якіх вось чаранка з'яўляецца працягам восі задняй часткі клінка альбо плаўна адагнута ад яе ўнутр. Гэта найбольш распаўсюджаны тып (35 экз.), вельмі характэрны для Беларусі (Митрофанов, 1978, с. 36, рис. 19—23; Медведев, 1996, рис. 52, 55; Егорейченко, 1996, рис. 30: 1—15) (табл. 2/I: 1—3).




**Табл. 1.** Жалезныя сякеры, наканечнікі дзідаў, дроцікаў і стрэл з гарадзішчаў Беларускага Падзвіння:
1 — Кублічы; 2 — Баронікі; 3 — Аўгустава; 4 — Паддубнікі; 5 — Клішына; 6 — Барсукі;
7 — Аўгустава; 8 — Загаваліна; 9 — Буракова; 10 — Гарадзішча (Шумілінскі раён);
11,14 — Язна; 12 — Казінава; 13 — Урагава; 14— 17 — Клішына.

***II тып.*** Сярпы, лязо якіх мае вялікі выгін адцягнута і захоўвае аднолькавую шырыню на ўсім працягу, звужаецца толькі да носа (табл. 2/І: 6, 7). Даволі рэдкая мадыфікацыя (знойдзена 6 экз.), сустракаемая галоўным чынам ў Прыбалтыцы. Дакладных аналогій такім сярпам сярод сінхронных старажытнасцей пакуль не знойдзена. Бліжэй за ўсё да нашых экземпляраў адносяцца знаходкі з Латвіі (Мукукалнс, Кіўты), якія Р.С. Мінасян далучае да прылад, вяршыня дугі клінка якіх ссунута ў бок носа (група І варыянт А). Такія сярпы распаўсюджаны галоўным чынам у Сярэдняй і Усходняй Латвіі і Паўночнай Літве, а таксама ў Паўднёвай Эстоніі, дзе найбольш раннія з іх датуюцца ІІ—ІІІ стст. н.э. (Минасян, 1978а, с. 77, 78, рис. 3: 9, 10).




**Табл. 2.** Жалезныя сярпы і жніўныя нажы першай паловы I тыс. н.э. з Беларускага Падзвіння:
1 — Буракова; 2,19 — Барсукі; 3,4,7,9,13-15,17,18 — Кублічы; 5 — Загаваліна;
6,8,11 — Замошша; 10 — Язна; 12 — Цясты; 16 — Клішына.

***III тып.*** Сярпы з загнутай пад прамым ці тупым вуглом спінкай (табл. 2/I: 8—14). Яны характэрны толькі для гарадзішчаў Беларускага Падзвіння і знойдзены на гарадзішчах Кастрыца, Кублічы, Загаваліна, Барсукі. Замошша, Бароўна (12 экз.) (Шадыро, 1985, с. 55—56, рис. 33). К.П. Шут называў іх касарамі (Шут, 1969, с. 278). Верагодна, гэтыя прылады спалучалі ў сабе як функцыі сярпа, так і касара. Такія своеасаблівыя сярпы знойдзены пакуль на адносна невялікай тэрыторыі беларускага левабярэжжа Заходняй Дзвіны. Па форме яны нагадваюць нажы-касары, якія былі шырока распаўсюджаны ў Прыбалтыцы з пачатку жалезнага веку. Гэтыя нажы і з’явіліся першапачатковай формай для сярпоў тыпу VII (па Краснову) альбо «серпападобных», «крывых» нажоў у залежнасці ад ступені выгіну ляза. Прамежкавым звяном у гэтым развіцці і былі, верагодна, сярпы з прамавугольнай спінкай, якія выкарыстоўваліся ў Беларускім Падзвінні ў першых стагоддзях н.э.

*Жніўныя нажы* (25 экз.). Вырабы, якія можна аднесці да жніўных нажоў даволі часта сустракаюцца пры раскопках гарадзішчаў Беларускага Падзвіння (Шадыро, 1985, с. 57, 58, рис. 34). Часам іх

называюць серпападобнымі нажамі. Іх асаблівасцю з'яўляецца адсутнасць загібу ляза, альбо ён вельмі нязначны, што і набліжае іх да нажоў. У адрозненне ад апошніх, яны маюць адагнуты ў бок ляза чаранок (табл. 2/І: 15—19). Характэрнай асаблівасцю формы разглядаемых прыладаў з'яўляецца пашырэнне клінка ў першай яго трэці. Канструктыўныя асаблівасці гэтых вырабаў дазваляюць выказаць меркаванне, што яны прызначаліся для збору ўраджаю, зразання травы і г.д. Гэты тып нажоў найбольш вядомы ў заходніх рэгіёнах лясной зоны. Найбольш старажытныя экземпляры паходзяць з Прыбалтыкі і датуюцца І—ІV стст. н.э. (Вассар, 1956, табл. XIII, рис. 5)

*Нажы* (24 экз.) (табл. 2/ІІ: 1—12). Выяўленыя пры раскопках нажы апошняга перыяду днепрадзвінскай культуры можна падраздзяліць на 2 тыпы: з слаба выгнутай спінкай і прамой. Выгнутасць спінкі з'яўляецца храналагічным індыкатарам паўночнабеларускіх экземпляраў, якая менш выражана, чым, напрыклад, у архаічных з так званай гарбатай спінкай, характэрных для ранняга перыяду гарадзішчаў Сярэдняй Беларусі, Смаленшчыны, мілаградскіх і ранніх пахаванняў зарубінецкай культуры. Тлумачыцца гэта больш позняй датыроўкай. Гэта можна прасачыць і на прыкладзе так званых з гарбатай спінкай нажоў з Сярэдняй Беларусі (Митрофанов, 1978, с. 31, рис. 19—23).

У культурах лясной зоны нажы з'яўляюцца звычайнымі знаходкамі. Развіццё іх у раннім жалезным веку ішло ад формаў з кароткай гарбатай спінкай да нажоў падоўжаных прапорцый з невялікай крывізной і нарэшце да прамых. Калі лічыць, што нажы з архаічнай гарбатай спінкай датуюцца апошнімі стагоддзямі да н.э. (Третьяков, 1941, с. 46), дык экземпляры з Паўночнай Беларусі можна датаваць умоўна ІІ—ІV стст. н.э., улічваючы ў кожным канкрэтным выпадку стратыграфічны паказчык і датаваны матэрыял.

*Жалезныя прадметы ўзбраення і палявання*. Пры раскопках гарадзішчаў Паўночнай Беларусі сустракаюцца даволі рэдка. Гэта адзінкавыя знаходкі, у асноўным наканечнікаў дзідаў, дроцікаў, стрэл (Шадыро, 1985, с. 60, 62, рис. 37). Так, наканечнік дзіды з Буракова (табл. 1: 9), які быў знойдзены ў культурным пласце ІІІ—ІV стст. н.э. амаль не мае аналогій. Рэдкая аналогія з Троіцкага гарадзішча дзякаўскай культуры (Дубынін, 1974, с. 258, табл. 8), дае датыроўку — ІІ—ІІІ стст. н.э.

*Жалезныя дроцікі. Стрэлы* (табл. 1: 7—17). Экземпляр з Гарадзішча (табл. 1: 10) мае аналагічную форму і адрозніваецца толькі памерамі. А.Р. Мітрафанаў, спасылаючыся на аналогіі з Літвы і Калінінградскай вобласці адзначае, што раннія знаходкі гэтых вырабаў адносяцца да скіфскіх старажытнасцей ІІІ ст. да н.э. (Митрофанов, 1978, с. 38). Зразумела, што ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе яны датуюцца больш познім часам.

Зрэдку пры раскопках гарадзішчаў канца эпохі жалеза сустракаюцца наканечнікі стрэл (табл. 1: 11—17). Гэта чаранковыя і ўтулкавыя наканечнікі рознай формы, у большасці — лістападобныя. У экземпляра з Урагава (табл. 1: 13) лістападобнай формы, з раздвоеным плоскім чаранком маюцца шырокія аналогіі на аднакультурнай тэрыторыі Смаленшчыны (Шмидт, 1992, табл. 18: 2—6, 9, 11, 12).

*Шпількі* (табл. 3/І: 1: 21). Жалезныя шпількі насельніцтва Беларускага Падзвіння выкарыстоўвала для зашпільвання адзення і адначасова як упрыгожанне. Сустракаюцца даволі часта (знойдзена каля 50 экз.).

Іх можна падзяліць на 2 асноўныя тыпы:

***Тып 1*** — шпількі з колцападобным навершшам, якое знаходзіцца збоку ад цэнтральнай восі стрыжня (табл. 2/І: 13—21). Канец стрыжняў у іх загнуты ў выглядзе кальца, прычым кончык альбо прымыкае да бакавой паверхні стрыжня альбо завернуты ўнутр. Падобныя вырабы маюць шырокую геаграфію распаўсюджвання і вялікі храналагічны дыяпазон ад эпохі бронзы да сярэднявечча. Аналагі нашым экземплярам у Латвіі датуюцца І тысячагоддзем да н.э. альбо пачаткам н.э. На Смаленшчыне іх таксама звязваюць з апошнімі стагоддзямі да н.э. — першымі стагоддзямі нашай эры (Третьяков, Шмидт, 1963, с. 88, 89). К.А. Смірноў адносіць да Волга-Окскага рэгіёна буйныя экземпляры падобнага тыпу да сярэдзіны І тысячагоддзя н.э., а шпількі меншых памераў — да рубяжа нашай эры (Смирнов, 1974, с. 45). Дазарубінецкім часам В.М. Мельнікоўская датуе шпількі гэтага тыпу для Паўднёвай Беларусі (Мельниковская, 1967, с. 89). Для паўночнай Беларусі іх можна датаваць канцом І тысячагоддзя да н.э. — пачаткам н.э. (Шадыро, 1985, с. 63, рис. 38, 18—24).

***Тып 2*** — (табл. 3/І: 1—12) шпількі з навершшам у выглядзе посаха (посахападобныя). Даволі распаўсюджаны на помніках Беларускага Падзвіння. Шпількі гэтага тыпу маюць адзін віток, больш познія — два. Вылучаюцца сваімі вялікімі галоўкамі экземпляры з гарадзішчаў Буракова, Загорцы, Кублічы (табл. 3/І: 1, 3, 8). У шпільках з гарадзішчаў Кастрыца і Клішына верхняя частка выраблена з перакручанага стрыжня (табл. 3/І: 9, 11, 15). Асноўнай масе знаходак тыпу 2 маюцца шматлікія аналогіі ў лясной зоне Усходняй Еўропы (Шадыро, 1985, с. 63—64; Медведев, 1996, с. 28). Па тыпалогіі




**Табл. 3.** I. Жалезныя шпількі Беларускага Падзвіння: 1,5 — Загаваліна; 2 — Загорцы; 3,8-10,13,14 — Кублічы; 4,19 — Буракова; 5,6,9,11,15 — Клішына; 7,17,20 — Кастрыца; 12,18 — Язна; 9 — Урагава; 11 — Загорцы.
II. Жалезныя бранзалеты з гарадзішчаў Беларускага Падзвіння: 2, 6-9, 15,16 — Кублічы; 5,14,18 — Загаваліна; 19 — Замошша; 4, 20,21 — Буракова; 3 — Кастрыца; 11 — Урагава; 12-13 — Вышадкі; 1,9,10 — Цясты.

А.М. Мядзведзева падобныя шпількі Беларускага Падзвіння ў асноўнай сваёй колькасці суадносяцца з тыпамі I, II, III (Медведев, 1996, с. 174, рис. 1). В.В. Сядоў дапускае меркаванне аб адзіным паходжанні посахападобных шпілек эпохі жалеза ва Усходняй Прыбалтыцы і Верхнім Падняпроўі, куды, на яго погляд, яны пранiклі з Сярэдняга Падняпроўя, дзе сустракаюцца больш ранняя экземпляры (Седов, 1962, с. 137). А.М. Мядзведзеў не выключае мясцовае развіццё посахападобных формаў шпілек (Медведев, 1996, с. 186). На тэрыторыі Беларускага Падзвіння посахападобныя шпількі можна датаваць першымі стагоддзямі н.э (Шадыро, 1985, с. 65). Бытуюць яны даволі працяглы час. Трэба адзначыць,

што больш вялікая колькасць знаходак посахападобных шпілек фіксуецца ва ўсходнім — дняпроўскім варыянце арэала днепра-дзвінскай культуры. В.В. Сядоў вызначаў шляхі пранікнення посахападобных шпілек — з Сярэдняга Падняпроўя ў Верхняе Падняпроўе і Прыбалтыку (Седов, 1967, с. 137).

*Бранзалеты* (28 экз.) (табл. 3/II: 1—21). Жалезныя прадметы, якія ў першай палове I тысячагоддзя н.э. адыгрывалі ролю ўпрыгожанняў — бранзалеты па тэхніцы выканання можна падраздзяліць на 2 тыпы: гладкія і вітыя.

1) Гладкія выраблялiся з жалезнага дроту з круглым альбо выпукла-плоскім і плоскім сячэннем (табл. 3/II: 1—3, 5—14, 16—21). Падобныя вырабы знаходзяць сабе аналогіі сярод старажытнасцей Смаленшчыны. Аналіз геаграфіі распаўсюджання гаворыць аб тым, што асноўная маса іх выраблялася па больш старажытных бронзавых узорах латэнскіх тыпаў пасля рубяжа н.э. (Шмидт, 1963а, с. 170—171; Шадыро, 1985, с. 65—66).

2) Да вітых бранзалетаў можна аднесці знойдзены К.П. Шутом у пластах рубяжа н.э. экземпляр з гарадзішча Кастрыца (табл. 3/II: 3). Выраблены бранзалет са спіральна перавітага вакол уласнай восі жалезнага дроту сячэннем 5 мм. У храналагічнай табліцы мілаградскай культуры В.М. Мельнікоўская размяшчае іх у комплексах рэчаў, характэрных да III—II стст. да н.э. (Мельниковская, 1967, с. 78, 165, рис. 64). На нашай тэрыторыі яны распаўсюджваюцца ў больш позні час.

***Керамічны матэрыял.*** Па спосабу апрацоўкі паверхні ўвесь керамічны матэрыял першай паловы I тысячагоддзя н.э. Беларускага Падзвіння прадстаўлены посудам з гладкасценнай, штрыхаванай, з расчосамі, сеткавай, аблітой і глянцавай паверхняй. Працэнтная колькасць розных відаў керамікі з даследаваных гарадзішчаў Беларускага Падзвіння прадстаўлена ў табліцы Б.

**Табліца Б** Віды паверхні ляпной керамікі з гарадзішчаў Беларускага Падзвіння ў %

| № п/п | Помнік раён | Гладкасценная | Штрыхаваная | Сеткавая | Глянцаваная | З расчосамі | Аблітая | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Буракова, Гарадоцкі | 86,5 | 9 | 4,5 | - | - | - | |
| 2. | Вышадкі, Гарадоцкі | 72,5 | 22,5 | - | - | 2,3 | - | |
| 3. | Карлаўка, Гарадоцкі | 100 | - | - | - | - | - | |
| 4. | Заронава, Віцебскі | 84,4 | 11 | 4,5 | 0,1 | - | - | |
| 5. | Кублічы, Ушацкі | 89,7 | 10 | 0,3 | - | - | - | |
| 6. | Загаваліна, Ушацкі | 92 | 6 | 2 | - | - | - | |
| 7. | Клішана, Крупскі | 50 | 45 | - | - | 2,5 | - | |
| 8. | Кастрыца, Лепельскі | 99 | 1 | - | - | - | - | |
| 9. | Гаравыя, Полацкі | 100 | - | - | - | - | - | |
| 10. | Замошша, Полацкі | 95 | 3,2 | 1,5 | 0,3 | - | - | |
| 11. | Барсукі, Верхнядзвінскі | 99 | 0,4 | 0,2 | 0,4 | - | - | |
| 12. | Абрамава, Верхнядзвінскі | 99,7 | 0,1 | 0,2 | - | - | - | |
| 13. | Урагава, Верхнядзвінскі | 93 | 1,5 | 2,5 | - | - | - | ніжнія пласты |
| 14. | Цясты, Верхнядзвінскі | 99,6 | 0,2 | 0,2 | - | - | - | |
| 15. | Рацюнкі, Браслаўскі | 45 | 54,1 | - | - | - | 0,9 | |
| 16. | Тарылава, Браслаўскі | 60 | 35 | - | - | - | 5 | |
| 17. | Зазоны, Браслаўскі | 55 | 42 | - | - | - | 3 | |
| 18. | Пруднікі, Міёрскі | 76 | 6 | 2 | 0,9 | - | 15 | ніжні пласт (IV—V стст.) |

Зразумела, што размеркаванне керамічнага матэрыялу з рознай паверхняй залежыць ад геаграфічнага і храналагічнага паказчыкаў. Кераміка з аблітой (абляпанай) паверхняй з'яўляецца, галоўным чынам, у IV—V стст. н.э. у рэгіёне беларуска-літоўска-латышскага памежжа. Расчосы зафіксаваны ў позніх пластах усходняга рэгіёна Беларускага Падзвіння. Сеткавая паверхня часцей за ўсё фіксуецца на правабярэжжы Заходняй Дзвіны і Віцебскім Падзвінні. Найбольш сустракаемая пасля гладкасценнай штрыхаваная кераміка канстатавана на левабярэжжы Заходняй Дзвіны і ў Полацкім Падзвінні і Беларускім Паазер'і. Аналіз керамічнага матэрыялу з даследаваных гарадзішчаў разглядаемага рэгіёна дае

наступны працэнт размеркавання керамічнага матэрыялу па Беларускім Падзвінні: гладкасценны посуд складае 84 %, штрыхаваны — 12 %, з расчосамі — 3 %, з сеткавай паверхняй — 1 %, аблітой — 0,6 %, глянцаваны — 0,07 % (табл. Б).

*Гладкасценная кераміка*. Аснову керамічнага матэрыялу Беларускага Падзвіння складаюць фрагменты ляпнога гладкасценнага посуду з найбольш добра вывучаных гарадзішчаў Падзвіння (Абрамава, Урагава, Барсукі, Язна, Паддубнікі, Аўгустава, Замошша, Казінава, Кублічы, Цясты, Загавaліна, Пруднікі і інш.). На жаль, рэканструяваных гаршкоў на сённяшні дзень налічваецца каля 20 экземпляраў. У цэлым уся кераміка даволі аднастайная. У апошнія стагоддзі развіцця днепра-дзвінскай культуры, галоўным чынам ва ўсходнім рэгіёне (Віцебскае Падзвінне), назіраецца прыкметная марфалагічная змена ў керамічным комплексе. Яна звязана з павялічэннем прафіліроўкі пасудзін, аздабленне іх у шэрагу выпадкаў расчосамі. Адзначым, што для асноўнага рэгіёна заходняга варыянту днепра-дзвінскай культуры гэтыя асаблівасці не характэрны і яны назіраюцца толькі на самай усходняй частцы Беларускага Падзвіння, дзе адчуваўся значны ўплыў старажытнасцей тыпу сярэдняга пласта Тушамлі. Асноўную масу керамічнага комплексу першай паловы І тысячагоддзя н.э. можна аднесці да трох аддзелаў пасудзін: непрафіляваныя (слоікападобныя), слабапрафіляваныя і прафіляваныя. Унутры кожнага аддзела, па форме сценак, можна назіраць некалькі тыпаў. Па характару венчыка вылучаюцца віды і, нарэшце, па больш дробных прыкметах — варыянты.

**І. Аддзел непрафіляваных**, умоўна называемых слоікавымі, шырока распаўсюджаны па ўсёй тэрыторыі поўначы Беларусі і на працягу ўсяго перыяду эпохі жалеза. Даследаванні паказваюць, што часцей за ўсё яны сустракаюцца ў ніжніх пластах гарадзішчаў і колькасць іх павялічваецца ў заходнім напрамку (Гаравыя, Барсукі, Паддубнікі, Абрамава, Урагава, Пруднікі (ніжнія пласты) і інш. Гэтыя пасудзіны не маюць выразных шыек і плечыкаў. Таўшчыня іх сценак ад 0,5 да 1,1 см, вышыня — ад 8 да 30 см (табл. 4/І: 1—3).

Даволі часта слоікавыя пасудзіны маюць скразныя адтуліны ў самай верхняй частцы. Прычым сустракаецца гэтая з'ява часцей у заходніх раёнах. З прычыны малой колькасці адноўленых пасудзін, аб прапорцыях гаварыць цяжка, але, мяркуючы па буйных фрагментах і смаленскіх аналогіях (Шмидт, 1961, с. 353—356, рис. 5: 1, 4; 6: 1—14), вышыня пасудзін, як правіла, перавышае іх дыяметр. Па форме сценак унутры гэтага аддзела вылучаюцца 3 тыпы.

*1) Цыліндрычныя*. Сценкі прамыя альбо крыху скошаныя да дна. Шырокае дно альбо роўнае вусцю, альбо крыху меншае. Адноўлены сасуд з гарадзішча Цясты Верхнядзвінскага раёна мае вышыню 21 см і дыяметр вусця дна — 17 см (табл. 4/ІІ: 1). Венчыкі гэтых пасудзін часцей за ўсё прамыя, радзей — адагнутыя вонкі.

*2) Усечана-канічныя*. Сценкі скошаны да дна і дыяметр вусця пасудзін больш за дыяметр дна. Два гаршкі гэтага тыпу з гарадзішчаў Гаравыя і Барсукі ўдалося аднавіць (табл. 4/І: 1, 2).

*3) Бочкападобныя*. Сценкі крыху выпуклыя, тулава пашырана ў сярэдняй частцы. Дыяметр вусця і дна амаль аднолькавы. Пасудзіны, як правіла, невялікія (табл. 4/І: 4). Вывучэнне матэрыялу поўначы Беларусі паказвае, што край венчыка слоікавых пасудзін прадстаўлены ў асноўным двума відамі: увагнутыя ўнутр і прамыя). Разнавіднасцямі іх з'яўляюцца акруглыя патоньчаныя і зрэзаныя завяршэнні краёў венчыкаў, якія сустракаюцца ва ўсіх трох відах (табл. 4/І: А, Б, В).

**ІІ. Аддзел слабапрафіляваных.** Гэта гаршкападобныя пасудзіны вышынёй да 25 см. Рэканструяваныя ўзоры, буйныя фрагменты і матэрыялы сумежных тэрыторый сведчаць, што адметнай асаблівасцю іх з'яўляецца некаторае перавышэнне максімальнага пашырэння над агульнай вышынёй. Максімальны дыяметр пасудзін падае на ўзровень плечыкаў, тады як дыяметр венчыка бывае некалькі меншы (розніца ад некалькіх міліметраў да 4—5 см). Тулава такіх пасудзін пашыраецца ўверсе, а дно пры пераходзе ў сценку мае выступ. Тут можна вылучыць 3 тыпы.

*1) Акруглабокія*. Сценкі выпуклыя ў верхняй трэці пасудзін, плечыкі акруглыя. Гэта самы распаўсюджаны тып разглядаемага аддзела, прыкладам якога можа служыць рэканструкцыя з гарадзішча Язна (табл. 4/І: 7). Па характару венчыка сустракаюцца пасудзіны двух відаў: ***А*** — з прамапастаўленым венчыкам; ***Б*** — з адагнутым вонкі. Шыйка фіксуецца слаба альбо адсутнічае зусім. Разнавіднасцямі з'яўляюцца акруглыя, патоньчаныя ці зрэзаныя завяршэнні краю венчыка.

*2) Конуса-гаршкападобныя* (табл. 4/І: 6, 9, 10, 15, 16). Венчык адагнуты вонкі і падоўжаны, пераходзіць плаўна ў тулава, плечыкі пакатыя. Гэтыя пасудзіны больш высокія і маюць большую гарлавіну. Вышыня іх часцей за ўсё перавышае максімальны дыяметр на 3—5 см. Край венчыка бывае рознай ступені адагнутасці з акруглым, патоньчаным і скошаным завяршэннем. Пасудзіны гэтага тыпу часцей за ўсё сустракаюцца ў верхніх слаях гарадзішчаў.




**Табл. 4.** I. Асноўныя тыпы керамічнага матэрыялу заходняга варыянту днепра-дзвінскай культуры:
1 — Барсукі; 2 — Гаравыя; 3,4,6,8,10—14 — Кублічы; 7 — Язна; 9 — Абрамава;
15 — Кастрыца; 16 — Заронава; 17 — Паддубнікі.
II. Гарадзішча Цясты (Марыліна Гара) Верхнядзвінскага раёна. Узоры керамічнага посуду.




**Мал. 4.** Бароўна Лепельскага раёна. Графы працэнтных суадносінаў керамікі розных культур па пластах на гарадзішчы. Умоўныя абазначэнні: 1 — кераміка днепра-дзвінскай культуры; 2 — штрыхаванай керамікі; 3 — кераміка банцараўскай культуры.

**III. Аддзел прафіляваных** (табл. 4/І: 8, 11, 13). Гэта гаршкі з пукатым у рознай ступені плечыком. Іх невялікая колькасць. Мяркуючы па рэканструяваных экземплярах, іх памеры складалі: вышыня — 15—20 см, дыяметр горла — 12—16 см, дыяметр дна — 10—14 см, дыяметр max пашырэння тулава — 14—17 см. гэты тып посуду на тэрыторыі Беларускага Падзвіння ў невялікай колькасці сустракаецца ў апошнім перыядзе днепра-дзвінскай культуры і галоўным чынам на ўсходзе: Абрамава (Віцебскае Падзвінне), Вышадкі Гарадоцкага р-на, Кублічы Вушацкага, Заронава Віцебскага і інш. (Шадыро, 1985, с. 45, 46, 74, 75). Зафіксаваны яны і ў сярэднім гарызонце культурнага пласта гарадзішчаў Кісялі і Чэркасава ў Аршанскім Падняпроўі (Левко, Колосовский, 1994, с. 139—140, рис. 1: 3,4,7,8). Гэта 6-тып па класіфікацыі Я.А. Шмідта для тушамлінскай культуры, якая з'яўляецца найбольш старажытнай у пачатковы перыяд існавання селішчаў Шугайлава, Заазер'я, Кіслыя, Мікуліна і інш. (Шмидт, 2003, с. 48, табл. 27: 6). Зафіксаваны прафіляваны посуд пры раскопках гарадзішча Клішына Крупскага р-на ў рэгіёне дзвінска-дняпроўскага міжрэчча, якое даследуецца аўтарам у апошнія гады (Шадыра, 2004, мал. 8: 11—17). У шэрагу выпадкаў прафіляваны посуд аздоблены па краі венчыка зашчэпамі ці насечкамі (табл. 5/II: 1, 4). Гэта кераміка з'яўляецца зусім нехарактэрнай для разглядаемай тэрыторыі і яна не мела каранёў у папярэдніх старажытнасцях. Прыкметных слядоў у культурным развіцці больш позняга часу яна таксама не пакінула. Дарэчы, гэты фактар характэрны і для сумежных тэрыторый Заходняй Дзвіны і Лаваці (Короткевич, 2004, с. 19).

*Штрыхаваная кераміка*. Побач з гладкасценным на поўначы Беларусі (левабярэжжа Заходняй Дзвіны) сустракаецца і штрыхаваны посуд (каля 15 %). Формы яго ў цэлым адпавядаюць апісанаму вышэй гладкасценнаму посуду і адрозніваюцца ад форм, характэрных для культуры штрыхаванай керамікі. Штрыхоўка посуду зафіксавана ў паўночна-заходняй частцы Беларусі (Урагава, Абрамава, Барсукі, Рацюнкі, Зазоны і г.д.). Наяўнасць штрыхаванай керамікі ў заходнедзвінскім арэале звязана ў першую чаргу з уплывам паўднёвых і паўднёва-заходніх суседзяў — плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі. Акрамя таго, прыём штрыхоўкі посуду быў распаўсюджаны на тэрыторыі Літвы і Латвіі (Данилайте, 1968; Васкс, 1991, с. 118—129) і, безумоўна, гэта знаходзіла адбітак і ў парубежных рэгіёнах Беларусі. З'яўленне штрыхаванага посуду на поўначы Беларусі адбылося ў той час, калі ішло рассяленне плямёнаў культуры штрыхаванай керамікі на паўночны ўсход у Падзвінне, г.зн. у першых стагоддзях н.э. (Станкевич, 1960, с. 150). Культура штрыхаванай керамікі аказала прыкметны ўплыў на днепра-дзвінскае насельніцтва на парубежных тэрыторыях, хаця змены тыпаў керамікі тут не адбылося.

*Кераміка з расчосамі.* Выяўлена галоўным чынам у слаях III—VI стст. н.э. у Віцебскім Падзвінні: Вышадкі (гарадзішча), Буракова (гарадзішча, селішча), Казінова (гарадзішча, селішча) і радзей, у Полацкім Падзвінні ў насыпах курганоў Павалішына (Расонскі р-н), Бельчыца, Гаравыя, Рудня (Полацкі р-н), якія насыпаліся на месцы селішчаў. Устаноўлена заканамернасць, што кераміка з расчосамі з'яўляецца там, дзе фіксуецца пранікненне штрыхаванай керамікі і таму расчосы з'яўляюцца, хутчэй за ўсё, далейшым развіццём прыёму штрыхоўкі глінянага посуду. Асаблівасцямі керамікі з расчосамі з'яўляюцца паралельныя палоскі (ад 2—3 да 20 і болей) дакладнай формы і глыбіні. Наносіліся грабеньчатым штампам, ствараючы розныя арнаментальныя матывы (табл. 22/І; табл. 24/II). На думку М.У. Лапаціна, расчосы рабіліся імпартнымі касцянымі грабеньчыкамі рымскага часу і іх абломкамі (Лопатин, 2000, с. 12).




**Табл. 5.** I. Гарадзішча Вышадкі Гарадоцкага р-на. Тыпы гліняных сасудаў.
1—12,14,15 — ляпны посуд; 13 – ганчарная кераміка; 14,15 — арнаментальныя матывы.
II. Віцебск. Замкавая Гара. Кераміка 2-й чвэрці I тыс. н.э. выяўлена а) А.М. Ляўданскім, б) Л.У. Калядзінскім.




**Табл. 6.** Арнаментыка на посуду эпохі жалеза ў Беларускім Падзвінні: А — баначныя формы гаршкоў; Б — слабапрафіляваныя; В — з сетчатай паверхняй (1—8), з штрыхаванай (9,10,17).

*Сеткаватая кераміка*. Тэкстыльная (сеткавая, рагожная кераміка) на гарадзішчах Беларускага Падзвіння ў першай палове I тысячагоддзя н.э. сустракаецца вельмі рэдка (2—3 %). Яна ў асноўным канстатавана ў паўночна-ўсходняй частцы Падзвіння (Загорцы, Буракова, Мямлі). Гэтая кераміка прадстаўлена галоўным чынам фрагментамі слоікавых і слабапрафіляваных пасудзін. Вонкавая паверхня нясе сляды адбіткаў грубай рагожнай тканіны. Плошчу пакрыцця з-за фрагментарнасці вызначыць цяжка. Часцей за ўсё шыйка і венчык заставаліся гладкімі.

*Арнаментацыя посуду*. У апошні перыяд днепра-дзвінскай культуры арнаментацыя глінянага посуду сустракаецца значна радзей у параўнанні з папярэднім часам (Археалогія Беларусі, 1999, с. 228, мал. 63). У параўнанні з аднакультурнай вобласцю Смаленскага Падняпроўя выкарыстанне арнаментацыі ўжывалася часцей. Гэта адна з асаблівасцей заходняга варыянту днепра-дзвінскай культуры. Арнаментыка посуду і ў позні час звязана са скразнымі адтулінамі ніжэй краю венчыка і разнастайныя наразныя і прачэрчаныя лініі, а таксама ў канцы перыяду расчосы і штрыхоўка на парубежных тэрыторыях (табл. 6).

***Вырабы з гліны.*** Да іх адносяцца знойдзеныя пры раскопках гарадзішчаў прасліцы, тыглі, ільячкі, грузікі дзякаўскага тыпу і г.д. Гэта катэгорыя рэчаў падрабязна разгледжана намі ў манаграфіі па жалезнаму веку (Шадыро, 1985, с. 82—88). Таму абмяжуемся асноўнымі момантамі ў іх характарыстыцы і новымі матэрыяламі. Знаходкі прасліц (85 экз.) — адносна рэдкая з’ява на паўночнабеларускіх гарадзішчах. Асноўная частка знаходак звязана з апошнім перыядам існавання днепра-дзвінскай культуры I—IV стст. н.э. Па знешняму выгляду яны абсалютна ідэнтычны сярэднебеларускім экземплярам (Митрофанов, 1978, с. 77, рис. 26—30). Па класіфікацыі А.Р. Мітрафанава (Митрофанов, 1978,




**Табл. 7.** Гарадзішча Клішына Крупскага раёна. Арнаментыка на кераміцы, праселках і грузіках.
1—22 — гліна; 23 — косць.

с. 40—41), дапоўненай А.М. Мядзведзевым (Медведев, 1996, с. 34—35) і А.У. Ільюцік (Ильютик, 1994, с. 185—198), большасць розных варыянтаў праселкаў адносіцца да IV і V тыпаў — з плоскімі ці ўвагнутымі верхнімі і ніжнімі бакамі (табл. 8/I). Некалькі экземпляраў маюць выпуклыя бакавыя паверхні. На гарадзішчах Кастрыца, Клішына, Вышадкі знойдзена шмат арнаментаваных праселкаў (табл. 7). Тут відавочны ўплыў культуры штрыхаванай керамікі.




**Табл. 8.** I. Гарадзішча Клішына Крупскага раёна. Гліняныя праселкі 1-й пал. I тыс. н.э.
II. Гарадзішча Клішына. Гліняныя грузікі.

*Грузікі.* (табл. 8/II) Да гэтай катэгорыі адносяцца падобныя да праселкаў артэфакты, вышыня якіх больш за максімальны дыяметр. Яны маюць розную канфігурацыю, аналогіі якім шмат можна знайсці на больш паўднёвых тэрыторыях (Археалогія Беларусі, 1999, с. 99, мал. 23: 32—38). Што датычыць грузікаў дзякаўскага тыпу, то яны вядомы толькі з гарадзішчаў Кастрыца і Клішана, іх памеры ад 2 да 3,5 см, дыяметр дыска вагаецца ад 3,5 да 7,5 см. Па акружнасці дыска грузікі маюць нарэзку (табл. 11/II). Ва ўсіх экземплярах маецца цыліндрычны канал не больш за 0,7 см. Даволі рэдкай знаходкай з’яўляюцца экземпляры, зробленыя з косці (табл. 11/II: 11, 17).

*Тыглі, ільячкі*, якія выкарыстоўваліся ў бронзаліцейнай вытворчасці выяўлены толькі ў фрагментаваным выглядзе. Яны сустракаюцца амаль на ўсіх помніках і маюць шматлікія аналогіі на сумежных тэрыторыях (Шадыро, 1985, с. 85—86).

## 2.3. Асноўныя заняткі насельніцтва

***Земляробства.*** Удзельная вага земляробства насельніцтва паўночнабеларускіх гарадзішчаў у пачатку I тысячагоддзя н.э. канчаткова не высветлена. Значэнне земляробства ў гаспадарчай дзейнасці насельніцтва паступова ўзрастала. але мы пакуль не маем надзейных крытэрыяў для вызначэння яго ўдзельнай вагі ў першай палове I тысячагоддзя н.э. Шмат даных сведчыць аб тым, што земляробства становіцца вядучай галіной гаспадаркі насельніцтва Паўночнай Беларусі. Са з'яўленнем жалезных прылад ляднае земляробства ўступае ў новую, высокую стадыю, калі насельнікі асвойваюць больш шырокія лясныя прасторы. На заходнедзвінскіх паселішчах Паўночнай Беларусі шырока выкарыстоўваюцца жалезныя прылады земляробства: сякеры. сярпы, нажы для жніва з пачатку I тысячагоддзя н.э.

Насельніцтва разглядаемай тэрыторыі, як і іх суседзі, вырошчвалі, відаць, ячмень, проса, бабовыя, а таксама пшаніцу, рэшткі якой зафіксаваны на гарадзішчы Загорцы (Ляўданскі, Палікарповіч, 1936, с. 222). Знаходкі каменных зерняцёрак на кожным гарадзішчы сведчаць пра развітасць і шырокае распаўсюджанне земляробства. Зерняцёркі нічым не адрозніваліся ад падобных вырабаў іншых сінхронных культур і складаліся з ніжняга буйнога, часцей авальнай формы каменя, і верхняга, які меў у залежнасці ад працягласці карыстання розную форму.

Распаўсюджанне земляробства на поўначы Беларусі, на думку Ю.А. Краснова, ішло з захаду на ўсход праз Прыбалтыку (Краснов, 1971, с. 23). Што датычыцца ўсяго арэала днепра-дзвінскай культуры, то тэмпы развіцця ляднага земляробства і роля гэтай галіны гаспадарчай дзейнасці не ўсюды былі ад-нолькавымі. Зыходзячы з даных Я.А. Шмідта высвятляецца, што ляднае земляробства стала вядучай галі-ной гаспадаркі ў Верхнім Падняпроўі ў VI—V стст. да н.э. Тут, відаць, адбіўся ўплыў паўднёвых ускраін лясной паласы: паўднёвай часткі Верхняга Падняпроўя, Пасейм'я, Падзясення, дзе земляробства з'яўляецца значна раней (Шмидт, 1992, с. 55—61). У заходняй частцы арэала днепра-дзвінскай культуры, г.зн. на тэрыторыі Беларускага Падзвіння, дзе гаспадарка мела жывёлагадоўчы характар, земляробства стала вядучай галіной значна пазней. Але трэба адзначыць, што пераход да ворнага земляробства, якое вызначаецца пэўным ўзроўнем развіцця той ці іншай галіны, адбыўся амаль адначасова па ўсёй тэрыторыі днепра-дзвінскай культуры і звязваецца з канцом I тысячагоддзя да н.э. — першымі стагоддзямі н.э. (Шадыро, 1985, с. 94—95). Спрачацца па сённяшняму ўзроўню даследаванняў можна, на нашу думку, толькі ў бок больш позняй датыроўкі гэтага пераходу.

Пра распаўсюджанне ворнага земляробства на сумежных тэрыторыях у эпоху жалеза сведчаць зна-ходкі драўляных плугоў ва Усходняй Еўропе, якія датуюцца I тысячагоддзем н.э. і раней. Вельмі важная ў гэтай сувязі знаходка жалезнага лемяша II—III стст. н.э. на тэрыторыі старажытных яцвягаў (Загорульский, 1965, с. 122). Ворнае земляробства на тэрыторыі Усходняй Прыбалтыкі існавала, відаць, у канцы I тысячагоддзя да н.э. (Граудонис, 1967, с. 122). На распаўсюджванне ворнага земляробства ў першай палове I тысячагоддзя н.э. у зоне лакалізацыі балцкіх плямёнаў ўказвае Ю.А. Красноў (Краснов, 1971, с. 86—87). У роўнай ступені гэта можна адносіць і да Беларускага Падзвіння.

На сённяшні дзень няма канкрэтных даных, якія пацвердзілі б думку аб распаўсюджанні на поўначы Беларусі ворнага земляробства ў такі ранні час. Хутчэй за ўсё, яно з'яўляецца тут з другой паловы I тысячагоддзя н.э. і, безумоўна не мае таго значэння як ляднае.У вывучэнні дадзенага пытання цікавасць уяўляе сведчанне Тацыта аб тым, што жалеза айсты (балты — ***В.Ш.***) ўжывалі зрэдку, аднак зерневыя і іншыя культуры вырошчвалі больш старанна, чым германцы (Тацит, 1993, с. 256). Хаця гэта ўказанне непасрэдна не адносіцца да нашай тэрыторыі, тым не менш сказанае з'яўляецца своеасаблівым доказам існавання развітога земляробства на поўначы балцкага арэала.

***Жывёлагадоўля і паляванне***. Матэрыялы раскопак сведчаць пра тое, што на тэрыторыі Паўночнай Беларусі на працягу доўгага часу аж да канца I тысячагоддзя да н.э. асноўную ролю ў жыцці плямёнаў адыгрывалі жывёлагадоўля і паляванне.

*Жывёлагадоўля.* Астэалагічны матэрыял з заходнедзвінскіх гарадзішчаў паказвае, што ў помніках эпохі жалеза колькасць касцей свойскіх жывёл перавышае колькасць касцей дзікіх. Гэта сведчыць пра пераважнае значэнне мяса свойскіх жывёл у харчаванні насельнікаў гарадзішчаў. У працэнтных адносінах гэта выглядае так: 66 % складаюць свойскія жывёлы, 34 % — дзікія. Параўнанне даных паказвае, што суадносіны паміж свойскімі і дзікімі жывёламі на розных помніках значна вагаюцца (табл. 8): ад 90 % свойскіх жывёл на гарадзішчы Урагава да 49,1 % — у культурным слоі Буракова. У цэлым жа канстатавана тэндэнцыя павелічэння колькасці касцей свойскіх жывёл ад ніжніх да верхніх пластоў. Найменшая адносная колькасць рэшткаў свойскіх жывёл (42,9 %) прыпадае на самыя ніжнія пласты гарадзішчаў Буракова і Кастрыцы (табл. А).

**Табліца А**

Суадносіны паміж свойскімі і дзікімі жывёламі (па колькасці асобін) на гарадзішчах Беларускага Падзвіння (вызначэнні В.В. Шчагловай, Н.А. Александровіч, А.А. Разлуцкай)

| № п/п | Гарадзішча | раён | Усяго | | % | | Датыроўка |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | *касцей* | *асоб* | *свойск.* | *дзік.* | |
| 1. | Паддубнікі | Міёрскі | 1194 | 189 | 72,5 | 27,5 | VI ст. да н.э. — V ст. н.э. |
| 2. | Кублічы | Ушацкі | 312 | 28 | 71,6 | 28,4 | IV ст. да н.э. — III ст. н.э. |
| 3. | Загаваліна | Гарадоцкі | 136 | 31 | 58,1 | 41,9 | VII ст. да н.э. — IV ст. н.э. |
| 4. | Урагава | Верхнядзвінскі | 1634 | 114 | 88,9 | 11,1 | VI ст. да н.э. — IV ст. н.э. |
| 5. | Абрамава | Верхнядзвінскі | 46 | 6 | 66,6 | 33,4 | VII ст. да н.э. — IV ст. н.э. |
| 6. | Кастрыца | Лепельскі | 212 | 35 | 57,2 | 42,8 | V ст. да н.э. — V ст. н.э. |
| 7. | Заронава | Віцебскі | 105 | 17 | 58,8 | 41,2 | V ст. да н.э. — IV ст. н.э. |
| 8. | Буракова | Гарадоцкі | 321 | 57 | 49,1 | 50,9 | VI ст. да н.э. — V ст. н.э. |
| 9. | Цясты | Верхнядзвінскі | 120 | — | 51,3 | 48,7 | I ст. да н.э. — V ст. н.э. |
| 10. | Клішына | Крупскі | 171 | — | 72,4 | 27,6 | I ст. да н.э. — I ст. н.э. |

Звяртае на сябе ўвагу значны працэнт рэшткаў дзікіх жывёл на кожным помніку (табл. А), выключаючы Урагава. Больш за палову ўсёй колькасці рэшткаў складаюць рэшткі дзікіх жывёл у Буракова (50,9 %). На гарадзішчах Загаваліна, Кастрыца, Заронава дзікіх жывёл — ад 41,2 да 42,8 %. І толькі ў кухонных рэштках з раскопак Урагава іх усяго 11,1 %.

**Табліца Б**

Суадносіны паміж відамі хатніх жывёл на гарадзішчах Беларускага Падзвіння ў % (вызначэнні В.В. Шчагловай, А.А. Разлуцкай)

| Гарадзішча | Буйная рагатая жывёла | Дробная рагатая жывёла | Свіння | Конь |
|---|---|---|---|---|
| Урагава | 39,8 | 26,2 | 8,8 | 25,2 |
| Абрамава | 50,0 | — | — | 50,0 |
| Паддубнікі | 23,8 | 23,1 | 32,2 | 20,9 |
| Кублічы | 50,0 | 30,0 | 10,0 | 10,0 |
| Загаваліна | 44,4 | 27,8 | 11,2 | 16,6 |
| Кастрыца | 45,0 | 20,0 | 25,0 | 10,0 |
| Буракова | 35,7 | 28,6 | 21,3 | 14,4 |
| Заронава | 20,0 | 30,0 | 20,0 | 20,0 |
| Аўгустава | 25,0 | 25,0 | 25,0 | 25,0 |
| Клішына | 14,0 | 16,5 | 23,9 | 13,4 |

У табліцы Б звяртае на сябе ўвагу вялікі працэнт рэшткаў свіней (32,2) у Паддубніках, які амаль у 1,5 раза перавышае працэнт рэшткаў буйной рагатай жывёлы.

На гарадзішчах Беларускага Падзвіння (выключаючы Паддубнікі) найбольшая колькасць рэшткаў належыць буйной рагатай жывёле (30—50 %), другое месца займаюць рэшткі дробнай рагатай жывёлы (выключаючы Кастрыцу і Паддубнікі), трэцяе месца на шэрагу гарадзішчаў — рэшткі каня (Урагава, Загаваліна, Кублічы, Заронава). Значны працэнт рэшткаў свінні характэрны для Паддубнікаў, Кастрыцы, Буракова і Заронава (па колькасці сельскагаспадарчых жывёл). Сярэднія значэнні для кожнага віду па ўсіх гарадзішчах, буйная рагатая жывёла — 39,8 %, дробная — 26,5, свінні — 18,3, коні — 20,9 %. У сярэднім колькасць рэшткаў дзікіх капытных на заходнедзвінскіх гарадзішчах вызначаецца ў 60,1 %, пушных — 39,9 %.

Колькасць рэшткаў касцей дзікіх жывёл па асобных відах на гарадзішчах размяркоўваецца наступным чынам: сярэдняе значэнне колькасці рэшткаў (асобін) зубра складае 4,3 %, лася — 25,2, аленя высакароднага — 6,3, казулі — 0,9, дзіка — 22,8 %. Значная колькасць рэшткаў лася выяўлена ў культурным слоі Урагава (37,5 %), Заронава (28,6 %), Кублічах (25 %), Загаваліна (23,0 %), каля 1/3 усіх рэшткаў капытных жывёл складаюць рэшткі дзіка ў Загаваліне, крыху больша за 1/4 — у Паддубніках (табл. В).

Сярод рэшткаў пушных жывёл першае месца па колькасці (% ад агульнай колькасці асобін дзікіх жывёл) займаюць рэшткі бабра: у Паддубніках — 23,1, Кублічах — 25, Загаваліне — 23,1, Кастрыцы — 20, Заронаве — 42,8, Буракове — 31 %.

**Табліца В**

Суадносіны паміж відамі дзікіх капытных на гарадзішчах Беларускага Падзвіння, %*
(вызначэнні В.В. Шчагловай, А.А. Разлуцкай)

| Гарадзішча | Зубр | Лось | Алень высакародны | Казуля | Дзік |
|---|---|---|---|---|---|
| Урагава | 7,7 | 38,4 | — | — | 15,4 |
| Абрамава | — | 50,0 | — | — | 50,0 |
| Паддубнікі | 6,9 | 17,3 | 1,7 | 6,9 | 27,6 |
| Кублічы | 12,5 | 25,0 | — | — | 12,5 |
| Загаваліна | — | 23,0 | — | — | 31,0 |
| Кастрыца | 26,7 | 26,7 | — | — | 26,7 |
| Заронава | — | 28,6 | — | — | 14,3 |
| Буракова | 6,9 | 17,2 | — | — | 6,9 |
| Клішына | 2,8 | 4,6 | — | — | 9,9 |

*Ад агульнай колькасці асобін дзікіх жывёл.

Такім чынам, на поўначы Беларусі ў пачатку І тысячагоддзя н.э. галоўнай галіной жывёлагадоўлі з'яўлялася развядзенне буйной рагатай жывёлы — ад 1/3 да 1/2 рэшткаў сельскагаспадарчых жывёл належыць гэтаму віду на ўсіх даследаваных гарадзішчах, за выключэннем Паддубнікаў, дзе асноўным заняткам жыхароў была свінагадоўля (32,2 %). У той жа час амаль палова ўсяго статку сельскагаспадарчых жывёл прыпадала на дробную рагатую жывёлу (23,8 + 23,1 %). Конегадоўля была даволі развітой галіной жывёлагадоўлі (ад 10 да 25,2 %) складаюць рэшткі каня на ўсіх вывучаных гарадзішчах). У цэлым жа, удзельная вага свінагадоўлі складала 16,1 %, самая высокая — развядзенне буйной рагатай жывёлы — 39,8 %.

*Паляванне.* Параўнаўчыя даныя суадносінаў хатніх і дзікіх жывёл сведчаць аб тым, што паляванне адыгрывала вельмі істотную ролю ў жыцці плямёнаў Падзвіння.

**Табліца Г**

Параўнаўчыя даныя суадносін хатніх жывёл з гарадзішчаў
Беларускага Падзвіння і сумежных тэрыторый (у %)

| Рэгіён | Помнік | Рагатая жывёла | | Свіння | Конь |
|---|---|---|---|---|---|
| | | *буйная* | *дробная* | | |
| Беларускае Падзвінне | Паддубнікі | 18 | 15,8 | 24,3 | 14,4 |
| | Урагава | 35,1 | 23,7 | 7,9 | 22,7 |
| | Аўгустава | 14,3 | 14,3 | 14,3 | 14,3 |
| | Кублічы | 35,7 | 21,5 | 7,2 | 7,2 |
| | Кастрыца | 29,3 | 11,8 | 11,8 | 5,9 |
| | Заронава | 17,6 | 17,6 | 11,8 | 11,8 |
| | Абрамава | 19 | 14,1 | 26,1 | 15,2 |
| | Буракова | 15,2 | 15,2 | 9,1 | 12,1 |
| | Клішына | 14,0 | 16,5 | 23,9 | 13,4 |
| Цэнтральная Беларусь | Лабеншчына | 28,6 | 14,3 | 21,4 | 21,4 |
| | Навасёлкі | 37,5 | 31,2 | 12,5 | 18,8 |
| | Кімія | 22,2 | 22,2 | 33,2 | 22,3 |
| Літва | Петрашунай | 26,2 | 10,6 | 23,2 | 10,9 |
| | Аукштадварыс | 36,6 | 35,2 | 12,7 | 15,5 |
| Латвія | Мукукалнс | 36,0 | 17,7 | 24,3 | 21,3 |
| | Асоце | 42,8 | 21,5 | 18,4 | 17,8 |
| | Кланьгукалнс | 38,4 | 15,1 | 25,6 | 20,9 |
| Верхняе Падзвінне і дзякаўскія гарадзішчы | Падгай | 37,0 | 47,0 | — | 16,0 |
| | Міхайлаўскае | 29,0 | 49,0 | 5,0 | 17,0 |
| | Гарадок | 44,0 | 33,0 | — | 23,0 |
| | Пекуноўскае | 23,8 | 14,3 | 38,1 | 23,8 |
| | Шчарбінскае | 17,8 | 10,8 | 47,07 | 20,6 |
| Смаленшчына | Тушамля (ніжні пласт) | 36,3 | 14,6 | 31,7 | 17,1 |
| | Макрадзіна | 18,0 | 17,0 | 54,8 | 10,2 |
| | Новыя Батэкі | 25,0 | 20,0 | 40,0 | 15,0 |

Прыкладна 35—40 % астэалагічнага матэрыялу складаюць косткі дзікіх жывёл, што адпавядае і сярэдняму паказчыку па паляванні ў насельніцтва сумежных тэрыторый (табл. Д).

**Табліца Д**

Параўнаўчыя даныя суадносін хатніх і дзікіх жывёл з гарадзішчаў Беларускага Падзвіння і сумежных тэрыторый (у %)

| Рэгіён | Помнік | Хатнія | Дзікія |
|---|---|---|---|
| Беларускае Падзвінне | Абрамава | 66,6 | 33,4 |
| | Урагава | 89,4 | 10,6 |
| | Паддубнікі | 72,5 | 27,5 |
| | Буракова | 51,5 | 48,5 |
| | Кублічы | 71,4 | 28,6 |
| | Заронава | 58,8 | 41,2 |
| | Кастрыца | 58,8 | 41,2 |
| | Абрамава | 57,2 | 42,8 |
| Цэнтральная Беларусь | Лабеншчына | 36,8 | 63,2 |
| | Навасёлкі | 53,3 | 46,7 |
| | Кімія | 45,0 | 55,0 |
| Літва | Петрашунай | 71,2 | 28,8 |
| | Аукштадварыс | 64,5 | 35,5 |
| Латвія | Мукукалнс | 57,6 | 42,4 |
| | Асоце | 70,3 | 29,7 |
| | Кланьгукалнс | 71,4 | 28,6 |
| Верхняе Падзвінне і дзякаўскія гарадзішчы | Гарадок | 44,0 | 56,0 |
| | Пекуноўскае | 67,7 | 32,3 |
| | Шчэрбінскае | 51,1 | 48,9 |
| Смаленшчына | Тушамля (ніжні пласт) | 58,2 | 41,8 |
| | Макрадзіна | 63,5 | 36,5 |
| | Новыя Батэкі | 71,6 | 28,4 |

Супастаўленне даных па жывёлагадоўлі (табл. Г) у плямёнаў Беларускага Падзвіння з сумежнымі рэгіёнамі дае высновы аб тым, што развіццё жывёлагадоўлі на вывучаемай тэрыторыі мае шмат агульнага з сумежнымі тэрыторыямі. Бліжэй за ўсіх па характары жывёлагадоўлі да плямёнаў Беларускага Паддзвіння стаяць плямёны культуры штрыхаванай керамікі, а таксама гарадзішчы Літвы і Латвіі.

Ва ўсходнім рэгіёне назіраецца тэндэнцыя да збліжэння са Смаленскім Падняпроўем і Верхнім Падзвіннем.

Асаблівасцю разглядаемай тэрыторыі Беларускага Падзвіння з'яўляецца пераважнае развядзенне буйной рагатай жывёлы.

Відавы склад жывёл, на якіх палявала заходнедзвінскае насельніцтва Беларусі ў эпоху жалеза вызначаецца вялікай разнастайнасцю. Здабычай паляўнічых з'яўляліся наступныя віды дзікіх жывёл: зубр, лось, высакародны алень, казуля, дзік, мядзведзь, воўк, куніца, лісіца, барсук, выдра, рысь, тхор звычайны, бабёр, вавёрка, заяц. На першыя пяць відаў (дзікія капытныя) палявалі дзеля мяса. Бабёр, мядзведзь, заяц, барсук адыгрывалі дваякую ролю — мясных і футравых звяроў, астатнія давалі насельніцтву толькі футра. Капытных жывёл здабывалі ў асноўным дзеля футра і часткова мяса.

У паўночна-заходнім рэгіёне — Урагава і Абрамава (Верхнядзвінскі раён) жыхары палявалі ў асноўным на такіх мясных капытных як лось і дзік. Колькасць забітых ласёў ва Урагаве перавышала колькасць здабытых дзікоў. У Паддубніках (Міёрскі раён), асноўнай жывёлай для палявання з'яўляўся дзік (27,6 %), удвая менш было здабыта ласёў, у невялікай колькасці забівалі зуброў (7,7 %). Палявалі на мядзведзя (7,7 %), лісіцу (23,1 %), бабра (7,7 %). Жыхары Кублічаў (Вушацкі раён) выкарыстоўвалі ў ежу галоўным чынам мяса лася (25,4 %), здабывалі таксама зуброў (12,5 %) і дзікоў (12,5 %). Здабычай паляўнічых былі мядзведзь (12,5 %) і бобр (25 %). У Заронаве (Віцебскі раён) колькасць здабытых ласёў складала 28,6 % ад агульнай колькасці дзікіх жывёл, удвая менш было здабыта дзіка (14,3 %). Жыхары Буракова (Гарадоцкі раён) здабывалі зубра (6,9 %), лася (17,2 %), дзіка (6,9 %). Даволі разнастайным быў асартымент футравых звяроў: мядзведзь (13,8 %), куніца (3,5 %), рысь (3,5 %), асабліва лісіца (17,2 %) і бабёр (31 %) (Щеглова, 1969, с. 106—110).

**Табліца Е**

Відавы склад рэшткаў костак футравых і мясных жывёл з гарадзішчаў Беларускага Падзвіння (паводле В.В. Шчагловай)

| Помнікі / Від | Урагава | | Буракова | | Кублічы | | Заронава | | Кастрыца | | Паддубнікі | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | +/- | % | +/- | % | +/- | % | +/- | % | +/- | % | +/- | % |
| Зубр | 8/1 | 0,9 | 3/2 | 6,9 | 2/1 | 3,5 | — | — | 11/1 | 5,9 | 6/4 | 2,7 |
| Лось | 34/5 | 4,4 | 21/1 | 3,0 | 12/2 | 7,2 | 9/2 | 11,8 | 53/31 | 7,6 | 20,8 | 4,2 |
| Дзік | 11/1 | 0,9 | — | — | 1/1 | 3,5 | 3/1 | 5,9 | 9/2 | 11,8 | 46/16 | 8,4 |
| Мядзведзь | 6/1 | 0,9 | 6/1 | 3,0 | 4/1 | 3,5 | 1/1 | 5,9 | — | — | 8/4 | 2/1 |
| Лісіца | 19/3 | 2,6 | 3/3 | 9,1 | 9/5 | 3,5 | — | — | — | — | — | — |
| Куніца лясная | — | — | 1/1 | 3,0 | — | — | — | — | — | — | 1/1 | 0,5 |
| Рысь | — | — | 1/1 | 3,0 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| Бабёр | 2/1 | 0,9 | 30/7 | 21,2 | 8/2 | 7,2 | 12/3 | 17,6 | 4/1 | 5,9 | 26/12 | 6,4 |

Заўвага: першая лічба — колькасць костак; другая — колькасць асобін, % — ад агульнай колькасці асобін (свойскіх і дзікіх).

Такім чынам, насельніцтва Беларускага Падзвіння ў асноўным здабывала два віды мясных жывёл — лася (25,2 %) і дзіка (22,8 %). Удзельная вага іншых відаў мясных капытных — зубра (4,2 %), аленя высакароднага (0,3 %), казулі (0,9 %) у агульным аб'ёме здабычы паляўнічых была невялікай. Суадносіны паміж дзікімі капытнымі (мяснымі) і некапытнымі на вывучаемых гарадзішчах дазваляюць гаварыць пра тое, што жыхары толькі Буракова і Заронава (Віцебскае Падзвінне) вялі ўзмоцненую здабычу футравых звяроў (69 % ад агульнай колькасці дзікіх жывёл у Буракове і 57,1 % — у Заронаве), насельніцтва ж астатніх вывучаных паселішчаў (Полацкае Падзвінне) яўна аддавала перавагу пры паляванні капытным жывёлам (Урагава, Абрамава, Паддубнікі, Кастрыца і інш.).

## 2.4. Лакальныя варыянты днепра-дзвінскай культуры ў Беларускім Падзвінні

На тэрыторыі Беларускага Падзвіння і Верхняга Падняпроўя ў жалезным веку склалася ўстойлівая група балцкіх плямён, якія стварылі сваю культуру, што мела свае адметныя рысы на працягу звыш тысячы гадоў.

Калі гаварыць аб агульных момантах, звязаных з характарам паселішчаў, матэрыяльнай культурай, гаспадарчай дзейнасцю ўсяго балцкага арэала, не трэба забываць пра аддаленасць асобных рэгіёнаў, іх замкнутасць і раз'яднанасць, розную ступень знешніх уплываў. Усё гэта не магло не выклікаць да жыцця розныя спецыфічныя рысы і лакальныя асаблівасці ўнутры самой культуры.

Што датычыць тэрыторыі Беларускага Падзвіння, то спробы некаторых даследчыкаў (Третьяков, 1963, с. 21; Шут, 1966, с. 163) размежаваць старажытнасці правабярэжжа і левабярэжжа Заходняй Дзвіны і выдзеліць правабярэжжа з Себежскім краем ў асобную культуру тыпу Осына (Третьяков, 1976, с. 215—216) не знайшлі абгрунтаванай аргументацыі факталагічным матэрыялам. Яшчэ раней П.М.Траццякоў, абапіраючыся на даследаванні С.А. Тараканавай (Тараканова, 1959, с. 111—117), адзначаў падабенства керамікі себежскіх гарадзішчаў і правабярэжжа Заходняй Дзвіны з керамікай юхнаўскіх гарадзішчаў Падзясення (Третьяков, 1963, с. 21). Гэтую думку падтрымліваў К.П. Шут і адзначаў, што на шэрагу гарадзішчаў правабярэжжа Падзвіння (гарадзішчы Буракова, Дзявічка, Барысаў Хутар, Бяскатава, Урагава, Абрамава і інш.) керамічны матэрыял прадстаўлены пасудзінамі слабапрафіляваных форм, якія ўпрыгожаны ў верхняй частцы разнастайнымі ўзорамі, складзенымі з аднаго, двух, трох радоў ямачных уцісканняў, радзей — з пояса трохвугольнікаў, утвораных такімі ж ямачкамі ці з неглыбокіх ямак, ад якіх разыходзяцца прачэрчаныя лініі (Шут, 1966, с. 163). Адразу адзначым, што, па-першае, гэтая арнаментыка не з'яўляецца адметнай рысай керамічнага комплексу правабярэжных гарадзішчаў; па-другое, падобная кераміка не ўласціва для себежскіх гарадзішчаў (Мінасян, 1974, с. 133—141). Таму спроба выдзялення К.П. Шутом себежскага і смаленскага варыянту днепра-дзвінскай культуры на поўначы Беларусі не падмацоўваецца фактычным матэрыялам.

Нашы даследаванні апошніх дзесяцігоддзяў сведчаць аб тым, што матэрыял з левабярэжжа і правабярэжжа Заходняй Дзвіны вельмі падобны: танкасценныя, часцей слоікавыя формы пасудзіны арнаментаваны ў шэрагу выпадкаў скразнымі адтулінамі, а слабапрафіляваныя — звычайна маюць

арнамент з неглыбокіх падоўжаных уціскнняў і прачэрчаных ліній, выходзячых з ямак (Шадыро, 1985, с. 70—83). Акрамя гэтага, іншыя матэрыялы з гарадзішчаў Себежскага Паазер'я ідэнтычныя старажытнасцям Беларускага Падзвіння. Характэрным прыкладам гэтаму, як мы ўжо ўказвалі (Шадыро, 1985, с. 110; Шадыра, 1999, с. 176), можа служыць параўнанне старажытнасцей гарадзішчаў Осына (Себежскі раён) і Замошша (поўдзень Полацкага р-на, левабярэжжа Заходняй Дзвіны — ***В.Ш.***), дзе не толькі керамічны, але і рэчавы комплексы аналагічныя, што сведчыць аб наяўнасці аднароднага этнакультурнага масіву. Гіпатэтычнай застаецца і думка К.П. Шута аб себежскім і смаленскім варыянце днепра-дзвінскай культуры ў межах Беларусі, хаця яна і заслугоўвае ўвагі і пры больш глыбокай распрацоўцы ў крыніцазнаўчым накірунку магла бы мець рацыянальнае зерне. Мы маем на ўвазе тое, што калі разглядаць Усходнюю Пскоўшчыну (басейн Лаваці), Віцебскае Падзвінне і Верхняе Падняпроўе як рэгіёны са шматлікімі рысамі агульнага характару.

Параўнаўчы аналіз матэрыялаў Беларускага Падзвіння і Смаленскага Падняпроўя дазволіў нам вылучыць шэраг адметных рыс паўночнабеларускіх паселішчаў ад аднакультурнай вобласці смаленскіх гарадзішчаў. Падсумоўванне іх дазволіла выдзеліць заходні варыянт днепра-дзвінскай культуры і правесці мяжу яго ад Чашнікаў на поўдні да вярхоўяў р. Обаль (Шадыро, 1985, с. 111, рис. 63) (карта 2; табл. 12).

Гэта размежаванне грунтуецца на тым, што на паселішчах на ўсход ад згаданай лініі (Загорцы, Заронава, Віцебск (ніжнія пласты), Буракова, Казінова) сустрэты таўстасценныя слабапрафіляваныя формы посуду, тут часцей фіксуецца арнаментацыя, уласцівая гарадзішчам Верхняга Падняпроўя. У гэтым рэгіёне канстатаваны характэрныя асаблівасці ў развіцці днепра-дзвінскай культуры на яе апошнім этапе, якія звязаны з рухам зарубінецкіх плямён у Верхняе Падняпроўе ў межы плямёнаў мілаградскай і штрыхаванай керамікі культур, што выклікала перамяшчэнне насельніцтва на поўнач (Шмидт, 1992, с. 131—144). Размова, хутчэй за ўсё, павінна ісці не аб значных перамяшчэннях насельніцтва, а аб моцных культурных уплывах у накірунку поўдзень — поўнач, якія назіраліся ў канцы эпохі ранняга жалезнага веку (дакладней у I—III стст. н.э. — ***В.Ш.***) па ўсёй тэрыторыі лясной зоны. Актыўным элементам пры гэтым працэсе выступалі не толькі познезарубінецкія плямёны, але і насельніцтва Верхняга Падзвіння Расіі (у тым ліку і Віцебскага Падзвіння Беларусі — ***В.Ш.***) (Короткевич, 2004, с. 26), што ўключыліся ў гэты працэс.

Рэгіянальныя асаблівасці больш рэльефна выяўляюцца ў апошні перыяд існавання днепра-дзвінскай культуры. Лакальныя варыянты «днепра-дзвінцаў», якія выдзяляюць даследчыкі па ўсім арэале культуры (Короткевич, Мазуркевич, 1992), з'яўляюцца сведчаннем існавання асобных культурна-рэгіянальных соцыумаў, генезіс якіх абумоўлены як субстратнымі з'явамі, так і знешнімі ўплывамі. На тэрыторыі Віцебскага Падзвіння, мяркуючы па матэрыялах некаторых гарадзішчаў (Буракова, Загорцы, Мямлі і інш.), прасочваецца таксама ўплыў дзякаўскіх гарадзішчаў. Гэтыя асаблівасці сведчаць аб тым, што рэгіён абмежаваны рэкамі Обаллю і Вулай, уваходзіў у сферу ўплыву плямёнаў Верхняга Падняпроўя і Верхняга Падзвіння (Шадыро, 1985, с. 103—111). Этнагенетычныя працэсы, якія былі выкліканы пранікненнем носьбітаў зарубінецкай культуры ў Верхняе Падняпроўе ў пачатку нашай эры, садзейнічалі развіццю спецыфічных рыс у культуры плямёнаў Верхняга Падняпроўя і Віцебскага Падзвіння, прычым, як падкрэсліў Я.А. Шмідт, зарубінецкая культура адыграла ролю першапачатковага штуршка і стымулятара развіцця новых форм керамікі ў днепра-дзвінскіх плямёнаў і іх суседзяў (Шмидт, 1972, с. 109). Акрамя ўплыву на керамічны комплекс, канстатавана з'яўленне новых элементаў і ў астатнім рэчавым комплексе, што зафіксавана на некаторых гарадзішчах паўночнага ўсходу Беларусі. Гэта знаходкі фібул паўднёвых тыпаў сярэднелатэнскай схемы (Дзявочая Гара, Кісялі) (Алексеев, 1963, с. 74, рис. 12: 9; Левко, Колосовский, 1990, с. 38), усечана-біканічных прасліц (Кастрыца, Вышадкі), удасканаленыя тыпы жалезных сярпоў з кручкамі і г.д.

Пад уплывам зарубінецкіх старажытнасцей, а пазней культуры кіеўскага тыпу, матэрыяльная культура «штрыхавікоў» і «днепра-дзвінцаў» ці трансфарміравалася на месцы (формы гаршкоў, расчосы і г.д.), ці разам з насельніцтвам пранікала ў абшары дзякаўскай культуры. Тут адбываўся сімбіёз з мясцовым насельніцтвам, што і генерыравала з'яўленне новых спецыфічных рыс матэрыяльнай культуры, якая атрымала ў літаратуры назву «познадзякаўскай». Гэта культура з'яўляецца сінтэзам дзякаўскіх (фіна-угорскіх — ***В.Ш.***) і балцкіх элементаў. Сведчаннем таму служыць з'яўленне на гарадзішчах Віцебскага Падзвіння параўнальна высокіх прафіляваных пасудзін, часам упрыгожаных зашчэпамі, насечкамі, адбіткамі ногця, рознымі штампамі і г.д., што збліжае яе з керамікай дзякаўскай культуры (Віцебск, Гарадок — ніжнія пласты, Буракова, Загорцы) (Левко, Колосовский, 1990, с. 36; Шадыро, 1985, рис. 56). Акрамя балцкіх рэчаў, атрымліваюць распаўсюджанне бронзавыя ажурныя падвескі, бляхі, характэрныя па стылю старажытнасцям волжска-камскіх фінаў: Буракова, Баронікі, Кублічы

(Шадыро, 1985, рис. 42: 1—5). Аб блізкасці познадзякаўскіх і днепра-дзвінскіх старажытнасцей сведчыць распаўсюджанне так званых грузікаў дзякаўскага тыпу, якія мы ўслед за П.М. Траццяковым схільны разглядаць як «балцкія». Гэты фактар сведчыць аб дыфузіі балцкіх старажытнасцей у першых стагоддзях н.э. у паўночным і паўночна-ўсходнім напрамку.

Такім чынам, своеасаблівасць басейна верхняй часткі Заходняй Дзвіны, куды можна ўключыць і рэгіён віцебскага цячэння яе, звязаны з культурнымі імпульсамі балцкіх плямён (днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур) у фіна-угорскім асяроддзі, што цалкам суадносіцца з меркаваннем Я.В-. Станкевіч аб пранікненні ў першых стагоддзях н.э. у Верхняе Падзвінне лета-літоўскага насельніцтва з больш паўднёвых абласцей (Станкевич, 1960, с. 150).

У III—V стст. н.э. тут адчувальна дае аб сабе знаць уплыў некаторых старажытнасцей культуры кіеўскага тыпу. Аб гэтым сведчаць, напрыклад, матэрыялы нашых раскопак гарадзішча Вышадкі (Гарадоцкі раён), а таксама даследаванні В.М. Ляўко і Ю.У. Каласоўскага на селішчы Гарадок (Лугавое) ў Віцебскім Падзвінні. Дадзеныя моманты збліжаюць рэгіён віцебскага цячэння Заходняй Дзвіны са смаленскім варыянтам днепра-дзвінскай культуры і з усімі працэсамі, якія мелі месца ў другой чвэрці I тысячагоддзя н.э. на гэтай тэрыторыі.

Некаторыя даследчыкі (М.У. Лапацін, А.Р. Фурасьеў) перабольшваюць, на наш погляд, значэнне новых (звязаных з кіеўскай культурай) керамічных традыцый у культуры Верхняга Падняпроўя і Падзвіння (Лопатин, Фурасьев, 1994), адводзячы носьбітам кіеўскай культуры ледзь не ролю культуртрэгерства: хуткая змена керамічных традыцый і культурная асіміляцыя мясцовага насельніцтва (Лопатин, 2000, с. 23). Уплыў, відавочна, нельга адмаўляць, як і яго пэўную ролю ў фарміраванні наступных культурных наватцый тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі. Можна пагадзіцца з тэзісам аб тым, што рассяленні носьбітаў традыцый тыпу Абідні адбывалася ў форме ўключэння перасяленцаў у мясцовую этнасацыяльную структуру, якая праявілася ў якасці заходняга варыянту днепра-дзвінскай культуры (Лопатин, 2000, с. 22). Толькі трэба падкрэсліць, што на тэрыторыі заходняга варыянту днепра-дзвінскай культуры на захад ад лініі Езярышча — Бешанковічы — Чашнікі прытоку новага насельніцтва не фіксуецца да IV—V стст. н.э. З гэтага часу лёс плямёнаў днепра-дзвінскай культуры названага рэгіёна звязаны з распаўсюджаннем старажытнасцей тыпу Банцараўшчыны, ранніх доўгіх курганоў і літоўска-латышскіх паселішчаў з гладкасценнай і «аблітой» (шурпатай) керамікай баначных і вёдрападобных форм. Падкрэслім, што ў Полацкім Падзвінні адчувальна адбываўся ўплыў штрыхаванай керамікі і прыбалтыйскага кола старажытнасцей. Параўнанне матэрыялаў гэтых груп помнікаў дазваляе гаварыць аб іх цесных сувязях. Для заходняга варыянта характэрны тыя ж тыпы наканечнікаў дзідаў, дроцікаў, сякер, сярпоў, серпападобных нажоў, праселкаў, грузікаў дзякава тыпу. Вядома, што на ўсходніх тэрыторыях Падзвіння ўплыў «штрыхавікоў» быў менш прыкметны. Хаця нельга скідваць з рахунку пранікненне культурных імпульсаў з Верхняга Падняпроўя ў канцы апошняга перыяду днепра-дзвінскай культуры. Таму выснову М.У. Лапаціна можна, на нашу думку, аднесці да рэгіёна Віцебскага Падзвіння (усходні — смаленскі варыянт днепра-дзвінскай культуры — ***В.Ш.***). Такім чынам, новыя культурныя ўтварэнні і іх варыяцыі звязаны з удзелам у іх генезісе некалькіх этнакультурных кампанентаў, а таксама разнастайнымі мясцовымі традыцыямі і знешнімі ўплывамі.

### 2.5. Этнічная прыналежнасць і вераванні

Гістарыяграфічны агляд даследавання праблемы этнічнай атрыбуцыі плямёнаў днепра-дзвінскай культуры падрабязна дадзены намі ў раздзеле «Днепра-дзвінская культура» (Археалогія Беларусі, 1999, с. 174—231). Балцкая прыналежнасць плямёнаў Беларускага Падзвіння ў першай палове I тысячагоддзя н.э. не выклікае на сённяшні дзень дыскусіі.

Грунтуючыся на аналізе даных археалагічных і лінгвістычных даследаванняў можна з упэўненасцю сцвярджаць, што да з’яўлення славян ў Верхнім Падняпроўі і Падзвінні, а таксама на некаторых сумежных тэрыторыях пражывалі вялікія групы плямёнаў, якія размаўлялі на балтыйскіх дыялектах.

Супастаўленне арэала роднасных старажытнасцей Падняпроўя, Беларускага Падзвіння і Прыбалтыкі, акрэсленага ў выніку даследаванняў помнікаў эпохі жалеза і карты распаўсюджання балтыйскіх гідронімаў і тапонімаў паказвае, што ў наяўнасці поўнае супадзенне, якое дае падставы лічыць, што ўсе старажытныя паселішчы належалі балтамоўнаму насельніцтву. Зыходзячы з таго, што на заходняй частцы гэтай тэрыторыі адзначана пераемнасць у развіцці культуры і мовы ад старажытных плямёнаў жалезнага веку да сучасных балтыйскіх народаў (літоўцаў, латышоў), можна зрабіць выснову,




**Табл. 9.** Прадметы язычніцкага культа: гарадзішча Клішына — амулеты з рэбраў (1—13), зубоў і разцоў (14—21); гарадзішча і селішча Пруднікі: (22,24,29,30,32,33,40,41 — селішча); (23,25,27,31,34—39 — гарадзішча).




**Табл. 10.** Гарадзішча Вышадкі Гарадоцкага раёна. Комплекс рэчаў 2-й і 3-й чвэрці I тыс.
Вырабы з жалеза (1—13), гліняныя праселкі (14—24); Узоры керамікі са штрыхоўкай і расчосамі (25—42).







**Табл. 11.** I. Гарадзішча Вышадкі Гарадоцкага раёна. Кераміка днепра-дзвінскай культуры (1—8); тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі (9—16); падглянцаваная (17—20).
II. Грузікі дзякава тыпу з помнікаў Беларускага Падзвіння: 1—12 — Кастрыца Лепельскага р-на; 13—21 — Клішына Крупскага р-на.




**Табл. 12.** Рэчы, характэрныя для заходняга варыянту днепра-дзвінскай культуры на фінальным этапе яе развіцця: 1 — Гаравыя; 2,18 — Барсукі; 3,6 — Аўгустова; 4,15 — Язна; 5 — Клішына; 7—12 — Цясты; 13,17,19 — Кублічы; 14,16 — Замошша.

што насельніцтва старажытных гарадзішчаў Беларускага Падзвіння і Верхняга Падняпроўя з этнічнага пункту гледжання адносілася да балцкай моўнай групоўкі.

Яшчэ літоўскі мовазнаўца К. Буга на падставе шматлікай гідраніміі балцкага паходжання прыйшоў да высновы, што Верхняе Падняпроўе і Сярэдняе (Беларускае — ***В.Ш.***) Падзвінне з’яўляліся радзімай продкаў літоўцаў і латышоў, прычым у Сярэднім Падзвінні лакалізаваліся продкі латышоў, а на паўднёвы ўсход ад іх, г.зн. у басейне Верхняга Падняпроўя — продкі літоўцаў (Buga, 1961, s. 732, 739, карты). Археалагічна пакуль цяжка даказаць гэтыя высновы, аднак лакальныя асаблівасці ў культуры плямёнаў (заходні і ўсходні варыянты — ***В.Ш.***) хаця і глуха, але ўказваюць на этнаплемянныя дзяленні ва ўсходнебалцкім асяродку.

В.В. Сядоў супаставіў тэрыторыю распаўсюджання балтыйскай гідраніміі з тэрыторыяй рассялення плямёнаў эпохі жалеза і на падставе гэтага вылучыў усходнебалтыйскі масіў, уключыўшы ў яго культуру штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінскую, верхняокскую, юхнаўскую і мілаградскую археалагічныя культуры (Седов, 1963, с. 28). Уся гэтая тэрыторыя характарызуецца своеасаблівым гідранімічным матэрыялам, прычым гідранімічныя ізаглосы блізкія да археалагічных межаў. Пазней В.В. Сядоў вылучыў асобную групоўку балтаў — дняпроўскую, адносячы да яе блізкія паміж сабой культуры жалезнага веку (днепра-дзвінская, верхняокская, юхнаўская). Плямёны культуры штрыхаванай керамікі ён адносіў да іншай групоўкі балтаў — лета-літоўскай (Седов, 1985, с. 92—95). Гаворачы

аб гідраніміі басейна Заходняй Дзвіны на даследаванай тэрыторыі, трэба падкрэсліць, што тут няма ніводнай назвы, словаўтваральная структура якой не мела бы адпаведніка ў верхнедняпроўскай гідраніміі (Катонава, 1970, с. 153). Гэта ў вядомым сэнсе пацвярджае агульнасць гістарычнага мінулага басейнаў Верхняга Дняпра і сярэдняга цячэння Заходняй Дзвіны.

Адносна прыналежнасці насельніцтва старажытных гарадзішчаў Беларускага Падзвіння да той ці іншай этнагрупоўкі пакуль меркаваць цяжка. Знаходзячыся пад уплывам з аднаго боку прыбалтыйскага, фіна-угорскага кола старажытнасцей, а з другога — старажытнасцей культуры штрыхаванай керамікі, зарубінецкай, а на раннім этапе, магчыма, і мілаградскай культуры, плямёны Беларускага Падзвіння не маглі не адчуваць таго культурна-этнічнага ўплыву, які аказвалі на іх суседнія плямёны. Сведчаннем гэтаму —своеасаблівасць заходняга варыянту рэгіёна днепра-дзвінскай культуры (Шадыро, 1985, с. 109—112). З якімі канкрэтна гістарычнымі плямёнамі можна звязваць насельніцтва паўночнабеларускіх гарадзішчаў у першай палове I тысячагоддзя н.э.? На нашу думку, хутчэй за ўсё з продкамі старажытнага балцкага племені латгалаў, якія былі паступова выціснуты на тэрыторыю паўночна-ўсходняй Латвіі. Падмацоўваюць гэта меркаванне і даныя тапанімікі. Як вядома, у Паўночнай Беларусі часта сустракаюцца тапонімы Латыгаўка, Латыгалічы, Латыгава і да т.п. Іх канцэнтрацыя ў Беларускім Падзвінні даволі значная. Безумоўна, яны ўзыходзяць да назвы старажытнага балцкага племені латгалаў — «латыгаль», «летьгола» старажытных летапісаў. У другой частцы работы мы больш падрабязна вернемся да гэтага сюжэту.

На разглядаемай тэрыторыі і асабліва ў яе паўночна-ўсходняй частцы адчувальны ўплыў фіна-угорскіх старажытнасцей. У сувязі з гэтым ёсць падставы лічыць, што яшчэ ў I тысячагоддзі да н.э. насельніцтва паўночнага ўсходу Беларусі (Віцебскае Падзвінне) у этнічных адносінах не было аднародным. Таму падаецца не выпадковым той факт, што да гэтага часу не вызначана, каму належалі ў раннім жалезным веку басейны рэк Лаваці і верхняга цячэння Заходняй Дзвіны — балтам ці фінаўграм. Як вядома, па некаторых гарадзішчах гэтай тэрыторыі (Буракова, Загорцы, Мямлі і інш.) утрымліваецца ў ніжніх пластах сеткаватая кераміка. Гэтая акалічнасць сведчыць аб тым, што ў I тысячагоддзі да н.э. пэўны уплыў на балтамоўнае насельніцтва рэгіёна Віцебскага Падзвіння аказвалі фінаўгры. Аднак з-за адсутнасці даных цяжка вызначыць мяжу названых этнасаў у эпоху жалеза. У выніку складаных працэсаў сегрэгацыі (у дадзеным выпадку «адзялення» — ***В.Ш***.) і асіміляцыі гэтыя этнасы выявіліся як самастойныя адзінкі і ў далейшым, усё выразней вызначалася зона сутыкнення фіна-угорскіх і балцкіх плямён. У канцы I тысячагоддзя да н.э. — пачатку I тысячагоддзя н.э., на думку эстонскіх вучоных, яна праходзіла праз тэрыторыю басейна Заходняй Дзвіны. Тут ёсць шэраг спрэчных момантаў як тэрытарыяльнага, так і храналагічнага характару. Застаецца толькі падкрэсліць вялікі ўплыў фіна-угорскіх старажытнасцей, які прыкметна адчуваўся на працягу вельмі доўгага перыяду да самага сярэднявечча. Што датычыцца насельніцтва Беларускага Падзвіння, дык асноўным ядром яго ў эпоху жалеза былі балцкія плямёны, дакладнае дзяленне якіх для гэтага перыяду правесці вельмі цяжка.

Вырашэнне пытання аб этнічнай прыналежнасці насельніцтва паўночна-беларускіх гарадзішчаў будзе недастаткова абгрунтаваным, калі карыстацца толькі археалагічным матэрыялам з арэала ўласна днепра-дзвінскай культуры. Толькі прыцягненне матэрыялаў суседніх культур, рэтраспектыўны разгляд — супастаўленне цэлых комплексаў матэрыяльнай культуры, гаспадарча-бытавога і духоўнага жыцця дазволяць у той ці іншай ступені вырашыць складаныя этнічныя пытанні. Пры гэтым неабходна выкарыстоўваць матэрыялы іншых навук і ў першую чаргу: лінгвістыкі, этнаграфіі, антрапалогіі і г.д. Верагоднасць памылак значна паменшыцца, калі даныя гэтых навук дапаўняюць адзін аднаго.

***Вераванні.*** Археалагічныя матэрыялы, якія садзейнічалі б раскрыццю характару вераванняў у эпоху жалеза на сённешні дзень вельмі нязначныя. Перш за ўсё трэба зыходзіць з таго, што рэлігійныя ўяўленні ў насельніцтва Беларускага Падзвіння былі блізкімі да язычніцкага светапогляду плямёнаў Усходняй Еўропы. Гэта тлумачыцца аднолькавым ўзроўнем сацыяльна-эканамічнага становішча.

Я.А. Шмідт лічыць, што ў днепра-дзвінскіх плямёнаў эпохі жалеза пераважала абагаўленне сіл прыроды і адлюстраваннем гэтага светапогляду з'яўляюцца разнастайныя знакі-сімвалы ў выглядзе крыжоў, разнастайнай арнаментыкі на прасліцах, гліняным посудзе і г.д. (Шмидт, 1992). Безумоўна, і заходнедзвінскае насельніцтва пакланялася прыродным стыхіям і з'явам, што пацвярджаецца шэрагам рэчавых знаходак. Так, на прасліцы з Кастрыцы нанесены крыж. На пасудзінах часта сустракаюцца выявы прамых ліній, якія выходзяць з аднаго цэнтра і падобныя на сонечныя прамяні, разнастайныя пракрэсленыя зігзагі. Такія арнаменты маюць адносіны да салярных і астральных знакаў. Доказам гэтаму з'яўляецца арнамент у выглядзе кружка з кропкай пасярэдзіне (цыркульны). Гэта сімволіка пацвярджае наяўнасць культу сонца і звязанага з ім культу агню і хатняга ачага (Мельниковская, 1967, с. 148).

Перажыткі гэтых вераванняў былі засведчаны для старажытных балцкіх плямёнаў шматлікімі крыніцамі.

Пра культ сонца сведчаць не толькі салярныя знакі на прадметах, але і знаходка бронзавай фігуркі каня ў аднакультурнай вобласці на Смаленшчыне (Шмидт, 1992, табл. 15: 3, 4). Вядома, што культ каня, шырока распаўсюджаны ў старажытнасці сярод еўрапейскіх плямёнаў, быў цесна звязаны з культам сонца (Мельниковская, 1967, с. 149) і адыгрываў важную ролю ў вераваннях старажытных балтаў.

Безумоўна, у насельніцтва Беларускага Падзвіння існаваў культ жывёл і птушак, пра што можна меркаваць па знаходках амулетаў-падвесак з зубоў розных жывёл: мядзведзя, дзіка, ваўка, бабра. Падвеска з косткі ў выглядзе качачкі сведчыць пра абагаўленне птушкі. Ілюстрацыяй гэтых вераванняў служыць выказванне Тацыта пра эсціяў (балтаў — ***В.Ш.***), што можна аднесці да насельніцтва поўначы Беларусі: «…Эстии поклоняются праматери богов и как отличительный знак своего культа носят на себе изображение вепрей, они им заменяют оружие и оберегают чтящих богиню даже в гуще врагов» (Тацит, 1993, с. 355).

Сказаць што-небудзь пра культ памерлых і пра пахавальны абрад даволі цяжка, бо ў нас няма адпаведных знаходак. Але мяркуючы па ўсім і ўлічваючы даныя для іншых плямёнаў (юхнаўскіх і мілаградскіх), блізкіх у некаторых адносінах да днепра-дзвінскіх можна думаць, што аснову пахавальнага абраду складала трупаспаленне на вогнішчы з далейшым пакіданнем праху на паверхні зямлі (Шмидт, 1992, с. 115).

Адносна вялікі матэрыял пра светапогляд насельніцтва эпохі жалеза дае атрыманы намі матэрыял з раскопак апошніх гадоў на гарадзішчы Клішына Крупскага раёна (воз. Сялява) з тэрыторыі Дзвінска-Дняпроўскага міжрэчча. З рэлігійнымі вераваннямі звязаны унікальныя знаходкі касцяных пласцінак з адтулінамі з рэбраў капытных жывёл (табл. 9: 1—13), касцяныя падвескі-амулеты з нарэзкамі з іклаў і разцоў ваўка, бабра, дзіка, аленя, лася, каня, барсука (табл. 9: 14—21). Гэтыя артэфакты канцэнтраваліся каля і ўнутры ямы-ахвярніка, выяўленай падчас раскопак. Мяркуемы ахвярнік уяўляў яму канічнай формы з верхнім дыяметрам 4—4,5 м і глыбінёй да 2 м. Тут былі знойдзены фрагменты ляпнога гладкасценнага і штрыхаванага посуду, зубы жывёл з нарэзкамі і касцяныя пласцінкі з адтулінамі. Побач з ямай на глыбіні 1 м зафіксаваны няпоўны шкілет чалавека (фрагмент ніжняй правабаковай сківіцы. пазванкі, фалангі пальцаў) і каня, а таксама шматлікія касцяныя пласцінкі з адтулінамі і амулеты з разцоў і іклаў жывёл з нарэзкамі. Няпоўны шкілет чалавека выяўлены таксама ў 20 м ад ахвярніка на мацерыковай паверхні (сцегнавыя і галёначныя косткі, фалангі пальцаў, пазванкі). Тут жа побач знойдзена клінападобная крамянёвая сякерка, добра адшліфаваная і завостраная. Усе гэтыя факты сведчаць пра культавыя дзеянні на гэтым паселішчы на працягу вялікага адрэзку часу ад эпохі бронзы і да сярэднявечча. Значная частка знойдзеных на гарадзішчы праслiц арнаментаваная (табл. 7), што яскрава адлюстроўвае светапогляд насельніцтва. Тут фіксуюцца выявы левых трохчасткавых свастык, якія звычайна трактуюцца як жаночыя (табл. 7: 21). Акрамя гэтага, яны сімвалізуюць траістасць свету і грамадства, што характэрна для індаеўрапейцаў (Голан, 1994). Вядома, што лічба 3 з'яўляецца сакральнай для шматлікіх старажытных і сучасных народаў. Часта сустракаецца арнамент у выглядзе трохкутнікаў з вяршынямі ў супрацьлеглыя бакі (верх, ніз) (табл. 7: 2, 4—6). Вядомы яшчэ ў неаліце, ён сімвалізаваў нябесную ваду. Трохкутнік з вяршыняй унізе азначаў жанчыну. На думку Б.А. Рыбакова, такое спалучэнне звязана з язычніцкім культам Вялікай Багіні-Маці, якая адказвала за дождж (Рыбаков, 1994, с. 388). Трохкутнікі на праслiцах могуць быць адзнакамі багіні, якая, да таго ж, апекавала жанчын і іх заняткі, у прыватнасці прадзенне. Яшчэ адзін цікавы знак сустрэты на праселках з Клішына (табл. 7: 17). У беларусаў ён дагэтуль выкарыстоўваецца ў вышыўцы і завецца «баба». альбо «жаба». На вялікім археалагічным і этнаграфічным матэрыяле А.К. Амброз паказаў, што гэты знак мае сувязь з плоднасцю (Амброз, 1965). Б.А. Рыбакоў лічыць, што знак «баба» выяўляе жанчыну, якая нараджае дзіця (Рыбаков, 1994). На дзвух праселках і адным з фрагментаў пасудзіны назіраецца выява шасціканцовай зоркі. Як адзначае А. Голан, гэты знак сімвалізуе шэсць канцоў свету і сувязь з небам і з'яўляецца эмблемай Вялікай Багіні-Маці (Голан, 1994, с. 150). Цікавасць выклікае арнаментацыя касцянога грузіка дзякава тыпу (табл. 7: 1, 18), што складаецца з паралельных ліній з разбежнымі промнямі. Тут у наяўнасці сімволіка дажджу ці вады, гаспадыняй якіх з'ўлялася ўсё тая ж Вялікая Багіня. Такім чынам, сімволіка праселкаў і грузікаў гарадзішча звязана, перш за ўсё, з плоднасцю і ўшанаваннем Вялікай Багіні-Маці.

Па меркаванню Э.М. Зайкоўскага, у канцы жалезнага веку сфарміраваўся пантэон багоў. Разлажэнне родавага ладу спрыяла ўзрастанню значэння бога-грамавіка, распарадчыка навальніц, маланак і дажджу, апекуна ваеннай справы, які адначасова меў і пэўныя аграрныя функцыі (Гісторыя Беларусі, т. 1 «Старажытная Беларусь», 2000, с. 121). Істотнае месца ў рэлігійных поглядах насельніцтва жалезнага веку займалі багі і духі, звязаныя з разнастайнымі сферамі чалавечага жыцця і прыроды.

# РАЗДЗЕЛ 3

# БЕЛАРУСКАЕ ПАДЗВІННЕ Ў ЭПОХУ ВЯЛІКАГА ПЕРАСЯЛЕННЯ НАРОДАЎ (ФАРМІРАВАННЕ КУЛЬТУРЫ РАННЯГА СЯРЭДНЯВЕЧЧА)

## 3.1. Характарыстыка перыяду і пасяленчаская структура

Аналіз позняга перыяду днепра-дзвінскай культуры на тэрыторыі басейна Заходняй Дзвіны сведчыць аб тым, што на асноўнай тэрыторыі Беларускага Падзвіння (заходні варыянт культуры — ***В.Ш.***) старажытнасці днепра-дзвінскай культуры эпохі жалезнага веку праіснавалі ў адносна чыстым выглядзе да IV—V стст. н.э. Дакладны час яе знікнення ў канкрэтным рэгіёне можа быць высветлены толькі ў выніку глабальнага даследавання ўсіх гарадзішчаў і кожнага паасобку. Сённяшні ўзровень навукі дазваляе нам адзначыць толькі тэндэнцыю змен па тэрытарыяльных і храналагічных характарыстыках у вывучаемай прасторы Беларускага Падзвіння. Як мы ўжо адзначалі вышэй, першыя змены ў характары матэрыяльнай культуры пачалі адбывацца ў рэгіёне Віцебскага Падзвіння прыкладна з III ст. н.э. як адлюстраванне асаблівасцей развіцця днепра-дзвінскай культуры ў Верхнім Падняпроўі, звязаным з распаўсюджаннем познезарубінецкіх старажытнасцей у выглядзе верхнедняпроўскага варыянту кіеўскай культуры. У рэгіёне верхняга Паднепроўя і сумежных тэрыторый сімбіёз субстратных днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур і паўднёвых старажытнасцей паклаў пачатак фарміравання банцараўскай і тушамлінскай культур. Пераходны перыяд у фарміраванні тушамлінскай культуры звязаны са старажытнасцямі сярэдняга пласта Тушамлі і паўночных варыяцый тыпу помнікаў Абідні.

Менавіта ў рэгіёне Віцебскага Падзвіння трансфармацыя днепра-дзвінскай культуры пачалася раней і знаходзілася пад уплывам працэсаў з раёнаў Верхняга Падняпроўя і Верхняга Падзвіння (помнікі тыпу Заазер'я — па М.У. Лапаціну — ***В.Ш.***). У больш заходніх раёнах Падзвіння (Полацкае Падзвінне), дзе ў апошніх стагоддзях першай паловы І тысячагоддзя н.э. быў даволі значны ўплыў «штрыхавікоў» (асабліва на левабярэжжы Заходняй Дзвіны — ***В.Ш.***), старажытнасці банцараўскай культуры сталі распаўсюджвацца ўжо ў сфарміраваўшымся выглядзе, у канцы IV — пачатку V стст. н.э.

Такім чынам, з'яўленне сацыяльна-эканамічных навацый на Беларускім Падзвінні фіксуецца спачатку на ўсходзе ў III ст. н.э. і на працягу IV — пачатку V стст. н.э. спецыфіка днепра-дзвінскай культуры губляецца на ўсёй тэрыторыі Падзвіння. На змену ёй прыходзіць новая культура, якая ў значнай ступені адрозніваецца ад папярэдняй.

Змяненне аблічча матэрыяльнай культуры тлумачыць толькі бурным ростам вытворчых сіл — значыць прымаць следчанне за прычыну. Змена традыцыйных форм сацыяльна-эканамічнага жыцця за такі кароткі тэрмін (100 — 200 год — ***В.Ш.***) у глухіх і закрытых соцыумах не адбываецца. Безумоўна, тут не абышлося без глабальных кантынентальных працэсаў, ахапіўшых не толькі Еўропу і Азію, а нават і Афрыку, і ў якія былі ўцягнуты шматлікія плямёны і народы, у тым ліку і ва Усходняй Еўропе. Гэта вядомыя трансеўрапейскія працэсы Вялікага перасялення народаў, якія абумовілі выхад на шырокую гістарычную арэну еўрапейскіх народаў і вызначылі мяжу паміж старажытнасцю і сярэднявеччам.

Феномен Вялікага перасялення народаў заўсёды прыцягваў увагу даследчыкаў. Без перабольшвання можна сцвярджаць, што ў канцы XX ст. цікавасць да яго ўзрасла як ніколі. Традыцыйная інтэрпрэтацыя Вялікага перасялення як міграцыйных працэсаў, рабаўнічых набегаў варвараў, іх нашэсцяў і паходаў на Рымскую імперыю ўсё больш саступае пазірку на глабалізацыю гэтага працэсу і выдзялення яго ў цэласную гістарычную эпоху. Гэта не толькі канец антычнасці і пачатак сярэднявечча (што само сабой зразумела); гэта — перш за ўсё самастойны і даволі працяглы пераходны перыяд паміж антычнасцю і сярэднявеччам (Буданова, 2000, с. 7). Гэты перыяд адлюстроўвае этнічную эвалюцыю варварскага міру (Barbaricuma), ролю эканамічнага фактару, значэнне гандлёвых кантактаў Барбарыкума і Рымскай імперыі. Падзенне антычнага міру можна ўспрымаць і ацэнваць па-рознаму: з аднаго боку — гэты акт гістарычнай драмы абумовіў велізарныя агульначалавечыя страты і адкінуў цывілізацыю ў Еўропе на некалькі стагоддзяў назад, з другога — раннесярэднявечная сацыяльна-культурная супольнасць стварыла падмурак усяго далейшага развіцця еўрапейскай галіны чалавецтва ў цэлым і спрыяла этнагістарычнай дыферэнцыяцыі асобных народаў Еўропы. Сістэмнае вывучэнне Вялікага перасялення народаў дазваляе вызначыць яго як асобы перыяд гістарычнага развіцця, калі на значнай гістарычнай прасторы ў храналагічных рамках (II—VII ст. н.э.) і пэўнай тэрыторыяй, узаемадзеянне варварства і цывілізацыі дасягнула сваёй найбольш інтэнсіўнай фазы. Вынікам гэтага ўзаемаадзеяння




**Карта 5.** Паўночны захад Усходняй Еўропы ў сярэдзіне і трэцяй чвэрці I тыс. н.э.:
1 — арэал ранніх доўгіх курганоў і тэрыторыі шчыльнага распаўсюджання сопак (па В.В. Сядову); 2 — могільнікі, якія ўтрымліваюць толькі доўгія і адзінкавыя доўгія курганы (па В.В. Сядову); 3 — арэалы археалагічных культур (ДК — дзякаўская, БК — банцараўская, ТК — тушамлінская, КК — калочынскай, МК — мошчынская, ЭКМ — эста-ліўскія каменныя могільнікі, ЛГМ — латгальскія грунтовыя могільнікі, УЛК — усходнелітоўскія курганы. Стрэлкамі паказаны магчымыя імпульсы этнакультурных узаемадзеянняў.

як следчанне ўзаемапранікнення і ўзаемазнішчэння рымскага і варварскага міроў з’явілася зараджэнне новага тыпу цывілізацыі. Зыходзячы з характару этнічнага складу ўдзельнікаў Перасялення, вызначэння плямёнаў-лідэраў, накірункі міграцый і іх вынікаў даследчыкі выдзяляюць тры этапы Перасялення — «германскі», «гунскі» і «славянскі» (Буданова, 2000, с. 18).

Вялікае перасяленне народаў як сістэмны працэс узаемадзеяння Барбарыкума і антычнай цывілізацыі сфарміравала унікальную этнічную прастору як сукупнасць плямёнаў і народаў, якія былі звязаны канкрэтнай гістарычнай з’явай і яго месцам у гісторыі.

У гэту шматслойную прастору ўваходзілі, акрамя германскіх, цюркскіх, славянскіх, кельцкіх, скіфскіх і іншых, таксама балцкія. Сярод іх даследчыкі выдзяляюць плямёны-абарыгены і прышлыя, інертныя і дынамічныя; плямёны і народы, якія засялялі землі Рымскай імперыі, яе правінцыі і плямёны Барбарыкума. Адны з іх займалі агрэсіўную, наступальную пазіцыю Барбарыкума, іншыя наадварот. Да апошніх, інакш кажучы, інертных, адносіліся балцкія плямёны, у тым ліку і тыя, што пражывалі на тэрыторыі Беларусі. Толькі на першым этапе Перасялення спакойнае і замкнутае жыццё гэтых плямёнаў было парушана рухам готаў на поўдзень і міграцыйнай хваляй сармацкіх плямёнаў у раён Сярэдняга Падунаўя. Унутраныя прычыны і стымулы да перасялення ў балтаў адсутнічалі. На нязначныя перамяшчэнні іх прымушалі толькі міграцыі суседскіх народаў. Тым не менш, будучы інертнымі ў процістаянні «варварскі мір — рымская цывілізацыя», балты адыгралі значную ролю ў стабілізацыі асобага жыццёвага цыкла ў асобна ўзятым рэгіёне Барбарыкума. Ускосным чынам яны садзейнічалі канчатковаму з’яднанню (згуртаванню) адной з усходніх груповак славянскага свету. Славяне, як вядома, адыгрывалі дынамічную ролю ў працэсах Вялікага перасялення народаў і як лічыць В.П. Буданава, былі лідэрамі трэцяга, апошняга этапу Перасялення (Буданова, 2000, с. 12).




межы культур: пражскай (ПК), калочынскай (КК), банцараўскай (БК), тушамлінскай (ТК) пасяленняў з аблітой керамікай (ПАК); ранніх доўгіх курганоў (РДК). —— межы Беларускага Падзвіння

**Карта 6.** Археалагічныя культуры 3-й чвэрці I тыс. на тэрыторыі Беларусі.

Пры такіх умовах у лясной і лесастэпавай зоне Усходняй Еўропы адбываліся складаныя этнагенетычныя працэсы, звязаныя з вялікімі перамяшчэннямі племянных аб’яднанняў. Вялікі ўплыў на жыццё плямёнаў Усходняй Еўропы аказалі напады шматлікіх стэпавых качэўнікаў. Трэба адзначыць, што гістарычная барацьба Barbaricuma з Рымскай імперыяй за «месца пад сонцам» для сваіх народаў традыцыйна ўспрымалася як адзін з раздзелаў гісторыі чыста заходнееўрапейскага сярэднявечча. Між тым усе значныя працэсы гэтай эпохі (рассяленне германцаў, славян; разнастайныя перамяшчэнні ў балтафіна-славянскім асяродку) маюць непасрэднае дачыненне і да Беларусі, у тым ліку і да разглядаемай тэрыторыі Беларускага Падзвіння. Гэта выклікала разнастайныя змены сацыяльна-эканамічнага плана. Яны паклалі пачатак фарміраванню раннесярэднявечных этнакультурных груповак і стварылі падмурак для развіцця асаблівасцей усходнеславянскага этнасоцыуму, якія ляглі ў аснову фарміравання беларускага народа.

Як адзначалася вышэй, да сярэдзіны I тысячагоддзя н.э. на асноўнай тэрыторыі басейна Заходняй Дзвіны істотных этнакультурных перамен археалогія не фіксуе. Толькі на тэрыторыі Віцебскага Падзвіння, пачынаючы з III ст. н.э. у шэрагу месцаў назіраецца ўплыў дняпроўскіх старажытнасцей познезарубінецкага характару (форма і дэкор керамічнага посуду, паўднёвыя рэчы і г.д.).

Змены ў жыцці насельніцтва Прыдзвіння з сярэдзіны I тысячагоддзя н.э. звязаны перш за ўсё з тым, што помнікі днепра-дзвінскай культуры знікаюць, а іх месца займаюць старажытнасці, якія мелі іншы характар і сведчылі аб значных знешніх уплывах на мясцовае насельніцтва.

Археалагічнымі індыкатарамі змен у матэрыяльнай культуры насельніцтва Беларускага Падзвіння з гэтага часу з’яўляюцца рэчы банцараўскага і тушамлінскага аблічча ў рэгіёне Полацкага і Віцебскага Падзвіння. У заходнім рэгіёне на тэрыторыі беларуска-літоўска-латышскага парубежжа характэрна распаўсюджванне гладкасценнай і аблітой (шурпатай) керамікі прыбалтыйскіх узораў (карта 5). Такім чынам змяненні былі настолькі вялікія, што дазваляюць гаварыць аб новых этнічных супольнасцях, культура якіх істотнымі рысамі адрознівалася ад культуры насельніцтва папярэдняга часу (мела іншы тып пасяленняў, своеасаблівы характар жытлаў, новыя рысы матэрыяльнай культуры і гаспадаркі, своеасаблівы абрад пахаванняў і г.д.).




**Карта 7.** Карта помнікаў 3-й чвэрці I тыс. на тэрыторыі Беларускага Падзвіння. Умоўныя абазначэнні:
1 — недаследаваныя гарадзішчы; 2 — даследаваныя гарадзішчы; 3 — селішчы;
4 — раннія доўгія курганы; 5 — тэрыторыя Беларускага Падзвіння.
1 — г. Браслаў; 2 — Тарылава; 3 — Пруднікі; 4 — Зазоны; 5 — Язна; 6 — Урагава; 7 — Рацюнкі; 8 — Межава;
9 — Барсукі; 10 — Янкавічы; 11 — Гаравыя; 12 — Свіла; 13 — Варганы; 14 — Амосенкі; 15 — Полацк;
16 — Бельчыца; 17 — Гарадок (Полацкі раён); 16 — Замошша; 19 — Куляшы; 20 — Кастрыца; 21 — Азерцы;
22 — Бароўна; 23 — Камень; 24 — Вышадкі; 25 — Дарахі; 26 — Гарадок; 27 — Кіселі; 28 — Буракова;
29 — Казінова; 30 — Бярозна; 31 — Бескатава; 32 — Лужасна; 33 — Старое Сяло; 34 — Віцебск;
35 — Баронікі; 36 — Раніна; 37-38 — Лукомль; 39 — Клішына.

***Паселішчы***. Адной з адметных рыс у гістарычным працэсе развіцця Беларускага Падзвіння з'яўляюцца змены ў пасяленчаскай структуры насельніцтва: з'яўленне адкрытых пасяленняў-селішчаў. Усе вядомыя паселішчы 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. на разглядаемай тэрыторыі можна падзяліць на дзве групы — адкрытыя (селішчы) і ўмацаваныя (гарадзішчы-сховішчы) (карта 6).

Гарадзішчы, як пасяленні рода, з'яўляліся перашкодай для далейшага развіцця вытворчых сіл; яны стрымлівалі індывідуальную вытворчасць найбольш моцных і прадпрымальных асобных сем'яў. Замкнуты і традыцыйны стан жыцця перашкаджаў засваенню новых зямель, укараненню новых форм гаспадарання, развіццю хатніх рамёстваў, пашырэнню гандлёвых і культурных сувязяў паміж насельніцтвам. Дэмаграфічны рост патрабаваў асваення новых зямель, і паступова насельніцтва пакідае эканамічна нявыгадныя патрыярхальныя гарадзішчы і пачынае сяліцца на адкрытых месцах-селішчах. Працэс змены гарадзішчаў селішчамі, які пачаўся, відаць, у IV ст. н.э. працягваўся даволі доўгі час. Пры гэтым заўважана, што з рухам на поўнач і захад гэты працэс праходзіў больш марудна, і насельніцтва яшчэ доўгі час выкарыстоўвала гарадзішчы, пра што сведчаць магутныя культурныя адкладанні на гэтых помніках (Урагава, Бароўна, Пруднікі, Цясты і інш.).

Пераход на адкрытыя, больш нізкія паселішчы тлумачыцца і зменамі прыродных умоў. У канцы эпохі жалеза пачынаецца перыяд рэгрэсіі 7 (Микляев, 1993, табл.), які характарызаваўся паніжэннем узроўню як грунтавых вод, так і ў вадаёмах. У сувязі з гэтымі з'явамі пагоршыліся ўмовы для вядзення ляднага земляробства на высокіх участках.

Насельніцтва было вымушана перайсці да выкарыстання раней затопленых месцаў, якія зараз сталі ўрадлівымі і не патрабавалі вялікіх высілкаў для апрацоўкі, як, напрыклад, пры лядным земляробстве. Як указвае Я.А. Шмідт, у сувязі з прыроднымі зменамі ў III—IV стст., адбыўся пераход насельніцтва з умацаваных паселішчаў-гарадзішчаў на пакатыя схілы берагоў вадаёмаў ці на невысокія пясчаныя астанцы ў паплавах рэк, дзе сяліліся на адкрытых паселішчах-селішчах паблізу ад вады і новых засвоеных зямель (Шмидт, 2001, с. 92—93).




**Мал. 5.** Рэканструкцыя гарадзішча і селішча Пруднікі Міёрскага раёна (па матэрыялах раскопак аўтара зрабіў Г.В. Ласкавы).

*Гарадзішчы.* Больш доўгачасовае выкарыстанне гарадзішчаў у Беларускім Падзвінні можна растлумачыць і ўмовамі рэльефу і мясцовымі традыцыямі, а таксама канкрэтнымі сацыяльна-эканамічнымі прычынамі. Пры гэтым уцалелыя гарадзішчы ў другой пал. I тыс. н.э. не былі паселішчамі ва ўласным сэнсе слова як у папярэднюю эпоху, а з'яўляліся гарадзішчамі-сховішчамі. Гарадзішчы, якія выкарыстоўваліся галоўным чынам у якасці часовых сховішчаў, найбольш характэрны толькі для Паўночнай, Сярэдняй Беларусі і Смаленскага Падняпроўя. На больш паўднёвых тэрыторыях гарадзішчы-сховішчы не атрымалі шырокага распаўсюджання.

Сярод умацаваных паселішчаў-сховішчаў Беларускага Падзвіння вядомы як гарадзішчы мысавага тыпу, так і ўзгоркавага. Вышыня ўзгоркаў і мысоў, на якіх узведзены гарадзішчы, вагаецца ад 5 да 25 м, у сярэднім складае 8—15 м. Форма іх пляцоўкі звычайна авальная і мае не вельмі вялікі памеры: ад 25 х 20 да 40 х 35 м, а зрэдку і да 100—115 х 60—80 м (Свіла 1, Пруднікі) (мал. 5). Адпаведна невялікая і плошча гарадзішчаў ад 500 і за рэдкім выключэннем да 2500 кв.м. Відавочна, што на такой абмежаванай прасторы не маглі жыць вялікія групы людзей. На многіх гарадзішчах сустракаюцца толькі знаходкі керамікі і рэчаў 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э., а сам культурны пласт гэтага перыяду практычна не выяўлены (Барсукі Верхнядзвінскі, Замошша Полацкі раёны і інш.).

На іншых паселішчах у цэнтральнай частцы пляцоўкі культурны слой нязначны (не больш за 0,2—0,4 м), а па краях ён павялічваецца да 1,2—2 м (Гарадок Полацкі, Свіла 1 Глыбоцкі раёны і інш.). Культурны пласт гарадзішчаў уключае вуголле, абпаленыя камяні, рэшткі драўляных збудаванняў, фрагменты ляпной керамікі, розныя рэчавыя знаходкі.

Большасць гарадзішчаў, па якіх былі знойдзены матэрыялы другой паловы I тысячагоддзя н.э., былі пабудаваны яшчэ ў ранні перыяд эпохі жалеза плямёнамі днепра-дзвінскай культуры. У другой чвэрці I тысячагоддзя н.э. ступень умацаванасці гэтых гарадзішчаў дасягнула свайго піка, калі вакол іх узводзіліся некалькі магутных кальцавых валоў і равоў (Ткачоў, 1969а, с. 110—114; Ткачоў, 1969б, с. 115—121; Шадыро, 1985, с. 13—24). Гэтым фактарам характарызуецца позні этап існавання днепра-дзвінскай культуры, калі гарадзішчы ўмацоўваюцца максімальным чынам, ператвараючыся ў пасёлкі-крэпасці са складанай фартыфікацыйнай сістэмай (Митрофанов, 1978, с. 28; Шадыро, 1985, с. 17; Археалогія Беларусі, т. 2, 1999, с. 178—181).

З цягам часу насельніцтва ўмацоўвае свае сховішчы-крэпасці дадатковымі валамі, падсыпаннем краёў пляцовак, узвядзеннем абарончых сцен і інш. Да ліку класічных гарадзішчаў-сховішчаў на вывучаемай тэрыторыі можна аднесці гарадзішчы каля в. Урагава Верхнядзвінскага, Свіла-1 Глыбоцкага, Пруднікі Міёрскага раёнаў і інш. Насельніцтва выкарыстоўвае як старую сістэму земляных умацаванняў (Барсукі), так і ў шэрагу выпадкаў перабудоўвае іх: пашырае пляцоўкі гарадзішчаў, узнімае схілы, узводзіць новыя валы з абарончымі сценамі і равы. У шэрагу выпадкаў, калі паблізу не было зручных гарадзішчаў папярэдняга перыяду, людзі самі ўзводзілі новыя гарадзішчы-сховішчы (Свіла 1, Пруднікі) (мал. 5).

Спосабы ўмацавання гарадзішчаў залежалі ад іх тапаграфіі, вышыні пляцоўкі і стромкасці схілаў. Як і ў папярэдні перыяд, гарадзішчы мысавага тыпу, як правіла, ўмацоўваліся толькі з напольнага боку, а для гарадзішчаў узгоркавага тыпу (Замошша, Свіла 1, Пруднікі і інш.) характэрны валы канцэнтрычнай формы, якія ахоўвалі пляцоўку з усіх бакоў (Митрофанов, 1966, с. 221; Шадыро, 1985, с. 23; Шадыра, 1999, с. 361—362).

Да ліку найбольш умацаваных гарадзішчаў падобнага тыпу належыць гарадзішча-сховішча Свіла 1 Глыбоцкага раёна. Пляцоўка гарадзішча 100 х 80 м. Яно абкружана трыма магутнымі канцэнтрычнымі валамі і двума равамі. Першы — унутраны, насыпаны па краі пляцоўкі, другі — на схіле ўзгорка, а трэці — уздоўж яго асновы. Равы размешчаны адпаведна паміж першым, другім і трэцім валамі. Вышыня валоў вагаецца ад 1,5 м да 5 м, а шырыня да 15 м, шырыня равоў дасягае ў межах 7—10 м. На думку А.Р. Мітрафанава, пачатковы перыяд існавання гарадзішча Свіла 1 адносіцца да таго часу, калі культуры тыпу верхняга пласта Банцараўскага гарадзішча як самастойнай з’явы ўжо не існавала. Наяўнасць матэрыялаў гэтай культуры адлюстроўвае, на яго думку, працэс асіміляцыі балтамоўнага насельніцтва славянамі-крывічамі. Таму яно і было пабудавана як крэпасць пры засваенні крывічамі новых зямель (Мітрафанаў, 1975, с. 38). Даследаванні, праведзеныя намі ў 1989, 1990 гг. дазваляюць дапусціць, што гарадзішча ўсё ж такі існавала ў 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. і ў другі раз яго выкарыстоўвалі крывічы, якія перабудавалі яго моцнымі абарончымі збудаваннямі, узвёўшы магутны ўнутраны вал. Для гэтай мэты выкарысталі і культурны пласт з цэнтральнай часткі пляцоўкі. Гэтым тлумачыцца адсутнасць гарызонту 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. на сярэдзіне пляцоўкі (асноўны аргумент А.Р. Мітрафанава — ***В.Ш.***). Па выніку раскопак былі выяўлены па краі пляцоўкі матэрыялы 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э., у тым ліку да 30 % керамікі банцараўскага тыпу. Большасць керамічнага матэрыялу складалі фрагменты посуду культуры доўгіх курганоў (Шадыро, Архіў ІГ НАНБ, д. 1138; Шадыро, Архіў ІГ НАНБ, д. 1206). На пляцоўцы гарадзішча ў шэрагу выпадкаў былі зафіксаваны рэшткі чалавечых кальцыніраваных костак. Знойдзеныя намі падчас раскопак праселкі 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. (табл. 17/II: 7, 10), а таксама трохрогая лунніца-кельт, штампованая цясненнем (табл. 17/II : 5), якая можа быць датавана VI—VII стст. н.э. (Каргопольцев, Бажан, 1993, с. 117, 118, рис. 4) дазваляе нам унесці папраўку да высновы А.Р. Мітрафанава і датаваць гарадзішча Свіла 1 больш ранейшым часам. Свіла 1 — застаецца на сённяшні дзень адзіным пакуль на Беларусі гарадзішчам-сховішчам, дзе выяўлена пахаванне культуры доўгіх курганоў.

*Селішчы.* Новыя і старыя ўмацаваныя паселішчы, ператвораныя ў сховішчы, не з’яўляліся асноўным тыпам паселішча насельніцтва Беларускага Падзвіння ў V—VIII стст. н.э.. Гэту функцыю выконвалі адкрытыя паселішчы—селішчы. Трэба адзначыць, што калі на паўднёвых тэрыторыях селішчы былі тыповымі яшчэ ў зарубінецкую эпоху, то на разглядаемай тэрыторыі пераход насельніцтва ад старых родавых гнёздаў — гарадзішчаў да селішчаў меў месца ў IV—V стст. н.э. і быў звязаны з заняпадам днепра-дзвінскай культуры і з фарміраваннем і распаўсюджваннем у Беларускім Падзвінні старажытнасцей культуры тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі. На сённяшні дзень вядома каля 30 адкрытых пасяленняў—селішчаў на вывучаемай тэрыторыі Падзвіння.

Эканамічныя прычыны гэтага працэсу і, галоўным чынам, інтэнсіфікацыя ляднага земляробства пацягнулі за сабой засваенне плошчаў і перамяшчэнні насельніцтва. Таму селішчы, як правіла, маюць малы культурны пласт 0,2—0,4 м, і толькі на некаторых больш доўгачасовых (Пруднікі) ён дасягае 0,5—2,0 м. У асноўным пераважаюць невялікія селішчы плошчай 0,6—1,0 га. Што, дарэчы, характэрна і для сумежных тэрыторый.

Ступень вывучанасці гэтай катэгорыі помнікаў у разглядаемым рэгіёне застаецца ўсё яшчэ недастатковай. Акрамя параўнальна невялікіх раскопак селішчаў паблізу Шуляціна, Старога Сяла, Заронава, Буракова і інш., можна назваць толькі адзін помнік, дзе даследавана даволі значная плошча — гэта селішча Пруднікі (звыш 2300 кв.м). А.Р. Мітрафанаў у 1978—1980 гг. даследаваў звыш 300 кв.м і аўтар манаграфіі за перыяд 1984—1998 гг. — 2000 кв.м.

Як і на тэрыторыі сярэдняй Беларусі (Митрофанов, 1978, с. 85), па характару размяшчэння ўсе селішчы Беларускага Падзвіння, можна падзяліць на дзве групы. *У першую* (22 зафіксаваных аб’ектаў — ***В.Ш.***) ўваходзяць тыя, што размешчаны побач з гарадзішчам, часам нават на іх схілах. Гэта своеасаблівасць вывучаемага рэгіёна ў адрозненне ад сярэдняй Беларусі (другая група па А.Р. Мітрафанаву).

Ступень вывучанасці селішчаў першай і другой груп неаднолькавая. На селішчах другой групы праводзіліся толькі невялікія раскопкі пошукавага характару (Шуляціна, Гуры і інш.). Лепш вывучаны селішчы першай групы паблізу вв.Пруднікі, Лужасна, Буракова, Варганы і інш.

На першай стадыі развіцця раннесярэднявечных культур тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі, з абліітой керамікай, ранніх доўгіх курганоў, іх носьбіты жылі, відаць, на селішчах, размешчаных асобна ад гарадзішчаў (другая група). Гэта сведчыць пра параўнальна спакойнае знешняе становішча.

Селішчы гэтай групы размяшчаліся па берагах рэк і азёраў. Часцей яны займалі пакатыя ўзгоркі-астанцы ў паплавах рэк. Да ранніх селішчаў можна аднесці Воронеч (правы бераг Ушачы) Полацкага раёна і Гарадок (Лугавое) Гарадоцкага раёна. Селішчы больш позняга часу ўзніклі ў непасрэднай блізкасці ад ранніх гарадзішчаў, пакінутых да таго часу. Перабудаваўшы гарадзішчы ў добра ўмацаваныя сховішчы, насельнікі выкарыстоўвалі іх для жыцця ў небяспечны час.

Падкрэслім, што ў асноўным усё насельніцтва Беларускага Падзвіння ў гэты час пражывала на селішчах. На жаль, да нашага часу іх захавалася вельмі мала. Знішчаны галоўным чынам ворывам, меліярацыяй і г.д.

***Жытлы.*** У працэсе археалагічных раскопак на гарадзішчах і селішчах (Пруднікі, Цясты, Барсукі, Вышадкі, Кастрыца і інш.) выяўлены сляды пабудоў рознага характару, сярод якіх большасць складаюць рэшткі жылых збудаванняў. Даволі разнастайныя па форме і памерах жылыя пабудовы можна падзяліць на 2 групы: 1) наземныя і 2) паглыбленыя жытлы (паўзямлянкі). Жытлаў, якія сустракаюцца ў Цэнтральнай Беларусі і даследаваны А.Р. Мітрафанавым (Гарадзішча, Дзядзілавічы) ў разглядаемым рэгіёне пакуль не зафіксавана. Наземныя і злёгку паглыбленыя ў зямлю — адзіны пакуль тып жылых пабудоў на паселішчах 3-й чвэрці паўночнай Беларусі.

Аснову канструкцыі наземных жытлаў складалі апорныя слупы, што стаялі па вуглах пабудоў. Памеры жытлаў ад 15 кв.м да 18—25 кв.м. Адметнай рысай вывучаемага рэгіёна з’яўляецца той факт, што тут канстатаваны вялікія па плошчы жылыя пабудовы — 20 кв.м і больш, што не характэрна для сумежных паўднёвых тэрыторый. Для ацяпляльных мэтаў у наземных жытлах служылі агмені простай канструкцыі ў выглядзе кучы камянёў.

Найбольш вывучаны рэшткі жылых пабудоў з селішча Пруднікі. Тут зафіксаваны рэшткі звыш 20 жытлаў. Ад іх захаваліся і печы-каменкі. Абпаленыя камяні розныя па памерах: ад 5—7 см да 20—35 см у папярэчніку. Печы-каменкі не адначасовыя, яны канстатаваны на розных узроўнях ад 0,35 м да 1,5 м ад дзённай паверхні. Межы жытлаў у аднародным гумусе прасачыць вельмі цяжка. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што яны былі наземнымі і мелі, хутчэй за ўсё, зрубную канструкцыю. У некалькіх выпадках зафіксаваны рэшткі жытлаў паглыбленых у мацярык на 0,3—0,4 м з памерамі 3 х 5 м, 4,5 х 4 м, 3 х 7 м. У іх выяўлены развалы агменяў і зерняцёркі. У мацерыковым пласце паблізу ад пячэй, сустрэты ямы-склепы. У плане яны мелі авальную грушападобную і авальную формы. Памеры розныя. Найменшая ў плане авальная мела даўжыню 1 м, шырыню — 0,8 м, глыбіню — 0,45 м, а найбольшая, адпаведна 3,2, 1,8, 0,8 м. Запаўненне ям складалася з культурнага пласта цёмна-шэрага і чорнага колеру. У адной з ям выяўлены гліняны перавернуты ўверх дном гаршчок. У іншых ямах назіралася высокая канцэнтрацыя керамікі звычайнага для селішча глінянага посуду.

Плямёны Беларускага Падзвіння ў 3-й чвэрці І тысячагоддзя працягвалі традыцыі збудавання слупавых наземных жытлаў ад плямёнаў днепра-дзвінскай культуры і іх суседзяў, носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі.







**Табл. 13.** I. Жалезныя сярпы з паселішчаў 2-й пал. I тыс. н.э. Беларускага Падзвіння.
II. Жалезныя нажы другой паловы I тыс. н.э. (Пруднікі Міёрскага раёна).

### 3.2. Рэчавы комплекс другой паловы I тысячагоддзя н.э. і рэгіянальныя асаблівасці Беларускага Падзвіння: Заходняе, Цэнтральнае (Полацкае) і Усходняе (Віцебскае)

У другой палове I тысячагоддзя н.э. як і больш ранні час прылады працы, прадметы ўжытку, упрыгожанні выраблялiся, у асноўным, з металаў, гліны, косці і каменю. Для зручнасці характарыстыкі выяўленыя пры раскопках у разглядаемым рэгіёне разнастайныя рэчы падзелены намі на групы — па матэрыяле, з якога яны выраблены: вырабы з металу (жалеза, бронзы), гліны, косці і каменю. Асноўным матэрыялам для вырабу разнастайных прылад з гэтага часу становіцца жалеза. Жалезныя прылады працы ў цэлым мала адрозніваюцца ад прылад позняга перыяду днепра-дзвінскай культуры. Разам з тым у V—VIII стст. н.э. назіраецца з'яўленне новых рыс у мадыфікацыі прылад працы, звязаных як з развіццём тэхналагічнага прагрэсу, так і са з'явамі разнастайных запазычанняў, уплывовых момантаў, абмену і г.д.

У раннім сярэднявеччы насельніцтва на тэрыторыі Беларусі ўдасканаліла металургію жалеза. Па даных М.Ф. Гурына, печы шахтнага тыпу аб'ёмам 0,15—0,25м$^3$, якія сталі распаўсюджвацца з гэтага часу, давалі магчымасць атрымліваць больш металу (Гурин, 1990, с. 32). Тэхналагічныя асаблівасці металаапрацоўкі банцараўскай культуры, як і пражскай, калочынскай звязаны з шырокім ужываннем псеўдапакетнага металу (мал. 6). Спецыялісты-кавалі добра ведалі зыходны метал і ўмела выкарыстоўвалі яго нераўнамерную навугляроханасць. Знаходкі жалезных паўфабрыкатаў (балванкі з гарадзішча Банцараўшчына) сведчаць аб элементах зараджэння таварнай вытворчасці (Гурин, 1990, с. 32).

Актывізацыя этнакультурных працэсаў, якая назіраецца з III—IV стст. адбівалася на матэрыяльнай культуры, і гэта можна прасачыць на археалагічных матэрыялах з раскопак на разглядаемай тэрыторыі і, перш за ўсё, металічных вырабаў.

***Металічныя вырабы***. *Сярпы* (24 экз.)**.** Усе знаходкі жалезных сярпоў V—VIII стст. н.э. маюць па-ранейшаму даволі архаічную форму (табл. 13/I). Для іх характэрна слабая выгнутасць рабочай часткі прылады. Усе экземпляры можна падраздзяліць на 5 тыпаў. У сярпоў **I тыпу** (4 экз.) вельмі слабая выгнутасць спінкі (суадносіны даўжыні спінкі АБ і вышыні дугі CD не больш 0,1—0,25) і чаранок амаль не вылучаецца (табл. 10: 2). Аналогіі падобным сярпам можна знайсці ў Цэнтральнай Беларусі, на поўдні Пскоўшчыны (селішча Узмень), сярод ўсходнелітоўскіх і латгальскіх старажытнасцей (Митрофанов, 1978, с. 106; Kulikauskas, 1961, pav. 209: 7; Latvijas…, 1974, tab. 36: 3). Гэты тып сустракаецца на працягу эпохі жалеза на гарадзішчах днепра-дзвінскай і культуры штрыхаванай керамікі (гарадзішча Гарадзішча, Замкавая Гара, Замошша) (Митрофанов, 1978; Шадыро, 1985).

Да **II тыпу** (6 экз.) адносяцца экземпляры (табл. 13/I: 1—3), вяршыня дугі клінка якіх звужана ў бок носа (варыянт А групы 1 — па Р.С. Мінасяну) (Минасян, 1978а, с. 77—78). Сярпы гэтага варыянту распаўсюджаны галоўным чынам ва ўсходняй Латвіі (таму іх называюць латгальскімі), у паўночнай Літве, а таксама ў паўднёвай Эстоніі, дзе яны знойдзены як у могільніках (у жаночых пахаваннях), так і на гарадзішчах. Найбольш ранняя знаходкі на адзначанай тэрыторыі датуюцца II—III стст. н.э. З трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н.э. яны ўваходзяць у шырокі ўжытак (Минасян, 1978а, с. 77, рис. 3: 9, 10). У сярпоў гэтага тыпу чаранкі або выдзелены або не маюць уступаў.

Сярпы **III тыпу** (5 экз.) слабавыгнутай формы і маюць невялікія памеры (даўжыня АВ не перавышае 15—17 см). Аднак у адрозненне ад I тыпу чаранок у іх выдзелены ўступам (табл. 13/I: 4, 8). Арэал падобных сярпоў у асноўным супадае з вобласцю распаўсюджання сярпоў I тыпу: гарадзішчы Кастрыца, Лукамль, Вышадкі, Прунікі, селішчы Некасецк, Прудныкі, Узмень і інш. (Митрофанов, 1978; Штыхов, 1969, рис. 6:2; Минасян, 1972, рис. 359). Згодна з даследаваннямі Ю.А. Краснова гэтыя сярпы ўжываліся ў I і пачатку II тысячагоддзяў н.э. у лясной паласе Усходняй Еўропы і звязаны з балцкім насельніцтвам (Краснов, 1971, с. 73—74).

Да **IV тыпу** (6 экз.) адносяцца сярпы з добра выгнутай спінкай (суадносіны АВ і CD 0,5—0,65 см). Па форме яны нагадваюць сярэднявечныя сярпы, але ў адрозненне ад апошніх чаранок у іх ляжыць на адной лініі з рабочай часткай (табл. 13/I: 7). Блізкія па форме і прапорцыях сярпы знойдзены на Смаленшчыне ў верхнім пласце гарадзішча Тушамля. Трэба адзначыць, што блізкія па формах сярпы знойдзены і на гарадзішчах днепра-дзвінскай культуры ў першых стст. н.э. (Третьяков, Шмидт, 1963, с. 67, рис. 14—26, рис. 27: 2).

Для **V тыпу** (3 экз.) сярпоў характэрны познія формы, што збліжае іх з сярэднявечнымі косамі-гарбушамі. Даўжыня асновы іх параўнаўча большая, чым у папярэдніх тыпаў. Ступень выгнутасці застаецца невялікай (АВ : CD = 0,1—0,3). На канцы маецца перпендыкулярны ўступ для мацавання з ручкай (табл. 13/I: 8; табл. 10: 1; табл. 18/I: 1). Гэтыя своеасаблівыя сярпы распаўсюджаны галоўным

чынам ва ўсходніх рэгіёнах. Іх паходжанне звязана яшчэ са скіфскім мірам і яны былі вядомы ў старажытнасцях зарубінецкай культуры і культуры кіеўскага тыпу II—IV стст. н.э. Па меркаванню Ю.А. Краснова, яны прыпыняюць сваё існаванне ў VII—VIII стст. (Даниленко, 1976, рис. 4: 10; Краснов, 1966, с. 18—21; Кухаренко, 1964, табл. 19: 4—5).

*Нажы* (36 экз.) — найбольш часта сустракаемыя вырабы з жалеза. Зыходзячы з памераў нажоў і іх спрацаванасці, меншая частка іх выкарыстоўвалася як зброя. Астатнія былі звычайнымі нажамі, якія ўжываліся ў гаспадарцы. Па характару спінкі, а таксама пераходу ад ляза да чаранка, усе нажы можна падзяліць на 3 тыпы. **Тып I** (5 экз.) прадстаўлены даволі рэдкімі знаходкамі архаічных па форме нажоў з гарбатай спінкай даўжынёй 12—17 см (табл. 13/II: 7). Нажы з гарбатай спінкай з'яўляюцца тыповымі для старажытнасцей ранняга жалезнага веку лясной паласы Усходняй Еўропы (днепрадзвінскай, штрыхаванай керамікі, дзякаўскай, мошчынскай культур, старажытнасцей кіеўскага тыпу і інш.). Таму, знаходкі іх на помніках 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. у Беларускім Падзвінні нельга датаваць пазней V ст. н.э., пасля яны знікаюць з ужывання (Даниленко, 1976, рис. 4: 22; Дубынин, 1974, с. 228, табл. VIII; Шмидт, 1976, рис. 20: 13, 58: 5—6). Да **II тыпу** (27 экз.) адносяцца нажы з прамой спінкай і ў залежнасці ад размяшчэння спінкі клінка да чаранка, а таксама спосабу і злучэння падраздзяляюцца на віды А, Б і В. У нажоў ***віду А*** (табл. 13/II: 1, 5, 6), выяўленых на паселішчах Пруднікі, Барсукі, спінка клінка і чаранок знаходзяцца на адной лініі, а пры пераходзе ляза ў чаранок маецца ўступ: падобныя нажы даўжынёй 8—12 см вядомы на селішчах Цэнтральнай Беларусі, у басейне Лаваці (селішча Узмень). Вядомы яны ў старажытнасцях кіеўскай культуры і сярэднявечных помніках IX—X стст. (Шмидт, 2003, табл. 10: 16, 17, табл. 11: 4, 10, 11; Митрофанов, 1978, рис. 52: 30; Минасян, 1972б, рис. 3—4; Даниленко, 1976, рис. 3: 8). У нажоў ***віду Б*** даўжынёй 8—17 см месца пераходу чаранка ў клінок з абодвух бакоў мае ўступы (табл. 13/II: 8, 10). Нажы гэтага тыпу вядомы ва ўсіх частках арэала помнікаў тыпу Банцараўшчыны (Ніжняя Тошчыца, Вераб'ёўка, Лаўрыкаў Лес, Гарадзішча і інш.). Яны з'яўляюцца даволі частымі знаходкамі на паселішчах тыпу Карчак і Лукі Райкавецкай (Митрофанов, 1966, с. 228, рис. 4: 14; Поболь, 1973б, рис. 4: 16; Русанова, 1973, с. 17, табл. 32: 6—8; Сымонович, 1974, с. 80, рис. 4: 18—22; Третьяков, 1974а, рис. 24: 10; Шмидт, 2003, табл. 10: 8, 9, табл. 11: 1, 2, 6, 13; табл. 12: 6, 8, 14). У нажоў ***віду В*** (табл. 13/II: 2, 19) даўжынёй 9—18 см, чаранок плаўна без уступаў пераходзіць у клінок. Падобныя нажы выяўлены на сумежных тэрыторыях, на селішчах Узмень, Шугайлава, Тайманава, гарадзішча Блізнакі і інш. (Минасян, 1972, рис. 3: 1—4; Поболь, 1973а, рис. 11: 26; Шмидт, 2003, табл. 11: 14, табл. 12: 2). Жалезныя нажы I і II тыпаў мелі драўляныя рукаяткі, рэшткі якіх часам сустракаюцца на чаранках. Характэрныя нажы былі распаўсюджаны ў сярэдзіне і трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н.э. амаль на ўсёй тэрыторыі Усходняй Еўропы.

Ад вышэй згаданых нажоў істотна адрозніваюцца цэльнаметалічныя жалезныя нажы даўжынёй 12—16 см з валютападобным завяршэннем рукаяткі (табл. 18/II: 16). Яны знойдзены пры раскопках селішчаў Лукамль, Зазоны. Падобныя знаходкі з суседніх мясцін вядомы на селішчах Равячка, Гарадзішча, Тайманава. Знаходкі такіх нажоў на помніках тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі, а таксама на гарадзішчах раменска-боршаўскай культуры VIII—X стст. і раннеславянскіх паселішчах Малдавіі з'яўляюцца сведчаннем заходнеславянскіх уплываў, бо ўпершыню яны з'яўляюцца ў VII ст. у заходнеславянскіх плямёнаў, якія жылі на тэрыторыі Польшчы (Минасян, 1978б, с. 148—152). Найбольш блізкія нашым узорам нажы з валютападобным завяршэннем рукаяткі з паселішчаў Біскупін, Чэлядзьзь Вялька ў Польшчы, якія адносяцца да VIII—X стст. (Szymanski, 1964, s. 224—226). У арэале банцараўскай культуры падобныя прылады датуюцца хутчэй за ўсё VIII ст. Гэта пацвярждаецца і фактам знаходжання нажа з Лукамля ў адным пласце з падкавападобнай фібулай, утулкавым двухшыпным наканечнікам стралы і арнаментаванымі трапецападобнымі прывескамі, што сведчыць аб згаданай датыроўцы (Штыхов, 1978, рис. 18). Нажы з такой своеасаблівай формай выкарыстоўваліся, верагодна, у рытуальных мэтах і з'яўляліся прывілеяй заможнай часткі насельніцтва, бо сустрэтыя ў пахаваннях з багатым інвентаром. Храналагічныя рамкі гэтых рэчаў расцягнуты ад рубяжа н.э. да X—XIII стст. Аднак большая іх частка датуецца VI—IX стст. і значыць, яны найбольш характэрныя для 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. Падобныя нажы ўжываліся на працягу вялікага адрэзку часу: усё I тысячагоддзе н.э., нават і пазней. Аднак паколькі іх большая частка датуецца VI—IX стст., значыць, яны найбольш характэрныя для 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э.

*Шылы* (41 экз.) (табл. 14/I: 8—25) з'яўляюцца амаль што самай шматлікай знаходкай з жалезных вырабаў на даследуемай тэрыторыі. Яны вырабляліся з розных па даўжыні (5—15 см) жалезных стрыжняў, круглых у сячэнні. Чаранкі, на якія насаджваліся касцяныя ці драўляныя рукаяткі, мелі чатырохвугольнае сячэнне. Захавалася шмат гэтых вырабаў з касцянымі рукаяткамі, якія маюць разнастайную




**Табл. 14.** I. Пруднікі Міёрскага раёна. Шылы і крэсівы жалезныя:
1,2,4,8—10,12,13,15,16,18—25 — гарадзішча; 3,5—7,11,14,17 — селішча.
II. Баявыя сякеры з помнікаў Беларускага Падзвіння 2-й пал. I тыс. н.э.:
1 — Задзеўскае (гарадзішча); 2—3 — Кастрыца (гарадзішча).

арнаментыку, галоўным чынам з кропак (табл. 14/I: 8—10). У калекцыі з Пруднікаў ёсць шылападобныя прылады, вырабленыя з круглага стрыжня. Рабочы канец завостраны як і ў звычайных шылаў, а процілегламу нададзена форма трапецападобнай рыдлёвачкі (табл. 14/I: 3, 5, 6). Падобная форма адносіцца да ліку рэдка сустракаемых знаходак і шырокія аналогіі ім вядомы сярод старажытнасцей банцараўскай культуры (Митрофанов, 1978, с. 109, 142, рис. 50: 1, рис. 57: 7; с. 150, рис. 58: 11). Мяркуючы па стратыграфічных данных, вырабы з трапецападобнай галоўкай у адрозненне ад рукаятак з насадкамі маюць больш ранні храналагічны паказчык.

*Крэсівы*. Адносяцца да ліку даволі распаўсюджаных рэчаў, якія ўжываліся ў побыце вывучаемага рэгіёна. Вырабляліся з жалезных пласцін і па сваёй форме належалі да розных тыпаў.

**І тып** — гэта 4-граннікі з грыбападобнай галоўкай і вострым канцом для насаду (табл. 14/I: 1, 2, 4, 7). Гэта найбольш распаўсюджаны тып і выкарыстоўваліся і ў якасці шылаў. Аналагічныя крэсівы шырока ўжываліся на сумежных тэрыторыях Латвіі, Літвы, Цэнтральнай Беларусі (Гарадзішча, Гуры, Ніжняя Тошчыца) (Митрофанов, 1978, рис. 57: 7; Поболь, 1973, рис. 12: 8)], у старажытных доўгіх курганах (Штыхов, 1992, мал. 19: 7, 8).

**Тып ІІ** уключае выцягнутыя трапецападобныя крэсівы меншай даўжыні (5—10 см). Сустракаюцца яны таксама даволі шырока (табл. 14/I: 5).

Крэсівы **ІІІ тыпу** невялікага памеру маюць выцягнутую падобную да трохкутніка галоўку, вузкі канец іх заканчваецца пятлёй ці спіральным завіткам для падвешвання. Даволі рэдка сустракаемы для нашай тэрыторыі тып і большасць яго знаходак звязана з усходнімі тэрыторыямі на Верхнім Падзвінні і Смаленскім Падняпроўі (Гнёздава, Жабіна, Слабада Глушыца (Станкевич, 1962, рис. 76: 5; Шмидт, 2003, табл. 7: 8—10). Крэсівы з пятлёй маюць шматлікія аналогіі як у папярэдніх культурах ранняга жалезнага веку (старажытнапрускія могільнікі II—III стст. у Польшчы, пшэворскай, днепра-дзвінскай і дзякаўскай, кіеўскай культурах), так і ў сінхронных помніках мошчынскай, пасяленнях III—VI стст. у Латвіі, фіна-угорскіх помніках канца І тысячагоддзя н.э. (Шмидт, 1976, рис. 20: 14; Даниленко, 1976, рис. 6: 28; Шноре, Цимермане, 1966, рис. 1: 10). Генетычна звязаныя з імі крэсівы са спіральнымі завіткамі нідзе ў іншых сінхронных культурах, акрамя помнікаў тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі, пакуль не знойдзены. Дакладную датыроўку гэтых крэсіваў устанавіць немагчыма. Рэдкія знаходкі іх на паўночных раннеславянскіх карчакскіх помніках (Снядзін-2, Бухліцкі хутар) (Археалогія Беларусі. Т. 2. 1999, мал. 102: 3, 4) трэба хутчэй за ўсё звязваць з уплывам суседніх плямёнаў банцараўскай культуры (Шадыра, 1999, мал. 102: 4).

**Тып IV** (табл. 10: 11). Своеасаблівая форма з селішча Пруднікі (Шадыра, 1993, с. 180, мал. 3: 18). Яна адносіцца да тыпу калачападобных, але мае свае спецыфічныя рысы: верхнія канцы ўкарочаны і не прымыкаюць адзін да другога, а далёка разведзены паміж сабой. Аналогіі гэтым крэсівам вельмі абмежаваныя.

***Зброя, рыштунак каня і вершніка.*** Значнае месца сярод жалезных вырабаў займаюць прадметы ўзбраення і рыштунак ваяра-вершніка. Часцей за ўсё гэта катэгорыя рэчаў сустракаецца на гарадзішчах, а не селішчах.

***Зброя.*** Жалезных прадметаў узбраення прадстаўлена ў Беларускім Падзвінні нязначнай колькасцю знаходак.

*Сякеры* (табл. 14/II: 1—3). Выяўленыя сякеры (3 экз.) маюць універсальнае прызначэнне і спалучаюць якасці зброі і прылады працы. Усе яны адносяцца да тыпу вузкалязовых: шырыня ляза менш паловы агульнай даўжыні. Адрозненні ў форме рабочай часткі дазваляе выдзеліць некалькі відаў.

***Від А*** прадстаўлены сякерай з паселішча Задзеўскае (каля Пастаў), выяўлена ў пласце, які ўтрымліваў раннесярэднявечныя матэрыялы, увайшоў у літаратуру з датыроўкай IX—X стст. (Гурин, 1987, с. 55, рис. 21: 1, с. 136). Між тым яго характэрныя асаблівасці: рабочая частка адагнута ўніз па накірунку да тапарышча і мае трохі выгнутую спінку, абух — падоўжаную тыльную частку (табл. 14/II: 1). Маюць паралелі па сякерах V—VII стст. н.э. (Ласкавый, 1993, с. 29, 34, рис. 3: 1) у Латвіі і цэнтральных раёнах Літвы сярод інвентару пахаванняў V—VII стст. (Kazakevičius, 1993, p. 58, 178, par. 104: 1—4, 7, 9—10, 109: 14). Таму датаваць гэтую знаходку трэба больш раннім часам — VI—VII стст. н.э.

***Від Б —-*** сякеры маюць веерападобную рабочую частку з масіўнай шыйкай. Афармленне абуха — тое самае, як і ў першым выпадку (табл. 14/II: 2). Знойдзена ў сярэднім пласце гарадзішча Кастрыца Лепельскага раёна (Митрофанов, 1978, с. 110; Перхавко, 1979, рис. 2: 5). Бліжэйшыя аналогіі сустракаюцца сярод сякер, якімі карысталася насельніцтва Усходняй Латвіі ў VIII—IX стст. (Šnore, 1987, tabl. VIII: 14; Stubavs, 1976, lpp. 82, tabl. VIII: 1; Urtans, 1977, lpp. 244; Ласкавый, 1993, с. 30, 34).

***Від В*** — сякеры, у якой рабочая частка мае веерападобнае пашырэнне з пераходам да вузкай шыйкі (табл. 14/II: 3). Знаходка паходзіць з гарадзішча Кастрыца, дзе была выяўлена ў пласце, які Г.В. Штыхаў датаваў VI ст. н.э. (Штыхов, Отчет за 1965. Архіў ІГ НАНБ, с. № 259, мал. 24: 7, с. 35). Узоры з падобнай рабочай часткай і падоўжанай тыльнай часткай абуха з'яўляліся ў V—VII стст. н.э. пераважаючай формай сякер для арэала ўсходнелітоўскіх курганоў (Гуревич, 1962, с. 61, рис. 52: 7; Зверуго, 1989, рис. 6: 5, 7: 3; Kunciene, 1982, p. 43, 53—54, pav. 1: 1—4). Сякера з гарадзішча-сховішча Дзямідаўка на Смаленшчыне мае больш архаічныя рысы (Шмидт, 2003, табл. 8: 15).

*Наканечнікі дзід* бліжняга бою ў Беларускім Падзвінні прадстаўлены 6 знаходкамі.

Па аднаму ўтулкаваму экземпляру з плоскім шырокім пяром (рабочай часткай) рамбічнай формы (табл. 15/I: 5, 6) выяўлены на селішчы Пруднікі Міёрскага раёна (Шадыра, 1993, с. 171, мал. 3: 8) і на гарадзішчы Казінава Гарадоцкага раёна (Шут. Отчет за 1965 г. Архіў ІГ НАНБ, спр. № 257). Падоб-

ныя наканечнікі звычайны для інвентара пахаванняў другой паловы V — пачатку VI стст. на ўсходзе Літвы і ў Беларускім Панямонні (Гуревич, 1962, с. 63, рис. 5: 1, 4; Казакявичюс, 1988, с. 29, 31, рис. 9: 4, 8; Cehak-Holubowiczowa, 1955, s. 326, 330, гус. 13: 1; Nakaite-Vaitkunskiene, 1976, p. 96, pav. 3: 3).

У якасці варыянтаў наканечнікаў з рамбічным пяром могуць разглядацца ўзоры з невялікай рабочай часткай ромбападобных абрысаў, якая звязвалася доўгай шыйкай з невысокім верхам (табл. 15/I: 4). Адзіны экземпляр у вывучаемым рэгіёне выяўлены на селішчы Пруднікі (Шадыро, Отчет за 1991 г. Архіў ІГ НАНБ, спр. № 1352, с. 27). Асноўная маса знаходак падобнага тыпу канцэнтруецца да прылягаючых тэрыторый Заходняй Дзвіны (Даўгавы) у зоне са змешаным ліўска-латгальскім насельніцтвам і датуецца VII—VIII стст. (Stubavs, 1976, lpp. 117—118, tabl. VI: 10, 19, 22—29). Адзінкавыя наканечнікі сустракаюцца на тэрыторыях земгалаў, латгалаў і эстаў (Казакявичюс, 1988, с. 33, рис. 14: 1; Urtans, 1967, lpp. 52—53, tabl. X: 1, 3).

Утулкавы наканечнік з плоскім і завострана-авальнымі абрысамі пяра, якое мякка пераходзіць да шыйкі (табл. 15/I: 3), выяўлены на гарадзішчы Пруднікі (Шадыро, Отчет за 1990 г. Архіў ІГ НАНБ, спр. № 1206, с. 29, мал. 25: 1). Дадзены экземпляр уяўляе адну з самых распаўсюджаных для VI—VIII стст. формаў. Аналогіі сустракаюцца ў сярэдняй паласе Еўропы ад Волга-Окскага міжрэчча да Германіі (Гуревич, 1962, рис. 52: 2; Кравченко, 1974, рис. 18: 3; Кухаренко, 1961, табл. 9: 16; Розенфельд, 1982, с. 135—136, рис. 34: 2; Sage, 1984, tabl. 115: 21, 27). На сумежных тэрыторыях найбольшая колькасць аналогій адзначана ў заходняй частцы Літвы (Казакявичюс, 1988, с. 47, 50, 53—54, рис. 17: 4, 8, 19: 6, 21: 1, 5).

Плоскае пяро з развітай ці прафіляванай формай мае наканечнік дзіды з гарадзішча Клішына Крупскага раёна (табл. 15/I: 1) (воз. Селява — днепра-дзвінскае міжрэчча — ***В.Ш.***). Абсалютна дакладную аналогію V—VII стст. н.э. мае наканечнік дзіды з гарадзішча-сховішча Дзямідаўка, які Я.А. Шмідт адносіць да тыпу з полымяпадобнай формай з серыі варыянтаў з закругленай часткай пяра (Шмидт, 1976, рис. 13: 3; 1995, с. 105—117, мал. 1: 2; 2003, табл. 3: 4). В. Казакявічус указвае на шматлікія аналогіі іх ва Усходняй Прыбалтыцы, Фінляндыі, Швецыі і Нарвегіі і адзначаў, што самыя раннія наканечнікі з прафіляванай формай пяра сустракаюцца ў Латвіі і ў Даніі, дзе датуюцца III ст. н.э. З тэрыторыі Латвіі гэтыя наканечнікі распаўсюджваюцца ў суседнія землі балтыйскіх плямёнаў Усходняй Прыбалтыкі (і Беларусі — ***В.Ш.***), а з Даніі — і на іншыя паўночна-еўрапейскія тэрыторыі (Казакявичюс, 1988, с. 36—40). В.В. Сядоў уключаў такія вырабы ў комплекс правінцыяльна-рымскіх па паходжанні рэчаў і лічыў, што ў эпоху Вялікага перасялення народаў арэал такіх наканечнікаў (Дзямідаўка — ***В.Ш.***) перамяшчаецца з Сярэдняй Еўропы ў Паўднёва-Усходнюю Прыбалтыку і Тушамлінскі рэгіён (Седов, 1998б, с. 59, рис. 3: 8]. Наш экземпляр, калі не выраблены на месцы, то трапіў на гарадзішча, хутчэй за ўсё, па Заходняй Дзвіне ад латгалаў і селаў, дзе яны былі шырока распаўсюджаны ў V—VI стст. (Latvijas PSR archeologija, 1974, 157 lpp; 12, 21 tab.).

Адзіны чаранковы наканечнік знойдзены на гарадзішчы Дрысвяты Браслаўскага раёна (Ткачоў. Справаздача за 1980, с. 4, мал. 14: 14). Плоская рабочая частка вастралістых абрысаў і падоўжаная шыйка з упорам для дрэўка (табл. 15/I: 2) з'яўляюцца характэрнымі прызнакамі латгальскіх чаранковых дзід VII — пач. IX стст. н.э. У нязначных колькасцях яны пранікалі за межы тэрыторый, заселеных латгаламі (Казакявичюс, 1988, с. 59, рис. 23: 2, 3, 5, 6; Kulikauskas ir rt. 1961, p. 425, pav. 297: 1, 298: 8; Latvijas PSR arheologija, lpp. 157, tabl. 39: 7, 8; Šnore, 1987, lpp. 27, tabl. IX: 4: 6, 9, 11).

*Кідальныя дзіды (дроцікі)* з Беларускага Падзвіння прадстаўлены трыма экземплярамі з двухшыпавым пяром. Два ўтулкавыя ўзоры, верагодна, з'яўляліся прамысловымі дзідамі-гарпунамі, якія, дзякуючы сваёй устаноўцы на невыцягванне, наўрад ці маглі выкарыстоўвацца ў баі інакш як дроцікі.

Адзін з наканечнікаў мае кароткае адносна ўтулкі пяро і з трохі пукатымі рэжучымі краямі (табл. 15/I: 8). Наканечнік выяўлены на гарадзішчы Загаваліна Ушацкага раёна ў пласце, які К.П. Шут датаваў V—VII стст. н.э. (Шут, 1969б, с. 35, 42, рис. 6: 28). Амаль дакладная копія паўночнабеларускай знаходкі, якая адносіцца да IV—V стст. н.э. знойдзена ў Сярэднім Пасожжы (Поболь, 1983, с. 262, рис. 97: 2). Рабочая частка падобнай формы была выяўлена на паўночным усходзе Літвы, дзе датавана V—VII стст. н.э. (Казакявичюс, 1988, с. 55, рис. 22: 5).

Двухшыповая рабочая частка, наступнага ўтулкавага экземпляра з селішча Пруднікі Міёрскага раёна (табл. 15/I: 9) выглядае больш масіўнай, а прафіліроўка рэжучых краёў прыдае ёй «полымяпадобныя абрысы». Блізкія аналогіі цяжка знайсці. Далёкае падабенства можна адшукаць з двухшыпавым наканечнікам V—VII стст. н.э. Чорнай Лужы (Гуревич, 1962, рис. 52: 3), хаця там пяро мае больш выцягнутыя прапорцыі і больш выразную прафіліроўку.

Дроцік з гарадзішча Пруднікі (табл. 15/I: 7) мае ледзь прыкметную прафіліроўку рэжучых краёў пяра і чаранок круглага сячэння без упору. Аналагічныя ўзоры аднесеныя М. Атгазісам да тыпу В/2




**Табл. 15.** I. Наканечнікі дзідаў, дроцікаў і стрэл ранняга сярэднявечча з паселішчаў Беларускага Падзвіння:
1 — Клішына (гарадзішча): 2 — Дрысвяты (гарадзішча); 3 — Пруднікі (гарадзішча); 4,5 — Пруднікі (селішча);
6 — Казінава (гарадзішча); 7 — Пруднікі (гарадзішча); 8 — Загаваліна (гарадзішча); 9,10 — Пруднікі (селішча);
11 — Тарылава (селішча); 12-15 — Язна (гарадзішча); 16 — Казінава (гарадзішча); 17 — Маскавічы (гарадзішча);
18,20,29 — Пруднікі (гарадзішча); 19 — Кастрыца (гарадзішча); 21,23,24,28 — Лукамль (селішча); 31 — Лукамль (гарадзішча); 22,27-33 — Дрысвяты (гарадзішча); 25,32 — Браслаў (гарадзішча); 26,35 — Свіла-1 (гарадзішча);
29,36 — Полацк (Верхній замак); 34 — Полацк (селішча).
II. Рыштунак каня і вершніка з паселішчаў Беларускага Падзвіння:
39 — Дарахі; 37,38 — Пруднікі; 41,42 — Кастрыца; 40 — Гарадок.

шырока ўжываліся на захадзе тэрыторыі пражывання латгалаў у VIII ст. н.э. (Atgazis, 1974, lpp. 162, 171, att. 2: 8, att. 5).

*Наканечнікі стрэл* (27 экз.) прадстаўлены двума тыпамі ўтулкавых і трыма чаранковымі.

У вывучаемым рэгіёне вядомы два ўтулкавыя экземпляры з рабочай часткай, якая ўяўляла прамежкавую форму паміж падоўжанай падтрохвугольнай і вастралістай (табл. 15/I: 30, 33). Згодна з тыпалогіяй А.Ф. Мядзведзева, першы адносіцца да тыпу 3 і датуецца VII—XIV стст., другі да тыпу 4, які быў распаўсюджаны з I тысячагоддзя да н.э. Большасць падобных знаходак паходзіць з басейна Верхняй Волгі, а на захадзе сустракаюцца зрэдку (Медведев, 1966, с. 56—57). Экземпляр з селішча Тарылава Браслаўскага раёна знойдзены ў пластах 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. (Шадыро, 2000, с. 194, рис. 5: 2), другі паходзіць з гарадзішча Маскавічы Браслаўскага раёна (Дучыц, 1991, рис. 22: 14). Поўная ідэнтычнасць са знаходкай з Тарылава ў памерах і прапорцыях дазваляе датаваць маскавіцкую знаходку тым жа часам (табл. 15/I: 11, 17).

Двухшыповыя ўтулкавыя наканечнікі (тып 2 — па А.Ф. Мядзведзеву), якія можна аднесці да разглядаемага перыяду складаюць найбольш шматлікую катэгорыю прадметаў узбраення (табл. 15/I: 12—15, 18—27). Па аднаму экземпляру знойдзена ў Браславе (Семянчук, Ткачоў. Справаздача за 1989 г., спр. № 1182, мал. 10: 2), на гарадзішчы Кастрыца (Штыхов. Отчет за 1965 г., д. № 259, с. 34, 36, рис. 34: 6) і на гарадзішчы Свіла 1 Глыбоцкага раёна (Мітрафанаў, Каробушкіна, 1975, с. 38, рис. 1: 2). Па два наканечнікі вядомы на гарадзішчах Дрысвяты (Ткачоў. Справаздача за 1976 г., спр. № 1032, мал. 78: 2, 3), гарадзішча Пруднікі (Шадыро. Отчет за 1977, д. № 614). Тры экземпляры паходзяць з Лукамля (Штыхов, 1978, с. 50, рис. 18: 1, 45: 1, 2). На гарадзішча Язна выпадае найбольшая колькасць знаходак — 4 (Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі, КП 11570/38, 39, 41, 42). Адзін наканечнік з Лукамля і два з Язна (табл. 15: 12, 14, 21) маюць тардзіраваную шыйку. Акрамя дэкаратыўнай нагрузкі, гэта магло мець і практычнае значэнне: на рыфленую паверхню больш надзейна намотваць матэрыял, прапітаны гаручым рэчывам. Верагодна, наканечнікі дадзенага тыпу выкарыстоўваліся не столькі для паразы жывой сілы, а больш для падпальвання драўляных пабудоў на варожых паселішчах. Двухшыпавыя ўтулкавыя наканечнікі шырока прадстаўлены на карчакскіх помніках і іх распаўсюджанне разглядаецца як прыкмета міграцыі славян (Минасян, 1978, с. 35—37). Адна з хваль гэтай міграцыі на зыходзе 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. магчыма, і прынесла дадзены тып гэтых наканечнікаў на тэрыторыю Беларускага Падзвіння.

Наканечнікі стрэл з рабочай часткай падоўжана-трохвугольнай формы і плоскім без упору для дрэўка чаранком складаюць другую па колькасці групу наканечнікаў стрэл у нашым рэгіёне (табл. 15/I: 28—36). Падобныя ўзоры (тыпу 6 — па А.Ф. Мядзведзеву) шырока ўжываліся ў лясной паласе Усходняй Еўропы ў I—XIII стст. Вызначана, што некаторыя разнастайнасці ў форме пяра не з'яўляюцца тэрытарыяльнымі і храналагічнымі асаблівасцямі (Медведев, 1966, с. 67—68). На тэрыторыі Беларускага Падзвіння па два такія наканечнікі выяўлены на гарадзішчы ў Лукамлі (Штыхов. Отчет за 1969 г., д. № 350, с. 21, рис. 20: 1, 2) і ў Полацку на гарадзішчы і на мысавым паселішчы (Полоцкий историко-археологический заповедник, КП 5-2329/14; Штыхов. Отчет за 1967 г., д. № 349, с. 17, рис. 13: 13). Па аднаму экземпляру знойдзена ў Браславе (Алексеев, 1966, рис. 43: 2) і Дрысвятах (Ткачоў. Справаздача за 1976 г., спр. № 1032, мал. 78: 6). Падобныя наканечнікі даволі шырока вядомы ва Усходняй Еўропе ад эпохі жалеза да сярэднявечча (Казакявичюс, 1988, с. 66).

Наканечнікі з лістападобным пяром без упору для дрэўка (форма прамежкавая паміж тыпамі 61 і 63 (Медведев, 1966, с. 73—76) прадстаўлены ў вывучаемым рэгіёне трыма знаходкамі, прычым толькі адзін мае поўную захаванасць, астатнія пашкоджаны і аднесены да лістападобных у некаторым сэнсе ўмоўна (табл. 15/I: 35—36). Усе экземпляры маюць плоскі чаранок і пазней за VIII—IX стст. не сустракаюцца (Медведев, 1966, с. 73, 74). Той, што цалкам захаваўся, паходзіць з Верхняга Замка Полацка (Штыхов, 1975, рис. 30: 13). Фрагментарныя экземпляры знойдзены на гарадзішчы Кастрыца (Штыхов. Отчет за 1965 г., д. № 259, рис. 32) і Свіла 1 (Шадыро. Отчет за 1990, с. 58, рис. 4: 1) (табл. 15: 35). Аналогіяй падобным наканечнікам стрэл могуць быць экземпляры з Магілёўскага Падняпроўя: фрагмент з гарадзішча Эсьмоны (Лошенков, 1994, с. 93, рис. 2: 6) і цэлы з гарадзішча Лемніца Бялыніцкага раёна (Медведев, 1995, рис. 1: 4). На думку А.М. Мядзведзева, жыццё на гарадзішчы спынілася каля сярэдзіны V ст. н.э. у выніку падзей Вялікага перасялення народаў (Медведев, 1995, с. 115). Гэтым часам хутчэй за ўсё і датуюцца наканечнікі стрэл лістападобнай (іваліставай) формы. У Смаленскім Падняпроўі яны зафіксаваны на гарадзішчах Макрадзіна, Новыя Батэкі (Шмидт, 1992, табл. 18: 8, 13, 14).

Экземпляр трохлопаснага наканечніка з гарадзішча Казінава Гарадоцкага раёна (табл. 15/I: 16) мае шырокія аналогіі на ўсходзе і поўдні сярод старажытнасцей качэўнікаў канца I тысячагоддзя да

н.э. і да VIII ст. н.э., асабліва ў Прыкам'і (Медведев, 1966, с. 58, табл. 12: 3). Шырока прадстаўлены трохлопасцевыя наканечнікі стрэл на гарадзішчы-сховішчы Нікадзімава ў Магілёўскім Падняпроўі (Седин, 1994, рис. 2, 3) і на гарадзішчах-сховішчах Смаленскага Падняпроўя (Шмидт, 1995, с. 107, 108, рис. 1: 5—7, 9).

*Рыштунак каня і вершніка.* З гэтых прадметаў трэба адзначыць жалезныя цуглі і шпоры. Усе цуглі (3 экз.) (табл. 15/II: 37—39) належаць да двух тыпаў двухскладных (двухчасткавых) і трохскладных (трохчасткавых) кольчатых цугляў з нерухомымі кольцамі (I тып) і рухомымі (II тып) на канцах. Да пачатку Вялікага перасялення народаў насельніцтва Беларускага Падзвіння было мала знаёмае з конскім рыштункам. В.В. Сядоў лічыць, што двух-, трохскладныя цуглі, якія выяўлены на Падзвінні і ў Верхнім Падняпроўі маюць заходняе паходжанне і што шмат іх маецца сярод пшэворскіх і вельбарскіх старажытнасцей (Седов, 1998а, с. 62).

Трохчасткавыя цуглі з кальцавымі псаліямі некаторыя даследчыкі датуюць апошняй чвэрцю IV — першай чвэрцю V стст. і адносяць да так званага «познарымскага часу» ці да пачатку Вялікага перасялення народаў (Каргопольцев, Щукин, 2001, с. 235—238, рис. 4, 5: 1—3). Падобныя цуглі з V ст. н.э. распаўсюджваюцца на тэрыторыі Літвы і Латвіі (Kulikauskas ir ot., 1961, p. 298, pav. 204; Latvijas PSR arheologija, 1974, 155 lpp., 37, 1 att.). Сустракаюцца яны на раннеславянскіх помніках VI—IX стст. н.э. і на тэрыторыі ўсходнелітоўскіх курганоў V—VIII стст. Але пачатак шырокага ўжывання іх у лясной зоне Усходняй Еўропы выпадае на VIII—IX стст. (Кирпичников, 1973, с. 16—17; Митрофанов, 1978, с. 111; Таутавичюс, 1959, с. 141; Шмидт, 1995, с. 107, рис. 1: 22; 2004, табл. 8: 1—8; Штыхаў, 1992, рис. 17: 1). Зыходнай тэрыторыяй іх мог быць, на думку В.В. Сядова, толькі арэал правінцыяльна-рымскіх культур (Седов, 1998а, с. 62).

| Пласт | Датыроўка | Кручкі з барodкай | Кручкі без барodкі | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| I—III | 13—9 стст. | 1 | 3 | 4 |
| IV—VIII | 8—7 стст. | 2 | — | 2 |
| VIII—X | 6—4 стст. | 1 | 2 | 3 |

Жалезныя шпоры (7 экз.) (табл. 15/II: 40—42) мелі даволі кароткі храналагічны перыяд і адносна простую канструкцыю: востры канічны шып і адагнутыя вонкі кручкі на канцах. Знойдзеныя на Беларускім Падзвінні шпоры можна аднесці па класіфікацыі В.Б. Пярхаўкі (Перхавко, 1978в, с. 122—123) да тыпу V, варыянту А. Дадзены тып шпораў быў распаўсюджаны ў Прыбалтыцы (Асотэ, Кентэскалнс), галоўным чынам у V—VIII стст. (Latvijas PSR arheologija, 1974, 155 lpp., 37: 6 att.), ад якіх і запазычаны носьбітамі банцараўскай культуры Цэнтральнай і Паўночнай Беларусі (Митрофанов, 1978, рис. 25: 1; Поболь, 1971, рис. 66: 10; Даниленко, 1976, рис. 3: 2). Падобныя шпоры (другі тып — па Я.А. Шмідту) знойдзены на гарадзішчах-сховішчах Верхняга Падняпроўя (Блізнакі, Дзямідаўка, Нікадзімава) і на селішчы Шугайлава, дзе таксама датуюцца 3-й чвэрцю I тысячагоддзя н.э. (Шмидт, 1995, с. 107, 111, рис. 1: 15; 2003, табл. 7: 1, 3—7). Адна шпора ўваходзіла ў склад інвентару аднаго з пахаванняў доўгага кургана ў в.Дарахі Гарадоцкага раёна (табл. 18/III: 1), гліняныя урны якога адносяцца да 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. і падобны на керамічны матэрыял тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі. Вядома, што падобныя шпоры сустракаліся ў позніх пластах культур штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай (Лабеншчына, Дзядзілавічы, Дзявічкі). Гэта катэгорыя рэчаў адносіцца да перыяду трансфармацыі культур эпохі жалеза ў банцараўска-тушамлінскую культурную супольнасць і звязаны з моцнымі знешнімі ўплывамі ці нават з прыходам нейкіх груп насельніцтва. В.В. Сядоў сцвярджаў, што шпоры не маглі быць вынікам гандлёвых дзеянняў і паступаць да абарыгеннага насельніцтва Смаленшчыны і Полацкага Падзвіння, якое не ведала іх выкарыстання ў верхавой яздзе (Седов, 1998а, с. 56—60). У перыяд Вялікага перасялення народаў шпоры з адагнутымі вонкі кручкамі на канцах маглі пранікнуць у Полацкае Падзвінне і Смаленскае Падняпроўе, на думку В.В. Сядова, толькі з Вісла-Мазурскага рэгіёна. Адсюль яны папалі таксама ў землі Літвы і Латвіі (Седов, 1998а, с. 59). В. Казакявічюс указваў на 4 аналагічныя шпоры з могільніка Плінкайгаліс, раннія пахаванні якога датуюцца IV—V стст. н.э. (Kazakevičius, 1993, p. 80, 136, 1 pav.). У позніх пластах з аблітой керамікай знойдзена падобная шпора на гарадзішчы Сокішкяй (Grigalavičiene, 1986, p. 123, 26, 5 pav.).

Шпоры ў вывучаемым рэгіёне ўжываліся на працягу невялікага часу. Іх з'яўленне ў перыяд Вялікага перасяленне народаў звязана з прытокам пэўных груп насельніцтва, якое з цягам часу растварылася ў мясцовым асяродку і шпоры выйшлі з ужывання.

***Да прыладаў рыбнай лоўлі*** адносяцца жалезныя кручкі, восці і грузілы для сетак. Рыбалоўныя




**Табл. 16.** I. Рыбалоўныя прылады з паселішчаў Пруднікі Міёрскага раёна:
1—8,10,12,14 — гарадзішча; 9,11,13 — селішча.
II. Селішча Тарылава Браслаўскага раёна. Комплекс знаходак з камня, косці, гліны,жалеза.

кручкі (табл. 16/I: 1—6, 9—11) можна падзяліць на 2 тыпы. Кручкі I тыпу (табл. 16/I: 1—4) не маюць на канцы шыпа. У кручкоў 2 тыпу на адным канцы знаходзіцца востры шып, а на другім — патаўшчэнне ці пятля для прывязвання вяроўкі (табл. 16/I: 5, 6, 9). Рыбалоўныя кручкі шырока вядомы як на ранніх помніках жалезнага веку, так і на раннесярэднявечных, помніках 2-й паловы I тысячагоддзя н.э. (Митрофанов, 1970, рис. 7: 12—13).

Для рыбнай лоўлі ўжывалі адна-, двух- і трохзубцовыя восці (табл. 16/I: 13, 14). Сустракаюцца знаходкі і гліняных грузілаў. Аснову калекцыі рыбалоўных прылад складаюць жалезныя кручкі. Найбольш рэпрэзентатыўнай з'яўляецца калекцыя з Пруднікаў (9 экз.). Стратыграфічна тут кручкі прадэманстравалі наступную залежнасць.




**Табл. 17.** І. Гарадок Полацкага раёна. План гарадзішча і матэрыялы з раскопак: 1—5 — жалеза; 6—7 — гліна. ІІ. Гарадзішча Свіла-1 Глыбоцкага раёна. Матэрыялы з раскопак А.Р. Мітрафанава і аўтара.

Нам удалося прасачыць прымеркаванасць некаторых марфалагічных груп кручкоў да пэўных храналагічных рубяжоў. Адзін з найбольш ранніх кручкоў (IV—VI стст.) мае занадта доўгае цаўё і невялікі абушок без бародкі. Малазачэпістасць і нязручнасць для насадкі, магчыма, сведчыць аб нераспрацаванасці ўловістай формы. Адначасова з гэтым кручком існуюць вырабы з прынцыпова іншай канструкцыяй. Два буйныя кручкі з бародкамі (адзін з селішча мае класічную форму (табл. 16/I: 9), што пераважае і ў нашы дні. Даўжыня кручкоў 6—8 см. Сустракаецца такая форма і ў больш позніх матэрыялах Пруднікаў: на селішчы ў пластах VII—X стст. (табл. 16/I: 7—9), на гарадзішчы да часоў XIII ст. (прадстаўлены фрагментамі (табл. 16/I: 4, 6). Прызначаліся яны для лову буйных драпежных рыб і ўваходзілі ў аснашчэнні перамёта (шнура) ці буйных вудзільнаў, жэрліц.

Два кручкі з пластоў VII—VIII стст. знойдзены ў адным квадраце, маюць рысы, тыповыя для кручкоў паплаўковай вуды (табл. 16/I: 1, 2). Гэтыя невялікія вырабы (даўжыня 2,7 і 3,7 см) з кароткім нахіленым цаўём і шырокім абушком з выгнутым джалам без бародкі. Да аснады вудзільнаў адносяцца і гліняныя вырабы (табл. 16/I: 10, 11), якія маглі служыць грузіламі (Шадыра, Ляшкевіч, 2000, с. 53—55).




**Табл. 18.** I. Варганы Докшыцкага раёна. Знаходкі з селішча 3-й чвэрці I тыс. н.э. (Паводле Г.В.Штыхава).
II. Лукамль Чашніцкага раёна. Знаходкі з селішча (1,3,5,6,8—18); гарадзішча (2,4,7) (Раскопкі Г.В.Штыхава).
III. Дарахі Гарадоцкага раёна. Комплекс знаходак трэцяй чвэрці I тыс. н.э. з курганоў з трупаспаленнем (Раскопкі Г.В.Штыхава): 1—3,6,8-10 — жалеза; 5 — бронза; 7 — косць.

Восці прадстаўлены двума жалезнымі наканечнікамі. Наканечнік з абламаным насадам і з даўжынёй зубца 11 см, відаць, паходзіць ад восці, якая складалася з трох асобных каленчатых зубцоў (табл. 16/I: 13). Другая восць мела наканечнік агульнай даўжынёй 19 см і зубцом 11 см. Яна адносіцца да катэгорыі шматзубых, якія складаліся з дзвюх сіметрычных частак (табл. 16/I: 14). Восці з'яўляюцца ў старажытнарускім матэрыяле ў другой палове XII — пачатку XIII стст. Восць з гарадзішча Пруднікі паходзіць са значна ранейшых пластоў — VII—VIII стст. (пласт 8). Падобная восць ёсць у матэрыялах селішча 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. ва ўрочышчы Тарылава Браслаўскага раёна (табл. 16/II: 1), селішча Шугайлава на Смаленшчыне (Шмидт, 2003, табл. 13: 15). Гэтыя помнікі зближае фактар наяўнасці аблітой керамікі, што дазваляе адносіць іх да аднаго роднаснага насельніцтва (Шадыро, 2000, с. 194—198, рис. 4, 5: 1). На адначасовым гарадзішчы Кентэ ў Латвіі (нізоўі Заходняй Дзвіны — Даўгавы — ***В.Ш.***) у плане асартыменту рыбалоўных прылад назіраецца аналагічная сітуацыя: поўнасцю адсутнічаюць рэшткі сетак і снасцей і абсалютна дамінуюць разнастайныя кручкі (Stubavs, 1976, с. 88).

***Дэталі касцюма і ўпрыгожанні.*** Характэрнай дэталлю касцюма з'яўляліся разнастайныя зашпількі — шпількі і спражкі. Раннесярэднявечнае насельніцтва працягвала па-ранейшаму выкарыстоўваць шпількі з галоўкай у выглядзе старажытнапастушага посаха. Жалезныя і бронзавыя посахападобныя шпількі даўжынёй 8—10 см і болей вядомы на помніках 3-й чвэрці як у Беларусі (Некасецк, Засвір, Мікольцы і інш.), так і на Смаленшчыне (Дзямідаўка) (Митрофанов, 1966, рис. 4: 18; 237, рис. 11—48; Шмидт, 1970,




**Табл. 19.** I. Гарадзішча Клішына Крупскага раёна. Бронзавыя ўпрыгожанні 2-й пал. I тыс. н.э.
II. Гарадзішча Клішына Крупскага раёна. Скарб жаночых упрыгожванняў VI—VIII стст. н.э.:
1 — скроневыя колцы з срэбра; 2 — бронзавыя спіралепадобныя пранізкі; 3 — бронзавыя бранзалеты.

рис. 3: 18; Археалогія Беларусі, т. 2, 1999, мал. 130: 1; Звяруга, 2005, мал. 66: 5). Падобныя знаходкі вельмі характэрныя для тэрыторыі балцкага арэала і служылі яны для зашпільвання адзення і адначасова для ўпрыгожвання. Посахападобныя шпількі, як азначалася вышэй, атрымалі шырокае распаўсюджанне ў розных культурах жалезнага веку (лужыцкай, зарубінецкай штрыхаванай керамікі і днепрадзвінскай). Аднак бадай толькі ва ўсходнелітоўскіх, латгальскіх і банцараўскіх старажытнасцях працягваюць ужывацца ў 2-й палове I тысячагоддзя н.э. Гэты факт дазволіў у свой час В.В. Сядову лічыць гэтыя вырабы балцкімі этнапаказальнымі рэчамі (Седов, 1967, с. 129—146). Знаходкі посахападобных шпілек на помніках разглядаемай тэрыторыі, дзе адсутнічаюць ранняя формы керамікі і зыходзячы з прыбалтыйскіх аналогій (Стубавс, 1959, табл. 1: 26; Седов, 1967, с. 129—148) можна датаваць V—VI стст. н.э., а ў некаторых выпадках, напрыклад як на паселішчах Пруднікі, і больш познім часам.

***Жалезныя спражкі*** (табл. 18/III: 2, 3) па форме набліжаюцца да В-падобных. Бліжэйшыя аналогіі гэтым вырабам шырока прадстаўлены ў старажытнасцях культуры ўсходнелітоўскіх курганоў, у тым ліку і на тэрыторыі Беларускага Панямоння (Засвір, Пільвіны, Паніззе, Жэлядзь, Чорная Лужа) (Археалогія Беларусі, т. 2, 1999, с. 388, мал. 132: 5—7, 134: 3). Вялікая колькасць такіх спражак была выяўлена і на яцвяжскіх каменных курганах у Занямонні (Літва) і паўночна-ўсходняй Польшчы (Сувалкія) (Медведев, 1996, с. 58). Такія спражкі з'явіліся ў Цэнтральнай Еўропе (350—450 гг. н.э.) і выкарыстоўваліся да пачатку VI ст. На тэрыторыі Беларусі В-падобныя спражкі ўжываліся да VI—VII стст. (Археалогія Беларусі, т. 2, 1999, с. 388).

Авальныя ці круглыя па форме спражкі (табл. 18/III: 3) сустракаюцца часцей і яны шырока прадстаўлены на значных абшарах Усходняй Еўропы ў сярэдзіне і 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э.

***Іншыя вырабы з жалеза.*** Пры раскопках гарадзішча Цясты выяўлена вялікая колькасць фрагментаў ад жалезных *пласцінкавых бранзалетаў*. Іх шырыня 0,6—0,7 см, таўшчыня 0,2—0,3 см (табл. 3/II: 1, 9, 10), дыяметр бранзалетаў — 6—7 см. Мясцовая вытворчасць гэтых упрыгожанняў безумоўная, што пацвярджаецца знаходкай нарыхтоўкі пласціны для вырабу бранзалетаў. Нарыхтоўка мае даўжыню 27 см і паўсферычнае сячэнне. Гладкія жалезныя бранзалеты былі шырока распаўсюджаны ў лясной зоне Еўропы. Я.А. Шмідт мяркуе, што асноўная маса іх выраблялася пасля рубяжа н.э. па больш старажытных бронзавых узорах латэнскіх тыпаў (Шмидт, Третьяков, 1963, с. 170, 171).

Сярод вырабаў з жалеза на селішчы Пруднікі знойдзены *пінцэтападобныя вырабы*. Ручка ў папярочным сячэнні авальная, моцна пашыраецца ў бок рабочага канца. Абодва канцы загнутыя, трэба думаць, унутр. Даўжыня вырабу 9,2 см, шырыня рабочага канца 3,3 см. Цэлы пінцэт з бронзы выяўлены Г.В. Штыхавым на гарадзішчы Лужасна пад Віцебскам (Штыхаў, 1992, мал. 20: 4). Падобныя вырабы з жалеза і бронзы вядомы сярод старажытнасцей тушамлінскай культуры (Дзямідаўка — Смаленшчына; Нікадзімава — Магілёўшчына). Бронзавы пінцэт паходзіць з доўгага кургана ў Ліндоры, бліжэйшая аналогія вядома ў эсцкага могільніка Ябара і датуецца V—VI стст. н.э. (Седов, 1974, с. 34). Да сярэдзіны I тысячагоддзя н.э. адносяцца і іншыя прыбалтыйскія пінцэты, аналагічныя ліндорскім (Moora, 1929, s. 147, 148, tabl. XXX, 5). В.В. Сядоў лічыў, што гэтыя артэфакты з'яўляюцца на тэрыторыі лясной зоны Рускай раўніны ў перыяд Вялікага перасялення народаў з правінцыяльна-рымскіх рэгіёнаў (Седов, 1998а, с. 63).

***Вырабы з бронзы.*** Бронзаліцейная вытворчасць, як галіна хатняга рамяства ў эпоху ранняга сярэднявечча, была на даволі высокім узроўні. Абломкі тыгляў сустрэты на кожным паселішчы. Плаўка бронзы і адліўка бронзавых упрыгожанняў праводзілася ў жылых памяшканнях. Відаць, спецыяльных майстэрняў у другой палове I тысячагоддзя н.э. яшчэ не было. Вырабам бронзавых упрыгожанняў, хутчэй за ўсё, займаліся асобныя сем'і. У калекцыю з Беларускага Падзвіння ўваходзяць спражкі, скроневыя бляшкі, трапецападобныя падвескі, кольцы, акулярападобная падвеска, пранізкі. Асноўная маса бронзавых знаходак паходзіць з гарадзішча і селішча Пруднікі (табл. 20).

Рэдкай знаходкай з'яўляецца акулярападобная падвеска (табл. 12: 10; 30/I: 1), знойдзеная на гарадзішчы Цясты. Яна выраблена з круглага ў сячэнні дроту таўшчынёй 0,2 см. Канцы закругленыя ў спіраль, вяршыня адагнута ўбок і зноў загнута ўверх. Менавіта гэта дэталь і адрознівае наш экземпляр ад шматлікіх аналагічных вырабаў, спецыяльна прааналізаваных А.А. Егарэйчанкам (Егорейченко, 1991, с. 171—181). Як адзначае даследчык, распаўсюджванне падвесак у заходнім рэгіёне звязана з уплывам лужыцкай культуры і іх экспарт ва ўсходнім напрамку больш верагодны (Егорейченко, с. 175). Гэты факт пацвярджаецца складам металу літоўскіх падвесак, якія па даных Э. Грыгалавічэне і А. Мяркявічуса, мае заходняе паходжанне (Григалавичене, Мяркявичюс, 1980, с. 110). На Падзвінні, акрамя нашай знаходкі, падобныя вырабы знойдзены ў скарбе канца V ст. н.э. у Кокумуйжы ў Латвіі і ў Люцынскім скарбе (Егорейченко, 1991, с. 173, рис. 2, карта). Датаваць дакладна нашу знаходку цяжка, але калі ўлічыць стратыграфічны паказчык і адпаведныя артэфакты, то яе можна аднесці да сярэдзіны I тыс. н.э.

*Трапецападобныя падвескі* (табл. 20: 26—33). Сустракаюцца даволі часта. Колькасна яны пераважаюць у заходніх рэгіёнах. Даволі шмат іх знойдзена ў Прудніках. Тыпалагічна можна выдзеліць 2 тыпы прывесак, ці падвесак. Зыходзячы з іх памераў: 1) да 3 см вышынёй, 2) да 5 см. Першыя вядомы яшчэ з эпохі жалезнага веку і ўжываюцца ў 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. З VII—VIII стст. н.э. з'яўляюцца класічныя падвескі строга вытрыманай формы вялікіх памераў. Практычна ўсе яны ўпрыгожаны штампаваным арнаментам у выглядзе некалькіх радоў кропак (*від А*) ці канцэнтрычных акружнасцей у цэнтры падвескі (*від Б*). Падобным падвескам можна знайсці шматлікія аналогіі ў доўгіх курганах на Смаленшчыне, у латгальскіх пахаваннях VIII—X стст. ва ўсходнелітоўскіх старажытнасцях 2-й палові I тысячагоддзя н.э. у старажытнасцях банцараўскай культуры (Куликаускене, 1953, с. 217; Седов,




**Табл. 20.** Пруднікі Міёрскага раёна. Бронзавыя ўпрыгожванні 2-й пал. І тыс. н.э. з гарадзішча і селішча.




**Мал. 6.** Тэхналагічныя схемы вырабу жалезных прадметаў 2-й пал. I тыс. н.э. з Беларускага Падзвіння:
1 — Задзееўскае; 2—3 — Пруднікі (селішча); 4 — Лужасна; 5—9 — Рацюнкі.
Умоўныя абазначэнні: а — жалеза; б — сталь; в — трохлопасны пакет; г — вварка стальной рабочай часткі;
д — наварка стальнога ляза; е — псеўдапакет.

1974, с. 33, табл. 23: 27—34; Митрофанов, 1966а, с. 228, рис. 4: 9, 11; Штыхов, 1978, рис. 18: 15—16; Звяруга, 2005, мал. 69: 2, 4, 12, 20—24). Трапецападобныя падвескі выкарыстоўваліся як элементы ўпрыгожання жаночых галаўных венчыкаў, уваходзілі ў склад скроневых кольцаў і шыйных грыўняў. Прывескі былі, відаць, падвешаны і да трохрогай бронзавай лунніцы з гарадзішча-сховішча Свіла 1 (табл. 17/II: 5). Пацверджаннем таму з'яўляецца аналаг лунніцы з прывескамі з Банцараўскага гарадзішча (Митрофанов, 1967а, с. 259, рис. 2: 9; Археалогія Беларусі, т. 2, 1999, мал. 120: 10). У Віцебску і ў ніжнім пласце Старой Ладагі (VII—VIII стст.) знойдзены каменныя ліцейныя формы для адліўкі гэтых лунніц (Штыхов. Отчет 1972 г. Архіў ІГ НАНБ, спр. № 413).

Доўгі час лічылася, што трапецападобныя падвескі маюць «балцкае» паходжанне. У даследаваннях апошніх гадоў канкрэтныя ўпрыгожанні, якія характэрны для культуры доўгіх курганоў ужо не разглядаюцца як маркеры пэўнай культурна-этнаграфічнай супольнасці. Яны расцэньваюцца, хутчэй за ўсё, як паказчык культурных кантактаў і «ўспышкі» моды на тэрыторыі ад Сярэдняга Падунаўя да Верхняга Падняпроўя ў VII—VIII стст. н.э. На тэрыторыі Падзвіння і Верхняга Падняпроўя трапецападобныя падвескі ўжываюцца больш працяглы час: мода перарастае ў традыцыю. Паказальна, што гэты тып шырока сустракаецца ў прыбалтыйскіх старажытнасцях трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н.э. (Гавритухин, 1997, с. 43—58). З Верхняга Падняпроўя праз Падзвінне, у сувязі з пашырэннем кола старажытнасцей культуры смаленска-полацкіх курганоў, падобныя падвескі пападаюць у Прыбалтыку. Па падліках В.В. Янукова, трапецападобныя падвескі з чаканным арнаментам сустрэты ў 27 пахаваннях Смаленшчыны і ў 15 комплексах на тэрыторыі Беларусі (Енуков, 1990, с. 58). Можна дапускаць, што згаданыя падвескі паходзяць з традыцый асяродка банцараўска-тушамлінскіх старажытнасцей, хаця прамыя прататыпы тут невядомы. Больш раннія экземпляры маюць меншыя памеры і аздобленыя разнастайнымі камбінацыямі кропак. Прыкладам можа служыць вышэйзгаданы экземпляр з гарадзішча Банцараўшчына.

*Пранізкі* (26 экз.) знойдзены на некаторых помніках (Пруднікі, Вышадкі, Гарадок, Клішына) даўжынёй 2—7 см, можна сустрэць сярод старажытнасцей 3-й чвэрці I тысячагоддзя як з Беларусі (Гарадзішча, Новы Быхаў і г.д.), так і сумежных тэрыторый (Акатава, Узмень). Шмат аналогій маецца ў

раннесярэднявечных старажытнасцях Латвіі і Літвы 2-й паловы I тысячагоддзя н.э. у доўгіх курганах і наўгародскіх сопках (Минасян, 1972, с. 19; Митрофанов, 1978, рис. 53: 14; 58: 21; Седов, 1970б, табл. XIV: 15. 17; 1974, с. 32, табл. 23: 6—17; Шмидт, 1963, рис. 12: 3). Асабліва шырокае распаўсюджанне падобныя пранізкі атрымалі з VII—VIII стст. у латгалаў, дзе яны ўваходзілі ў склад жаночых галаўных вянкоў-вайнагаў і наплечных хустак-вілайнэ (Зариня, 1959, с. 510—522; 1960, с. 203—216; Šnore, 1978, 32: 4 att.; Радиньш, 1999). Плямёны ўсяго Беларускага Падзвіння і сумежных тэрыторый таксама выкарыстоўвалі спіралькі-пранізкі ў якасці элементаў галаўных і шыйных упрыгожанняў (табл. 30, 31, 19).

*Скроневыя колцы* (6 экз.). Нешматлікія скроневыя колцы можна падзяліць на 3 тыпы. Да **I тыпу** адносяцца бранзалетападобныя скроневыя колцы дыяметрам 5—7 см з завіткамі на канцах (табл. 17/II: 4) з паселішчаў Пруднікі, Свіла 1, Бельчыцы (Мітрафанаў, Каробушкіна, 1975, мал. 1; Штыхов,1978, рис. 28: 12). Бліжэйшым аналагам можна назваць экземпляр са Строчыцкага гарадзішча пад Мінскам. Падобныя колцы вядомы ў славянскіх помніках VII—VIII стст. н.э. Польшчы, у доўгіх курганах Пскоўшчыны. Хутчэй за ўсё да VII—VIII стст. н.э. адносяцца падобныя ўзоры і на помніках банцараўскай культуры. Да **II тыпу** можна аднесці скроневыя колцы са злёгку патоўшчанымі канцамі са скарбу гарадзішча Клішына (табл. 19/II: 1). Аналагам яму можа служыць экземпляр з гарадзішча Дзямідаўка на Смаленшчыне (Шмидт, 1966, с. 203, рис. 2: 11). **III тып** (табл. 20: 20) прадстаўлены ў выглядзе колца дыяметрам 6 см перавітым дротам. На канцах дрот пераходзіць у спіралі, да якіх прымацаваны дзве бронзавыя трапецападобныя прывескі. Падобныя экземпляры былі знойдзены на гарадзішчы Баронікі пад Віцебскам. Па стылю яны набліжаюцца да скроневых колцаў з прывескамі са смаленскіх доўгіх курганоў (Седов, 1974, табл. 26: В). Скроневыя колцы як з разглядаемай тэрыторыі, так і сумежных, можна супастаўляць з некаторымі іншымі вырабамі, якія вельмі падобны да іх і якія з’яўляліся, хутчэй за ўсё, бранзалетамі.

*Бразготкі, званочкі* (8 экз.). Адным з элементаў жаночых упрыгожанняў з’яўляліся бронзавыя бразготкі з крыжападобнай прарэзкай (табл. 20: 12, 13), а таксама званочкі (табл. 20: 23, 24). Падобныя бразготкі і званочкі шырока сустракаюцца ва ўсходнелітоўскіх курганах і латгальскіх пахаваннях (Волкайте-Куликаускене, 1975, с. 94—95, рис. 6: 2; Šnore, 1978, 72 lpp.). Знойдзены яны ў Цэнтральнай, Паўднёвай Беларусі і на Смаленшчыне (селішчы Некасецк, Дзядзілавічы, Семурадцы, Кісялі, Вераб”ёўка, Кіслая і інш. помніках) (Митрофанов, 1966, рис. 4: 22; Поболь, 1969, рис. 27: 32; Сымонович, 1974, рис. 4: 12). Адзін з тыповых экземпляраў з селішча Пруднікі (табл. 20: 13) мае наступныя характарыстыкі. Па форме ён нагадвае сплошчаны шар з крыжападобнай прарэзкай у ніжняй частцы. Уверсе размешчана крыху падоўжаная пяцелька. Даўжыня вырабу (па знешнім абводзе) 0,7 см, шырыня 0,5 см, даўжыня 0,5 см, шырыня 0,35 см. Верхняя плоскасць гладкая, аддзеленая ад ніжэйляжачай часткі пракрэсленай лініяй. З уплошчаных бакоў ён упрыгожаны па вяршынях ад лініі да перакрыжавання паралельна пракрэсленымі лініямі. Згодна з стратыграфічным паказчыкам дадзены выраб датуецца апошняй чвэрцю I тысячагоддзя н.э. Храналагічны дыяпазон вырабаў у выглядзе званочкаў выпадае галоўным чынам на другую палову I тысячагоддзя н.э.

*Спражкі* (8 экз.). Сярод спражак галоўнае месца займаюць засцежкі падкovападобнай формы з канцамі, закручанымі ў спіраль. Сячэнне можа быць круглым (табл. 20: 9), трохкутным (табл. 20: 7), авальным (табл. 18/III: 3). Акрамя Прудніксіх экземпляраў, падобныя спражкі знойдзены ў Кастрыцы, Лукамлі, Вышадках (Штыхов, 1978, рис. 20: 3, 44: 14). Па меркаванню літоўскіх даследчыкаў, падобныя вырабы з’яўляюцца ў балцкім асяродку з VIII ст. (Vaakevičiūte, 1986, p. 83—84). Гэтым часам датуюцца і экземпляры з помнікаў Беларускага Падзвіння.

Аснову калекцыі бронзавых вырабаў Беларускага Падзвіння на сённяшні дзень складаюць у асноўным матэрыялы з паселішчаў Пруднікі. Па дадзеных артэфактах можна даць характарыстыку бронзаліцейнай вытворчасці насельніцтва рэгіёна. Матэрыялы раскопак сведчаць аб самастойнай бронзаліцейнай вытворчасці. Гэта пацвярджаецца знаходкамі цэлых і некалькімі дзесяткамі абломкаў тыгляў, у якіх плавілі бронзу. Акрамя тыгляў, знойдзена звыш 10 цэлых гліняных ільячак, у якіх плавілі і разлівалі металы з нізкай тэмпературай плаўлення — волава, свінец (табл. 28/II). У бронзавую калекцыю, напрыклад, з Прруднікаў уваходзяць даволі разнастайныя і па-майстэрску зробленыя вырабы, а таксама ліцейныя формачкі ад разнастайных бронзавых упрыгожанняў. Падчас нашых раскопак знойдзены шматлікія жаночыя ўпрыгожанні з бронзы (табл. 20). Гэта скроневыя колцы ў выглядзе круглай бляшкі па краях аздоблены чаканным кропкавым арнаментам і, акрамя таго, пунсоннымі кружкамі (табл. 20: 37). Падобнае ўпрыгожанне знойдзена Л.У. Дучыц пры раскопках курганнага могільніка каля в. Лясной Міёрскага раёна. Вядомы яны ў Латвіі (Зілупе, Мадаланс) (Мугуревич, 1965, с. 92, рис. 40). Вывучаючы Стараладажскае гарадзішча, О.I. Давыдан аднесла гэтыя старажытнасці да VIII—IX стст.




**Мал. 7.** Размеркаванне розных тыпаў керамікі па пластах з пасяленняў Браслаўскага Паазер'я (заходні рэгіён): Тарылава — гарадзішча (1), селішча (2); Зазоны — гарадзішча (3), селішча (4); Рацюнкі — гарадзішча.

Даследчыца падкрэслівае, што падобныя знаходкі маюцца ў смаленска-полацкіх доўгіх курганах (Давидан, 1976, с. 115). Э.С. Мугурэвіч сцвярджае, што гэтыя ўпрыгожанні папалі ў Латвію не раней X ст. з Прыладажжа (Мугуревич, 1965, с. 95). Падковападобныя спражкі (табл. 20: 8) ромбападобнага сячэння з загнутымі канцамі шырока распаўсюджваюцца ў VIII—X стст. Падобныя рэчы вядомы са скарба ў Ціраспурсе (Латвія) (Urtans, 1977, 71: 1. att). Цікавасць уяўляюць 2 пярсцёнкі: 1) рубчатаканечны (табл. 20: 34, 35) (Шадыра, 1993г, с. 180, мал. 3: 27, 28) з'яўляецца адным з варыянтаў пярсцёнкаў, вядомых у літаратуры, як «вусатыя». Падобныя пярсцёнкі сустрэты на Готландзе, у Фінляндыі, Прыбалтыцы, паўночна-заходнім рэгіёне Наўгародскай зямлі. Датыроўка іх выпадае на XI—XIII стст. (Selirand, 1974, s. 352, 353). 2) Пласцінкавы пярсцёнак з разамкнутымі канцамі (Шадыра, 1993, с. 180, мал. 3: 25) аздоблены пукатымі падоўжанымі лініямі. Аналагічны пярсцёнак знойдзены ў Ноўгарадзе ў пластах XI ст. (Седова, 1981, рис. 46: 14). Пералічаныя рэчы знойдзены ў пластах VII—IX стст. н.э., што дазваляе нам меркаваць аб больш раннім іх ужыванні. Нагадаем, што верхняя дата селішча Пруднікі — канец X ст.

Крыжападобная шпілька (табл. 20: 1) з'яўляецца рэдкай знаходкай на Беларусі. Падобная знойдзена Т.С. Бубенька на Ніжнім замку ў Віцебску і С.В. Тарасавым у Полацку (Тарасаў, 1998). Гэтыя вырабы шырока вядомы сярод старажытнасцей VII—VIII стст. Латвіі і Літвы. Трохі пазней гэта форма распаўсюдзілася і атрымала далейшае развіццё ў эстаў (Selirand, 1974, tab. XXIV). Падобныя шпількі




**Мал. 8.** Графік размеркавання колькасці ляпных сасудаў у залежнасці ад іх вышыні ў курганах 3-й чвэрці I тыс. н.э. Беларускага Падзвіння.

ў Ноўгарадзе лічацца прыбалтыйскім імпартам. Шпількі з крыжападобнай галоўкай знойдзены ў курганах паўночна-заходняга рэгіёна Наўгародскай зямлі сярод старажытнасцей водзі. Наш экземпляр па прыбалтыйскіх аналогіях можна адносіць да VIII—IX стст. н.э. З іншых бронзавых рэчаў можна адзначыць: бразготку з крыжападобнай прарэзкай VIII—XI стст. (табл. 20: 13), умбонападобныя бляшкі VIII—X стст. (табл. 20: 38), званочкі V—VIII стст. (табл. 20: 23, 24). Бліжэйшыя аналогіі ўсім гэтым знаходкам маюцца ў старажытнасцях Прыбалтыкі другой паловы I тысячагоддзя н.э. (Kulikauskas, Kulikauskiene, Tautavičius, 1961, p. 347, 254: 56 par., p 462, 330 par; Stubavs, 1981, IV: 1,3—6 tab.; Urtans, 1967, 178 lpp., 86: 10, 11, 16 att.; Šnore, 1978, VII tab.). Тонкія бронзавыя пласцінкі, упрыгожаныя ўцісканнямі (табл. 20: 21, 22) з'яўляюцца, відаць, фрагментамі накладкі паяснога рэменя. Падобныя знаходкі вельмі рэдкія. І.Г. Разенфельд тлумачыць гэта тым, што паясы, упрыгожаныя такімі наканечнікамі і накладкамі, не былі прадметамі масавага ўжытку, а выкарыстоўваліся, відаць, пры выкананні культавых абрадаў. Яна таксама ўказвае на аналогію падобным вырабам у прыбалтыйскіх старажытнасцях і адносіць іх да другой паловы I тысячагоддзя н.э. не пазней VIII ст. (Розенфельд, 1982, с. 124).

***Вырабы з гліны.*** *Керамічны матэрыял*. Роля керамікі ў археалагічных даследаваннях вельмі вялікая. Яна адлюстроўвае найбольш устойлівыя традыцыі, што склаліся ў асяроддзі роднасных па мове плямёнаў і перадаваліся з пакалення ў пакаленне на працягу многіх стагоддзяў. Асаблівасці вырабаў, уласцівыя толькі дадзенай групе роднасных плямёнаў, формы пасудзін, іх прапорцыі, безумоўна, былі звязаны з канкрэтным этнасам. Таму керамічны матэрыял з'яўляецца найважнейшай і вызначальнай рысай любой археалагічнай культуры. Кераміка — найбольш масавы матэрыял, які сустракаецца падчас раскопак помнікаў Беларускага Падзвіння ў акрэсленым перыяд.

Найбольшае значэнне пры рабоце з керамікай мае яе падрабязная тыпалогія, зробленая па адзінаму прынцыпу. Існуе шмат спосабаў тыпалогіі керамікі, якія адлюстроўваюць яе мясцовую спецыфіку. У нашым выпадку мы аддаём перавагу тыпалогіі І.П. Русанавай (Русанова, 1976, с. 10—11). Як адзначала І.П. Русанава, у розных рэгіёнах культур другой паловы I тысячагоддзя н.э. ўласцівы пэўныя формы ляпных пасудзін, якія мелі характэрныя прапорцыі. Адрозненні паміж керамікай асабліва яскрава бачны па месцы найбольшага пашырэння тулава — у сярэдняй частцы ці ў верхняй трэці, па большай ці меншай прафіляванасці, па прыземістасці ці выцягнутасці пасудзін (Русанова, 1976, с. 10). Пры супастаўленні розных формаў посуду для параўнання разглядаюцца асноўныя прапорцыі па іх асобных памерах (табл. 21/I). Суадносіны чатырох прамераў і дзвюх іх прапорцый з'яўляюцца найбольш важнымі. Падчас работы з масавым матэрыялам розных рэгіёнаў Падзвіння мы ўслед за І.П. Русанавай улічвалі суадносіны вышыні посуду (H) і вышыні яго найбольшага пашырэння ($H_1$), а таксама суадносіны дыяметра найбольшага пашырэння ($D_2$) і дыяметра горла ($D_1$). Гэтыя прапорцыі даюць магчымасць выдзяліць тыпы. Адрозненні ў суадносінах дыяметра дна ($D_3$) і горла ($D_1$), дыяметра найбольшага пашырэння ($D_2$) і вышыні гэтага пашырэння ($H_1$) даюць падставы выдзеліць варыянты ўнутры кожнага тыпу. Як вядома, храналагічныя паказчыкі ў кераміцы звычайна даюць змяненні ў верхняй частцы пасудзіны — шыйка і венчык. Асаблівасці ў гэтых прызнаках таксама даюць магчымасць разглядаць варыянты посуду пэўнага тыпу. Наша калекцыя керамічнага матэрыялу прадстаўлена ў асноўным фрагментамі і гэта стварае цяжкасці ў правядзенні класіфікацыі.

Пры разглядзе керамічнага матэрыялу з Беларускага Падзвіння ўлічваліся асаблівасці апрацоўкі паверхні посуду, іх арнаментацыя і дамешкі ў гліняным цесце.

Такім чынам, пры вывучэнні форм глінянага посуду выкарыстана методыка класіфікацыі керамікі, распрацаваная І.П. Русанавай (Русанова, 1976, с. 10—11). Для пасудзін, у якіх найбольшае пашырэнне,




**Табл. 21.** I. Схема замераў для высвятлення прапорцый сасудаў.
II. Пруднікі Міёрскага раёна. Узоры глінянага посуду 2-й пал. I тыс. (заходні рэгіён Беларускага Падзвіння):
1—9 — селішча; 10 — гарадзішча.
III. Тыпалогія керамікі V—VIII стст. З помнікаў Беларускага Падзвіння:
1 — Янкавічы (Павалішынскі могільнік, к. 4); 2 — Янкавічы (Атокінскі могільнік, к. 1); 3 — гарадзішча Заронава (верхні пласт); 4 — селішча Гарадок; 5—6 — Субаўшчына (доўгі курган); 7 — Старое Сяло (курганны могільнік); 8 — Пруднікі (гарадзішча, ніжні пласт); 9 — Лукомльскае гарадзішча (ніжні пласт); 10 — Цясты (гарадзішча, верхні пласт); 11,13—15 — Пруднікі (селішча); 12,16 — Дарахі.

знаходзяцца на розных узроўнях вышыні тулава, схема, распрацаваная І.П. Русанавай з'яўляецца цалкам прыдатнай (Русанова, 1976). Усечана-канічныя формы (вёдрападобныя), якія выпадаюць з гэтай схемы, вылучаны намі ў асобны тып.

Вывучэнню падвяргаўся гліняны посуд, атрыманы з раскопак гарадзішчаў: Пруднікі, Гарадок, Кастрыца, Карлаўка, Барсукі, Цясты, Урагава, Вышадкі, Бароўна, Свіла 1, Загаваліна, Маскавічы, Клішына; селішчаў: Пруднікі, Тарылава, Зазоны, Лукамль, Варганы, Лужасна; курганоў: Субаўшчына, Янкавічы (Павалішына), Янкавічы (Атокі), Баркі, Дарахі; ніжніх пластоў гарадоў: Віцебска, Полацка, Браслава, Лукамля. Класіфікацыя праведзена па цэлых пасудзінах (звыш 20) і шматлікіх фрагментах. Увесь посуд ляпны і фармаваўся шляхам стужкава-кальцавога налепу. Шырыня стужак складала 3—7 см. Донцы плоскія. У якасці сыравіны выкарыстоўваліся звычайныя мясцовыя жоўтыя гліны. Большасць абломкаў утрымлівае дамешкі жарствы.

У залежнасці ад апрацоўкі сценак пасудзіны падзяляюцца на 2 групы: ***I*** — гладкасценныя, ***II*** — аблітыя. У гладкасценных можна выдзеліць 2 падгрупы: 1 — найбольш рэпрэзентатыўная складаецца з посуду, у гліняным цесце якіх знаходзіцца шмат буйной жарствы. Таму паверхня бугрыстая, шурпатая. Большасць відаў гэтай падгруппы мае сярэднія памеры: вышыня не больш 30 см, а дыяметр горла 20—25 см. У іх гатавалася ежа. Больш буйныя служылі для захавання зерня. Таўшчыня сценак знаходзілася ў прамой залежнасці ад іх памераў і вагалася ад 0,3 да 1,2 см. У другую падгрупу ўваходзяць пасудзіны больш высокай якасці. Яны выраблены з густой, лепш адмучанай гліны. Дамешкі складаюцца таксама з жарствы, але яны больш дробныя і лепш перамешаны з глінай. Ёсць абломкі з дамешкамі не жарствы, а пяску. Паверхня сценак добра загладжана.

Так званая аблітая ці, як яе яшчэ называюць, шурпатая кераміка даволі шырока распаўсюджваецца на тэрыторыі крайняй паўночна-заходняй часткі Беларусі (на тэрыторыі Беларускага Падзвіння — гэта заходняя частка Верхнядзвінскага, Міёрскі, Браслаўскі, часткова Шаркаўшчынскі і Пастаўскі раёны — ***В.Ш.***) з сярэдзіны і ў другой палове I тысячагоддзя н.э. Да сённяшняга часу гэта кераміка застаецца яшчэ слабавывучанай. Бясспрэчна, што яна прыходзіць на нашу тэрыторыю з Літвы і Латвіі (Даугудис, 1966, с. 163—165). Прынцып вырабу посуду з аблітой паверхняй быў вядомы яшчэ з канца эпохі бронзы ў Павісленні, Мазурыі і некаторых іншых тэрыторый Польшчы, у тым ліку на землях старажытных прусаў і сумежных тэрыторый Літвы. Але тыповая аблітая кераміка ў Літве і Латвіі з'яўляецца значна пазней (Даугудис, 1966, с. 163). Кераміка, якая фіксуецца на разглядаемай тэрыторыі Беларусі (Урагава, Тарылава, Пруднікі, Зазоны, Барсукі, Цясты і г.д.) адносіцца да позняй групы. Яна мае значную шурпатасць (тэрмін «шурпатасць» можна ўжываць з пэўнымі агаворкамі — ***В.Ш.***). Гэта тлумачыцца тым, што вонкавы бок сценак посуду дадаткова пакрываўся (абліваўся) вадкім растворам гліны. Пасуда добра абпалена, і шурпатая паверхня амаль не адстае ад сценак.

Формы посуду часцей за ўсё маюць прамыя сценкі і даволі буйныя памеры. Іх вышыня дасягае 40—50 см, дыяметр — 30—40 см, а таўшчыня сценак даходзіць да 2 см. Класічным па рэпрэзентатыўнасці керамікі гэтага тыпу ў Беларускім Падзвінні служыць калекцыя з селішча і гарадзішча Пруднікі (гл. ніжэй). На тэрыторыі беларуска—літоўска—латышскага памежжа аблітая кераміка часам сустракаецца з керамікай банцараўскага аблічча (селішча Зазоны, гарадзішча Урагава). Тым не менш яна разам з гладкасценнай керамікай баначных у асноўным форм, характэрных для прыбалтыйскіх паселішчаў, з'яўляецца маркерам тэрыторыі на захад ад лініі воз. Асвея, Дзісны, левабярэжжа Дзісны — воз. Нарач — басейн Віллі (Смаргонскі раён — ***В.Ш.***).

Увесь вядомы на сённяшні дзень керамічны матэрыял па форме посуду можна падзяліць на наступныя тыпы (табл. 21/III).

**Тып I** — слабапрафіляваныя пасудзіны з найбольшым пашырэннем на ўзроўні сярэдзіны і верхняй трэці вышыні. Падоўжаныя ў верхняй частцы, яны плаўна пашыраюцца да сярэдзіны і зноў звужаюцца да донца. Дыяметр донца заўсёды меншы за дыяметр гарлавіны. Сярод гаршкоў I тыпу сустракаюцца ўзоры самых разнастайных памераў: вышынёй 10—40 см і дыяметрам горла 8—30 см. Варыянты выдзяляюцца па ступені пашырэння тулава і адагнутасці венчыка. Для гэтага тыпу ў роўнай меры характэрны донцы з карнізікам ці без яго. Перабольшвае неарнаментаваная кераміка і зрэдку сустракаецца аздабленне ў выглядзе расчосаў па тулаве. Посуд тыпу I сустракаецца па ўсім рэгіёне Беларускага Падзвіння.

**Тып II** — цюльпанападобны посуд. Падобны да слабапрафіляванага і іх часам цяжка адрозніць, бо сярод іх ёсць шмат гаршкоў пераходнага характару. У цюльпанападобных экземплярах у параўнанні са слабапрафіляванымі больш дакладна выражана шыйка і плечыка, тулава ў большай ступені пашырана.




**Табл. 22.** I. Бельчыца Полацкі раён. Курган 11. кераміка з насыпу і культурнага пласта пад ёй. 3—9 — кераміка з расчосамі (Цэнтральны рэгіён Беларускага Падзвіння).
II. Пруднікі Міёрскага раёна. Мініяцюрныя гліняныя сасуды: 2—5,7,12—17 — селішча; 1,6,8—11 — гарадзішча.

Профіль іх мае S-падобны выгляд. Верхняя частка ў большасці звужана, а край венчыка адагнуты вонкі. Сустрэты высокія і нізкія. Асноўныя прапорцыі таксама не адрозніваюцца ад прапорцый слабапрафіляваных відаў. Найбольшае пашырэнне тулава ($D_2$) размешчана пасярэдзіне ці ў верхняй частцы ($H_1$:H = 0,45—0,6), (D:$D_2$ = 1—1,05). Калі ўлічыць гэтыя прапорцыі можна вызначыць тры варыянты пасудзін.

***А*** — высокія з шырокім горлам і донцам ($D_1$:$D_3$ = 1.4—1,6).

***Б*** — высокія з шырокім горлам і вузкім донцам ($D_1$:$D_3$ = 2,3).

***В*** — невысокія з звужаным горлам і шырокім донцам ($D_3$:$D_1$ = 1,1).

Па профілю верхняй часткі вызначаюцца разнавіднасці гэтага тыпу: 1) з адагнутым венчыкам слабавыяўленай шыйкай і ледзь прыкметным плечыкам; 2) з адагнутым венчыкам, кароткай шыйкай і з некалькі ўзнятым плечыкам; 3) з адагнутым венчыкам і спушчаным плечыкам. Мяркуючы па разнастайных фрагментах верхніх частак гаршкоў яшчэ вызначаюцца формы: са звужанай верхняй часткай, прамым вертыкальным венчыкам і выразна выяўленым, часам злёгку ўзнятым плечыкам, а таксама з адкрытай верхняй




**Табл. 23.** Субаўшчына Полацкага раёна. I. План курганнага могільніка.
II. Керамічны матэрыял з раскопак доўгага кургана № 6 (Цэнтральны рэгіён).

часткай, адагнутым вонкі венчыкам, са слабавыяўленай шыйкай і плечыкамі. У іх дыяметр вусця ($D_1$) ці большы за дыяметр найбольшага пашырэння ($D_2$) ці роўны адзінцы ($D_1$:$D_2$ = 1). 7) Зрэдку сустракаюцца фрагменты гаршкоў са звужанай верхняй часткай і з пукатым тулавам, з адагнутым ці прамым вертыкальным венчыкам і выразна выяўленым плечыкам. Гэта, відаць, пераходная форма ад слабапрафіляваных ці цюльпанападобных да акруглабокіх. Часцей фіксуюцца на Полаччыне і ў Віцебскім Падзвінні.

**Тып III** — акруглабокія. Іх знойдзена таксама мала. Гэта прыземісты посуд з пукатымі акруглымі бакамі і са звужанай верхняй часткай. Варыянты звязаны з характарам венчыка: а) вертыкальны, б) адагнуты злёгку вонкі. Найбольшае пашырэнне тулава выпадае на верхнюю чвэрць. Дыяметр найбольшага пашырэння ($D_2$) большы за дыяметр горла ($D_1$).

**Тып IV** — слоікападобныя экземпляры амаль непрафіляваных формаў. Яны падобныя да цыліндра са злёгку выцягнутым на ўзроўні сярэдзіны тулавам. Сярод іх пераважаюць сярэдніх і вялікіх памераў вышынёй 15—40 і дыяметрам горла 15—30 см. Сустракаюцца і невялікія гаршкі вышынёй да 10 см. Тут таксама маецца пасуда выцягнутых прапорцый і больш прыземістая. Дыяметр донца ў іх набліжаецца да велічыні дыяметра горла. Па ступені набліжэння вызначаюцца варыянты ($D_1$:$D_3$ = 1,4; 1,6; 1,8). Разнастайнасць банкападобных пасудзін звязана з наяўнасцю хоць і слаба выяўленага плечыка ці з адсутнасцю і шыйкі і плечыка. Часцей за ўсё сустракаюцца ў заходняй частцы Беларускага Падзвіння (Цясты, Пруднікі).




**Табл. 24.** Віцебскае Падзвінне:
I, II — кераміка сярэдзіны — трэцяй чвэрці I тыс. н.э.: 1,2,4—10 — Гарадок (Лугавое); 3,8 — Казінова;
III — кераміка з расчосамі: 1—13 — Гарадок (Лугавое). (Матэрыялы раскопак В.М. Ляўко).

**Тып V** — усечана-канічныя (вёдрападобныя) формы. Па сваіх прапорцыях гэта даволі падоўжаныя. Яны маюць вялікія памеры (да 40 см вышынёй). Сценкі ад плоскага донца пашыраюцца і дасягаюць максімальнага пашырэння па краі венчыка (да 30 см). Яны сустракаюцца галоўным чынам на захадзе разглядаемага рэгіёна і яскрава прадстаўлены ў керамічнай калекцыі з Пруднікаўскіх паселішчаў (больш падрабязней гл. ніжэй).

**Тып VI** — цыліндра-канічныя сустракаюцца рэдка. Гэты тып прадстаўлены пасудзінай з Дарахоў (к. 4, п. 1) і невялікай колькасцю абломкаў венчыкаў знойдзеных В.М. Ляўко на селішчы Гарадок (Левко, 1994, с. 217, рис. 2: 1—4, 7, 10—16). У цэлым такі посуд, як вядома, па профілю падзяляецца на гаршкі з цыліндрычнай, звужанай і прафіляванай верхняй палавінай. Ніжняя палова гэтых пасудзін аддзелена ад верхняй вострым ці загладжаным рабром.

Аналіз керамічнага матэрыялу з Беларускага Падзвіння дазваляе выдзеліць на поўначы Беларусі тры раёны, якія адлюстроўваюць розныя этнакультурныя сітуацыі на дадзенай тэрыторыі.

**I** — раён (заходні: ад Дзісны і ніжэй да мяжы з Латвіяй). Распаўсюджанне аблітой керамікі II групы на помніках (Пруднікі, Тарылава, Урагава, Зазоны, Браслаў і інш.) сведчыць пра асаблівасці гэтага рэгіёна. Класічным для рэгіёна і самым значным па маштабах даследавання з’яўляюцца гарадзішча і селішча







**Табл. 25.** I. Керамічны набор 3-й чвэрці I тыс. н.э. Беларускага Падзвіння і Верхняга Падняпроўя ў параўнанні з посудам папярэдніх культур эпохі жалеза: а — днепра-дзвінскай; б — культуры штрыхаванай керамікі; в — дзякаўскай; г — зарубінецкай; д — кіеўскай; е — юхноўскай. II. Керамічны набор 3-й чвэрці I тыс. н.э. з Беларускага Падзвіння ў параўнанні з формамі посуду суседніх сінхронных старажытнасцей: а — паселішчаў Латвіі; б — усходнелітоўскіх курганоў; в — культуры тыпу Карчак і Лукі Райкавецкай; г — культуры тыпу Пенькоўкі; д — мошчынскай культуры; е — наўгародскіх сопак; ж — ранніх доўгіх курганоў Пскоўшчыны.







**Табл. 26.** I. Гарадзішча Клішына Крупскага раёна. Гліняныя праселкі сярэдзіны і 3-й чвэрці I тыс. н.э.
II. Пруднікі Міёрскага раёна. Гліняныя праселкі біканічнай формы:
3,4,6,7,10,15,20,26 — селішча; 1,2,5,8,9,11—14, 16—19, 21—25 — гарадзішча.




**Табл. 27.** Гліняныя праселкі і грузікі разнастайнай формы з гарадзішча і селішча Пруднікі Міёрскага раёна.

Пруднікі. Керамічная калекцыя ляпной керамікі 2-й паловы II тысячагоддзя налічвае некалькі дзесяткаў тысяч фрагментаў глінянага посуду. Па спосабу апрацоўкі знешняй паверхні ўсе абломкі посуду можна падзяліць на 2 групы. У першую ўваходзяць гладкасценныя абломкі (55—60 %), у другую — рэшткі ад посуду з аблітой паверхняй (40 %). Па складу і характару глінянага цеста абломкі ад гладкасценнага і аблітога посуду аднолькава і змяшчаюць у сабе дамешкі ў выглядзе драблёнага граніту. Уся кераміка ляпная, добра абпаленая на вогнішчы з адносна высокай механічнай трываласцю. Колер чарапкоў розны: жоўты, з шэрымі і карычняватымі адценнямі, цёмна-шэры і чорны. Начынне даволі таўстасценнае: у сярэднім таўшчыня сценак 0,8—1 см, але трапляюцца і 1,2—1,4 см. Форма як гладкасценнага, так і аблітога посуду даволі аднастайная (табл. 21/II). Большасць пасудзін мае слабапрафіляваную вядзерцападобную ці слоікападобную форму (I, III, IV, V тыпы) (табл. 21: 1—9). Адрозніваюцца яны




**Табл. 28.** Пруднікі Міёрскага раёна.
I. Арнаментаваныя праселкі: 1—9 — з гліны; 10—13 — з косці. 1—3, 5—7, 12,13 — гарадзішча; 4, 8—11 — селішча.
II. Гліняныя тыглі і ільячкі 2-й пал. I тыс. н.э. 1—4, 8—10, 14—16 — селішча; 5—7, 11—13 — гарадзішча.

толькі верхняй часткай. Па гэтай прыкмеце кераміку можна падзяліць на 3 разнавіднасці: 1) начынне, дзе верхняя частка прамая, а сценкі конусападобныя. Яны маюць выгляд перавернутага асновай уверх усечанага конуса (табл. 21: 4); 2) цыліндрычныя, у якіх верхняя частка прамая (табл. 21: 7) і 3) начынне з увагнутай верхняй часткай і злёгку пукатым тулавам (табл. 21: 10). Начынне апошняга варыянту ў колькасных адносінах пераважае над іншымі. Да іх адносяцца і абломкі ад тэкстыльнага посуду і рэдкая кераміка з зашчэпамі на сценках. Гэта рэдкі посуд, максімальнае расшырэнне якога, прыпадае на верхнюю частку, вышыня іх большая за максімальны дыяметр пашырэння. Прыкладна 20—25 % усёй керамікі маюць арнамент у выглядзе скразных адтулін ніжэй краю венчыка.

Гладкасценны і абліты посуд знаходзяць сабе аналогіі ў адначасовых паселішчах Латвіі і Літвы (Граудонис, 1967, с. 109; Kulikauskas ir etc., 180 psl., 272 pav., 5-1 att.). На тэрыторыі Латвіі аблітая

кераміка з’явілася ў II—III ст. н.э. і «часам яе росквіту» была другая палова I тысячагоддзя н.э. (Гурин, 1987, с. 109). Падобная кераміка з селішча фіксуецца ад верхніх да ніжніх пластоў, што сведчыць аб выкарыстанні яе на працягу ўсёй другой паловы I тысячагоддзя н.э. З’яўленне аблітой (шурпатай) керамікі сведчыць аб пранікненні насельніцтва з захаду на тэрыторыю паўночна-заходняй Беларусі, ці аб моўным уплыве старажытнасцей Прыбалтыкі.

**II** — раён (цэнтральны: ад вусця Улы да вусця Дзісны — Полацкае Падзвінне). Кераміка характэрная для банцараўскай культуры, сустрэтая як на паселішчах, так і ў ранніх доўгіх курганах. Асноўныя матэрыялы атрыманы з гарадзішчаў Бароўна, Гарадок, Гаравыя, Свіла 1, Кастрыца; селішчаў Лукамль, Варганы; курганоў: Янкавічы (урочышчы Павалішына, Атокі), Субаўшчына. Асноўныя формы посуду цюльпанападобныя, слабапрафіляваныя, банкападобныя (табл. 21/III) (тыпы I, II, III). На раннім этапе зрэдку сустракаецца штрыхаваная кераміка і з расчосамі (курганы: Янкавічы, Тарылава, Бельчыцы і інш.). Кераміка з расчосамі сустрэта ў насыпах курганоў, зямля для якіх бралася з селішчаў. Датыроўка гэтай керамікі — V—VI стст., а магчыма, і больш ранняя.

**III** — раён (усходні: ад мяжы з Расіяй — да вусця Улы — Віцебскае Падзвінне). У межах разглядаемай тэрыторыі — гэта беларускае цячэнне Заходняй Дзвіны ад беларуска-расійскай мяжы да вусця Улы ці Бешанковіч (Віцебскае Падзвінне). Сустрэты пасудзіны з пашырэннем у верхняй частцы, са злёгку прыкметнай шыйкай і з плаўна адагнутым кароткім венчыкам. Верхняя частка іх мае шмат падабенстваў з днепра-дзвінскай культурай Смаленскага Падняпроўя, асабліва ў апошні перыяд яе існавання. На паверхні часта прысутнічаюць расчосы. Тут прагледжваюцца культурныя традыцыі помнікаў тыпу сярэдняга пласта Тушамлі і Заазер’я. Асноўныя тыпы керамікі (I, II, VI). Яны выяўлены на гарадзішчах Вышадкі, Старое Сяло, Казінава, Баронікі, ніжнія пласты Віцебска, на селішчах Гарадок, Лужасна, Старое Сяло, Буракова (табл. 24). Асаблівасцю гэтага рэгіёна з’яўляецца яго падабенства са старажытнасцямі тушамлінскай культуры, не выключаючы ўплыў і Банцараўскай культуры. Таму мяжу паміж гэтымі культурамі на тэрыторыі Беларускага Падзвіння можна праводзіць па рэках Обалі, Улы, Усвейкі. Гэта межаванне, як вядома, карэспандуецца з лініяй падзела заходняга і ўсходняга варыянтаў днепрадзвінскай культуры. Такім чынам, сустрэтыя асаблівасці Віцебскага Падзвіння, аб якіх гаварылася вышэй, знайшлі свой працяг і ў больш позні час.

Адметныя асаблівасці ў матэрыяльнай культуры, якія можна прасачыць у розных рэгіёнах Беларускага Падзвіння, дапаўняюць і такія артэфакты як праслiцы.

*Праселкі.* Гэта даволі шматлікая катэгорыя знаходак на помніках 2-й паловы I тысячагоддзя Беларускага Падзвіння. Па сваёй форме іх можна падзяліць на 3 тыпы.

**I тып** (табл. 17/II: 8—13; 26/II) — праселкі біканічнай формы. У іх варыянты: ***А*** — з вагнутай бакавой паверхняй; ***Б*** — з прамой бакавой паверхняй. Праслiцы гэтага тыпу часцей за ўсё выраблены з добра адмучанай гліны жоўтага ці шэра-карычневага колеру без дамешак і добра абпалены. Паверхня праслiц загладжана і бывае нават падглянцаваная. Агульны дыяметр дасягае 2—3,5 см. а дыяметр адтуліны адносна вялікі (1—1,5 см). Праслiцы гэтага тыпу распаўсюджаны па ўсім арэале банцараўска-тушамлінскай культуры. Акрамя нашага рэгіёна, яны сустрэты ў Верхнім Падзвінні (Жабіна). У Сярэдняй Беларусі (Гарадзішча, Некасецк і інш.), Смаленшчыне (Блізнакі і інш.), Падзясенні (Кірэеўка і інш.) (Станкевич, 1960, рис. 75: 6—7; Митрофанов, 1978, рис. 49: 2, 5—7, 50: 18, 19; 51: 4, 5; Шмидт, 1976, рис. 49: 20). Большая частка праселкаў тыпу I неарнаментаваная (падварыянт 1), але сустракаюцца і арнаментаваныя (падварыянт 2) кропкамі, зігзагападобнымі лініямі, трохкутнікамі і г.д. Падобная арнаментыка была шырока распаўсюджана на праселках тыповых для культуры штрыхаванай керамікі (Митрофанов, 1978, с. 40—42, рис. 26—30; Егарэйчанка, 1999, мал. 50: 1—14). У цэлым, праселкі I тыпу характэрны ў асноўным для помнікаў банцараўскай культуры. Для раннеславянскіх помнікаў тыпу Карчак і Лукі Райкавецкай яны тыповыя. Хаця на асобных помніках і сустракаецца арнамент у выглядзе кропак і трохкутнікаў, аналагічны паўночным узорам (Русанова, 1973, табл. 33: 6—12; Археалогія Беларусі, т. 2, 1999, мал. 101).

Біканічныя праселкі **II тыпу** маюць большую вышыню (да 1,5—2 см), але невялікі дыяметр адтуліны (0,5—1,0 см). Праслiцы гэтага тыпу атрымалі шырокае распаўсюджанне з VI—VII стст. н.э. на больш паўднёвых тэрыторыях сярод старажытнасцей пражскай культуры. У Сярэдняй і Паўночнай Беларусі яны з’яўляюцца ў сувязі з рухамі славянскіх плямёнаў ці іх уплывам у VII—VIII стст. Тыповым узорам для разглядаемай тэрыторыі могуць служыць экземпляры з селішча Лукамль (табл. 18/II: 1, 3) (Штыхов, 1967, рис. 7: 4—5). Яны часта сустракаюцца ў доўгіх курганах Смаленшчыны VIII—IX стст. (Шмидт, 1963, рис. 3: 6).

Тое, што выдзяляе заходні рэгіён Беларускага Падзвіння, гэта наяўнасць разнастайных праслiц з гліны і каменю часцей за ўсё сплошчана-дыскападобнай формы (**тып III**) (табл. 27; табл. 16/III: 12—15). Аснову калекцыі праселак гэтага тыпу складаюць матэрыялы з селішча і гарадзішча




**Табл. 29.** Пруднікі Міёрскага раёна.
I. Касцяныя вырабы 2-й пал. I тыс. н.э. разнастайнага функцыянальнага прызначэння з гарадзішча і селішча.
II. Касцяныя грабеньчыкі 2-й пал. I тыс. н.э. з гарадзішча і селішча. III. Вырабы з каменю.

Пруднікі, гарадзішча Рацюнкі, селішча Тарылава. Тут мы бачым экземпляры розных памераў і прапорцый. Дыяметр большасці вырабаў ($D_1$) намнога перавышае вышыню ($H_1$): ён вагаецца ад 2,5 да 5,5 см, вышыня ад 0,5 да 2,5 см, дыяметр адтуліны ($D_2$) ад 0,5 да 1,5 см ($H_1$:$D_1$ = 0,2—0,4, а $D_2$:$D_1$ = 0,2—0,3 см). Аналогіі гэтым праселкам шырока вядомы ў старажытнасцях другой паловы I тысячагоддзя н.э. Літвы і Латвіі і ў вялікай колькасці знойдзены ў пластах гэтага часу на гарадзішчах Кентескалнс, Мукукалнс (Stubavs, 1976, XII tab: 3—14, 18, 20, 48 att. 13).

Большую частку калекцыі праселкаў другой паловы I тысячагоддзя н.э. з Беларускага Падзвіння складаюць вырабы з Пруднікаў. Калекцыя гэтых прадметаў паходзіць у асноўным з селішча. Яны адрозніваюцца ад праселкаў банцараўскай культуры большымі памерамі і невялікім дыяметрам адтуліны ў цэнтры (табл. 26/II; табл. 27). Дыяметр іх перавышае вышыню: ён вагаецца ад 2,6 см да 5,2 см, вышыня — ад 0,5 да 2,5 см, дыяметр адтуліны ў цэнтры — ад 0,5—0,6 см да 1,0—1,5 см. Другую групу складаюць прасліцы біканічнай формы (тып I). Па памерах праселкі другой групы крыху меншыя за першыя. Дыяметр унутранай адтуліны крыху большы: ад 0,6 да 0,8 см. Гэтыя даныя збліжаюць тып II з больш усходнімі экземплярамі банцараўска-тушамлінскага арэала. Праселкі з увагнутымі верхняй і ніжняй плоскасцямі даволі характэрныя для прасліц іншых культур жалезнага веку Беларусі — культуры штрыхаванай керамікі, тыпу Абідні і банцараўскай культуры.

З увагнутымі бакавымі паверхнямі знойдзена праселка на гарадзішчы Гарадок (табл. 17/I: 6). Агульны дыяметр яго роўны 3 см, адтуліны — 1,5 см, вышыня — 1,8 см; суадносіны ($H_1$:$D_1$ = 0,5—0,6). Падобныя праселкі распаўсюджаны па ўсім арэале культуры тыпу Банцараўшчыны і Тушамлі: у Верхнім і Сярэднім Падзвінні (паселішча Жабіна, гарадзішчы Кастрыца, Клішчына), у Сярэдняй Беларусі (паселішча Гарадзішча і інш.), Смаленшчыне (гарадзішча Блізнакі і інш.), Палессі (гарадзішча Кірэеўка) і інш.

Асобную катэгорыю складаюць праселкі, знойдзеныя на паселішчах у Прудніках (табл. 28: 9—13), якія выраблены з косці рога, упрыгожаны цыркульным арнаментам і спалучэннем радыяльных ліній з кругамі.

*Грузіла і грузікі*. Сведчаннем сеткавай лоўлі з'яўляецца пляскатае грузіла дыяметрам каля 6 см таўшчынёй 3,2 см з цэнтральнай адтулінай, якое, відаць, адносілася да буйной сеткавай снасці (табл. 16/I: 12), другое — плоскае — для дробнай сеткі (табл. 16/II: 8). Сваёй формай гліняны дыск падобны на грузіла ад сетак, якія сустракаюцца ў больш ранніх помніках (гарадзішчы Малышкі, Гарані — Сярэдняя Беларусь; Немянчыне (Літва). Другі дыск дыяметрам 4,6 см, таўшчынёй 1,9 см з аднаго боку (ніжняга) гладкі, з другога (верхняга) — арнаментаваны ўцісканнямі (ямкамі) пальцаў. Захаваліся 4 уцісканні, а ўсяго іх, калі меркаваць па захаванай палавіне, было 7. З гэтай колькасці 6 уцісканняў (ямак) размяшчаліся ўздоўж краю дыска, а сёмае — у яго цэнтры. Прызначэнне гэтых прадметаў вызначыць цяжка. Магчыма, яны звязаны з выкананнем нейкіх культавых функцый (табл. 16/II: 4).

З гарадзішча Гарадок (Полацкі раён) паходзіць фрагмент глінянага грузіка (табл. 17/I: 7). Яго вышыня 4 см, у папярочніку — 3,5 см, дыяметр адтуліны 0,7 см. Форма вырабу — акругласплошчаная. Падобныя прадметы шырока сустракаюцца на помніках мілаградскай (Мельниковская, 1967, рис. 53: 14), зарубінецкай (Поболь, 1971) культур. Шмат арнаментаваных грузікаў паходзяць з гарадзішча Клішына (табл. 7: 17).

*Тыглі, ільячкі*. Сярод матэрыялаў 3-й чвэрці I тысячагоддзя гэтыя артэфакты сустракаюцца даволі часта (табл. 28/II). У літаратуры распаўсюджана думка, што ільячкі нібыта ўжываліся толькі ў якасці лыжак, пры дапамозе якіх разлівалася па формах бронза (Третьяков, 1941, с. 21). Калі б гэта было так, то ўнутры ільячак абавязкова захаваліся б рэшткі бронзы. Ніводнага такога выпадку невядома. Яны выконвалі, відаць, аднолькавыя з тыглямі функцыі з тым толькі адрозненнем, што ў тыглях плавілася бронза, а ў ільячках — лёгкаплаўкія металы — волава ці свінец. Аднак шматфункцыянальнае ўжыванне не выключаецца. Нашы экземпляры мала чым адрозніваюцца ад падобных старажытнасцей на сумежных тэрыторыях.

***Вырабы з каменя.*** Каменныя прадметы ў разглядаемы перыяд сустракаюцца значна радзей. Звязана гэта, перш за ўсё, з шырокім укараненнем металургіі і металаапрацоўкі. Нягледзячы на тое, што разглядаемы рэгіён крыху адставаў ад паўднёвых тэрыторый у распаўсюджанні металавырабаў, тым не менш, жалеза ў раннім сярэднявеччы стала асноўнай сыравінай, выціснуўшы амаль поўнасцю касцяную і каменную індустрыю.

Камень як сыравіна выкарыстоўваўся ўжо толькі для вырабу, галоўным чынам зерняцёрак. Яны знойдзены на ўсіх разглядаемых паселішчах і складаюцца з двух камянёў — ніжняга і верхняга. Верхні бок ніжніх камянёў плоскі ці ўвагнуты. Памеры камянёў дасягаюць да 0,5 м у даўжыню і да 0,3 м у вышыню. Верхнімі камянямі зерняцёрак часцей за ўсё былі невялікія камяні розных абрысаў з адной ці некалькімі спрацаванымі паверхнямі (табл. 29/III: 1, 2). Памеры іх былі такія, што дазвалялі ўтрымліваць цалкам у руцэ. Мялы (цёрачнікі) выrабляліся з цвёрдых гранітных ці іншых парод шчыльнай дробназярністай структуры. Мялы ўжываліся не толькі для размолу зерня, выкарыстоўваліся яны таксама ў якасці таўкача для здраблення руды ці кавадлаў пры каванні вырабаў і г.д. Паверхня асобных камянёў мае сляды ўдараў,

дробных сколаў, што сведчыць пра ўжыванне іх у якасці молатаў і адбойнікаў. Вядома, што каменныя мялы мелі даволі шырокае распаўсюджанне, але асабліва шмат іх знойдзена ў помніках Прыбалтыкі (Граудонис, 1967, с. 85, табл. III: 6, 7). У Беларускім Падзвінні на сённяшні дзень знойдзена звыш 50 падобных вырабаў, якія адносяцца да 2-й паловы I тысячагоддзі н.э. Толькі аўтарам іх выяўлена звыш 40 (17 у Цястах, 8 — на селішчы Пруднікі, 9 — на гарадзішчы Пруднікі, 5 — у верхнім пласце гарадзішча Барсукі, 3 — на гарадзішчы Гарадок). На селішчы Пруднікі знойдзены каменны дыск, які відаць, служыў для тых жа мэт, што і мяла. Яго форма не зусім круглая, а крыху ўплошчаная: па доўгай восі дасягае 7,5 см, па кароткай — 6,4 см, пры таўшчыні 2,5 см. Адзін бок плоскі і роўны, другі — крыху выпуклы (табл. 29/III: 2).

Каменныя тачыльныя брускі належаць да звычайных знаходак на паселішчах жалезнага веку Усходняй Еўропы. Угледзець якія-небудзь храналагічныя ці тэрытарыяльныя асаблівасці ў іх форме і памерах не ўяўляецца магчымым. Напрыклад, знойдзеныя на паселішчах брускі маюць розныя канфігурацыі і ступень спрацаванасці. Цікавасць выклікае экземпляр, на якім захавалася адтуліна, праз якую, відаць, працягвалася вяровачка для падвешвання да пояса (табл. 29/III: 3, 4).

З пясчаніка выраблялiся праслiцы, формачкі для бронзавых упрыгожанняў (табл. 29/III: 5—7). З яго выраблена галоўка чалавека, знойдзеная на гарадзішчы Пруднікі (табл. 9: 25). На ёй даволі выразна прасочваюцца абрысы вачэй, носа, рота, барады. Гэтай унікальнай знаходцы пакуль не знойдзена аналогій.

***Вырабы з косці.*** У параўнанні з папярэднім перыядам касцяныя вырабы на разглядаемых паселішчах сустракаюцца значна радзей. Звязана гэта перш за ўсё з тым, што жалеза ў гэты час замяняе косць як сыравінны матэрыял пры вырабе прылад працы і іншых матэрыялаў. Укараненне жалеза і звязаны з гэтым рост прадукцыйных сіл выцясняе косць з гаспадарча-бытавой сферы насельніцтва. Але значэнне яе канчаткова не страчваецца. Форма прыладаў 2-й паловы I тысячагоддзя н.э. робіцца прасцейшай, вырабы горш апрацаваны. У колькасных адносінах іх стала значна менш. З косці выраблялiся некаторыя прылады працы і простыя па форме шпількі. Найбольш рэпрэзентатыўная калекцыя касцяных вырабаў прадстаўлена матэрыяламі з Пруднікаў Заходні рэгіён).

Найбольш масавыя знаходкі шпілек, праколак можна падзяліць на 2 тыпы. Да першага тыпу адносяцца экземпляры з натуральнай формай галоўкі (табл. 29/I: 21). Адна з іх мае конусападобную адтуліну (з аднаго боку дыяметр адтуліны роўны 0,6 см, а з другога — 0,3 см). Да другога тыпу адносяцца шпількі з адвольнай формай галоўкі, часцей за ўсё пашыранай (табл. 29/I: 8—10). Звычайна такія вырабы ўжываліся ў якасці чаўнака для пляцення сетак. Разам з гэтым яны, як лічыць Я.Я. Граўдоніс. ужываліся і для зашпільвання адзення, адыгрываючы ў той час ролю ўпрыгожанняў (Граудонис, 1967, с. 91). Шпількі другога тыпу разам з выкананнем тых жа функцый маглі выкарыстоўвацца ў якасці іголкі для сшывання скуры, працягвання нітак ці сухажылля праз гатовыя адтуліны і іншых, але ўжо мяккіх матэрыялаў. Гэтыя адтуліны рабіліся шыльцамі-праколкамі, якія зафіксаваны на ўсіх разглядаемых помніках. Даўжыня іх 9—12 см. Выраблены з цэлых і расколатых напалам метаподый парнакапытных. Рабочыя канцы шыльцаў завостраныя і даволі добра загладжаны. Іх сячэнне звычайна круглае. Акрамя асноўнай функцыі — праколванне адтулін, шыльцы ўжываліся і для развязвання вузлоў, а таксама для выціскання невялікіх ямак, нанясення ліній ці штрыхоўкі апрацоўваемых вырабаў (Граудонис, 1967, с. 88). Бліжэйшыя і асабліва шматлікія аналогіі касцяным шыльцам і шпількам ёсць у старажытнасцях Латвіі і Літвы (Stubavs, 1976).

Цікавасць уяўляе знаходка касцяной фігуркі птушкі, хутчэй за ўсё качкі з селішча Пруднікі (табл. 9: 40). Яна асіметрычная, галава адламана. Выраблена была без ног і крылаў, хваставая частка падоўжаная. З трох бакоў упрыгожана наразным і кропкавым арнаментам: грудка і частка шыі — хаатычнымі кропкамі, хваставая частка — даволі складанымі наразнымі ўзорамі, сярод якіх прасочваюцца ромб і выява ў выглядзе літары «М», ламаная лінія, касыя крыжы і кропкі. На верхняй плоскасці хваставой часткі, акрамя наразных фігур, нанесены рад кропак. На спінцы ёсць адтуліна. Гэта фігурка, безумоўна, служыла нейкім культавым мэтам: напрыклад, талісманам (абярэгам), які, будучы прымацаваны да адзення, пастаянна насіўся яго ўладальнікам.

Касцяныя мініяцюрныя грабеньчыкі (табл. 29/II: 1—9), знойдзеныя на гарадзішчы і селішчы Пруднікі выраблены з тазавай косткі буйной жывёліны. Экземпляры шлемападобнай формы (табл. 29/II: 1—6) упрыгожаны арнаментыкай у выглядзе мініяцюрных паглыбленняў, розных рысак, кропак, якія ўтвараюць паралельныя лініі, трохкутнікі і г.д. Грабеньчыкі маюць з кожнага боку аграненны выступ. Амаль дакладная аналогія гэтым вырабам вядома з гарадзішча Юодайняй Сакішскага раёна ў Літве (Kulikauskas ir etc., 1961, 277 psl. 184, pav. 3). Літоўскі экземпляр без арнаментавання і датуецца V—VIII стст. н.э. У больш позні час ужываліся вырабы іншага выгляду з двухбаковымі радамі зубоў (табл. 29/II: 7—9). Да ліку ўпрыгожанняў і прадметаў убору адносяцца падвескі-амулеты з іклаў мядзведзя, дзіка, ваўка, бабра. Падобныя прадметы шырока ўжываліся ў лясной зоне Усходняй Еўропы аж да эпохі феадалізму.

### 3.3. Гаспадарчая дзейнасць насельніцтва

Разгляд асноўных тыпаў помнікаў і аналіз рэчавага комплексу даюць дастаткова падстаў для вырашэння пытання аб асноўных занятках насельніцтва Беларускага Падзвіння ў раннім сярэднявеччы. Як ужо адзначалася вышэй, у канцы папярэдняй эпохі змены асноўнай масы тубыльцаў у дадзеным рэгіёне не адбылося і ўсе дасягненні таго часу ў галіне гаспадаркі і культуры ляглі ў аснову далейшага сацыяльна-эканамічнага развіцця мясцовага насельніцтва. Гэта не значыць, што дынаміка жыцця заходнедзвінскіх плямёнаў адбывалася замкнута, толькі на падставе ўласных дасягненняў. Бурнае развіццё гістарычных падзей на поўдні і захадзе Еўропы ў сувязі з перамяшчэннем іранамоўных і еўрапейскіх народаў, іх экспансія на поўнач і паўночны ўсход, фарміраванне зарубінецкіх плямёнаў, перамяшчэнне іх нашчадкаў і ўплыў на насельніцтва лясной зоны ў першых стагоддзях н.э. выклікалі, безумоўна, значныя зрухі ў галіне гаспадаркі і на разглядаемай тэрыторыі.

З’яўленне некаторых элементаў у гаспадарцы як паўднёвага, так і заходняга паходжання і змяненні некаторых элементаў матэрыяльнай культуры сведчаць пра ўплыў іншакультурных фактараў у матэрыяльна-гаспадарчым жыцці мясцовага насельніцтва. Абмежаваныя магчымасці археалагічных крыніц не дазваляюць у поўнай меры высветліць усе прычыны, што садзейнічалі прагрэсу, і паказаць усе змяненні, што адбыліся за гэты перыяд часу. Тым не менш некаторыя новыя з’явы, асабліва ў вядучых галін гаспадаркі, усё ж такі можна прасачыць.

***Земляробства.*** Прыродныя ўмовы сярэдзіны і трэцяй чвэрці І тысячагоддзя н.э. у сваёй аснове амаль нічым істотным не адрозніваліся ад сучасных. Мяркуючы па матэрыялах спорапылковых і вугальных аналізаў гарадзішчаў-сховішчаў сумежнага Смаленскага Падняпроўя пераважнымі дрэвамі былі хвоя, бяроза і вольха, у меншай колькасці сустракаліся ліпа, елка і арэшнік (Шмидт, 1992). Травяністае покрыва таго часу складалася з тых раслін, што і цяпер. Аднак параўнальна большая колькасць палыну і трыпутніку сведчыць пра наяўнасць вакол паселішчаў адкрытай прасторы, акультуранай чалавекам. Даныя па Верхнім Падняпроўі ў поўнай меры можна суаднесці і з умовамі Падзвіння. Таму ёсць усе падставы зрабіць вывад, што прыродныя ўмовы другой паловы І тысячагоддзя н.э. былі ў такой жа ступені спрыяльныя для земляробства, як і сучасныя, калі, безумоўна, не ўлічваць узровень пераўтварэння прыроднага асяроддзя, звязанага з вытворчай гаспадаркай. Ляднае земляробства, што распаўсюдзілася яшчэ ў папярэднюю эпоху, атрымала сваё далейшае развіццё. Як адзначалася вышэй, рэгрэсія ў клімаце і адпаведнае зніжэнне ўзроўня водных рэсурсаў унеслі свае карэктывы ў земляробства.

Вывучаемая тэрыторыя, як і ў больш ранні час, была пакрыта лясамі, выключэнне складалі ўчасткі адкрытых балот і поймаў буйных рэк. Лясная расліннасць была істотнай перашкодай для сельскагаспадарчага выкарыстання, перш за ўсё для земляробства. Гэта і вызначыла асаблівасці яго ранняй гісторыі, звязанай з падсечна-агнявой формай яго існавання. Натуральна, што насельніцтва, як між іншым яшчэ і да нядаўняга часу (па даных этнаграфіі), выкарыстоўвала для вырошчвання сельскагаспадарчых культур прырэчныя тэрыторыі і зрэзаныя выступы карэннага берага.

Умовай існавання ляднага земляробства з’яўляецца нізкая шчыльнасць насельніцтва пры наяўнасці шырокіх лясных прастораў і свабодзе іх выкарыстання. Можна ацаніць земляробчую асвоенасць разглядаемага рэгіёна ў цэлым і яе адрозненні па ландшафтах, выкарыстоўваючы матэрыялы па гарадзішчах жалезнага веку. Неабходна ўлічваць, што большая частка гарадзішчаў эпохі жалеза выкарыстоўвалася і ў больш позні час, і, акрамя таго, амаль каля кожнага пакінутага гарадзішча ўзнікалі адкрытая паселішчы.

Мы ўжо згадвалі вышэй, што параўнанне археалагічнай і ландшафтнай картаў Беларускага Падзвіння паказвае, што паселішчы размяшчаліся на астанцах марэнаў сярод азёрна-ледавіковых рачных раўнін, у асноўным з пясчанымі глебамі. Гэты паселішчы размешчаны на паверхні прыродных узгоркаў розных па велічыні і канфігурацыі, што выходзілі да поймавых тэрас рэк і азёраў. Ніжэй прыводзім вынікі, якія атрыманы зыходзячы з нашых топапрывязак паселішчаў, якія былі нанесены на карту МІ: 500000, а потым шляхам накладання на ландшафтную карту таго ж маштабу разнесены В.В.Калядой па відах ландшафтаў. Вынікі суадносін да родаў ландшафтаў прыведзены ў табліцы А.

З табліцы бачна, што найбольшая шчыльнасць паселішчаў характэрна для камава-марэнна-азёрнага ландшафту і ландшафту нерасчлянёнай рачной даліны. Некалькі меншая — для ландшафту лёсавай раўніны, а ў іншых родах ландшафтаў шчыльнасць паселішчаў на парадак ніжэй ці роўна нулю (Коляда, 1985, с. 37).

На падставе шчыльнасці паселішчаў, маючы на ўвазе блізкую ролю земляробства ў гаспадарцы насельніцтва па ўсім рэгіёне, мы можам меркаваць толькі пра адносную асвоенасць пад земляробства тых ці іншых раёнаў і ландшафтаў. Аднак вялікую цікавасць уяўляе абсалютнае выражэнне земляробчай засвоенасці як для ўсяго рэгіёна Беларускага Падзвіння, так і для асобных яго частак. Такія ацэнкі, хоць і вельмі прыблізныя,

**Табліца А** Размежаванне паселішчаў Беларускага Падзвіння па родах ландшафтаў і земляробчая засвоенасць рэгёна

| Род ландшафта | Плошча км$^2$ | Колькасць паселішчаў у родзе ландшафта | Шчыльнасць паселішчаў (коль-ць на 1 км$^2$) | Земляробчая засвоенасць у % |
|---|---|---|---|---|
| Узгоркава-марэнна-азёрны | 6576 | 49 | 0,007 | 1,0 |
| Узгоркава-марэнна-эразійны | 1925 | 10 | 0,005 | 0,8 |
| Камава-марэнна-азёрны | 2606 | 60 | 0,023 | 3,4 |
| Лёсавай раўніны | 1163 | 13 | 0,011 | 1,6 |
| Марэнна-азёрны | 7779 | 45 | 0,006 | 0,9 |
| Другасны марэнны | 1043 | 7 | 0,007 | 1,0 |
| Марэнна-зандравы | 4010 | 0 | 0,0 | 0,0 |
| Водна-ледніковы з азёрамі | 4291 | 17 | 0,004 | 0,6 |
| Другасны водналедніковы | 1243 | 6 | 0,005 | 0,8 |
| Азёрна-ледніковы | 8461 | 42 | 0,005 | 0,8 |
| Азёрна-алювіяльны | 922 | 2 | 0,002 | 0,3 |
| Азёрна-балотны | 1805 | 9 | 0,005 | 0,8 |
| Нерасчлянёнай рачной даліны | 1885 | 35 | 0,018 | 2,7 |
| Па Падзвінню | 40100 | 295 | 0,007 | 1,0 |

можна атрымаць зыходзячы з даных па колькасці насельніцтва і плошчы пасеваў, якая неабходна для задавальнення аднаго чалавека прадуктамі земляробства пры адпаведным узроўні развіцця прадукцыйных сіл.

Зыходзячы з колькасці насельніцтва Беларускага Падзвіння ў першых стагоддзях н.э. (каля 15—25 тыс. чалавек), атрыманай шляхам памнажэння колькасці гарадзішчаў (250) (колькасць завышана з разліку, што ў разглядаемы перыяд іх было больш, чым захаваных да апошняга часу — ***В.Ш.***) на колькасць насельнікаў аднаго паселішча (50—70 чалавек). У перыяд ранняга сярэднявечча колькасць насельніцтва Беларускага Падзвіння раўнялася прыкладна 30—50 тыс. Калі выкарыстаць даныя П.М. Т-раццякова (Третьяков, 1932, с. 21—24), можна разлічыць, што пасяўныя плошчы насельнікаў аднаго паселішча складалі 200—300 га з разліку 3—5 га на аднаго чалавека. У такім выпадку велічыня пасяўной плошчы Беларускага Падзвіння ў пачатку I тысячагоддзя н.э. раўнялася ад 45 да 75 тыс. га і 100—150 тыс. га для V—VIII ст., а земляробчая засвоенасць 1—2 %.

Падсечна-агнявое земляробства, як вядома, характарызуецца кароткачасовасцю выкарыстання зямель. Суадносіны паміж тэрмінам выкарыстання і перыядам натуральнага аднаўлення падсечнага ўчастка да стану, прыдатнага для паўторнага выкарыстання, на думку спецыялістаў, у сярэднім складае 1: 10 (Коляда, 1985, с. 38). Такім чынам, зыходзячы з таго, што маштабы ўздзеяння ляднага земляробства на прыроднае асяроддзе перавышае велічыню земляробчай асвоенасці ў сярэднім на парадак, можна заключыць, што пераўтварэнне прыроднага асяроддзя вывучаемага рэгіёна складала 10—15 % яе тэрыторыі. Гэта праяўлялася ў перэтварэнні прыроднай лясной раслiннасці ў другасныя лясы і хмызнякі, распаўсюджанне бязлесай прасторы ў выглядзе пасяўных участкаў і лугоў для выпасу, якія ўзніклі на месцы закінутага ляда паблізу паселішчаў.

Прыведзеныя ацэнкі хоць і з'яўляюцца прыблізнымі, паколькі зыходныя даныя па колькасці насельніцтва ў разглядаемы час, колькасці паселішчаў даволі ўмоўныя, аднак дадзены метад для вызначэння ролі ляднага земляробства ў пераўтварэнні прыроднага асяроддзя ў вывучаемы перыяд даволі прымальны і перспектыўны. Ён дае магчымасць атрымаць даныя як па любым рэгіёне Беларусі, так і для рознага віду ландшафтаў (Коляда, 1985, с. 35—40; Шадыро, 1988; Шадыро, 1991; Шадыро, 1992).

Асноўныя культуры, што вырошчваліся ў Падзвінні ў другой палове I тысячагоддзя н.э., мяркуючы па даных вызначэнняў з сумежных тэрыторый, уключалі ў сябе ячмень, пшаніцу, проса. Жыта адыгрывала дапаможную ролю, хоць яно і з'явілася рана. Авёс не выступаў як самастойная культура, а як дадатак да пасеваў ячменю. Асобна можна спыніцца на знаходках конскага бобу, які ўвайшоў у культуру плямёнаў Верхняга Падняпроўя і Падзвіння вельмі рана, пра што сведчаць знаходкі бобу на Банцараўскім гарадзішчы, дзе ён быў абарыгеннай культурай (Митрофанов, 1967, с. 259). Цікавасць уяўляе тое, што на гэтым жа гарадзішчы, якое вельмі блізкае ў культурных адносінах да паселішчаў Беларускага Падзвіння, выяўлены акрамя бобу ў вялікай колькасці зерне проса, пшаніцы, гароху і вікі (Фляксбергер, 1932, с. 163).

Усе наяўныя матэрыялы даюць падставы меркаваць, што ў трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н.э. праводзілася пераважна яравая сяўба з вырошчваннем ячменю, проса, пшаніцы, ільну, бабовых, рэпы і інш.

Што датычыцца азімых жыта і пшаніцы, то іх вырошчванне звязана з больш познім часам. У гэтай сувязі вялікую цікавасць уяўляе знаходка азімага жыта на гарадзішчы Свіла 1 Глыбоцкага раёна. Свільская знаходка з'яўляецца самым раннім сведчаннем культуры азімага жыта на тэрыторыі Беларусі і датуецца IX ст. н.э. (Мітрафанаў, Каробушкіна, 1975, с. 38—40). Зерне ляжала ў гліняным гаршку на дне гаспадарчай ямы (яма была выяўлена аўтарам пасля зачысткі мацярыка падчас раскопак гарадзішча Свіла 1 у 1974 годзе пад кіраўніцтвам А.Р. Мітрафанава — ***В.Ш.***) У 30 % усіх зярнят жыта захаваўся зародак. Спадарожнае пустазелле — гарошак махнаты, віка азімая і махнатая — пацвярджае, што жыта з'яўляецца азімым. Лічыцца, што азімае жыта трывала ўваходзіць у лік галоўных збожжавых культур на рубяжы I і II тысячагоддзяў н.э. Хоць на некаторых паселішчах нечарназёмнай паласы Усходняй Еўропы зярняты азімага жыта былі выяўлены і ў пластах VII—VIII стст. н.э. — Старая Ладага, Кентескалнс. На апошнім (у Латышскім Падзвінні — ***В.Ш.***) знойдзена толькі пяць зярнят жыта (Радиньш, 1959, с. 320) і таму няма пакуль падстаў сцвярджаць пра шырокае распаўсюджванне азімага жыта ў трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н.э. на нашай тэрыторыі.

Высновы, атрыманыя на падставе рэшткаў жыта і спорапылкавых даных, у некаторай ступені пацвярджаюцца вынікамі вывучэння прыладаў працы другой паловы I тысячагоддзя н.э., звязаных з земляробствам. Шматлікія знаходкі на паселішчах абламаных лёзаў і цэлых сякер сведчаць, што гэтыя прылады былі шырока распаўсюджаны. Усе знойдзеныя сякеры (Пруднікі, Маскавічы, Свіла 1 і інш.) адносяцца галоўным чынам да правушнага вузкалязовага тыпу, які мае злёгку выгнутую і акруглую адтуліну для ручкі. Безумоўна, гэта прылада была галоўнай у лядным земляробстве. Іншыя прылады, звязаныя з падрыхтоўкай глебы да сяўбы, натуральна, не захаваліся.

Найбольш шматлікія знаходкі жалезных сярпоў — прылад працы, прыстасаваных да ўборкі ўраджаю. У гэтай сувязі з серыі сярпоў можна выдзеліць яшчэ 2 тыпы. Да першага тыпу адносяцца вельмі спецыялізаваныя прылады (табл. 17/I: 1), якія можна ўмоўна назваць серпападобнымі нажамі (Гарадок Полацкі раён). Па сваіх памерах гэта параўнальна невялікая прылада са злёгку выгнутым лязом, што пераходзіць у прамую ручку. У месцы пераходу ляза ў чаранок фіксуецца ўступ з ніжняга боку. Такія серпападобныя нажы былі даволі шырока распаўсюджаны на тэрыторыі Падзвіння і Верхняга Падняпроўя яшчэ ў папярэдні перыяд і працягвалі ўжывацца ў другой палове I тысячагоддзя н.э.

Да другога тыпу адносяцца сярпы з параўнальна масіўным, выгнутым і шырокім лязом, якое непасрэдна пераходзіць у плоскую ручку, што крыху вузейшае, чым серп (табл. 18/I: 1). Канец ручкі адцягнуты і загнуты пад прамым вуглом да плоскасці ляза ў выглядзе кручка. Чаранок сярпа мацаваўся да драўлянай ручкі пры дапамозе гэтага кручка, апошні пры заціскані дзвюх палавінак драўлянай ручкі трапляў у спецыяльнае паглыбленне і падтрымліваў у час работы ручку ад сазлізгвання з металічнага мацавання. Такая канструкцыя ў некаторай ступені падобная да мацавання сучасных косаў. Памеры сярпоў гэтага тыпу розныя: даўжыня па прамой восі да 26 см, шырыня ляза да 4 см, але, мяркуючы па некаторых абломках, былі і больш буйныя экземпляры. Сярпы падобнага тыпу з'явіліся ва Усходняй Еўропе яшчэ ў I тысячагоддзі да н.э. у скіфскіх плямёнаў (Граков, 1954, с. 141), потым у зарубінецкі час (пасля рубяжу н.э.) яны распаўсюдзіліся ў межах Падняпроўя аж да вярхоўяў Дняпра (Максимов, 1960, с. 37). У басейне Заходняй Дзвіны і асабліва ў яе заходнім рэгіёне яны пранікаюць значна пазней — к сярэдзіне I тысячагоддзя н.э. Выкарыстанне такога тыпу сельскагаспадарчых прылад мілаградскімі плямёнамі на поўдні Беларусі разглядаюцца некаторымі даследчыкамі як паказчык наяўнасці апрацоўкі зямлі ворнымі прыладамі, для рыхлення тыпу рала і выкарыстаннем цяглавай сілы буйной рагатай жывёлы (Мельниковская, с. 129 і інш.), што можа азначаць пераход да зусім іншага тыпу земляробства, чым ляднае.

Важную ролю земляробства ў жыцці насельніцтва другой паловы I тысячагоддзя н.э. пацвярджаюць шматлікія знаходкі зерняцёрак. Так, на паселішчы Пруднікі ў адным месцы былі знойдзены дзве вялікія. Яны адрозніваюцца вялікімі памерамі і моцнай зношанасцю ці спрацаванасцю, што сведчыць пра іх інтэнсіўнае выкарыстанне. Неабходна падкрэсліць, што на паселішчах гэтага часу найбольш часта сустракаюцца вялікія ніжнія камяні ад ручных зерняцёрак. Яны выраблялiся з розных парод, часцей дробназярністага граніту, шляхам расколвання буйных валуноў на дзве палавіны і далейшай апрацоўкі плоскай паверхні расколу. Зрэдку выкарыстоўваліся і проста натуральныя плоскія валуны. Адзін бок такога каменя зусім не апрацоўваўся, у той час як унутраны бок спецыяльна аббіваўся, каб атрымаць адпаведную паверхню для больш зручнага размолу зерня. Часцей за ўсё зерняцёркі, якія выкарыстоўваліся кароткі перыяд часу, маюць роўную гарызантальную паверхню. Тыя, што служылі доўгі час, маюць выгнутую паверхню. Гэта выгнутасць утваралася ў выніку працяглага расцірання зерня верхнім каменным курантам і шматразовага выкарыстання паверхні каменя. Найбольш буйныя экземпляры зерняцёрак 2-й паловы I тысячагоддзя н.э. маюць рабочую паверхню да 35 х 60 см, і вагу да 25 кг.

Вялікая разнастайнасць вырошчваемых культур і даволі развітыя формы апісаных вышэй прылад працы, звязаных з земляробствам, даюць падставы меркаваць, што ў гэты час на разглядаемай тэрыторыі выкарыстоўваліся найпрацейшыя ворныя прылады тыпу драўлянага рала, што рыхляць глебу перад сяўбой пры ворным земляробстве. Прыкладам такой прылады можа быць крываградзільнае рала з гарызантальным паўзуном, знойдзенае ў тарфяніку каля в. Капланавічы на Міншчыне ў 1963 г. (Загорульский, 1965, с. 60; Поболь, 1967, с. 117—127). Зроблена яно цалкам з дубовай рассохі. На жаль, дадзенае рала не мае пэўнай датыроўкі і яго сувязь з эпохай жалеза вельмі гіпатэтычная. У гэтай сувязі асобную цікавасць заслугоўвае рагавая насадка на рабочую частку рала, выяўленую А.І. Драбушэўскім у 1991 г. пры даследаванні гарадзішча эпохі жалеза каля г.п.Уваравічы ў Гомельскім Пасожжы (Дробушевский, 1996, с. 5—7). Апісваючы гэтую знаходку, аўтар адзначае, што гэта знаходка абвяргае катэгарычную выснову аб немагчымасці выкарыстання старажытных прылад для ворыва з рагавымі рабочымі часткамі (Краснов, 1987, с. 16). Уваравіцкая рагавая насадка пакуль адзіная знаходка такога тыпу ў Еўропе. А.У. Драбушэўскі, выкарыстоўваючы даныя «Дыялектычнага атласа беларускай мовы», указвае на распаўсюджанне ў Беларускім Панямонні (арэал культуры штрыхаванай керамікі — ***В.Ш.***) мясцовай назвы лемеха ў плузе — «нарог». Іншая дыялектная назва лемеха ў плузе — «сашнік» адпавядае арэалу зарубінецкай культуры (Дробушевский, 1996, с. 42—45). Прымаючы на ўвагу тое, што доўгатэрміновае выкарыстанне вырабаў з косці характэрна для тэрыторыі Беларускага Падзвіння, не кажучы ўжо пры ўплыў «штрыхавікоў» на насельніцтва Паўночнай Беларусі, можна ў пэўнай ступені дапусціць выкарыстанне прылад для ворыва на вывучаемай тэрыторыі ў канцы эпохі жалеза і несумненна ў V—VIII стст. н.э. Выкарыстоўваючы рала і іншага тыпу прылады, насельніцтва пераходзіць да ўзворвання старых акультураных зямель па двух- і трохпольнай сістэме. Можна быць упэўненым, што к канцу вывучаемага перыяду земляробства зробіцца галоўнай вытворчай галіной гаспадаркі.

Я.Р. Рыер, аналізуючы развіццё земляробства ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе ў другой палове I тысячагоддзя н.э. адзначае, што змены ў сістэмах земляробства, агракультуры і агратэхніцы на ўсіх абшарах адбываліся сінхронна. Паўсюдна пэўны час суіснавалі падсека, пералог і нерэгулярны севазварот з выкарыстаннем рала і мадэрнізаваных прылад плужнага тыпу. Паўсюдна адбыўся пераход да папарнай сістэмы з выкарыстаннем плуга (Рыер, 1997, с. 112).

***Жывёлагадоўля.*** Вырашэнне пытанняў, звязаных з узроўнем развіцця і роляй жывёлагадоўлі ў жыцці насельніцтва Беларускага Падзвіння, заснавана на значнай колькасці косткавых рэштакаў хатніх жывёл ў выглядзе «кухонных» адкідаў, што знаходзяцца ў культурным слоі паселішчаў. Своеасаблівасць гэтага матэрыялу і некаторая цяжкасць дэталёвага вывучэння ў сувязі са значнай фрагментарнасцю костак не дае ва ўсіх выпадках вычарпальную інфармацыю. Але ўсё ж гэты матэрыял дазваляе скласці агульнае ўяўленне пра жывёлагадоўлю як галіну гаспадаркі таго часу, у прыватнасці пра суадносіны паміж асобнымі відамі разводзімых жывёл у статку і пра ролю кожнага віду хатніх жывёл у мясным харчаванні чалавека. Акрамя таго, звесткі пра выкарыстанне асобных відаў хатніх жывёл у гаспадарцы вывучаемага перыяду даюць металічныя прадметы, што звязаны з жывёлагадоўляй.

Палеазаалагічныя даследаванні паселішчаў другой паловы I тысячагоддзя н.э. Падзвіння ўсё яшчэ застаюцца даволі абмежаванымі. Да цяперашняга часу мы маем астэалагічныя вызначэнні В.В. Шчагловай і А.А. Разлуцкай па гарадзішчы і селішчы Пруднікі, гарадзішчы Маскавічы (ніжнія пласты). Па гарадзішчах Вышадкі і Клішана, дзе маюцца пласты 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. (вывучэнні А.А. Разлуцкай).У якасці параўнальнага аналізу можна выкарыстаць даныя па ранніх слаях Полацка, Віцебска, Лукамля (гарадзішча і селішча). Можна выкарыстаць таксама і невялікую астэалагічную калекцыю з гарадзішча Цясты Верхнядзвінскага раёна (вызначэнні Н.П. Александровіч). Даныя па іхтыяфауне паселішчаў Пруднікі, Тарылава, атрыманы дзякуючы Э.А. Ляшкевіч. Гэтым і абмяжоўваецца крыніцазнаўчая аснова даследуемага пытання. Аднак, выкарыстоўваючы даныя палеазаалагічных даследаванняў папярэдняга перыяду, якія дзякуючы В.В. Шчагловай, вывучаны даволі грунтоўна (Паддубнікі, Кублічы, Загаваліна, Урагава, Абрамава, Кастрыца, Заронава, Буракова), і ўлічыўшы факт, што некаторыя з гэтых помнікаў мелі пласты і 3-й чвэрці I тысячагоддзя (Кастрыца, Урагава, Заронава), можна паспрабаваць даць характарыстыку гэтай галіне гаспадаркі ў насельніцтва Беларускага Падзвіння. Безумоўна, у рабоце ўлічваліся і матэрыялы з сумежных тэрыторый.

Вядома, што ў эпоху жалеза ў днепра-дзвінскіх плямёнаў, жывёлагадоўля адыгрывала больш значную ролю, чым паляванне, хоць у асобных месцах у залежнасці ад прыродных умоў паляванне захавала вельмі істотную ролю (Шадыро, 1985, с. 90—95).

З сярэдзіны I тысячагоддзя н.э. роля палявання ў мясным харчаванні насельніцтва Падзвіння пачала зніжацца, хоць і не страчвала свайго значэння. У сярэднім на даследаваных помніках колькасць костак дзікіх жывёл складае прыкладна 20—30 %. На асобных паселішчах гэта лічба многа ніжэй:

15—18 % (табл. Б), а на паселішчы Лужасна (Віцебскі раён) косткі дзікіх жывёл наогул не выяўлены. Усё гэта сведчыць пра тое, што жывёлагадоўля заняла абсалютна дамінуючую ролю ў забеспячэнні насельніцтва мясным харчаваннем. Роля палявання з цягам часу ўсё больш зводзілася да здабывання футры і скуры, што служылі ў той час абменнай вартасцю.

Паступовае ўзрастанне ролі жывёлагадоўлі ў параўнанні з паляваннем у гаспадарцы плямёнаў Падзвіння за перыяд ад сярэдзіны I тысячагоддзя да н.э. да канца I тысячагоддзя н.э. дае табл. Б, у якой для супастаўлення ўзяты сумарныя даныя працэнтных суадносін хатніх і дзікіх жывёл з гарадзішчаў ранняга жалезнага веку (Паддубнікі, Кублічы, Загаваліна, Урагава, Абрамава, Кастрыца, Заронава, Буракова — вызначэнні В.В. Шчагловай) і раннесярэднявечных помнікаў Беларускага Падзвіння (вызначэнні В.В. Шчагловай і А.А. Разлуцкай).

З табліцы відаць, што колькасць косткавых рэшткаў у працэнтных адносінах хатніх жывёл ад эпохі жалеза да пачатку II тысячагоддзя н.э. у сярэдніх лічбах павялічваецца ад 65 да 84, у адпаведнасці з гэтым зменшыліся паказчыкі для дзікіх жывёл. Разам з тым трэба мець на ўвазе, што жывёлагадоўля, акрамя мяса, давала малако і малочныя прадукты, неабходныя для харчавання, а таксама скуру, воўну, косць, рог, г.зн. сыравіну, якая выкарыстоўвалася ў хатніх рамёствах для вытворчасці розных вырабаў, неабходных у гаспадарцы чалавеку.

Відавы склад жывёлы, што разводзілася ў той час, у параўнанні з папярэднімі не змяніўся. Статак сельскагаспадарчай жывёлы складаўся з буйной рагатай жывёлы, дробнай жывёлы (авечак і коз), свіней і коней. Суадносіны паміж асобнымі відамі разводзімых хатніх жывёл у косткавых рэштках з раскопак паселішчаў другой паловы I тысячагоддзя н.э. прыведзены ў табл. В. Даныя гэтай табліцы сведчаць аб тым, што буйная рагатая жывёла займала галоўнае месца (прыкладна 40 % ад усёй колькасці рэшткаў хатняй жывёлы).

Змяненне ролі асобных відаў хатняй жывёлы ў складзе статку даюць паказчыкі з найбольш вывучаных помнікаў эпохі жалеза і сярод паказчыкаў для помнікаў сярэдзіны і другой паловы I тысячагоддзя н.э. (табл. В). Тут можна прасачыць рост удзельнай вагі буйной рагатай жывёлы ад 30 да 50 %. Гэта з’ява, безумоўна, звязана з усё больш значнай роляй земляробства і пераходам да больш дасканалых яго формаў, што павялічвала прадукцыйнасць земляробства і давала дадатковыя для жывёлагадоўлі кармы, такія як адыходы зерня, мякіну, насенне, што ў сваю чаргу забяспечвала зімоўку пэўнай колькасці жывёлы. Дамінуючая роля буйной рагатай жывёлы тлумачыцца яшчэ і тым, што валы і каровы, відаць, пачалі выкарыстоўвацца ў земляробстве як цяглавая сіла.

У папярэдні перыяд эпохі жалеза з-за цяжкасцей у забеспячэнні кармамі зімой перавагу надавалі хуткарослай жывёле (свінні, авечкі) і коням, якія самі дабывалі корм з пад снегу. Рост удзельнай вагі буйной рагатай жывёлы з цягам часу адбываўся галоўным чынам за кошт адноснага скарачэння колькасці дробнай рагатай жывёлы і невялікага змяншэння адноснай колькасці коней і свіней. Трэба адзначыць, што спецыфічнай рысай, якая служыць асаблівасцю вывучаемага рэгіёна, з’яўляецца высокі працэнт колькасці косткавых рэшткаў свінні. Наглядна гэта можна прасачыць па матэрыялах з паселішча Пруднікі, дзе рэшткі свінні складаюць каля 50 % сярод костак хатняй жывёлы (Шчаглова, Шадыра, Ласкавы, 1990, с. 69). У Беларускім Падзвінні тэндэнцыя да павышэння паказчыка па свінні з рухам на захад прыкметная. Тут істотным чынам адбіўся ўплыў суседніх прыбалтыйскіх плямёнаў, дзе свінагадоўля пераважала ў гаспадарчай дзейнасці насельніцтва ад жалезнага веку да больш позняга часу. Вядома, што ў сярэднявечных гарадзішчах Латышскага Падзвіння насельніцтва шырока выкарыстоўвала менавіта свіней (ад 43,3 да 71,8 %) (Шноре, 1961, с. 94). Падкрэслім, што ў вывучаемым рэгіёне доўгі час у пытаннях гаспадаркі адчуваўся ўплыў суседніх прыбалтыйскіх плямёнаў, што звязана, відаць, перш за ўсё з аднолькавымі прыроднымі ўмовамі. Другой важнай прычынай з’яўляецца тое, што само насельніцтва рэгіёна заставалася на працягу доўгага часу ў сваёй масе родасным у этнічных адносінах і таму паступовая славянізацыя, натуральна, не магла хутка змяніць традыцыйныя ўклады абарыгеннага насельніцтва.

Л.В. Аляксееў прыводзіць цікавы факт, які ілюструе доўгачасовае існаванне традыцый жывёлагадоўчага характару на Полаччыне. Праязджаючы ў 1815 г. праз Паўночную Беларусь, батанік А. Башняк адзначаў, што ў раёне Полацка і далей на захад свіней разводзяць «непараўнальна больш, чым у Расіі» (Алексеев, 1966, с. 117). Цікавыя даныя па Браславу ў розныя перыяды яго існавання прыводзіць той жа Л.В. Аляксееў. У старажытным (абарыгенным) пласце дамінавалі косткі свінні (59,2 %). Пазней, пасля гібелі першапачатковага пасёлка ў XI ст. у выніку пажару, новае «старажытнарускае» (усходнеславянскае — ***В.Ш.***) паселішча значна скараціла ролю свінагадоўлі, давёўшы яе да ўзроўню старажытнага Мінска (34,3 %), і павялічыла статак буйной рагатай жывёлы (каля 44 %). Працэс гэты

працягваўся і ў час Вялікага княства Літоўскага (амаль 60 % — буйная рагатая жывёла) (Алексеев, 1966, с. 117).

Высокая ўдзельная вага свінагадоўлі ў заходнім і цэнтральным рэгёнах Беларускага Падзвіння пацвярджаецца, як ўжо адзначалася, данымі з Пруднікаў і, акрамя таго, астэалагічнай калекцыяй з гарадзішча Маскавічы пад Браславам, дзе рэшткі свінні складалі 41,1 % у статку хатняй жывёлы (Дучыц, Шчаглова, 1987, с. 76, табл.). Свінні, якіх разводзіла насельніцтва вывучаемага арэала ў другой палове І тысячагоддзя н.э. (ацэнкі па даных з Пруднікаў), па росту былі такія самыя, як і па ўсёй Усходняй Еўропе ў жалезным веку. Больш за палову свіней выкарыстоўвалася на мяса ва ўзросце больш за два гады.

Буйная рагатая жывёла па колькасці выкарыстаных у ежу экземпляраў значна саступала колькасці свіней, паколькі малочная жывёла выкарыстоўвалася ў больш сталым узросце (Шчаглова, Шадыра, Ласкавы, 1990, с. 73). Дададзім яшчэ назіранне В.І. Цалкіна пра тое, што свінні сярэдневяковай Прыбалтыкі былі больш буйныя, чым старажытнарускія лясныя (Цалкин, 1962б, с. 101). Відаць у Полацкай зямлі, дзе ў шэрагу рэгіёнаў свінагадоўлі надавалі вялікую ўвагу, і дзе, натуральна, разводзілася больш буйная парода, вывядзенне яе ідзе з папярэдняга часу — перыяду нашага даследавання.

Ва ўсіх вывучаемых помніках адносная колькасць костак буйной рагатай жывёлы намнога вышэйшая за такія ж паказчыкі па колькасці асобін. Гэта звязана, відаць, з лепшай захаванасцю костак буйной рагатай жывёлы ў культурных пластах паселішчаў, што абумоўлена забоем пераважна дарослых асобін, а не маладняку, у якога касцяк яшчэ слабы. Большасць кароў утрымлівалася некалькі гадоў з мэтай атрымаць як прыплод, так і малочныя прадукты.

Спынімся больш падрабязна на ролі коней у гаспадарцы таго часу. Адносная іх колькасць да сярэдзіны І тысячагоддзя н.э. крыху скарацілася, пры гэтым канстатуецца перавышэнне працэнта па колькасці костак над колькасцю асобін. Гэты факт мае адносіны да коней, што выкарыстоўваліся на мяса, г.зн. да асобін, забітых і з’едзеных на паселішчах. Але ў сапраўднасці адносная колькасць коней была большая, бо частка іх выкарыстоўвалася для верхавой язды воінаў-вершнікаў і не забівалася на мяса. Значную частку гэтых коней спальвалі разам з памерлымі ці забітымі воінамі ў час пахавання. Акрамя таго, частка параненых ці забітых коней не вярталася на паселішчы. Астэалагічны матэрыял з паселішчаў Паўночнай Беларусі сведчыць пра тое, што на працягу эпохі жалеза і ранняга сярэднявечча конь быў адной з галоўных крыніц мяса для насельніцтва. Мяса каня выкарыстоўвалі і ў больш позні час, але, мяркуючы па пісьмовых крыніцах, рабілі гэта вымушана ў галодныя гады і ў экстрэмальных сітуацыях. Раздробненыя трубчастыя косткі коней знойдзены пры раскопках Браслава, Маскавіч, Дрысвятаў, Іказні, Полацка, Пруднікаў, Цястоў, у ніжніх пластах Віцебска, Лукамля, у паселішчах паблізу в. Лужасна (Віцебскі раён). Трэба падкрэсліць высокі паказчык костак каня ў сярэднявечных гарадах Падзвіння. Шмат іх знойдзена ў Полацку (табл. В). Відаць, мёртвых коней не закопвалі. В.І. Цалкін таксама сцвярджае, што знойдзеныя ў гарадах косткі жывёл каня належалі жывёлам, з’едзеным у галодныя гады (Цалкин, 1962б, с. 38). Прыклады ўжывання ў ежу каніны ў галодныя гады шырока вядомыя па старажытнарускіх летапісах.

Пра выкарыстанне каня ў якасці цяглавай сілы, для верхавой язды і ў ваенных мэтах сведчаць шматлікія знаходкі металічных прадметаў, што адносіліся да конскай вупражы і рыштунку вершніка. Перш за ўсё гэта адносіцца да жалезных цугляў. Яны ў асноўным двухсастаўныя без псалій з нерухомымі кольцамі на канцах (табл. 15: 39). Гэта форма з’яўляецца параўнальна прымітыўнай, хоць і вельмі распаўсюджанай ва Усходняй Еўропе. Разам з гэтымі сустракаюцца двухсастаўныя з рухомымі вялікімі кольцамі на канцах. Гэта форма больш дасканалая (табл. 15: 37, 38). Такога выгляду цуглі былі ва ўжытку на працягу ўсёй другой паловы І тысячагоддзя н.э. у Беларускім Падзвінні і Верхнім Падняпроўі.

Яшчэ больш распаўсюджанай знаходкай на паселішчах вывучаемага перыяду з’яўляюцца жалезныя шпоры (табл. 15: 40—42). Яны знойдзены двух тыпаў: 1) шпоры з кручкападобнымі вонкавымі зачэпамі; 2) шпоры з выпуклымі зачэпамі. Пры гэтым трэба адзначыць, што шпоры з выпуклымі зачэпамі з’яўляюцца больш раннімі. У Еўропе яны распаўсюджваюцца з рымскага часу і прыкладна к сярэдзіне І тысячагоддзя н.э. выходзяць з ужытку. Першы від сустракаецца часцей. Яны выяўлены на гарадзішчах Пруднікі, Гарадок, Рацюнкі і ў іншых месцах і могуць датавацца V—VII стст. н.э. (Перхавко, 1978б, с. 16).

***Паляванне***. У сярэдзіне і другой палове І тысячагоддзя н.э., нягледзячы на далейшае развіццё жывёлагадоўлі і земляробства, паляванне на дзікіх жывёл як асобны занятак усё яшчэ працягвала адыгрываць важную ролю ў жыцці плямёнаў Падзвіння. Калі ў эпоху жалеза, мяркуючы па даных

косткавых рэштkaў, удзельная вага палявання складала каля 35 %, то ў другой палове I тысячагоддзя н.э. гэтыя паказчыкі сталі крыху меншыя, склаўшы 30 % і менш (табл. Г). Матэрыялы, што ёсць у нашым распараджэнні, даюць падставы меркаваць, што значэнне палявання ў гаспадарцы насельніцтва Беларускага Падзвіння зменшылася. Менавіта роля палявання ў мэтах забеспячэння мясным харчаваннем. Гэта пацвярджае наступны паказчык: косткі дзікіх жывёл, якіх выкарыстоўвалі на мяса, склалі 24,6 % ад агульнай колькасці костак мясных жывёл; гэты ж паказчык па колькасці пэўных асобін склаў 38 %. Відавы склад паляўнічай здабычы параўнальна невялікі (табл. Г) і ўключае, па даследаваных даных, 10 відаў мясных жывёл. Гэта — лось, зубр, высакародны алень, казуля, дзік, мядзведзь, лісіца, куніца, бобр, заяц.

Сказанае вышэй мае адносны характар, бо параўнальны аналіз матэрыялаў палявання з сумежных усходніх рэгіёнаў Смаленскага Падняпроўя, па даных Я.А. Шмідта, прыводзіць да высновы, што яго ўдзельная вага ў даследуемым рэгіёне значна вышэйшая. Працэнтныя суадносіны костак і асобін дзікіх жывёл ад агульнай колькасці жывёл адпаведна 13,2 і 34,3 (Шмидт, 1992, с. 71).

Даныя па паселішчах Пруднікі і Маскавічы сведчаць пра даволі высокую ролю палявання ў жыцці насельнікаў. В.В. Шчаглова, вывучаючы маскавіцкую астэалагічную калекцыю, прыйшла да высновы, што дзякуючы паляванню, насельнікі гарадзішча атрымлівалі мяса ўдвая больш, чым ад развядзення хатняй жывёлы. І нягледзячы на крыху меншую ўдзельную вагу палявання, у рацыёне жыхароў гарадзішча пераважала мяса дзікіх жывёл (Дучыц, Шчаглова, 1987, с. 76). З 14 відаў дзікіх жывёл (табл. Г) пяць відаў адносяцца да капытных (мясных) і дзевяць — да некапытных (футравых). Паводле астэалагічных даных (табл. Г), палявалі галоўным чынам на лася, дзіка, зубра, бабра. Рэдкім аб’ектам палявання быў высакародны алень. У падзвінскіх лясах гэта жывёліна, відаць, вадзілася ў меншай колькасці. Галоўны аб’ект палявання — лось, рогі якога шырока выкарыстоўваліся для розных вырабаў; моцная і вялікая скура ішла на пашыў абутку і адзення, туша давала шмат мяса. Лось быў больш каштоўным для насельніцтва, чым іншыя звяры. Сярод капытных частым аб’ектам палявання быў дзік. Іншую групу жывёл для палявання складалі некапытныя: мядзведзь, лісіца, выдра, куніца, барсук, рысь, бобр, заяц. На некаторых з пералічаных відаў палявалі не толькі з-за скуры, але і дзеля мяса. Напрыклад, у Прудніках на мядзведзя палявалі таксама і з-за мяса. Сведчанне гэтаму — раздробненыя косткі яго шкілета. Па наяўных на сённяшні дзень вызначэннях, бобр і мядзведзь — найбольш шматлікія аб’екты паляваўшых на іх жыхароў з паселішчаў Пруднікі. Рэшткі першага складаюць 20 % (ад колькасці асобін дзікіх жывёл на селішчы і гарадзішчы), другога — 10,7 %. У насельнікаў гарадзішча ахвярай паляўнічых часцей (12,7 %) была куніца, а не мядзведзь. На селішчы рэшткі яе не перавышалі 5,1 % ад колькасці асобін дзікіх жывёл (Шчаглова, Шадыра, Ласкавы, 1990, с. 69, табл. 1).

Па даных В.В. Шчагловай, у сярэднім колькасць выкарыстаных у ежу насельніцтвам старажытнага Полацка дзікіх капытных складала 18,2 %, сумарны выхад мяса ад іх — 51,6 %. У Віцебску адпаведны паказчык у сярэднім па горадзе і пасадзе 19 % жывёл, на якіх палявалі, давалі 52 % усяго мяса. Вышэйшы гэты паказчык у старажытным Лукамлі — адпаведна 3,4, 4 % давалі 74,1 %, г.зн. 3/4 яго аб’ёму (з улікам хатніх жывёл) (Щеглова, 1993, с. 78).

Такім чынам, сельскае насельніцтва ў меншай ступені выкарыстоўвала паляўнічы промысел, чым гарадское, што зусім натуральна. У раннегарадскіх паселішчах значная частка насельніцтва не займалася сельскагаспадарчай дзейнасцю (рамеснікі, дружына і інш.). Забеспячэнне мясам гэтай катэгорыі насельніцтва ішло ў асноўным за кошт палявання ў бліжэйшых лясах. Абагульняючы даныя па старажытных гарадах Беларусі, В.В. Шчаглова прыходзіць да высновы, што ад 30 да 90 % мяса, што спажывалі насельнікі гарадоў і паселішчаў, давала паляванне на капытных (Щеглова, 1993, с. 82). Такім чынам, вывучаемы рэгіён не з’яўляецца тут выключэннем. Безумоўна, гэта з’ява была характэрна і для вывучаемага перыяду.

Паляванне доўгі час з’яўлялася адной з важнейшых крыніц атрымання харчавання для насельнікаў Падзвіння ад эпохі жалеза да позняга сярэднявечча. У Літве (Вялікім княстве Літоўскім — ***В.Ш.***) «дзікіх звяроў больш, чым ва ўсім хрысціянскім свеце…, пісаў у пачатку XVI ст. Мацей Мяхоўскі, — бо лясы там вялікія; тут у мностве трапляюцца і ловяцца буйныя звяры; буйвалы і лясныя быкі, якіх яны на сваёй мове клічуць турамі ці зубрамі, дзікія аслы, лясныя коні, алені, лані, газелі, козы, дзікі, мядзведзі, куніцы, вавёркі і іншыя пароды звяроў» (Меховский, 1936, с. 111).

У разглядаемы час Беларускае Падзвінне, пакрытае суцэльнымі лясамі, мела шмат дзікіх жывёл, на якіх палявала мясцовае насельніцтва. Гэта пацвярджаюць археалагічныя матэрыялы, якія ёсць у нашым распараджэнні. Даць поўную характарыстыку паляўнічаму промыслу Падзвіння ў другой палове I тысячагоддзя н.э. пакуль яшчэ цяжка. Праведзены аналіз наяўных даных не дае вычарпальнай ацэнкі характару і ўзроўню палявання ў насельнікаў гэтага краю. Звяры, якія здабываліся ў асноўным

з-за скурак, складалі каля 3 %, мяркуючы па вызначэнню косткавых рэшткаў. Аднак неабходна ўлічыць, што на паселішчах не знойдзены косткі тхара, вавёркі, ласкі і іншых жывёл, што здабываліся толькі з-за футра, бо іх мяса неядомае. Відаць, пасля зняцця скуркі, тушку жывёліны выкідалі за межы паселішча, а таму іх костак няма сярод кухонных адкідаў. Гэта дае падставу лічыць, што колькасць жывёл, якія з'яўляліся аб'ектам футравага палявання, была значна вышэйшай. Сярод футравых жывёл на першым месцы бабёр (прыблізна 6 %), потым куніца, заяц, лісіца.

Пры раскопках паселішчаў выяўляюцца шматлікія косткі птушак. На жаль, вызначана на сённяшні дзень толькі астэалагічная калекцыя з гарадзішча Маскавічы. Даследаванні А.М. Дарафеева (Віцебскі педуніверсітэт) і А.С. Уманскай (Інстытут заалогіі АН Украіны) паказалі, што большасць костак належыць хатнім птушкам (53 асобіны курыцы, 1 хатняя качка). Вызначана 25 дзікіх птушак (глушэц, рабчык, гогаль, галка, варона, чырок, цецярук, нырэц, баклан і інш.) (Дучыц, 1991, с. 66). Вядома, што мяса рабчыка, глушца, шэрай курапаткі, цяцерука і некаторых іншых птушак ужывалася ў ежу. Відаць, у галодныя гады насельніцтва харчавалася мясам усіх птушак. У Латышскім Падзвінні бліжэйшым да нашых раннесярэдневяковых паселішчаў было гарадзішча Асотэ ва Усходняй Латвіі, дзе вывучана арніталагічная калекцыя з яго раскопак. Тут выяўлена 16 відаў дзікіх птушак і косткі хатняй курыцы (Паавер, 1961, с. 223—225).

Сказаць што-небудзь канкрэтнае пра спосабы палявання, ці пра прылады палявання, пакуль цяжка з-за недахопу матэрыялаў. Можна толькі меркаваць, што практыкаваліся самыя разнастайныя спосабы і прыёмы палявання з выкарыстаннем як прыладаў палявання (лук і стрэлы, дзіда і інш.), так і розных сілкоў, плах і інш.

Каб наглядней уявіць ролю жывёлагадоўлі і палявання ў жыцці насельніцтва Беларускага Падзвіння, а канкрэтна ў яго заходнім рэгіёне, звернемся да матэрыялаў вывучэння шматлікіх касцявых рэшткаў з раскопак гарадзішча і селішча Прудніки Міёрскага раёна. У разлік бяруцца толькі матэрыялы па другой палове I тысячагоддзя н.э. (Шчаглова, Шадыра, Ласкавы, 1990, с. 68—74). Косткі свойскіх і дзікіх жывёл, вызначаныя і даследаваныя В.В. Шчагловай як на гарадзішчы, так і на селішчы прадстаўлены галоўным чынам кухоннымі рэшткамі, аб чым сведчыць амаль поўная адсутнасць трубчастых костак, чарапоў, ніжніх сківаліц. З пяці тысяч костак, сабраных у час раскопак 1984—1988 гг. вызначыць удалося 4238 (2963 — на селішчы, 1275 — на гарадзішчы) ад 753 асобін (621 — на селішчы, 232 — на гарадзішчы). Да свойскіх адносіцца 573 асобіны, да дзікіх — 180. Свойскія жывёлы (колькасць асобін 169) складаюць на гарадзішчы 73,0 %, на селішчы (404 асобіны) — 77,7 %. У Пруднiках сабраны рэшткі пяці відаў свойскіх жывёл і 13 відаў дзікіх. Сярод свойскіх значна пераважаюць рэшткі свінні: 36,3 % ад агульнага ліку, ці 49,7 % ад колькасці асобін свойскіх жывёл на гарадзішчы: адпаведна 41,8 % і 53,7 % на селішчы. Першае месца на гарадзішчы падзяляюць такія аб'екты палявання як дзік і лось, на селішчы — бабёр і лось.

Веданне памераў і прапорцый костак з выкарыстаннем адпаведных каэфіцыентаў, дае магчымасць устанавіць рост, пол, прыблізны індывідуальны ўзрост жывёліны, што дазваляе атрымаць інфармацыю аб складзе статка, колькасці мяса, якую давала насельніцтву паляванне і жывёлагадоўля. У літаратуры аб жалезным веку і раннім сярэднявеччы паўночнай Беларусі гэтыя звесткі адсутнічаюць і таму наша інфармацыя ў нейкай ступені запаўняе гэты недахоп. У якасці параўнальнага матэрыялу прыцягнуты даныя публікацый розных аўтараў, а таксама неапублікаваныя вынікі вывучэння В.В. Шчагловай астэалагічных рэшткаў з раскопак А.Р. Мітрафанава ў 1956 і 1962 гг. на гарадзішчы Паддубнікі Міёрскага раёна Віцебскай вобласці.

**Табліца Б** Суадносіны паміж свойскімі і дзікімі жывёламі на паселішчах жалезнага веку і ранняга сярэднявечча Беларускага Падзвіння ў (%)

| **№ п/п** | **Помнік Датыроўка** | **Віды жывёлін** | |
|---|---|---|---|
| | | **свойскія** | **дзікія** |
| 1. | Гарадзішчы эпохі жалеза (VII ст. да н.э. — IV ст. н.э.) | 65,0 | 35,0 |
| 2. | Лужасна — гар. / сел. (V — VIII стст. н.э.) | 82,3/100 | 17,7/0 |
| 3. | Пруднікі — гар. / сел. (V —VIII стст. н.э.) | 73/17,7 | 27/22,3 |
| 4. | Цясты — гар. (III — VII стст.) | 70 | 30 |
| 5. | Полацк — ніж. пласты (IX —XI стст.) | 85,7 | 14,3 |
| 6. | Віцебск - ніж. пласты (IX — XI стст.) | 62,5 | 37,5 |
| 7. | Лукамль (V — X стст.) | 60,5 | 39,5 |
| 8. | Клішына (II ст. да н.э. — VIII ст. н.э.) | 65,2 | 32,8 |

**Табліца В** Параўнаўчыя даныя суадносінаў паміж асобнымі відамі свойскіх жывёлін у касцявых рэштках розначасовых паселішчаў Беларускага і Латышскага Падзвіння ў (%)

| **Помнік** <br> **Перыяд** | **Віды жывёлін** | | | |
|---|---|---|---|---|
| | **Буйная рагатая жывёла** | **Дробная рагатая жывёла** | **свіння** | **конь** |
| Гарадзішчы эпохі жалеза (VII ст. да н.э. — VI ст. н.э.) | 30,5 | 24,4 | 26,7 | 18,4 |
| Лужасна — Віцебскі раён (V — VIII стст. н.э.) гар. / сел. | 35,3/39,4 | 5,9/11,1 | 23,5/33,4 | 17,4/11,1 |
| Цясты — Верхнядзвінскі раён (III — VII стст.) гар. | 33,0 | 7,6 | 22,6 | 1,5 |
| Пруднікі — Міёрскі раён (V —X стст. н.э.) гар. / сел. | 18,6/18,8 | 9,0/14,8 | 36,3/53,8 | 6,9/12,3 |
| Полацк — Полацкі раён (IX —XI стст.) ніж. пласт | 30,0 | 5,4 | 6,7 | 42,7 |
| Дзявічкі — Полацкі раён (VI—VIII стст.) гар. | 25,0 | 10,5 | 14,5 | 50,0 |
| Віцебск — Віцебскі раён (IX — XI стст.) ніж. пласт | 33,3 | 6,0 | 44,0 | 16,7 |
| Ст. Сяло — Віцебскі раён (VI—VIII стст.) гар. | 30,2 | 5,8 | 30,7 | 33,3 |
| Лукамль — Чашніцкі раён (IX — XI стст.) ніж. пласт | 42,9 | 8,4 | 37,2 | 11,5 |
| Маскавічы — Браслаўскі раён (IX — XI стст.) | 13,8 | 9,0 | 23,3 | 5,0 |
| Клішына — Крупскі раён (II ст. да н.э. — VIII ст. н.э.) | 14,8 | 12,8 | 20,0 | 12,9 |
| Герсіка — Латвія (VIII — XI стст.) | 14,1 | 11,1 | 21,8 | 3,0 |
| Асоце — Латвія — “ — | 14,1 | 11,0 | 69,5 | 5,4 |
| Дзігная — Латвія — “ — | 26,2 | 18,7 | 43,3 | 11,8 |
| Даўгмале — Латвія — “ — | 33,5 | 8,8 | 50,5 | 7,2 |

У даследаваных калекцыях вызначаны рост кароў старажытных Пруднікаў, які вагаўся ад 102,1 да 118,8 см (сярэдняе значэнне — 114,7 см). Такі ж рост буйной рагатай жывёлы на дзякаўскіх і верхнеокскіх гарадзішчах, але на 6 см вышэй за старажытнарускае (Цалкин, 1962б, табл. 18) і беларускае сярэднявечча (В.В. Шчагловай атрыманы сярэдні рост кароў 104,2 см, з улікам росту быкоў і валоў — 107,8 см). Рэшткі дробнай рагатай жывёлы (авечак) складаюць пераважна дарослыя жывёліны (старэй за 24 месяцы). Цэлых костак мала. Вышыня ў карку авечак адпаведна 53,4 і 60,7 см (сярэдняе 57,2 см). Сярэдні рост авечкі лясной паласы ў эпоху жалеза — 58,4 см (Цалкин, 1962б, с. 32, табл. 27).

Касцявыя рэшткі свінні самыя шматлікія. Пераважаюць абломкі верхніх і ніжніх сківіц, асобныя зубы. Вылічаны рост свіней (9 экз.): 66,2—76,9 см у сярэднім 72,7 см, што блізка да росту свіней у дзякаўскай культуры — 57,3—87,7, у сярэднім — 76,7. У сярэднявечны перыяд свінні на тэрыторыі Беларусі былі больш дробныя (60,86—68,48 см, сярэдняе 66,44 см (Щеглова, 1993, с. 115), а сучасныя — больш буйныя: сярэдні рост самак чорна-пярэстых свіней 80,4 см, самцоў — 86,5 см (Замятин, 1959, с. 5—9).

Рэшткі каня прадстаўлены ў асноўным абломкамі костак: (табл. Е) раздробленыя таранныя, фалангі пальцаў, вялікагалёначныя, некалькі метаподзій. Зыходзячы з класіфікацыі В.І. Цалкіна, сярод коней старажытных Пруднікаў можна вылучыць па росту тры групы: дробныя (рост 124,4 см), маларослыя (132,1 і 135,3 см), сярэднія (141,7 і 142,3 см). Па прапорцыях пясцевых костак можна падзяліць коней на некалькі груп. Устаноўлены толькі дзве з іх: танканогія, паўтанканогія (14,9 і 15,0). З-за вялікай фрагментарнасці матэрыялаў цяжка вызначыць, ці ўсе рэшткі належалі свойскаму каню? Масіўных першых фалангаў пальцаў і пясцевых у матэрыяле з Пруднікаў не знойдзена. Не выключана, што знойдзеныя косткі маглі належаць тарпану (Шчаглова, Шадыра, Ласкавы, 1990, с. 71).

Рэштказ дзікіх жывёл параўнальна не так шмат (табл. Д). Косткі зубра адзінкавыя. Першае месца сярод рэштказ дзікіх жывёлін у Прудніках займаюць рэшткі лася. Цэлымі захаваліся таранныя, пятачная, фалангі пальцаў. Такія ж па памерах косткі лася з Паддубнікаў. Косткі дзіка адрозніваюцца ад костак свінні свойскай больш буйнымі памерамі. Падобныя памеры тых жа костак дзіка з Паддубнікаў. У сярэднім косткі дзіка з раскопаў гэтых паселішчаў больш буйныя, чым такія ж з гарадзішчаў Чаплін (Шчаглова, Побаль, 1960, табл. 8,9) і лясной паласы Усходняй Еўропы (Цалкин, 1962б, с. 53, табл. 42). Косткі бурага мядзведзя ў старажытных Прудніках у параўнанні з калекцыяй, вывучанай В.І. Цалкіным, трохі меншыя.

Што датычыць свіней, якіх разводзіла насельніцтва, то па росту былі такія ж, як і па ўсёй паласе Усходняй Еўропы ў жалезным веку, г.зн. больш буйнымі, чым тыя, якія ў пазнейшы час разводзіліся ўгаспадарках насельніцтва Беларусі. Больш палавіны свіней забівалася на мяса ва ўзросце больш за 2

**Табліца Г**

Параўнаўчыя даныя суадносін паміж некаторымі відамі дзікіх жывёлін на паселішчах ранняга сярэднявечча ў Беларускім і Латышскім Падзвінні ў (%)

| **Перыяд** | **II ст. да н.э. — VIII ст. н.э.** | **V—VIII стст.** | **V—X стст.** | **IX—X стст.** | **IX—XI стст.** | **IX—XII стст.** | **IX—X стст.** | **V** | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Помнік** | **Клішына Крупскі р-н** | **Лужасна Віцебскі р-н** | **Пруднікі гар./сел. Міёрскі р-н** | **Маска-вічы Браслаўскі р-н** | **Полацк ніж. пласт** | **Віцебск ніж. пласт** | **Лукамль ніж. пласт Чашніцкі р-н** | **Асоце** | **Герсіке** |
| **Від** | | | | | | | | ***д*** | |
| Зубр | 1,9 | — | 2,6/1,5 | 2,2 | 4,1 | 12,5 | 14 | | |
| Лось | 6,8 | 5,9 | 5,2/5,9 | 11,2 | 4,1 | 12,5 | 5,1 | 41,1 | 25,5 |
| Алень выс. | 2,6 | — | —/0,2 | 0,4 | 1,4 | — | 6,7 | | |
| Казуля | 1,9 | — | —/0,4 | 1,6 | 1,4 | — | — | | |
| Кабан | 9,1 | — | 6,9/3,3 | 9,7 | 3,3 | 12,5 | 21,7 | | |
| Мядзведзь | 2,2 | 5,9 | 2,6/2,6 | 0,8 | — | — | — | | |
| Лісіца | 0,3 | — | 0,4/0,2 | 0,6 | — | — | — | | |
| Выдра | — | — | 0,4/— | 0,2 | — | — | — | | |
| Куніца | — | — | 3,4/1,2 | 3,2 | — | — | — | | |
| Барсук | 0,3 | — | 0,4/— | — | — | — | — | | |
| Рысь | — | — | 0,4/— | 0,4 | — | — | — | | |
| Бабер | 6,1 | 5,9 | 3,4/6,1 | 6,3 | — | — | 15 | 41,1 | 25,5 |
| Заяц | — | — | 1,3/0,9 | 4,9 | — | — | — | | |
| Воўк | 1,5 | — | — | 0,6 | — | — | — | | |
| Усяго: | 32,7 | 17,7 | 27/22,3 | 42,1 | 14,3 | 37,5 | 37,5 | | |

**Табліца Д** Суадносіны колькасці асобін свойскіх і дзікіх жывёлін па асобных відах (Пруднікі)

| Косткі відаў | Гарадзішча | | | Селішча | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | косткі | асобіны | % ад агульнай кол-ці асобін | косткі | асобіны | % ад агульнай кол-ці асобін |
| **Свойскія** | | | | | | |
| Буйная рагатая жывёла | 309 | 43 | 18,6 | 677 | 77 | 14,8 |
| Дробная рагатая жывёла | 76 | 21 | 9,0 | 179 | 51 | 9,8 |
| Свіння | 586 | 84 | 36,3 | 1350 | 277 | 41,8 |
| Конь | 129 | 16 | 6,9 | 414 | 50 | 9,6 |
| Сабака | 6 | 5 | 2,2 | 29 | 9 | 1,7 |
| УСЯГО: | 1106 | 169 | 73,0 | 2649 | 404 | 77,7 |
| **Дзікія** | | | | | | |
| Зубр | 16 | 6 | 2,6 | 8 | 8 | 1,5 |
| Лось | 49 | 12 | 5,2 | 112 | 31 | 5,9 |
| Алень высакародны | — | — | — | 1 | 1 | 0,2 |
| Казуля | — | — | — | 4 | 2 | 0,4 |
| Дзік | 61 | 16 | 6,9 | 35 | 17 | 3,3 |
| Мядзведзь | 11 | 6 | 2,6 | 22 | 14 | 2,6 |
| Лісіца | 1 | 1 | 0,4 | 1 | 1 | 0,2 |
| Выдра | 1 | 1 | 0,4 | — | — | — |
| Куніца | 8 | 8 | 3,4 | 6 | 6 | 1,2 |
| Барсук | 1 | 1 | 0,4 | — | — | — |
| Рысь | 1 | 1 | 0,4 | — | — | — |
| Бабёр | 17 | 8 | 3,4 | 120 | 32 | 6,1 |
| Зяц | 3 | 3 | 1,3 | 5 | 5 | 0,9 |
| УСЯГО: | 169 | 63 | 27,0 | 314 | 117 | 22,3 |
| Усяго хатніх і дзікіх: | 1275 | 232 | 100,0 | 2963 | 521 | 100,0 |

**Табліца Е** Памеры і прапорцыі пясцевых костак каня (Пруднікі)

| Пласты. Прамеры, мм | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|---|
| Найбольшая даўжыня пясці | 194 | 206 211 | 221 | 222 | — |
| Шырыня верхняга канца | 42 | 45 45 | 50 | 47 | — |
| Шырыня ніжняга канца | 44 | 44 45 | 47 | 47 | 42, 48,48 |
| Шырыня дыяфізу | 29 | 31 29 | 32 | 31 | — |
| Адносіны шырыні дыяфізу да даўжыні косткі (%) | 14,9 | 15,0 13,7 | 14,5 | 14,0 | — |
| Вышыня ў карку, см | 124,4 | 132,1 135,3 | 141,7 | 142,3 | — |

**Табліца Ж** Суадносіны паміж відамі свойскіх жывёл на селішчы Пруднікі

| Від | XI—IX стст. | | VIII—V стст. | | IV—III стст. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | асобіны | % ад кол-ці с г жывёлін | асобіны | % ад кол-ці с г жывёлін | асобіны | % ад кол-ці с г жывёлін |
| Буйная рагатая жывёла | 21 | 18,6 | 41 | 20,7 | 15 | 17,8 |
| Дробная рагатая жывёла | 11 | 9,7 | 25 | 12,6 | 15 | 17,8 |
| Свіння | 66 | 58,4 | 107 | 54,1 | 44 | 52,4 |
| Конь | 15 | 13,3 | 25 | 12,6 | 10 | 12,0 |
| УСЯГО: | 113 | 100,0 | 198 | 100,0 | 84 | 100,0 |

гады. Буйная рагатая жывёла па колькасці выкарыстаных у ежу экземпляраў значна ўступала колькасці свіней (табл. Д; Ж). Магчыма, гэта звязана з тым, што малочную жывёлу імкнуліся захаваць як мага даўжэй, а ў ежу ішлі амаль выключна дарослыя асобіны (не маладзей чым 4 гады). Рост буйной рагатай жывёлы быў у сярэднім на 4—5 см вышэйшы, чым у сярэднявечнай Беларусі.

Роля дробнай рагатай жывёлы ў харчаванні была невялікай і паступова з цягам часу змяншалася. Мясной жывёлай быў і конь, пры гэтым у ежу ішло мяса ў асноўным дарослых жывёлін. Не выключана, што ў

мясным рацыёне насельніцтва прысутнічала мяса і дзікага каня. Аднак конь выкарыстоўваўся таксама і ў ваенных мэтах, і як цяглавая сіла ў гаспадарцы. Сведчаннем гэтаму — знаходкі шпораў, ледаходных шыпоў, рэшткаў збруі. Цікава, што як і ў Прудніках, так і больш ранейшых суседніх Паддубніках буйная, дробная рагатая жывёла і конь прыкладна ў роўнай ступені ўдзельнічалі ў забеспячэнні мясам насельніцтва, адпаведна 23,8 %, 23,1 %, 20,9 % ад ліку асобін свойскіх капытных, але першае месца таксама належала свінні (32,2 %).

У рэгіёне Пруднікаў паляванне адыгрывала другарадную ролю. Па даных табліцы колькасць рэштկаў дзікіх жывёл складала ў сярэднім 24,7 % ад агульнай колькасці асобін свойскіх жывёл. Палявалі на такіх капытных, як зубр, лось, алень высакародны, казуля, дзік. Асноўнай паляўнічай здабычай сярод названых відаў з'яўляліся лось і дзік. Іншую групу паляўнічых жывёл складалі некапытныя: мядзведзь, лісіца, выдра, куніца, барсук, рысь, бабёр, заяц. Як адзначае Ю.А. Красноў (Краснов, 1971, с. 107), у ежу не ўжываліся «толькі кунічныя, лісіца і воўк». Аб тым, што на мядзведзя палявалі не толькі дзеля футра, але і мяса, сведчыць раздробленасць костак яго шкілета. Бабёр і мядзведзь — найбольш шматлікія ахвяры паляваўшых на іх жыхароў у Прудніках: рэшткі першага складаюць 20 % (ад колькасці асобін дзікіх жывёл на селішчы і гарадзішчы), другога — 10,7 %. На гарадзішчы ахвярай паляўнічых часцей (12,7 %) станавілася куніца, а не мядзведзь, на селішчы рэшткі яе не перавышаюць 5,1 % ад колькасці асобін дзікіх жывёл (табл. Д).

Вывучаны астэалагічны матэрыял дазваляе адказаць (зразумела, вельмі прыблізна) на пытанне аб тым, якая была доля мяса паляўнічых жывёлін у мясным рацыёне жыхароў. Выхад мяса ад аднаго экземпляра жывёліны складае 60 % яго жывой вагі. Калі ўмоўна прыняць адну галаву буйной рагатай жывёлы за 150 кг, каня — 100, свінні — 50, дробнай рагатай жывёлы — 20, зубра — 500, лася — 300, дзіка — 100, мядзведзя — 100, бабра — 20 кг, то мяса, атрыманае ад палявання на абодвух помніках (селішча і гарадзішча) у Прудніках складае 39,6 % ад агульнай колькасці (з улікам мяса сельскагаспадарчых жывёл). Даныя астэалагічных вызначэнняў на паселішчах Пруднікі ад ніжніх да верхніх пластоў сведчаць аб высокім развіцці свінагадоўлі, якое з цягам часу ўсё больш павялічвалася на працягу ўсяго перыяду існавання селішча і гарадзішча.

**Табліца І** Касцявыя рэшткі жывёл з гарадзішча Клішына Крупскага раёна (вызначэнні А.А. Разлуцкай)

| Косткі відаў | Коль-ць костак у культурным пласце раскопу | % | Прылад | Іклы-амулеты |
|---|---|---|---|---|
| Сабака | 8 | 4,6 | | 1 ікол |
| Свіння хатняя | 41 | 23,9 | | |
| Аўца | 18 | 13,7 | | |
| Каза | 4 | 2,3 | | |
| Аўца-каза разам | 1 | 0,5 | | |
| Буйная рагатая жывёла | 24 | 14,0 | | |
| Конь | 23 | 13,4 | 1 | 1 ікол (subad.) |
| **Усяго хатніх:** | **119** | **72,4** | **1** | **2** |
| Бабёр рачны | 9 | 5,2 | 2 | 1 разец (adultus) |
| Лісіца звычайная | | | | 1 ікол (adultus) |
| Барсук | | | | 1 ікол (adultus-maturus) |
| Воўк | 2 | 1,1 | | 2 іклы (adultus) |
| Мядзведзь | 4 | 2,3 | | |
| Дзік | 17 | 9,9 | 2 | 4 разца (subad.-ad) |
| Алень высакародны | 3 | 1,7 | | 2 разца (adultus) |
| Лось | 8 | 4,6 | | 4 разца (adultus) |
| Зубр | 5 | 2,8 | | |
| **Усяго дзікіх:** | **48** | **27,6** | **4** | **15** |
| Нявызначаных: | 4 | 2,3 | | |
| **УСЯГО:** | **171** | **100,0** | **5** | **17** |

У гэтых адносінах Пруднікі маюць шмат агульнага з суседнім гарадзішчам Паддубнікі, хаця апошняе і больш старажытнае. У цэлым, па ўсіх прыкметах жывёлагадоўлі, паводле Ю.А. Краснова, гэты помнік мае шмат агульнага з раёнам, куды ўваходзіць большая частка Латвіі, Літва, Сярэдняя і Паўночная Беларусь, Смаленшчына, заходняя частка Волга-Окскага міжрэчча і частка верхняга цячэння Дзясны (Краснов, 1971, с. 130—131). Менавіта высокі працэнт рэшткаў свінні і меншы працэнт дробнай рагатай жывёлы характарызуюць помнікі гэтага рэгіёна. Калі параўноўваць з канкрэтным помнікам, то

па ўсіх даных жывёлагадоўлі і палявання, вельмі блізкім да Пруднікаўскіх паселішчаў з’яўляецца гарадзішча ў Маскавічах (Браслаўскі раён). Тут таксама адзначана вялікая роля свінагадоўлі.

Даследаванне астэалагічнага матэрыялу з паселішчаў Пруднікі, выявіла прыкладна аднолькавы склад статку ў гаспадарцы насельніцтва ад другой паловы I да пачатку II тысячагоддзяў н.э. Такім чынам, гэтыя даныя пацвярджаюць археалагічныя вывады аб тым, што насельніцтва гэтага рэгіёна было аднародным і рэзкіх змен тут не адбывалася да канца I тысячагоддзя н.э. Аналіз астэалагічнага матэрыялу дазваляе гаварыць аб тым, што з дзвюх галін гаспадаркі — жывёлагадоўлі і палявання — пераважную ролю ў жыцці насельніцтва Беларускага Падзвіння мела жывёлагадоўля (у сярэднім 73,9 % жывёлы, якія ўжываліся ў ежу, прыходзіліся на долю свойскіх). У гаспадарцы было 4 віды сельскагаспадарчай жывёлы: буйная, дробная (у асноўным авечкі) рагатая жывёла, свіння, конь.

***Рыбалоўства.*** Лоўля рыбы з мэтай атрымання дадатковых прадуктаў харчавання практыкавалася паўсюдна на ўсіх паселішчах Падзвіння. Гэта галіна гаспадарчай дзейнасці і ў другой палове I тысячагоддзя н.э., безумоўна, адыгрывала яшчэ важную ролю. Рыбалоўства насіла характар пастаяннага промыслу, і гэтаму садзейнічала наяўнасць шырокай азёрна-рачной сеткі ў рэгіёне. Пры раскопках у Пrudніках, Маскавічах, Клішыне і ў ніжніх пластах Полацка, Віцебска сустрэта вялікая колькасць іхтыялагічных рэштак у выглядзе костак і лускі, галоўным чынам ад буйных рыб. У выніку вывучэння каля 5 тыс. костак і лускі, праведзеных Н.П. Александровіч, Э.А. Ляшкевіч, А.У. Зубеям з Маскавіцкага гарадзішча, устаноўлена, што асноўнымі прамысловымі рыбамі былі: шчупак (30,2 %), акунь (26,6 %), судак (18,3 %), лешч (8,6 %), лінь (4,3 %), плотка (2,5 %), вугор (1,9 %), сом (1,82 %), язь (0,4 %) (Александрович, 1982, с. 94—98; Ляшкевіч, Зубей, 2001, с. 101—104).Вывучэнне іхтыялагічнага матэрыялу з Пруднікаў, Клішына (табл. К, Л) падмацоўвае доказы аб занятках насельніцтва рыбалоўствам (Шадыра, Ляшкевіч, 2000, с. 53—55). У выніку вывучэння костак з Пруднікаў былі вылучаны 7 відаў рыб (табл. К).

*Сямейства шчупаковых.* Шчупак звычайны прадстаўлены 14 касцямі (28 %). Па большасці з іх была разлічана даўжыня рыб. Як бачна з табліцы 3.10, мінімальны памер шчупакоў склаў 20 см, максімальны — 93 см. 70 % касцей паходзіла ад асобін даўжынёй звыш 50 см. Узрост, які вызначаўся па пазванках, склаў 9 і 10 год. Шчупак паўсюдна пашыраны ў старажытнасці прамысловы аб’ект. Здабыча яго магла адбывацца пасткавымі прыстасаваннямі, восцю, буйнымі кручкамі.

**Табліца К** Астэалагічныя рэшткі рыб з гарадзішча Пруднікі
(вызначэнні Э.А. Ляшкевіч)

| **Косць** | **Шчупак *Esox lucius*** | **Лешч *Abramis brama*** | **Лінь *Tinca tinca*** | **Язь *Lcuciscus cephalus*** | **Сям.Кар. *Cyprinidac*** | **Сом *Siluris glanis*** | **Судак *Stizostedion lucioperea*** | **Акунь *Perca fluviatilis*** |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| *parasph.* | 1 | | 1 | | | | | |
| *praemax* | 2 | | | | | | 1 | |
| *parietale* | 1 | | | | | | | |
| *palatin.* | | | | | | | 1 | |
| *praeop.* | | | | | 1 | | | |
| *opercul.* | | 1 | | | 1 | | | |
| *dentale* | 3 | | 1 | | | | 1 | |
| *ceratoh.* | 1 | | | | 1 | | | |
| *faring.* | | | | 2 | | | | |
| *r.br.* | | | | | 1 | | | |
| *cleithr.* | 1 | | | | 1 | | 1 | 1 |
| *margin.* | | | | | | 3 | | |
| *vertebr.* | 2 | 2 | | | | 3 | 3 | |
| *hypur.* | 1 | | | | | | | |
| *costae* | 2 | | | | 1 | | 1 | 2 |
| *калюч. промні плаўніка* | | | | | | | 1 | 4 |
| *Усяго:* | 14 | 3 | 2 | 2 | 6 | 6 | 9 | 7 |
| *%* | 28 | 6 | 4 | 4 | 12 | 12 | 18 | 14 |

*Сямейства карпавых*. Колькасць костак прадстаўнікоў гэтага сямейства ў цэлым параўнальна аднолькавая з колькасцю шчупака (13 экз.). Луска з паселішча Пруднікі належала выключна гэтай сям’і. Пры даследаванні былі ўстаноўлены наступныя віды: лешч склаў 6 % ад усёй колькасці касцей.

Вызначаная даўжыня — 34 і 45 см, узрост 5—10 год. Лінь і галавень займаюць па 4 %. Вызначаная даўжыня ліня склала 43 і 45 см. Галавень быў недзе каля 40 см (эталон адсутнічае). Ён і зараз насяляе стромкія халодныя воды Вяты.

*Сямейства акунёвых*. Акунь прадстаўлены маладыягнастычнымі дробнымі касцямі, якія складаюць 14 % ад усёй колькасці. Атрыманы адзіны памер — 26 см.

Судак налічвае 18 % і прадстаўлены буйнымі касцямі шкілету. Адзін з пазванкоў меў прасвідраваную адтуліну. Факты апрацоўкі пазванкоў рыб, у прыватнасці судака, на Беларусі маюць месца ў матэрыялах сярэднявечнага гарадзішча Маскавічы, дзядзінца Слуцка. Традыцыя свідравання пазванкоў рыб цягнецца з часоў каменнага веку. Даўжыня судакоў была наступная: 50 см, 55 см (3 экз.), 60 см, і ўзрост: 9 і 10 год.

*Сямейства сомавых*. Сом быў вызначаны па 6 касцях, што складае 12 %. Былі разлічаны памеры 110 см, 112 см і 120 см. Узрост склаў 7 год (2 экз.) і 14 год. Здабыча сома магла ажыццяўляцца буйнымі кручкамі па ямах рэчышча Заходняй Дзвіны. Па звестках мясцовых жыхароў, сом у апошні час трапляецца вельмі рэдка. Буйныя, звыш 1,0 м, экземпляры вылоўлівалі ў 50—70-х гг. XX ст.

**Табліца Л** Астэалагічныя рэшткі рыб з гарадзішча Клішына Крупскага раёна (вызначэнні Э. Ляшкевіч)

| **Косць** | **Шчупак** *Esox lucius* | **Акунь** *Perca fluviatilis* | **Сям.Кар.** *Cyprinidac* | **Лешч** *Abramis brama* | **Судак** *Stizostedion lucioperea* |
|---|---|---|---|---|---|
| **1** | **2** | **3** | **4** | **5** | **6** |
| *cl* | 5 | | | | |
| *r.br.* | 2 | | | | |
| *ch* | 1 | | | | |
| *ectpter* | 5 | | | | |
| *prsph* | 2 | | | | |
| *fr* | 1 | | | | |
| *p max* | 2 | | | | |
| *dentale* | 2 | | | | |
| *sphoticum* | 1 | | | | |
| *vt* | 3 | | | | |
| *op* | | 1 | | | |
| *scl* | | 1 | | | |
| *prsp* | | 1 | 1 | 1 | |
| *costae* | | | | | |
| *луска* | | 1 | | | 1 |

**Табліца М** Даўжыня шчупака з гарадзішча Пруднікі і Клішына

| | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пруднікі | См | 20 - | 25 - | 30 - | 35 - | 40 - | 45 - | 50 - | 55 - | 60 - | 65 - | 70 - | 75 - | 80 - | 85 - | 90 - | 95 |
| | К-ць | 1 | | | 1 | | 1 | 2 | | 1 | | 1 | | 1 | | 2 | |
| Клішына | К-ць | | | | | 2 1 | 2 1 | 1 2 | 3 | | 2 | | | 1 | | | |

Такім чынам, у рыбалоўным промысле паселішчаў Пруднікі, мяркуючы па астэалагічных рэштках, пераважаў шчупак і судак. Мала ім саступалі рыбы сямейства карпавых у сукупнасці, якія прадстаўлены яшчэ і луской. Знаходкі костак буйных самоў сведчаць аб рэдкай, але вельмі значнай прыбаўцы да рацыёну тагачасных жыхароў. Здабываемыя рыбы былі ў большасці палаваспелымі.

Астэалагічныя рэшткі пераважна буйных драпежных рыб добра стасуюцца з комплексам жалезных рыбалоўных прылад, якія прадстаўлены ў асноўным кручкамі. Знаходка двухзубага наканечніка двухчасткавай восці, які адносіцца да пластоў 7—8 стст., прымушае перагледзець момант узнікнення гэтых вырабаў у бок больш ранняга часу.

Звесткі пра рыбалоўства могуць быць складзены і на падставе шматлікіх знаходак прылад працы, звязаных з рыбалоўным промыслам. Сярод іх у разглядаемы перыяд шырокае распаўсюджанне атрымалі жалезныя кручкі даволі вялікіх памераў — 50—65 мм (табл. 16/I: 5, 6). Яны выкарыстоўваліся пераважна для лоўлі буйной драпежнай рыбы (шчупака, сама, судака і інш.) галоўным чынам у летні перыяд часу. У гэты час з'яўляюцца і жалезныя восці, што сведчыць пра здабычу рыбы вясной у час нерасту і восенню з падсвечваннем, так званае лучэнне.

Жалезныя восці з'яўляюцца больш удасканаленай прыладай у параўнанні з гарпуном, які быў ва

ўжытку ў папярэднюю эпоху на малых вадаёмах. У Прудніках і Маскавічах знойдзены двухзубыя і адназубыя восці. Па назіраннях даследчыкаў, двухзубыя восці сустракаюцца раней, чым адназубыя. Падобная восць ёсць у матэрыялах селішча 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. ва ўрочышчы Тарылава Браслаўскага раёна (табл. 16/II: 1). Адназубавыя восці складваліся ў трохзубавыя. К канцу перыяду з'яўляецца блешна. Блешны з Маскавічаў, ранніх слаёў Полацка, Віцебска і сумежных тэрыторый уяўляюць сабой крыху выцягнутую лістападобную пласціну, адзін канец якой пераходзіць у кручок, а другі мае адтуліну для замацавання шнура.

Такім чынам, у сярэдзіне і другой палове I тысячагоддзя н.э. з'явіліся новыя і больш удасканаленыя жалезныя прылады, звязаныя з рыбалоўствам. Аднак, несумненна, у рыбалоўстве выкарыстоўваліся і іншыя спосабы лоўлі, якія існавалі ў папярэднюю эпоху. Напрыклад, перагароджванне рэк плетнямі, так званыя заколы для лоўлі рыбы, якая ідзе на нераст ці пасля яго накіроўваецца ў вялікія вадаёмы, зімовая лоўля ў спецыяльных лунках і інш.

***Збіральніцтва і бортніцтва.*** Насельніцтва Беларускага Падзвіння і ў разглядаемы перыяд выкарыстоўвала прыродныя раслінныя рэсурсы, прыдатныя для ўжывання ў ежу, г.зн. займалася збіральніцтвам. Неабходна падкрэсліць, што ў сувязі са значным развіццём земляробства і жывёлагадоўлі збіральніцтва ўжо не адыгрывала той важнай ролі, якая яму належала ў папярэднія эпохі.

Асаблівасці культурнага пласта паселішчаў і недасканаласць методыкі яго даследавання не дае нам дастатковага фактычнага матэрыялу пра поўны асартымент пладоў, ягад і іншых карысных раслін. Археалагічна пакуль пацвярджаецца толькі сам факт наяўнасці збіральніцтва. Так, напрыклад, у слаях паселішчаў Пруднікі, Цясты, Маскавічы і інш. знойдзены шкарлупіны ад арэхаў. Зыходзячы з этнаграфічных даных, можна меркаваць, што насельніцтва збірала плады, ягады, ядомыя карэнні, грыбы і інш. Іх выкарыстоўвалі ў ежу адразу ці рыхтавалі на зіму. Безумоўна, шырока практыкавалася збіранне мёду дзікіх пчол і асабліва воску, бо воск выкарыстоўваўся для вырабу гліняных формаў у бронзаліцейнай вытворчасці. Але трэба адзначыць, што пакуль яшчэ не знойдзены прылады працы, звязаныя з бортніцтвам.

Такім чынам, нават на параўнальна невялікім даследчым матэрыяле з раскопак паселішчаў Падзвіння можна прасачыць адрозненні ў гаспадарчай дзейнасці рэгіёна, што звязана з рознымі ўмовамі, перш за ўсё прыроднага характару. На адных паселішчах першаступеннае значэнне мела земляробства (гарадзішча Замошша, Гарадок, Гаравыя — усходнія вобласці вывучаемага рэгіёна), на другіх — жывёлагадоўля (паселішчы Пруднікі, Урагава, Цясты — Заходні раён). Змены ў асобных галінах гаспадаркі, якія адбыліся на тэрыторыі Беларускага Падзвіння ў параўнанні з папярэдняй эпохай, хаця і не заўсёды дакладна, але прасачыць магчыма. Земляробства стала займаць усё больш важкую ролю ў гаспадарцы. Яно па-ранейшаму заставалася ў асноўным лядным (падсечна-агнявым). Жывёлагадоўля ў гэты перыяд заняла ў большасці месц абсалютна вядучую ролю ў забеспячэнні ежай насельніцтва. Буйная рагатая жывёла сярод разводзімых жывёлаў займае галоўнае месца. Па-ранейшаму застаецца высокі паказчык па свінагадоўлі, што адрознівае вывучаемы рэгіён ад больш усходніх тэрыторый. Інтэнсіўнае развядзенне свіней можа быць звязана з недахопам кармоў пры больш шчыльным рассяленні насельніцтва (Рыер, 1997, с. 113).

## 3.4. Сацыяльная структура, вераванні і пахавальныя помнікі

Важнейшай з'явай у сярэдзіне і 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э., як вядома, было пакіданне ўмацаваных паселішчаў (гарадзішчаў) і пераход на адкрытыя паселішчы. Разглядаць гэты працэс трэба як вынік развіцця прадукцыйных сіл. У гаспадарчай дзейнасці насельніцтва Падзвіння земляробства і жывёлагадоўля зрабіліся не толькі асноўнымі галінамі гаспадаркі, але і дасягнулі новай, якасна больш высокай ступені. Прагрэс у гаспадарчай дзейнасці патрабаваў новых формаў ўзаемаадносін паміж людзьмі: разрыву старых замкнутых родавых адносін. І першым зафіксаваным на археалагічным матэрыяле змяненнем было спыненне ўзвядзення новых гарадзішчаў, а таксама пакіданне раней заселеных. Гэтыя ўмацаваныя родавыя паселішчы, заселеныя замкнутай групай бліжэйшых родзічаў, абмяжоўвалі людзей у асваенні новых зямель пад пасевы, шырокі абмен і зносіны з іншымі, асабліва іншароднымі групамі насельніцтва. Узвядзенне складаных абарончых збудаванняў, якія складаліся з шэрагу земляных валоў, равоў і драўляных канструкцый, падтрыманне іх у належным стане патрабавала вялікіх затрат працы.

Заключная фаза пабудовы гарадзішчаў адносіцца да першых стагоддзяў н.э. На тэрыторыі Беларускага Падзвіння вядома каля 200 помнікаў, якія можна з пэўнай доляй верагоднасці адносіць да гэтага часу. Паселішчы размяшчаліся групамі (гнёздамі) па 2—4 гарадзішчы, што сведчыць аб родавым рассяленні насельніцтва. Зыходзячы з меркавання, што на адным гарадзішчы пражывала адна патрыярхальная сям'я (50—70 чалавек), а некалькі сем'яў утваралі род («гняздо» 2—4 гарадзішчы — 150—250 чалавек), можна разбіць усё насельніцтва дадзенага рэгіёна на 50—60 радоў, якія ў свой час, аб'ядноўваліся ў 10—15 плямёнаў (племя — 10—15 гарадзішчаў — 500—1000 чалавек). Такім чынам колькасць насельніцтва Беларускага Падзвіння к сярэдзіне I тысячагоддзя н.э. складала прыкладна 15—20 тыс. чалавек, а шчыльнасць — 1 чалавек на 2—2,5 кв.м. На ўсёй тэрыторыі Беларусі, па падліках Э.М. Загарульскага, колькасць насельніцтва ў жалезным веку магла быць у межах ад 50 да 75 тыс. чалавек (Загорульский, 1996 с. 45). У разлік бяруцца лічбы вядомых навуцы гарадзішч — 1 тыс. і колькасць пражываючых на адным — 50—70 чалавек. Мы зыходзім з таго, што гарадзішч было значна больш, чым захавалася, і хаця яны засяляліся ў розны час («вузкія» датыроўкі на большасці гарадзішч адсутнічаюць — ***В.Ш.***). Тым не менш насельніцтва Беларусі, на наш погляд, у канцы эпохі жалеза (канец IV — V стст. н.э.) складала прыкладна 100—120 тыс. чалавек. Безумоўна, дэмаграфічныя падлікі для гэтага перыяду вельмі прыблізныя і з'яўляюцца амаль гіпатэтычнымі. Дарэчы, калі звярнуцца да Заходняй Еўропы, то адзіны народ, адносна якога мы маем праўдападобную ацэнку яго колькасці, — гэта вандалы Гензерыха. У момант высадкі ў Афрыцы ў 429 г. іх было 80 тыс. Вестготы, франкі, іншыя групы захопнікаў налічвалі не больш 100 тыс. чалавек (Гофф, 1992, с. 33). Але вернемся да нашага рэгіёна.

Далейшае развіццё прадукцыйных сіл, эканамічны пад'ём, выклікаў дэмаграфічны рост насельніцтва рэгіёна Беларускага Падзвіння, і для V—VIII стст. можна дапусціць лічбу ў 30—40 тыс. чалавек.

Хутчэй за ўсё насельніцтва было звязана племяннной структурай. Пры неабходнасці ствараліся хаўрысы плямёнаў. З цягам часу для вырашэння пытанняў ваенна-абарончага, сацыяльна-культавага характару ўзнікае неабходнасць у стварэнні міжплемянных цэнтраў. У шэрагу выпадкаў на месцы гэтых цэнтраў узнікаюць гарады (Полацк, Віцебск, Лукомль, Дрыса, Браслаў і інш.). Тапаграфія паселішчаў Падзвіння сведчыць аб размяшчэнні іх у межах прытокаў Заходняй Дзвіны і, такім чынам, на правабярэжжы можна выдзеліць 6 плямёнаў у міжрэччах: 1) Аўсянка — Ловаць, 2) Лужаснянка — Усыса — Обаль, 3) Обаль — Палата, 4) Палата — Дрыса, 5) Дрыса — Свольна, 6) Свольна — Сар'янка. На левабярэжжы месцілася 5 плямёнаў, межамі якіх былі рэкі Касспля, Лучоса, Ула, Ушача, Дзісна, Друйка і Браслаўскае Паазер'е (Шадыра, 1996, с. 81).

Пераход на адкрытыя паселішчы садзейнічаў вызваленню людзей ад непрадукцыйных затрат працы і даваў магчымасць больш займацца як асноўнымі, так і дапаможнымі галінамі гаспадарчай дзейнасці. Ён стаў магчымым толькі пры пэўных умовах, што ўзніклі ўнутры тагачаснага грамадства. Па-першае, унутры працоўных калектываў адбываюцца значныя змяненні, вылучаюцца больш багатыя сем'і. Да такой катэгорыі адносіліся ў першую чаргу родавыя вярхі (старэйшыны, жрацы, вайсковыя начальнікі і інш.). Аб з'яўленні багатых сем'яў сведчаць знаходкі індывідуальных скарбаў на аднакультурнай вобласці Аршанскага Падняпроўя на гарадзішчы Вежкі Дубровенскага раёна (Колосовский, 1997, с. 37—39, 75). У склад скарба ўваходзілі два бронзавыя бранзалеты з пашыранымі канцамі і з геаметрычным арнаментам, дзве бронзавыя шыйныя грыўні з пятлёй і кручком на канцах, тры пласцінчатыя скроневыя кольцы з бронзавага дроту, галаўныя венчыкі і жалезны наканечнік дзіды. Скарб знаходзіўся над пластом пажарышча і быў захаваны пасля пажару (Колосовский, 1997, с. 38).

Прыкладам падобнай з'явы могуць служыць індывідуальныя скарбы, знойдзеныя на гарадзішчы-

сховішчы каля в. Дзямідаўка, схаваныя, як лічыць Я.А. Шмідт, у час асады паселішча і яго гібелі ў агні. Адзін са скарбаў меў збор сярэбраных скроневых кольцаў, а другі — багаты воінскі пояс з сярэбранай спражкай, упрыгожаны шматлікімі сярэбранымі бляшкамі-набоечкамі паўднёвага паходжання, атрыманы альбо ў час паходаў, альбо шляхам абмену. Падобная з'ява зафіксавана А.А. Седзіным у Магілёўскім Падняпроўі і на гарадзішчы Нікадзімава (Седин, 1995). У 2003 г. на гарадзішчы Клішына аўтарам быў знойдзены скарб жаночых ўпрыгожанняў VII—VIII стст. н.э., у яклад якога ўваходзілі 5 скроневых сярэбраных кольцаў, 3 бронзавыя бранзалеты і 15 бронзавых пранізак (табл. 19/II).

У разглядаемы перыяд яшчэ рана гаварыць пра з'яўленне прыватнай уласнасці на ўсе сродкі вытворчасці (ворныя землі, лугі, выганы, лясы, азёры, рэкі і інш.). Яны знаходзіліся ў сумеснай уласнасці абшчыны. Аднак прылады працы, звязаныя з вытворчымі галінамі гаспадаркі, і іншы інвентар, у некаторых выпадках і жывёла, сталі ўжо ўласнасцю асобных сем'яў, што і дазваляла ім назапашваць лішкі прадуктаў, скуры і інш. Гэтыя тавары абменьваліся на параўнальна дарагія прывезеныя рэчы і ўпрыгожанні. Павялічэнне абмену, у тым ліку з даволі аддаленымі тэрыторыямі, пераканаўча засведчана шматлікімі знаходкамі на тэрыторыі Беларускага Падзвіння розных прывазных рэчаў: фібул, падвесак, шкляных і бурштынавых пацерак, сярэбраных арабскіх манет (дырхемаў) і інш., а таксама паступленнем такіх металаў, як медзь і серабро.

Знікненне ўмацаванняў вакол паселішчаў садзейнічала ў нейкай ступені разбурэнню замкнутасці родавых калектываў і стварэнню перадумоў да фарміравання абшчыны не толькі па родавай прыкмеце, але і па сумеснай працоўнай дзейнасці.

Важным момантам у сацыяльнай структуры насельніцтва Беларускага Падзвіння з другой паловы I тысячагоддзя н.э. з'яўляецца змяненне ва ўзаемаадносінах паміж родамі і плямёнамі. Змены ўнутры родавай арганізацыі прывялі да паслаблення ўнутрыродавых сувязей і страце некаторых функцый, уласцівых роду ў мінулы час. Племянная арганізацыя з цягам часу ўсё шырэй умешваецца ў справы родаў і бярэ на сябе шэраг функцый, якія раней уваходзілі толькі ў кампетэнцыю родаў. Гэта перш за ўсё ахова інтарэсаў у цэлым усіх членаў асобнага роду і кожнай асобы ў прыватнасці дадзенага племені. Акрамя таго, племя забяспечвае бяспеку родавых пасёлкаў (тэрытарыяльных абшчын) у цэлым ад нападу з боку як роднасных, так і няроднасных калектываў.

Урэгуляванне спрэчных пытанняў паміж роднаснымі плямёнамі патрабавала ўмацавання сувязей паміж гэтымі плямёнамі, а ахова іх тэрыторый прыводзіла да стварэння міжплемянных хаўрусаў. У сваю чаргу ўмацаванне ўлады племянных арганізацый і стварэнне міжплемянных хаўрусаў рабіла лішнім умацаванне кожнага асобнага паселішча.

Далейшы працэс развіцця вёў да дыферэнцыяцыі членаў суседскай абшчыны, да вылучэння багатых вярхоў, якія накоплівалі багацці як за кошт свайго асабога статуса ў абшчыне, так і за кошт абрабавання суседніх плямёнаў падчас ваенных набегаў. З найбольш знатнай і багатай часткі абшчыны паступова фарміруецца ваенная дружына. Гэта пацвярджаецца шматлікімі знаходкамі ў матэрыялах другой паловы I тысячагоддзя н.э. рознай зброі (наканечнікі дзідаў, стрэлаў і інш.). Аснову дружыны складалі воіны-коннікі, пра што сведчаць прадметы рыштунку (цуглі, шпоры, спражкі і інш.). Трэба заўважыць, што падобныя знаходкі гэтых прадметаў у папярэднюю эпоху ці зусім не сустракаліся, ці сустракаліся вельмі рэдка.

Ваенныя напады ў эпоху Вялікага перасялення народаў былі, відаць, з'явай звычайнай не толькі на поўдні ў стэпавых і лесастэпавых раёнах. З другой паловы I тысячагоддзя н.э. гэта з'ява распаўсюдзілася і на лясную паласу, ахапіўшы раёны вярхоўяў Дняпра і Падзвіння, у тым ліку і разглядаемы рэгіён. Таму мясцовае насельніцтва, нягледзячы на наяўнасць племянной арганізацыі і дружыны, усё ж вымушана было будаваць умацаваныя сховішчы, каб у выпадку з'яўлення ворага з пераўзыходзячай сілай мець магчымасць захаваць і сваю маёмасць, і сваё жыццё. Прыкладам падобнага сховішча з'яўляецца гарадзішча-сховішча Свіла 1 Глыбоцкага раёна. Хоць, як паказваюць даследаванні, мясцоваму насельніцтву так і не ўдалося ў канчатковым выніку абараніць сябе, крывічы захапілі гэта сховішча, ператварыўшы яго ў сваю даволі магутную крэпасць-астрог.

Зыходзячы з размяшчэння гарадзішчаў-сховішчаў і сінхронных ім паселішчаў, а таксама ўлічваючы ўнутранае ўладкаванне некаторых сховішчаў (Свіла 1), можна сцвярджаць, што на адным гарадзішчы-сховішчы знаходзіла прытулак насельніцтва не аднаго, а некалькіх селішчаў. Таму прычынай узвядзення сховішчаў з'яўляліся не столькі сацыяльныя супярэчнасці ўнутры родавых абшчын і нават не ўзаемаадносіны паміж рознымі суседнімі плямёнамі ці племяннымі аб'яднаннямі, а вельмі неспакойным часам. Гэта адлюстроўвала агульнае палітычнае становішча ва Усходняй Еўропе таго часу.

***Вераванні.*** Адначасова з развіццём прадукцыйных сіл і сацыяльных адносін адбываецца паступовае змяненне вераванняў, што даволі прыкметна прасочваецца на пахавальным абрадзе. Калі ў

папярэднюю эпоху жалеза ў плямёнаў Беларускага Падзвіння рэшткі крэмацыі не хаваліся ў зямлю, а змяшчаліся на паверхні (пра што можна гаварыць толькі ў плане меркавання, бо ў процілеглым выпадку рэшткі такога пахавання дзе-небудзь нарэшце былі б зафіксаваны), то з другой паловы I тысячагоддзя н.э. пахавальны абрад змяняецца: рэшткі трупаспалення кладуць у грунтовыя ямы-магілы. Гэты пахавальны абрад для трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н.э. у Падзвінні можна ўявіць наступным чынам. Нябожчыка спальвалі на вогнішчы часцей за ўсё без спадарожнага інвентару; выключэнне складаюць некаторыя прадметы жаночых упрыгожанняў з бронзы і срэбра. Спаленне праводзілася на месцы пахавання. Далей рэшткі спалення (кальцыніраваныя косткі і некаторая колькасць вуголля і попелу з вогнішча), куды траплялі зрэдку прадметы жаночых упрыгожанняў ці камякі каляровых металаў ад расплаўленых на вогнішчы рэчаў, збіралі і пераносілі на месца пахавання.

Пра выбар месца для пахавання па вывучаемым рэгіёне цяжка меркаваць, але, параўноўваючы даныя сумежных тэрыторый, месцы пахаванняў звычайна размяшчаліся ці прама на паселішчы каля жытлаў (Равячка — Міншчына, Заазер'е, Шугайлава — Смаленшчына), ці ў зручным месцы недалёка ад паселішча (Акатава — Смаленшчына, Узмень — Пскоўшчына). Адзіны пакуль выпадак пахавання на паселішчы на тэрыторыі Полацкага Падзвіння канстатаваны на гарадзішчы-сховішчы Свіла 1 Глыбоцкага раёна.

Мяркуючы па сціплых даных з Падзвіння і сумежных рэгіёнаў, на роўным месцы выкопвалася неглыбокая, акруглая ў плане ямка дыяметрам ад 0,3 да 0,4 м і глыбінёй да 0,6 м ад дзённай паверхні. Форма такой ямкі часцей усечана-канічная з плоскім ці злёгку акруглым дном. Прынесеныя рэшткі спалення зрэдку змяшчаліся ў гліняную пасудзіну, якая была такой самай формы, як і пасудзіны, што знаходзілі на селішчах ці сховішчах. Пасудзіну, запоўненую рэшткамі спалення, ставілі ў ямку ў нармальным становішчы. Зрэдку пасудзіна-урна накрывалася іншай пасудзінай большага памеру. Прастора паміж урнай і сценкамі ямкі запаўнялася цёмным грунтам накшталт сажы і зверху раўнялася ва ўзровень з навакольнай паверхняй.

Часцей за ўсё рэшткі спалення змяшчаліся ў выкапаную ямку без выкарыстання гліняных пасудзін. Магчыма, што яны адразу ссыпаліся ў ямку, але не выключана, што ў якасці урнаў выкарыстоўвалася драўляная пасудзіна ці якія-небудзь ёмкасці з кары ці дубцоў (тыпу берасцянак ці плецяных з дубцоў кошыкаў). Апошнія, натуральна, поўнасцю згнілі і пры раскопках практычна не фіксуюцца. Не выключана, што месца пахавання на паверхні неяк абазначалася, таму на раскапаных могільніках (галоўным чынам у Верхнім Падняпроўі) пакуль не было выпадкаў, каб адно пахаванне ўрэзалася ў другое ці неяк парушыла яго.

Інвентар грунтавых могільнікаў даволі бедны. Пасудзіны (урны) мелі выгляд вялікіх і высокіх гаршкоў (да 0,45 м) пры дыяметры горла да 0,3 м і папярочніку дна да 0,17 м. Форма пасудзін часцей за ўсё цюльпанападобная і радзей усечанабіканічная. Увесь посуд без арнаментаваных упрыгожанняў. Цэлых металічных знаходак не выяўлена, канстатаваны толькі аплаўленыя фрагменты металічных вырабаў, у якіх згадваюцца пярсцёнкі, падвескі, спіралькі і інш.

Апісаны вышэй пахавальны абрад з'яўляецца сведчаннем існавання культу памерлых продкаў, якія звязаны з уяўленнем пра душу, як пра нешта адрознае ад цела, што патрабуе асобых клопатаў пра сябе. Такія ўяўленні маглі скласціся тады, калі людзі пачалі лічыць, што іх мысленне і адчуванні не з'яўляюцца дзейнасцю іх цела, а нейкага асаблівага пачатку — душы, якая знаходзіцца ў гэтым целе і пакідае яго пры смерці. Самі продкі ўжо памерлі, а іх целы былі спалены на пахавальных вогнішчах і прах пахаваны ў зямлі, але ўплыў іх на жыцці людзей, на думку жывых, працягваўся.

Можна меркаваць, што ў людзей не было веры ва ўваскрашэнне цела (яго знішчалі спаленнем), а была ў працяг існавання душы і жыцця яе пасля смерці. Праходжанне нябожчыка праз агонь у час спалення не змяншала сілы яго душы, а наадварот душа, ачысціўшыся, рабілася яшчэ мацнейшай. Ачышчальная функцыя агню займала прыкметнае месца ў рэлігійных поглядах людзей. Абрад крэмацыі, хутчэй за ўсё, меў дачыненне да культу агню.

Культавые комплексы-збудаванні (свяцілішчы), звязаныя з язычніцкімі вераваннямі насельніцтва трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н.э., знойдзены, праўда, пакуль толькі на Смаленшчыне (Третьяков, Шмидт, 1963, с. 65, 96, 97, 102). Намі на гарадзішчы Цясты пад Верхнядзвінскам зафіксавана канцэнтрычнае размяшчэнне ям, што вельмі падобнае да тушамлянскага ўзору рэштказ свяцілішча. У гэтай сувязі выклікае цікавасць выяўлены аўтарам аб'ект на гарадзішчы Клішына Крупскага раёна (міжрэчча Заходняй Дзвіны і Дняпра), які можна аднесці да ямы-ахвярніка. Аб'ект уяўляў з сябе яму канічнай формы з амаль круглым у плане памерам з верхнім дыяметрам 4—4,2 м і глыбінёй да 2 м. У запаўненні яе былі выяўлены фрагменты ляпнога гладкасценнага і штрыхаванага посуду, а таксама іклы жывёл з нарэзкамі і касцяныя пласцінкі з адтулінамі (табл. 9: 1—21). Побач з ямай у мацерыковым слоі на глыбіні 1 м быў зафіксаваны няпоўны шкілет чалавека (фрагмент ніжняй правабаковай сківіцы, пазванкі, фалангі пальцаў) і каня, а таксама шматлікія касцяныя пласцінкі з адтулінамі і амулеты з разцоў

і іклаў жывёл з нарэзкамі. Пляцоўка асновы дна ямы круглая па форме (1—1,2 м), утрымлівала інтэнсіўна перапаленую зямлю з косткамі, вуглямі, камянямі. Размяшчэнне камянёў сведчыць аб наяўнасці агменю круглай формы. Няпоўны шкілет чалавека выяўлены таксама ў 20 м ад ахвярніка на мацерыковай паверхні (сцегнавыя і галёначныя косткі, фалангі пальцаў, пазванкі). Тут жа побач знойдзена клінападобная крамянёвая сякерка, добра адшліфаваная і завостраная. Усе гэтыя фактары сведчаць пра культавыя дзеянні на гэтым паселішчы на працягу вялікага адрэзку часу ад эпохі бронзы, а магчыма і раней, і да сярэднявечча. Выяўленая яма-ахвярнік і шматлікія касцяныя пласціны-падвескі з'яўляюцца пакуль унікальнай з'явай на тэрыторыі Беларусі і сумежных тэрыторый.

З факта знаходак свяцілішчаў вынікае, што дадзены тып культавага збудавання ўзнікае яшчэ ў ранні час і пераходзіць у наступную эпоху, праіснаваўшы аж да канца трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н.э., а ў шэрагу месцаў, магчыма, і пазней, да перыяду хрысціянізацыі.

Шматлікія знаходкі амулетаў з іклаў мядзведзя, дзіка, ваўка, бабра на помніках Беларускага Падзвіння (Пруднікі, Цясты, Гарадок, Клішына і інш.) сведчаць пра існаванне вераванняў, звязаных з культам жывёл. На гарадзішчы і паселішчы Пруднікі выяўлена звыш 30 знаходак амулетаў-іклаў мядзведзя, кабана, бабра, ваўка. Мяркуючы па міфалогіі прыбалтыйскіх народаў, напрыклад, культ мядзведзя займаў асобае месца ў балцкім асяроддзі. Гэта пацвярджаюць шматлікія знаходкі, што сведчыць пра пакланенне мядзведзю. Знаходкі на сумежнай тэрыторыі Смаленшчыны (гарадзішча-сховішча Гарадок) рэштак галавы мядзведзя, якая ўвенчвала цэнтральны слуп свяцілішча — прамы доказ гэтага культу. Сведчаннем ахвярапрынашэнняў жывёл пры пахаваннях людзей на поўначы Беларусі з'яўляюцца знаходкі разам са спаленымі касцямі чалавека касцей жывёл і птушак (Сергеева, 1989, с. 71, 73).

Г.В. Штыхаў указвае на неаднаразовыя знаходкі касцей жывёл (каня, быка) у Дарахоўскім курганным могільніку. Ахвярапрынашэнне, на яго думку, было распаўсюджана ў плямён культуры доўгіх курганоў Паўночнай Беларусі ў трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н.э., таксама як і ў познія часы (Штыхаў, 1992, с. 26).

Л.У. Дучыц, падаючы зводку па наяўнасці жывёл і птушак у пахавальным абрадзе курганоў Беларусі, адзначае, што косткі жывёлы і птушак у курганных пахаваннях найбольш характэрны для ваколіц Полацка, паўночна-ўсходняй Беларусі і Пасожжа. Як правіла, такія пахаванні шматінвентарныя, а ўсе знойдзеныя жывёлы (конь, бык, баран, свіння) звязаны як з замагільным светам, так і з культам пладароддзя (Дучыц, 1997, с. 149). У пахаванні па абраду трупаспалення каля в. Вусце Браслаўскага раёна сярод спаленых костак дарослай жанчыны былі выяўлены косткі свінні. Пахавальны інвентар уключаў ляпны посуд, нож, шкляныя пацеркі (Шадыра, Дучыц, 1992, с. 77). Безумоўна, культавым мэтам служыла касцяная фігурка птушкі, хутчэй за ўсё качкі, знойдзеная на селішчы Пруднікі (табл. 9: 40), апісанне якой зроблена вышэй. З рэлігійнымі вераваннямі звязаны знаходкі касцяных пласцінак з адтулінамі з рэбраў капытных жывёлаў, касцяныя падвескі-амулеты з нарэзкамі з іклаў і разцоў ваўка, бабра, дзіка, аленя, лася, каня, барсука, аб якіх узгадвалася вышэй.

У сэнсе рэканструкцыі палеастранамічных уяўленняў старажытнага насельніцтва Беларускага Падзвіння цікавасць уяўляе збудаванне каля в.Бікульнічы Полацкага раёна на паўднёвым беразе возера Янава. Помнік размешчаны на адкрытай пляцоўцы ўзгорка (Бікульніцкі Рог) і ўяўляе адкрыты з аднаго боку квадрат памерам 15 х 15 м, выкладзены з валуноў. Адкрытым бокам квадрат скіраваны ў напрамку возера. Пры вывучэнні збудавання з валуноў было ўстаноўлена, што аснова гэтага квадрата знаходзіцца па азімуту $52^0$ на паўночны ўсход ад кірунку на поўнач. Якраз паміж $50^0$ і $52^0$ на паўночны ўсход ад збудавання, на процілеглым беразе возера размешчана гара Гарадзец. У перыяд летняга сонцастаяння, на Купалле, сонца ўзыходзіць на паўночным усходзе, і таму Гарадзец мог быць адным са звёнаў у ланцужку культавых аб'ектаў, звязаных з найбольш вялікім язычніцкім святам. Раскопкі Э.М. Зайкоўскага штучных умацаванняў не выявілі, культурны пласт зусім тонкі, на мацерыку канстатавана шмат ям рознай глыбіні і канфігурацыі з вуголлем. Ямы, хутчэй за ўсё, з'яўляліся геогліфамі (рэльефнымі выявамі на паверхні зямлі нейкіх міфалагічных істот). Выяўлена ляпная гладкасценная кераміка днепра-дзвінскай культуры і 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. (Гісторыя Беларусі, 2000, с. 120).

***Пахавальныя помнікі і праблемы этнакультурных узаемаадносін.*** Да цяперашняга часу грунтавых могільнікаў у Беларускім Падзвінні, што адносяцца да трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н.э., не знойдзена. Курганныя старажытнасці гэтага перыяду выяўлены яшчэ ў 1928 г. А.Н. Ляўданскім, які праводзіў раскопкі могільнікаў паблізу в. Старое Сяло Віцебскага і Гаравыя Полацкага раёнаў Віцебскай вобласці (Ляўданскі, 1930б, с. 93—104; Ляўданскі, 1930а, с. 157—198).

Раскопкі Г.В. Штыхава ў Гарадоцкім, Расонскім раёнах Віцебскай вобласці значна пашырылі крыніцазнаўчую базу гэтых старажытнасцей у вывучаемым рэгіёне (Штыхаў, 1992). Для паўнаты асвятлення характару пахавальных асаблівасцей рэгіёна неабходна прыцягнуць і аналагічныя матэрыялы

Верхняга Падзвіння, поўдня Пскоўшчыны і Смаленскага Падняпроўя, г. зн. з аднакультурных тэрыторый эпохі ранняга жалезнага веку і меўшых шмат агульнага ў больш позніх гістарычных перыядах.

У Беларускім Падзвінні да курганных старажытнасцей 3-й чвэрці І тысячагоддзя н.э. адносяцца помнікі каля в. Бяльмонты, Банонь, Бяскастава, Варганы, Вусце, Гаравыя, Дарахі, Майшулі, Славені, Старое Сяло, Субаўшчына, Янкавічы (ур. Атокі, Павалішына) (Штыхаў, 1992, с. 16—19). Усяго раскапана да цяперашняга часу каля 50 курганоў. Яны размешчаны на правым беразе Заходняй Дзвіны і пакуль толькі адна курганная група каля в. Субаўшчына (Полацкі раён) знаходзіцца на левым беразе ракі. Побач з курганамі зрэдку сустракаюцца сінхронныя паселішчы (Дарахі, Жабіна). У адных і тых жа курганных групах тут суседнічаюць доўгія, падоўжаныя і круглыя насыпы (Штыхаў, 1992, с. 21).

Курганныя групы невялікія, яны ўключаюць ад 3 да 18 насыпаў. Доўгія валападобныя насыпы даўжынёй 22—110 м, шырынёй 8—10 м па вышыні (не больш за 1,0—1,5 м) і па форме амаль не адрозніваюцца ад падоўжаных (даўжыня 12—18 м, шырыня 8—10 м). Вышыня круглых курганоў дасягае 0,5—1,5 м, дыяметр 6—12 м. Некаторыя доўгія і падоўжаныя насыпы рабіліся ў некалькі прыёмаў (Павалішына), іншыя (Атокі) узводзіліся за адзін раз (Штыхаў, 1992, с. 23). Круглыя насыпы хутчэй за ўсё ўяўляюць сабой незавершаныя па нейкіх прычынах доўгія ці падоўжаныя курганы (Седов, 1974, с. 16—17).

У курганах панаваў абрад спалення нябожчыка за межамі месца пахавання. Па спосабу змяшчэння рэштак трупаспалення вылучаюцца ***бязурнавыя*** і ***урнавыя*** пахаванні. Пахаванні абодвух тыпаў у залежнасці ад месцазнаходжання ў кургане падзяляюцца на некалькі варыянтаў: *варыянт 1* — рэшткі трупаспалення рассыпаны на мацерыку; *варыянт 2* — рэшткі трупаспалення ляжаць у выглядзе кучкі на мацерыку; *варыянт 3* — рэшткі трупаспалення змешчаны ў неглыбокую ямку, выкапаную каля асновы кургана; *варыянт 4* — рэшткі трупаспалення рассыпаны ў насыпе; *варыянт 5* — рэшткі трупаспалення знаходзяцца ў ямцы, выкапанай у насыпе; *варыянт 6* — рэшткі трупаспалення знаходзяцца пад дзірваном. Калі для бязурнавых пахаванняў характэрны ўсе варыянты, то урнавым пахаванням толькі варыянты 2, 3, 5.

Пахаванні другога тыпу, г.зн. ***урнавыя***, акрамя таго, па колькасці урнаў і іх размяшчэнню падзяляюцца на віды А, Б, В і Г: *від А* — пахаванне знаходзіцца ў урне, якая стаіць на днішчы; *від Б* — пахаванне змешчана ў грунтавую яму, накрытую перавернутай уверх дном урнай; *від В* — урна з рэшткамі трупаспалення накрыта другой перавернутай уверх дном урнай; *від Г* — урна накрыта некалькімі перавернутымі урнамі. Большасць урнавых і бязурнавых пахаванняў не ачышчаны ад рэштаў пахавальнага вогнішча (Штыхаў, 1992, с. 25; Штыхов, 1993, с. 522; Шадыра, 1995, с. 207).

У некаторых доўгіх, падоўжаных і круглых курганах адкрыта па адным трупаспаленні (Дарохі, курган 1; Атокі, курган 1). Іншыя курганы (Атокі, Павалішына, Дарахі, курганы 4, 5; Субаўшчына змяшчаюць ад 2 да 5 і болей пахаванняў (Штыхаў, 1992; Шадыра, 1995).

Курганы з адзінкавымі і групавымі пахаваннямі знаходзяцца часта ў адных і тых жа групах. Разам з рэшткамі трупаспаленняў у пахаваннях зрэдку сустракаюцца і рэчы, што былі ў агні. Сярод сціплага інвентару пахаванняў ёсць упрыгожанні (бронзавыя бляшкі-шкарлупіны, жалезныя спражкі, шкляныя пацеркі, бронзавыя спіральныя пранізкі, фрагменты пласцінак з косці), прадметы рыштунку конніка і каня (Штыхаў, 1992, с. 26).

Цяжка прасачыць заканамернасць распаўсюджання розных тыпаў, відаў і варыянтаў пахавання. Часта ў адным насыпе існуюць і ўрнавыя, і бязурнавыя пахаванні, што знаходзяцца і ў насыпе, і на гарызонце, і ў грунтавой ямцы, і на падсыпцы (Штыхаў, 1992). Адзначым толькі, што пахаванні ў насыпе асабліва характэрныя для доўгіх і падоўжаных курганоў, а для круглых у плане курганоў у большай ступені ўласцівы урнавыя пахаванні і бязурнавыя трупаспаленні ў грунтавой ямцы. Сярод урнавых пахаванняў, якія складаюць каля 55 % пахаванняў, часта сустракаюцца трупаспаленні відаў Б, В, Г з перавернутымі ўверх дном урнамі (Дарохі, курган 4, 5; Павалішына, Гаравыя, Субаўшчына і інш.) (Штыхаў, 1992; Ляўданскі, 1930а, с. 173—176; Шадыра, 1995).

Даследчыкі неаднаразова звярталі ўвагу на тое, што ўсе доўгія курганы нельга разглядаць як адзіную і аднаэтапную археалагічную культуру, нязменную на ўсім працягу яе існавання і ўсёй тэрыторыі яе распаўсюджання (Шмидт, 1968, с. 224—225; Штыхаў, 1992). Агульнай прыкметай усіх гэтых курганоў з'яўляюцца форма насыпу і абрад трупаспалення. Па дэталях пахавальнага абраду і рэчавым інвентары ёсць шмат адрозненняў. Асабліва яскрава праяўляюцца яны паміж старажытнасцямі ранніх доўгіх курганоў пскоўскай групы V—VIII стст. і полацка-смаленскімі доўгімі курганамі канца VIII — пачатку XI стст. полацкай і смаленскай груп.

У ранніх доўгіх курганах Беларускага Падзвіння як і ў сінхронных курганах Пскоўшчыны (Расія),

канстатавана слабапрафіляваная кераміка, блізкая да ляпнога посуду банцараўска-тушамлінскага тыпу (Атокі, Дарахі, Павалішана, Субаўшчына). Беларускі рэгіён правабярэжжа Падзвіння мае свае спецыфічныя прызнакі: наяўнасць асабліва доўгіх насыпаў — 40-110 м, адносна вялікая колькасць пахаванняў у насыпе, адсутнасць у курганах каменных канструкцый, шырокае распаўсюджанне пахаванняў з перавернутай уверх дном урнай, нязначны працэнт трупаспаленняў, размешчаных у верхняй частцы насыпу.

Некалькі асобнае месца займае курганная група каля в. Субаўшчына (на мяжы Полацкага і Міёрскага раёнаў — ***В.Ш.***). Яна размешчана каля в. Субаўшчына Полацкага раёна ў лесе каля сучаснага праваслаўнага храма на левым беразе рэчкі Нача. Налічвае 8 насыпаў. Адна доўгая, адна авальная (падоўжаная), астатнія круглыя (табл. 23/I). Даныя памераў курганоў наступныя: № 1 — вышыня (H) — 1 м, дыяметр (D) — 7 м; № 2 (H) — 1,5 м, D — 8 м; № 3 — H — 1 м, D — 8 м; № 4 — падоўжаны па лініі W — O. Памеры 10 x 4; № 5 — H — 1 м, D — 10 м; № 6 — доўгі — 40 x 4 м, выцягнуты па лініі SW — NO. H — 1,3 м; № 7 — H — 0,7 м, D — 5; № 8 — H — 0,8 м, D — 5 м. Вакол усіх насыпаў прасочваюцца ровікі. Раскопваліся круглыя курганы № 1, 3, 7, 8 і доўгі № 6.

***Курган № 1***. У аснове насыпу адзначана попельна-вугальная праслойка таўшчынёй 0,2 м, ва ўсходняй палове на глыбіні 0,7—0,8 м і на плошчы каля 1 кв.м зафіксаваны дробныя кавалкі ляпнога посуду. У заходняй частцы кургана на гарызонце і ў ямцы канстатаваны рэшткі трупаспалення. Глыбіня ямкі — 0,3 м, дыяметр 0,45 м.

***Курган № 3.*** У аснове кургана выяўлена 6 невялікіх скапленняў з буйнымі вуглямі. У цэнтры зафіксаваны сляды кастрышча дыяметрам каля 1,0 м. Пад кастрышчам знойдзены сляды пахавання па абраду трупаспалення. Над касцямі быў раздаўлены гаршчок, пастаўлены дагары дном. На паўночны ўсход ад пахавальнай плямы знойдзена глінянае праселка светлага колеру біканічнай формы. На ўсход ад гэтага пахавання ў мацерыковай ямцы глыбінёй 0,2 м і дыяметрам 0,4 м зафіксавана пахаванне з вялікай колькасцю костак, без інвентару і вуглёў. Хутчэй за ўсё, другое пахаванне з'яўляецца ўпускным.

***Курган № 7.*** Ва ўсходняй частцы насыпу на глыбіні 0,2—0,3 м выяўлена невялікая колькасць кальцыніраваных костак разам з вуглямі. У гэтай масе знаходзіўся кавалак бронзавага вітога сагнутага дроту (мал. ), магчыма, фрагменту скроневага колца. У аснове кургана, пад згаданым пахаваннем, было выяўлена яшчэ адно — таксама з невялікай колькасцю костак. Тут жа знаходзілася вочкападобная пацерка.

***Курган № 8.*** У насыпе кургана сустрэты дробныя вугольныя ўкрапіны. У аснаве па ўсёй плошчы зафіксаваны рэшткі вогнішчаў з вялікімі вуглямі. Сляды пахаванняў не зафіксаваны.

Раскапаны намі курган ***№ 6*** (табл. 23) з'яўляецца на сённяшні дзень самым заходнім пунктам распаўсюджання ранніх доўгіх курганоў у Беларускім Падзвінні. Доўгі насып змяшчаў каля 15 пахаванняў з трупаспаленнем на мацерыку і ў насыпе. У верхняй частцы насыпу выяўлены бязурнавыя пахаванні ў выглядзе скапленняў, а таксама рассыпаных кальцыніраваных костак. Назіраецца тэндэнцыя размяшчэння ў ніжняй палове насыпу урнавых, а ў верхняй — бязурнавых пахаванняў. У аснове насыпу фіксуецца падсцілаючы попельна-вугальны пласт таўшчынёй 0,1—0,15 м. Вакол насыпу меўся равок, які быў запоўнены на 0,6—0,8 м вуголлем і попелам. Відаць, спачатку па ўсёй даўжыні кургана была выпалена рытуальная пляцоўка і праведзены урнавыя пахаванні. У далейшым пахаванні рабіліся ўпускным чынам, прычым бязурнавых пахаванняў у верхняй частцы насыпу большасць.

Знойдзеная пры раскопках доўгага насыпу кераміка — гэта фрагменты слабапрафіляваных цюльпанападобных гаршкоў, слабаабпаленых і жоўтага колеру, вышынёй 25—35 см пры дыяметры горла 15—20 см. Формы начыння маюць шмат агульнага з керамікай банцараўскага тыпу. Выдзяляецца малы гаршчочак з наляпным валікам (табл. 23/II: 1), знойдзены на глыбіні 1,0 м ад вяршыні насыпу. Побач знаходзіліся фрагменты ад буйнога гаршка і кальцыніраваныя косткі. Пасудзіны невялікіх памераў з валікам у верхняй трэці гаршка знойдзены ў Верхнім Падзвінні (Жабіна) (Станкевич, 1958, с. 53, рис. 10: 8), у Пскоўшчыне (Безьва), у Латышскім Падзвінні (Кентескалнс) (Стубавс, 1959, с. 20, 207, табл. VII: 1, 8). Указаныя аналагі дазваляюць датаваць наш экзэмпляр — VII ст. н.э. Прыклад Субаўшчыны ілюструе позні этап пахавальнага абраду тыпу ранніх доўгіх курганоў, калі можна назіраць з'яўленне прыкмет культуры класічных доўгіх курганоў IX—XI стст. смаленска-полацкага тыпу.

У Паўночнай Беларусі раннія доўгія курганы маюцца толькі там, дзе распаўсюджаны старажытнасці тыпу Банцараўшчыны з характэрнымі асаблівасцямі прапорцый пасудзін, выцягнутыя формы ў якіх максімальнае пашырэнне ў верхняй частцы тулава (Шадыра, 1992а, с. 49). Заходняя мяжа старажытнасцей банцараўскай культуры, як нам падаецца, звязана з максімальнай лініяй пранікнення аблітой (шурпатай) і гладкасценнай керамікі прыбалтыйскіх паселішчаў. Яна праходзіла па лініі воз. Асвея — р. Дзісна — воз. Нарач (Шадыра, 1993в). На захад ад гэтай лініі раннія доўгія курганы пакуль не сустрэты.

Па шэрагу прыкмет раннія доўгія курганы Падзвіння вылучаюцца з агульнай масы старажытных доўгіх курганоў Пскоўшчыны, паўднёва-ўсходняй Эстоніі і ўсходняй Латвіі. Іх адрознымі рысамі з'яўляюцца: наяўнасць адносна вялікай колькасці урнавых пахаванняў, адсутнасць курганоў з вялікай колькасцю трупаспаленняў і каменных канструкцый у насыпе; нязначны працэнт курганоў з попельна-вугольнай праслойкай і трупаспаленняў, змешчаных у верхняй частцы насыпу; распаўсюджанне пахаванняў з перавернутымі ўверх дном урнамі. Усе гэтыя асаблівасці ў сукупнасці са знаходкамі ляпной слабапрафіляванай керамікі і прадметаў узбраення дазваляюць, на думку Г.В. Штыхава, адносіць гэту групу старажытных доўгіх курганоў да помнікаў тыпу Банцараўшчыны.

Калі правесці аналіз пахавальных помнікаў культуры тыпу Банцараўшчыны ў цэлым, можна канстатаваць як аднародны іх характар, так і адрозныя асаблівасці асобных частак яе арэала. Каб больш рэльефна абазначыць асаблівасці разглядаемага рэгіёна, г.зн. Беларускага Падзвіння, зробім акцэнт на гэтым. Аднароднасць старажытнасцей тыпу Банцараўшчыны праяўляецца: 1) у паўсюдным размеркаванні пахаванняў па абраду трупаспаленняў, якія праводзяцца на адлегласці ад месца пахавання; 2) у перавазе пахаванняў неачышчаных ад рэштках пахавальнага вогнішча і безынвентарных; 3) як у курганных, так і бескурганных пахаваннях усяго арэала сустракаюцца пахаванні з перавернутымі дагары дном урнамі.

Складаныя этнічныя працэсы, перамяшчэнне плямёнаў, уплыў суседніх народаў не маглі не выклікаць і рысы своеасаблівасці пахавальнага абраду насельніцтва розных рэгіёнаў. Перш за ўсё яны звязаны з наяўнасцю розных тыпаў пахавальных помнікаў, а таксама ў дэталях пахавальнай абраднасці.

В.Б. Пярхаўка, аналізуючы старажытнасці трэцяй чвэрці паміж Дняпром і Нёманам і ў тым ліку асаблівасці пахавальнага абраду, увесь арэал банцараўскай культуры падзяляе ўмоўна на чатыры вялікія раёны: 1) калочынскі (Кіеўшчына, Падзясенне, Пасем'е, Палессе і паўднёвая частка Беларускага Падняпроўя), 2) дзядзілавіцкі (Цэнтральная Беларусь), 3) тушамлінскі (Смаленскае Падняпроўе і Пасожжа), 4) атокінскі (у гэты рэгіён ён уключае сярэдняе цячэнне Заходняй Дзвіны і поўдзень Пскоўшчыны — ***В.Ш***.) (Перхавко, 1978а, с. 19).

Як адзначалася вышэй, для Беларускага Падзвіння характэрны толькі курганныя пахаванні, а што датычыцца грунтавых могільнікаў, то пакуль адзіны зафіксаваны толькі на поўдні Пскоўшчыны (Узмень). У гэтым і ёсць спецыфічнасць разглядаемай тэрыторыі.

Праблема суадносін ранніх доўгіх курганоў і старажытнасцей тыпу Банцараўшчыны застаецца пакуль што нявырашанай. Існуе некалькі варыянтаў тлумачэння падабенства ранніх доўгіх курганоў (Фурасьев, 1992, с. 104—107). Адсутнасць паміж гэтымі старажытнасцямі дакладнай тэрытарыяльнай культурнай мяжы тлумачыцца, на нашу думку, тым, што старажытнасці ранніх доўгіх курганоў і банцараўскай культуры адносяцца да аднаго этнакультурнага масіву 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э., які ў сваёй аснове быў балцкім. Старажытнасці ранніх доўгіх курганоў, хутчэй за ўсё, адлюстроўваюць своеасаблівасці банцараўскай групоўкі плямёнаў у самай паўночнай частцы арэала. Такім чынам, выдзелены В.Б.Пярхаўкай атокінскі варыянт банцараўскай культуры трэба абмежаваць правабярэжжам Заходняй Дзвіны і поўднем Пскоўшчыны. Старажытнасці культуры ранніх доўгіх курганоў звязаны з моцным прыбалтыйска-фінскім уплывам і гэта адрознівае названы рэгіён ад асноўнага масіву распаўсюджання помнікаў тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі.

Некаторыя прыкметы пахавальнага абраду захаваліся і пасля таго, як банцараўская культура спыніла сваё існаванне. Падобныя рэмінесцэнцыі прыкметныя і на помніках апошняй чвэрці I тысячагоддзя н.э. у Падзвінні. Месца старажытных доўгіх курганоў, што адносяцца да V—VII стст., з канца VIII — пачатку IX стст. заняла культура класічных доўгіх курганоў, блізкіх да іх па дэталях пахавальнага абраду, але са значнымі адрозненнямі па кераміцы і інвентары. У курганах IX—X стст. у Падзвінні ў якасці перажытку працягвае існаваць звычай змяшчэння рэштках трупаспаленняў у грунтавыя ямкі і пераварочвання урнаў уверх дном (Баркі, Рудня, Варганы і інш.) (Штыхаў, 1999, с. 18—22). Пахаванні з перавернутымі ўверх дном урнамі сустракаюцца і пазней у курганах з трупаспаленнем X—XI стст.

Параўнальна хутка знікаюць грунтавыя могільнікі, хоць некаторыя з іх працягвалі існаваць, па меншай меры ў пачатковы перыяд існавання культуры полацка-смаленскіх доўгіх курганоў VIII—IX стст. на Падзвінні. Пра гэта сведчаць бескурганныя пахаванні з керамікай тыпу доўгіх курганоў VIII—IX стст., выяўленыя на гарадзішчы Свіла 1 (Глыбоцкі раён) (Мітрафанаў, Каробушкіна, 1974, № 4). Калі праводзіць параўнанне з больш паўднёвымі тэрыторыямі Беларускага Падзвіння, то, мяркуючы па наяўных даных, пахаванні ў грунтавых могільніках тут спыняюцца адразу. Замест іх с VIII—IX стст. пачалі распаўсюджвацца круглыя ў плане курганы з трупаспаленнямі. Аналіз курганных старажытнасцей VIII—IX стст. Падзвіння сведчыць аб балцкім у сваёй аснове характары матэрыяльнай культуры насельніцтва. Гэта пацвярджаюць і раскопкі Я.А. Шмітда помнікаў культуры смаленскіх доўгіх курганоў на Смаленшчыне,

дзе пахавальны інвентар і асабліва ўпрыгожанні VIII—IX стст. маюць у сваёй аснове балцкі характар (Шмидт, 1969, с. 143—144). Пераканаўча гэту з’яву абгрунтаваў У. Янукоў, які дэталёва праанілізаваў курганныя старажытнасці Смаленскага Падняпроўя і Беларускага Падзвіння і прыйшоў да высновы, што аналогіі ўпрыгожанням і кераміцы ўказваюць на канкрэтны рэгіён: прыбалтыйскія землі (старажытнасці латгальскіх і ўсходне-літоўскіх курганоў) (Енуков, 1990). Балцкі ўплыў на характары матэрыяльнай культуры насельніцтва Беларускага Падзвіння гэтага перыяду пацвярджаюцца раскопкамі Г.В. Штыхава (Штыхаў, 1992), Л.У.Дучыц (Дучыц, 1991) і аўтара (Шадыра, 1993). Адрозненнем культуры ранніх доўгіх курганоў пскоўскага рэгіёна ад культуры смаленскіх доўгіх курганоў выкліканы, хутчэй за ўсё, своеасаблівасці крывічоў-палачан. Полацкія крывічы ў адрозненне ад смаленскіх мелі больш раннія карані і традыцыі, не кажучы ўжо пра латгальскі і прыбалтыйска-фінскі субстрат.

Што датычыцца паселішчаў культуры доўгіх курганоў, то іх вывучэнне знаходзіцца ў пачатковай стадыі. Сляды адкрытых паселішчаў фіксуюцца пакуль толькі па паверхневых абследаваннях і ў вельмі нязначнай колькасці. Таму гаварыць пра тапаграфію, забудову і памер паселішчаў пакуль цяжка. Што датычыцца гарадзішчаў, то на вывучаемай тэрыторыі адзіны пакуль пункт, які можна звязваць з культурай доўгіх курганоў, — гэта гарадзішча Свіла 1 у Глыбоцкім раёне. Гэта паселішча з вялікімі памерамі (100 х 80 м) і магутнай сістэмай ахоўных умацаванняў (3 валы, 2 равы) (Шадыро. Отчет за 1989. Архіў ІГ НАНБ, спр. 1138; Шадыро. Отчет за 1990. Архіў ІГ НАНБ, спр. 1206).

Матэрыял раскопак гарадзішча адносіцца да старажытнасцей культуры тыпу Банцараўшчыны (кераміка. праслíцы) і культуры доўгіх курганоў. А.Р. Мітрафанаў меркаваў, што ў склад калектыву, які заснаваў гэта гарадзішча, уваходзіла як славянскае, так і мясцовае балтамоўнае насельніцтва. Пачатковы перыяд існавання гарадзішча Свіла 1 адносіцца, на яго думку, да таго часу, калі банцараўская культура як самастойная з’ява ўжо не існавала. Яго датаванне падае на IX ст. (Мітрафанаў, Каробушкіна, 1975, с. 39). Вялікую цікавасць выклікаюць два пахаванні на мацерыку гарадзішча. Абломкі посуду і рэчы (бронзавыя кольцы, наканечнікі стрэл) (табл. 17/II: 1—4) знаходзяць сабе аналогіі ў старажытнасцях крывічоў. Гэта пакуль адзіны выпадак крывіцкіх пахаванняў на гарадзішчы. Пры гэтым уплыў мясцовых балтаў відавочны.

Сам факт прысутнасці на гэтым гарадзішчы керамікі і праслíцаў, што адносяцца да банцараўскай культуры, вельмі важны. Ён адлюстроўвае працэс асіміляцыі балтамоўнага насельніцтва славянамі. Трэба меркаваць, што і ўзнікненне гарадзішча было абумоўлена менавіта гэтымі абставінамі. Яно было пабудавана крывічамі як апорны пункт (астрог) пры асваенні імі новых зямель.

Па наяўных матэрыялах магчыма папярэдне ўявіць шляхі асваення крывічамі паўночнага захаду Беларусі. Першапачаткова рух іх ішоў па левабярэжжы Заходняй Дзвіны. На тэрыторыю сучаснага Верхнядзвінскага раёна (правабярэжжа Заходняй Дзвіны) яны прыйшлі пазней. Першая хваля крывіцкага рассялення тут канстатавана не раней VII—VIII стст. Прыйшоўшы на левабярэжжа Заходняй Дзвіны і адчуваючы моцны ўплыў мясцовага балцкага насельніцтва — носьбітаў банцараўскай культуры, крывічы рушылі ўніз па цячэнню Заходняй Дзвіны. Падкрэслім, што носьбіты культуры ранніх доўгіх курганоў у значнай ступені адрозніваліся ад пазнейшай культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў, хаця і мелі агульныя балцкія карані. Першыя былі пракрывічамі «крэвы» і іх шмат што звязвала з культурай усходнелітоўскіх курганоў (Шадыра, 1993; Шадыра, 1995а; Шадыра, 1995б). Некалькі стагоддзяў назад яны з Панямоння прайшлі праз Падзвінне і на Пскоўшчыну (гл. падрабязней (Шадыра, 1993)). З VIII стагоддзя пачалася іх новая, больш значная каланізацыя Падзвінскіх зямель (культура смаленска-полацкіх доўгіх курганоў), якая пакінула значны след у этнічнай гісторыі мясцовага насельніцтва.

Калі ўлічыць той факт, што раннія доўгія курганы этнічна інтэрпрэтуюцца як пахаванні пераважна балта-славянскага насельніцтва, то з’яўленне продкаў крывічоў у разглядаемым рэгіёне можна адносіць да VIII стст. н.э., а, магчыма і раней і бясспрэчна да апошняй чвэрці I тысячагоддзя н.э. Суцэльная асіміляцыя мясцовага насельніцтва разгарнулася пазней. Паміж культурай доўгіх курганоў V—VIII стст. і курганамі IX—XI стст. з трупаспаленнем, якія лічацца славянскімі, назіраецца пераемнасць як у пахавальным, так і ў факце сумеснага размяшчэння розных формаў насыпаў у адным могільніку (Субаўшчына, Баркі, Рудня, Гаравыя — Полацкае Падзвінне (Цэнтральны рэгіён), Дарахі, Гуркі, Сманькі, Старое Сяло, Бяскатава — Віцебскае Падзвінне (Усходні рэгіён).

Перажыткі пахавальнага абраду, якія фіксуюцца на больш позніх усходнеславянскіх помніках, сведчаць пра тое, што банцараўская культура не знікла бясследна, і пэўная частка яе насельніцтва прыняла ўдзел у фарміраванні культуры ўсходніх славян, якая з цягам часу набывае асаблівасці, уласцівыя беларускаму этнасу.

# РАЗДЗЕЛ 4

# БЕЛАРУСКАЕ ПАДЗВІННЕ Ў ПЕРЫЯД СТАНАЎЛЕННЯ ПОЛАЦКАГА КНЯСТВА (VIII—X СТСТ. Н.Э.)

## 4.1. Этнаплемянная дыферэнцыяцыя насельніцтва ў другой палове I тысячагоддзя н.э.

Дакладную міжплемянную дыферэнцыяцыю насельніцтва Беларускага Падзвіння ў другой палове I тысячагоддзя правесці даволі цяжка. Аднак цалкам правамоцна, на наш погляд, ідэнтыфікаваць насельніцтва гэтай тэрыторыі з вядомымі раннімі этнонімамі і менавіта з «крывічамі», «палачанамі», «летьголай», «наровай». Своеасаблівасці крывічоў, палачан і рассяленне латыгалі, наровы — ўсё гэта сведчыць аб этнічнай неаднароднасці насельніцтва, якое з’яўлялася ядром Полацкай зямлі-княства.

***Крывічы.*** Калі размова ідзе пра насельніцтва Паўночнай Беларусі канца I — пачатку II тысячагоддзя н.э., то часцей за ўсё ўзгадваюцца крывічы і як іх разнавіднасць — палачане. Крывічы лічацца самай вялікай этнагрупоўкай ва Усходняй Еўропе. Упершыню яны згадваюцца ў IX ст., а апошні — у летапісе пад 1162 г. (ПВЛ, 1950). Крывічоў называе візантыйскі імператар Канстанцін Багранародны (сярэдзіна X ст.) і старажытнарускія летапісы (канец IX — пачатак XII ст.). Дарэчы, усходнефранкская геаграфічная запіска «Описание городов и областей к северу от Дуная» дадзяржаўных этнонімаў IX ст. крывічоў не называе. Відаць, гэта крыніца фіксуе сітуацыю, калі яшчэ канчаткова не скласіся ўсходнеславянскія этнагрупоўкі северан, радзімічаў, крывічоў, славен і вяцічаў (Горский, 1997, с. 271—282).

Гістарыяграфія праблемы паходжання этноніма «крывічы» даволі аб’ёмная. Не паглыбляючыся ў гушчу тлумачэнняў гэтага этноніма (у манаграфіі Г.В. Штыхава дадзены падрабязны аналіз гэтага пытання: Штыхаў, 1992, с. 91—101), спынімся на некалькіх сюжэтах, якія тычацца этнічнага боку гэтай праблемы.

Анамастыка з корнем «kriv», як адзначалі В.В. Іваноў і В.Н. Тапароў, вельмі шырока прадстаўлена ў славян і балтаў. Наяўнасць імя «Крыва» на іх думку, у абодвух традыцыях дазваляе думаць аб першапачатковым адзіным вобразе, які скрываўся за адпаведнымі славянскай і літоўскай назвай. У славянскай традыцыі імя «Крыва» і «крывічы» магло ўказваць на перыферыйнае размяшчэнне племені, якое сутыкаецца з чужым народам (Иванов, Топоров, 1980, с. 26—29).

Як указваў польскі даследчык Е. Ахманьскі, тапонімы «крывічы» на беларуска-літоўскім памежжы не могуць датавацца раней VII—VIII стст. і пазней чым XII—XIII стст. (Охманьский, 1972, с. 245—257). Шмат хто з даследчыкаў сцвярджалі, што крывічы — гэта балта-славяне.

Лінгвіст Г.А. Хабургаеў лічыць, што назва «крывічы» балцкага паходжання (балцкі этнонім «крыва», славянскі патранімічны суфікс «іч», «ічы»). На яго думку, этнонімы на «ічы», у тым ліку і крывічы, маглі з’явіцца ва Усходняй Еўропе не раней IX ст. Тэрміну «крывічы» папярэднічаў этнонім без суфікса «іч» (Хабургаев, 1979, с. 196). Гэты пункт гледжання падтрымаў Э.М. Загарульскі, які лічыць, што летапісныя групоўкі не папярэднічалі Русі, а былі вынікам яе наступнага этнічнага развіцця. Назвы крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў могуць быць растлумачаны на падставе балтыйскіх назваў, гаворыць ён, цытуючы С.М. Сердоніна з «Гістарычнай геаграфіі», што «…из местных названий IX в. летопись сделала «племена» восточного славянства» (Загорульский, 1992, с. 10—15). Такім чынам, даследчык падтрымлівае Г.А. Хабургаева аб даславянскім паходжанні назвы «крывічы».

Прааналізаваўшы вялікую колькасць пісьмовых даных, С.В. Дзмітрыеў прыйшоў да высновы, што летапісныя крывічы не прыйшлі сюды, а толькі прыйшоўшы, сталі крывічамі. Этнонім «крывічы», на яго думку, указвае на некаторае непаразуменне, якое ўзнікла на дадзенай тэрыторыі перад прыходам славян. У назве «крывічы» закладзена тое галоўнае, што характарызуе гэту групу плямёнаў, адносіны да іх памежных чыста славянскіх груп. Гэты народ «крывы», — г.зн. няправільны, беззаконны (Дмитриев, 1990, с. 143—149). Услед за Г.Х. Татурам, С.В. Дзмітрыеў лічыць, што крывічы — гэта вынік змешвання славян з літоўцамі (Дмитриев, 1990, с. 143—149).

Лінгвіст А.Ф. Рогалеў, аналізуючы шматлікія публікацыі, прыйшоў да высновы, што крывічы сфарміраваліся ў выніку змешвання прышлых усходнеславянскіх, заходнеславянскіх і мясцовых прыбалтыйска-фінскіх і балцкіх этнамоўных кампанентаў (Рогалеў, 1992, с. 116—122). Не так даўно В.В. Сядоў, аналізуючы адносіны летапіснай «Літвы» і крывічоў устанавіў, што «літва» і крывічы ў некаторым сэнсе былі роднасным утварэннем: першае — балта-славяне, а другое — славяна-балты (Седов, 2001, с. 86).

***Палачане.*** У пісьмовых крыніцах і ў гістарычнай літаратуры ў адносінах насельніцтва Полацкага Падзвіння сустракаецца назва «полочане». Не спыняючыся на ўсіх аспектах суадносін крывічоў і







Табл. 30. I. Рэканструкцыя жаночага галаўнога ўбору сярэдзіны і 3-й чвэрці I тыс. н.э. па матэрыялах з гарадзішчаў Цясты, Клішына і курганнага могільніка Янкавічы (1—21).
Галаўны ўбор (рэканструкцыя) з курганнага могільніка Эглішкі (Літва. IV ст. н.э.) (22).
II. Набор упрыгожванняў характэрных для крывічоў з раскопак на тэрыторыі Беларускага Падзвіння.

палачан (падрабязна аб гэтым гл. Штыхаў Г.В. 1992, с. 97—100 — ***В.Ш.***), засяродзім увагу на некаторых момантах, звязаных з этнонімам «полочане». Па-першае — гэта этнонім, а не проста жыхары Полацка і на гэта ўказвае тэкст летапісу: «… а друзии седоша на Двине и нарекошася Полочане, речьки ради, яже втечеть в Двину, имянем Полота от сея прозвашася Полочане…» (ПВЛ, 1950, с. 11). Потым ўжо ўзнікае княжэнне «на Полоте иже полочане» з цэнтрам у Полацку (Полотеск — ***В.Ш.***).

П.М. Траццякоў лічыў, што палачане — гэта адно з тэрытарыяльных аб'яднанняў, якія ўзніклі не ў выніку не рассялення славян, а ў выніку распаду першабытнаабшчыннага ладу (Третьяков, 1953, с. 222—234).

А.К. Кузьмін, прааналізаваўшы летапісныя ўзгадванні аб «палачанах», падкрэслівае, што палачане фігуруюць у адных тэкстах і адсутнічаюць у іншых. Даследчык адзначыў, што інтарэс да Полацка праяўляўся тады, калі полацкі князь Усяслаў прэтэндаваў на кіеўскі стол. Ён сцвярджае, што менавіта тады і маглі быць устаноўлены ў летапісны тэкст «полочане» і іншыя, звязаныя з Полацкам, звесткі (Кузьмин, 1970, с. 125—127).

Выдзяленне палачан з крывічскага саюзу плямёнаў некаторыя даследчыкі адносяць да VII—VIII стст., і з гэтым можна пагадзіцца. На гарадзішчы Полацка зафіксаваны матэрыялы 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. Таму першапачатковую гісторыю палачан трэба ўвязваць з гэтым фактарам, а не з IX ст., калі палачане ператвараюць свой племянны цэнтр у добра ўмацаваны і вядомы горад-крэпасць, які пападае на старонкі летапісаў.

На наш погляд, мае рацыю Г.А. Хабургаеў (Хабургаев, 1979), калі суадносіць палачан не столькі з тэрытарыяльным тэрмінам, колькі з дыялектна-этнаграфічнай групай Сярэдняга Падзвіння (цэнтральны рэгіён Беларускага Падзвіння — ***В.Ш.***). Вось чаму асаблівасці крывічоў-палачан у археалагічнай інтэрпрэтацыі звязаны, як ужо мы адзначалі, са спецыфічнасцю культуры ранніх доўгіх курганоў V—VIII стст. Полацкага Падзвіння і банцараўскай культуры ў яе атокінскім варыянце. Нагадаем, што полацкіх крывічоў (палачан) выдзяляюць больш раннія карані і традыцыі, звязаныя, галоўным чынам, з балцкім (латгальскім) і ў меншай ступені прыбалтыйска-фінскім (нарова) субстратам. У гэтай сувязі паведамленне летапісу: «…Полочане. От них же кривичи…» цалкам дапускае трактоўку аб паходжанні крывічоў ад палачан ці разгляданне іх як базавай тэрыторыі ў наступным рассяленні гэтай этнагрупоўкі. Больш таго, як у апошні час лічыць Г.В. Штыхаў, рух носьбітаў культуры доўгіх курганоў адбываўся з Паўночнай Беларусі на Пскоўшчыну і Наўгародчыну (Археалогія Беларусі, т. 2, 1999, с. 383—384). Гэты погляд карэспандуецца з нашым меркаваннем аб шляхах пранікнення «пракрывічоў» (крываў) з Павіслення праз Панямонне на Падзвінне і далей на паўночны ўсход (Шадыра, 1993в, с. 88—89).

Дарэчы, вяртаючыся да пытання размежавання старажытнасцей днепра-дзвінскай культуры ў эпоху жалеза на заходні і ўсходні варыянты па згаданай намі лініі Езярышча — Бешанковічы — Чашнікі (Шадыро, 1985, с. 111) і далейшае межаванне банцараўскай і тушамлінскай культур, прыкладна па гэтай жа лініі, суадносіцца з далейшым племянным чляненнем у асяродку крывічоў (полацкія і смаленскія крывічы). Праекцыя ў старажытнасць крывічскіх лінгваархаізмаў дае магчымасць лінгвістам рэканструяваць чляненне племяннной мовы крывічоў на пскоўскі, старажытнанаўгародскі, смаленскі, верхняволжскі, полацкі, і заходні (Николаев, 1990, с. 15). Лінгвіст С.Л. Мікалаеў па даных Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы і лексічнага атласа беларускіх народных гаворак, удакладняе гістарычную класіфікацыю гаворак, заснаваную на рэфлексах крывічскіх рыс і вызначае для смаленскага дыялекту заходнюю мяжу па лініі: вярхоўі р. Ловаці — Гарадок — Бешанковічы — Чашнікі — Новалукомль — Барысаў далей па р. Беразіне і па лініі Круглае — Шклоў — Горкі. Што датычыць полацкага дыялекту, то яго паўночная мяжа амаль супадае з мяжой Пскоўскай вобласці Расіі з Беларуссю. Усходняя мяжа да Барысава з'яўляецца адначасова заходняй мяжой смаленскага дыялекту. Далей мяжа полацкага дыялекту праходзіць прыблізна па лініі Лагойск — Крывічы — Мядзел, далей па цячэнню р. Віллі і, нарэшце, па лініі беларуска-літоўска-латышскай мяжы (Николаев, 1989, с. 188).

На карце беларускіх дыялектаў і груп гаворак (Титов, 1983, с. 115, карта 8) разглядаемая тэрыторыя ўваходзіць у паўночную групу гаворак паўночна-ўсходняга беларускага дыялекту. Тут мы таксама бачым лінію, якая выдзяляе ў гэтым арэале віцебска-магілёўскую групу гаворак (карта 11). Такім чынам, і пазнейшыя даныя дыялекталогіі ўказваюць на размежаванне, якое ідзе яшчэ з эпохі жалеза і да сярэднявечча. У цэлым жа адрозненні полацкіх, пскоўскіх і смаленскіх крывічоў звязаны, перш за ўсё, з розным узроўнем наяўнасці балцкіх, прыбалтыйска-фінскіх і славянскіх кампанентаў у этнагенетычных мадэлях гэтых племянных груповак.

Пра канкрэтныя плямёны, што жылі ў басейне Заходняй Дзвіны ў I тысячагоддзі н.э., гаварыць што-небудзь пэўнае вельмі цяжка. Складанасць вызначэння племяннога чляненне насельніцтва поўначы Беларусі звязаны перш за ўсё з тым, што мы маем тут для эпохі жалеза больш-менш аднародны масіў




Карта 8. Тапонімы тыпу Латыгаль (Латыгава, Латышы, Латышонкі і г.д.) на тэрыторыі Беларусі.

плямёнаў заходнедзвінскага і верхнедняпроўскага басейнаў і толькі, фіксуючы лакальныя асаблівасці матэрыяльнай культуры тых ці іншых рэгіёнаў, а таксама выкарыстоўваючы даныя лінгвістыкі, антрапалогіі і іншых навук, можна гаварыць пра рознаэтнічныя племянныя групоўкі насельніцтва краю.

***Латгалы.*** На тэрыторыі Беларускага Падзвіння цалкам магчыма размяшчэнне продкаў латышоў — латгалаў (летапіснай «летьголы»). Яшчэ ў XIX ст. выказвалася думка, што летапісная «летьгола» жыла значна вышэй па Заходняй Дзвіне (Барсов, 1885, с. 43). Даныя тапанімікі сведчаць пра тое, што на поўначы Беларусі даволі шырока распаўсюджаны тапонімы з фармантам «лат» (Латанішкі, Латаўшчына, Латушкі, Латыгава, Латыгаль, Латыгалічы, Латышкі, Латышова, Латышы, Латышонкі) (карта 8). Такіх назваў тут можна налічыць больш за 30 (Рапанович, 1977, с. 224—225). Яны раскіданы па ўсім Падзвінні, але найбольшая канцэнтрацыя іх назіраецца ў Віцебскім Падзвінні, г.зн. на ўсходзе Віцебшчыны. Асабліва адзначым тапонім «латыголь» (вытворныя — латыгоўка, латыголічы і інш.), што, як вядома, азначае «канец лоты» (Фасмер, 1967, с. 466). Гэтыя назвы найбольш сустракаюцца ў Віцебскім Падзвінні: Чашніцкім, Талочынскім, Сенненскім, Віцебскім, Гарадоцкім раёнах. Можна дапускаць, што носьбіты днепра-дзвінскай культуры былі продкамі лоты, лотвы, латыголі («летьголы») З цягам часу гэта насельніцтва прасунулася на захад, а назва замацавалася за ўсходняй часткай сучаснай Латвіі — Латгаліяй.

Развіваючы гэта меркаванне, дададзім, што продкі балцкай латыголі засялялі, відаць, не ўвесь арэал днепра-дзвінскай культуры, а яе заходнюю частку. Відаць, вылучаны намі ў Падзвінні заходні варыянт гэтай культуры (Шадыро, 1985, с. 111) і адпавядае этнатэрытарыяльнаму рассяленню продкаў «летьголы». На сённяшні дзень існуе цвёрдая думка, што латгалы як этнас сфарміраваліся ў 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. і штуршок гэтаму працэсу далі міграцыі з паўднёвага ўсходу, у асноўным з тэрыторыі Беларускага Падзвіння і Верхняга Падняпроўя (Денисова, 1990, с. 72—73; Радиньш, 1997, с. 207—220).




Табл. 31. Набор упрыгожванняў характэрных для латгалаў з раскопак паселішчаў Пруднікі Міёрскага раёна і курганнага могільніка Дзмітраўшчына Полацкага раёна.

Так, Я. Цыгліс адзначае, што характар латгальскай культуры носіць яскрава выражаны ўсходнебалцкі характар і адрозніваецца ад мясцовых папярэдніх культур. У VI—VII стст. н.э. на тэрыторыі Латгаліі з'яўляюцца ўпрыгожанні, якія маюць больш раннія аналогіі ў Падняпроўі (трапецападобныя падвескі, падковападобныя фібулы са спіральнымі канцамі, бранзалеты з круглай дугой і патоўшчанымі канцамі, посахападобныя шпількі і г.д.) (Циглис, 1996, с. 87—88) (табл. 31).

У свой час, яшчэ Я.Ф. Карскі звярнуў увагу на вялікую колькасць у беларускай мове латышскіх і літоўскіх слоў (Карский, 1962, с. 384—398). Вывучаючы беларускія дыялекты Падняпроўя і Падзвіння, С.М. Прохарава прыйшла да высновы аб распаўсюджванні ў гэтых раёнах латышскіх ізаглос (Прохорова, 1993).

Г. Хабургаеў лічыць, што этнонімы на «ічы» не маглі з'явіцца раней славянскай каланізацыі гэтых раёнаў. Падобнымі тэрмінамі называлі менавіта тыя этнічныя групоўкі, якія былі асіміляваны славянамі.

У адрозненне ад этноніма «крывы», этнонім «латыголь» не паспеў атрымаць славянскага суфікса «ич» (выключэнне «Латыгалічы» у Чашніцкім раёне — ***В.Ш.***), бо значная частка гэтай этнічнай групоўкі мігрывала на тэрыторыю Усходняй Латвіі. І гэта міграцыя, хутчэй за ўсё, была звязана з рассяленнем крывічоў на Падзвінні і Падняпроўі, якія паступова радзей асімілявалі, часцей выцяснялі мясцовае балцкае насельніцтва, у тым ліку і «летьголу».

Калі працягнуць размову аб паходжанні назвы «латыголь» (летьгола, латыгола), то можна ўзгадаць даныя аб міграцыі на Пасожжа «ляхов», у складзе якіх былі галінды і яцвягі. Адпаведна можна выказаць думку, што назва «летьгола» ўтварылася ад двух ранніх этнонімаў, носьбіты якіх апынуліся на Пасожжы, г.зн. ляхаў і галіндаў (голядзі) — ляхголядзь, лятголядзь — латгола — летыгола — летгола і ім падобныя. Як адзначалася вышэй, канцэнтрацыя тапонімаў тыпу «латыголи» на паўночным усходзе Беларусі магла быць выклікана не толькі прасоўваннем іх уверх уздоўж басейна Заходняй Дзвіны, але ад Пасожскага Падняпроўя праз Заходнюю Дзвіну ва Усходнюю Латвію. Аб гэтым сведчаць некаторыя археалагічныя даныя. Так, у Талачынскім раёне ў курганах каля вв.Латыгаль і Навінкі зафіксаваны каменныя абгародкі. Сярод упрыгожанняў выяўлены вайнагі, спіральныя пярсцёнкі, шыйныя грыўні з чатырохграннымі канцамі. Паводле назіранняў З.М. Сяргеевай, спалучэнне ўпрыгожанняў у комплексе указваюць на аналогіі іх з упрыгожаннямі, характэрнымі для латгалаў і селаў (Сергеева, 1975, с. 85—90; яна ж, 1985, с. 95—97). Паблізу Полацка ў курганным могільніку Дзмітраўшчына (XI ст.) выяўлены наборы тыпова латгальскіх упрыгожанняў (ланцужкі, падвескі, ланцужкатрымальнікі і г.д. (Тарасаў, Дучыц, Семянчук, 1995, с. 230—241). Каму яны належалі: ці жанчынам з самой тэрыторыі Латгале, ці можа, нашчадкам старажытных латгалаў, якія спрадвеку пражывалі тут? Пакуль на гэта пытанне цяжка адказаць. У якасці меркавання можна дапусціць і тое, што ў Падзвінні жыла і вядомая ў «Аповесці мінулых гадоў» «нарова».

***Нарова.*** Аб нарове ў літаратуры выказваліся розныя пункты гледжання. Паводле Д.А. Мачынскага, гэта этнагрупа, якая рана перастала быць самастойнай (Мачинский, 1986, с. 7—9). Большасць даследчыкаў нарову адносяць да групы балцкіх плямёнаў. Такое меркаванне выказвалі Н. Барсаў, М. Хелман, Э. Мугурэвіч, В.Т. Пашута, А.В. Куза і інш. і не так даўно М. Казанскі (Казанский, 1999, с. 404—417). На думку В.В. Сядова, назва «нарова» адносіцца да фінскага народа водь, які пражываў ва Іжорскім рэгіёне (Финно-угры и балты…, 1987, с. 34—42).

Па назіраннях Е. Ахманьскага, паселішчы з назвай «нарова» (нерова) размешчаны галоўным чынам на паўднёвых рубяжах літоўскай каланізацыі ў яе сярэднявечных абшарах. Перыферыйнае становішча, на яго думку, сведчыць, што гэта былі паселішчы палонных (Ochmański, 1981, s. 112—131).

Па Д.А. Мачынскаму, летапісная «нарова» жыла на ўсход ад ліваў у абшарах басейна р. Вялікай і на ўсход ад Прычуддзя, дзе ў VI—IX стст. была распаўсюджана культурай пскоўскіх доўгіх курганоў (Мачинский, 1986, с. 9). На яго карце тэрыторыя крайняга паўночнага захаду Беларусі (Міёрскі, Верхнядзвінскі раёны) адзначаны як зона доўгіх курганоў няпэўнай культурай прыналежнасці, якая сутыкаецца з тэрыторыяй распаўсюджання культуры пскоўскіх доўгіх курганоў. Са свайго боку падкрэслім, што курганы гэтага рэгіёна, як паказалі даследаванні апошніх гадоў, бліжэй да пскоўскіх, чым да смаленскіх. Неабходна звярнуць увагу на тое, што тапонімы тыпу Нарова, Нурова, Наруты, Нарушова сканцэнтраваны галоўным чынам у басейне р. Дзісны (Міёрскі, Шаркаўшчынскі, Верхнядзвінскі раёны) (Рапанович, 1977, с. 275—283). Заўважым адначасова, што яшчэ ў другой палове XIX ст. парогі на Заходняй Дзвіне каля Дзісны мелі назву «Нароўскія Парогі» (Погодин, 1871, с. 52—53).

Паблізу могільніка Казлоўцы (Міёрскі раён) да 1973 года існавала в. Наровы (Рапанович, 1977, с. 275—283). Падчас даследавання могільніка былі выяўлены грунтавыя пахаванні з крэмацыяй і інгумацыяй, а таксама ахвярныя ямы з вуголлем і касцямі жывёл, у тым ліку шкілет каня. Элементы пахавальнага абраду і інвентар (вітая шыйная грыўня з гранёнымі канцамі, спіральны пярсцёнак з зааморфнымі канцамі




Карта 9. Этнакультурная сітуацыя ў заходнім рэгіёне Беларускага Падзвіння ў другой пал. I тыс. н.э.

і інш.) маюць аналагі з грунтавымі могільнікамі канца I — пачатку II тысячагоддзя н.э. на тэрыторыі Усходняй Латвіі (Семянчук, 1993, с. 124—133). На правым беразе Заходняй Дзвіны ў 3 км ніжэй г. Дзісна некалі была вёска «Нурова». Сам факт па сабе малазначны, але ў гэтым месцы знаходзіцца вядомае гарадзішча Барсукі эпохі жалеза і ранняга сярэднявечча, якое адкрыў аўтар у 1975 г. і даследаваў на працягу трох гадоў. Вакол гарадзішча трапляецца раннеганчарная кераміка і размешчаны курганападобныя насыпы.

Праведзенае намі картаграфаванне тапонімаў з асновай «нур», «нор» (каля 20) і «крыў», «крэў» (24) у Полацкім Падзвінні дало адну парубежную паласу ад Асвейскага возеры к вусцю р. Дзісны і яе рэчышчу (карта 8) (Шадыра, 1993, с. 86). Гэты фактар можа сведчыць аб суседстве дзвюх этнічных груповак. З аднаго боку (фінамоўнай?) наровы, з другога — балта-славянскіх крывічоў. Зона кантакту звязана тут з заходняй мяжой распаўсюджання старажытнасцей банцараўскага аблічча (карта 8). На сённяшні дзень археалагічна цяжка правесці ідэнтыфікацыю старажытнасцей летапіснай «норовы».

Аб размяшчэнні этнагрупоўкі «нарова» ускосным чынам могуць сведчыць наступныя звесткі «ПВЛ». Вось гэтыя даныя: «В Афетове же части седять русь, чюдь и вси языци: меря, мурома, весь, мордъва, заволочьская чюдь, пермь, печора, ямь, гора, литва, зимегола, корсь, летьгола, любь» (падкрэслена намі — ***В.Ш.***). «А се суть инии языци, иже дань дають Руси: чюдь, литва, зимигола, корсь, норова, либь» (падкрэслена намі — ***В.Ш.***). Гэтыя пералікі адносяцца да рэальнай сітуацыі IX — сярэдзіны X і маюць зыходнай кропкай адліку хутчэй за ўсё Ладагу ці Ноўгарад. Тут мы бачым, што ў напрамку з усходу на захад пералічаны тры этнагрупоўкі, якія жылі на поўдзень ад Заходняй Дзвіны і на Балтыцы — літва, зімегола, корсь». У заключэнне пераліку, як бы завяршаючы гэта кола, пералічаюцца (з усходу на захад) тыя, хто жыў на захад ад Русі, па Заходняй Дзвіне і на поўнач ад яе: летьгола, любь, якія суседзілі з поўдня з «чудью». Падобнага парадку прытрымліваецца і другі «список». Але ў ім пасля «литвы, зимеголы, корси» узгадваецца «норова, либь», г.зн. што на месцы «летьголы» узгадваецца «норова». Аднак, калі ўлічыць, што ўвесь рэгіён па Заходняй Дзвіне і на поўдзень быў заняты этнагрупоўкамі крывічоў, палачан, селаў, літвой і зімеголай, то застаецца лагічна атаесамляць «нарову» з «летьголай» ці пагадзіцца, што яна жыла на ўсход ад ліваў і летьголы. В.В. Сядоў сцвярджаў, што лівы і летьгола згодна з археалагічнымі данымі, жылі на захад ад р. Вялікай уперамежку (Седов, 1982, карта 8, с. 48—49).

Перспектыва глыбокага вывучэння пскоўскіх і паўночнабеларускіх доўгіх курганоў дазволіць лакалізаваць тут і нарову, якая, відаць, пражывала ў летапісны перыяд на паўночным захадзе Беларусі ўжо ў невялікай колькасці і плаціла даніну Русі разам з літвой, земіголай, корсю і ліб'ю. Можна пагадзіцца з думкай Д.А. Мачынскага, што раней «норова» як і лецьгола, магчыма як суседзі, пражывалі вышэй па Заходняй Дзвіне (Мачинский, 1986, с. 3—29) і не выключана, што і нарове маглі належаць раннія доўгія курганы на правабярэжжы Беларускага Падзвіння. У гэтай сувязі своеасаблівасці палачан, якія, зыходзячы з даных летапісаў, займалі нейкае асаблівае становішча ў крывіцкім саюзе плямёнаў тлумачыцца, магчыма, прыбалтыйска-фінскім субстратам (Шадыро, Овчинникова, 1992, с. 62), дзе пэўную ролю адыгрывалі, відаць, і этнакультурныя сувязі з наровай. У гэтай сувязі прывядзём цікавае назіранне А. Здроеўскага над фізіялагічнымі асаблівасцямі дзісненскіх беларусаў. Ён адзначае, што па ліку светлавалосых яны займаюць першае месца сярод беларусаў, рост у іх вышэйшы за сярэдні і высокі; а сярод беларусаў найбольш шырокі твар маюць менавіта дзісненскія (Здроевский, 1905, с. 127—151).

Не выключана, што згаданая ў летапісе этнагрупа «норова» з'яўляецца часткай старажытнага этнічнага масіву, якую антычныя аўтары называлі «неврами» (Шадыро, 1989, с. 255). Пліній дае важнае паведамленне, што вытокі Дняпра знаходзяцца ў краіне неўраў. У старажытнасці, як вядома, Дняпро называўся Бярэзінай (грэч. Барысфен). У залежнасці ад таго, што старажытныя аўтары прымалі за вытокі: Дняпро ці Бярэзіну адпаведна і «Неврские горы» маглі быць ці Валдайскім ці Мінскім узвышшам.

Наконт лакалізацыі «невров» існуе шмат меркаванняў. Даволі падрабязна прааналізавана праблема лакалізацыі герадотавых «невров» у С.Я. Рассадзіна, які, прыводзячы шырокі спектр думак на гэты лік, вызначае свой погляд на размяшчэнне неўраў «хутчэй за ўсё толькі ў невялікім раёне нашага Палесся, паблізу ад утоку Гарыні ў Прыпяць» (Рассадзін, 1996, с. 38). В.В. Сядоў лічыў, што найбольш аргументаваным з'яўляецца атаесамленне з герадотавымі неўрамі ўсіх верхнедняпроўскіх балтаў. Аснова этноніма «неўры», на яго думку, ner, -nar знаходзіць тлумачэнне на балцкай глебе (Седов, 1970б, с. 38). Неабходна таксама мець на ўвазе, што грэчаскаму дыфтонгу «ев» у славянскіх мовах адпавядае «у». Распаўсюджанне асновы «нер», «нар», «нур» на тэрыторыі Беларусі (пераважна на паўночным захадзе — ***В.Ш.***), а таксама сумежных тэрыторыях сведчыць аб велічыні гэтага этнасу і аб шырокіх міграцыйных рухах яго яшчэ на ранніх гістарычных этапах.

У сувязі з заходнедзвінскай этнанімііяй цікавасць прадстаўляе гідронім «Селява» (назва возера на мяжы Віцебскай і Мінскай вобл., якое яднае басейны Заходняй Дзвіны і Дняпра). Назва, хутчэй за ўсё, адлюстроўвае форму балцкага этноніма selis з далучэннем тыпова балцкага фарманта «ава». Такім чынам, балцкі этнонімператварыўся ў гідронім Сялява. Побач з формай selis існаваў і суфіксальны дэрыват selonas (параўн. лац. Selones Selonia (Кузавініс, 1970, с. 159—160). Звязваць назву возера з селамі вельмі гіпатэтычна. Аднак, калі дапусціць, што селы разам з латгаламі ўваходзілі ў склад старажытных племянных утварэнняў балтаў, якія пражывалі на больш значных прасторах басейна Заходняй Дзвіны (Даўгавы), і цалкам верагодна, што іх продкі маглі трапляць у межы сярэдняга ці беларускага яе цячэння. В.В. Сядоў, спачылаючыся на «Пеўцінгераву карту», дзе пазначана «Fluoius Sellianus», што азначае «рака селаў», мяркуе, што селы, якія далі назву рацэ Даўгаве, у першай палове І тысячагоддзя н.э. былі буйной этнічнай адзінкай і жылі на абодвух берагах Даўгавы (Седов, 1987, с. 365).

Такім чынам, вывучэнне этнонімаў, звязаных з насельніцтвам Беларускага Падзвіння ў перыяд ранняга сярэднявечча, сведчыць аб складаных этнакультурных працэсах, якія адбываліся тут у другой палове І тысячагоддзя н.э. Безумоўна, яны з'яўляліся, як адзначалася вышэй, сведчаннем падзей агульнаеўрапейскага маштабу, у аснове якіх была барацьба еўрапейскіх народаў (варвараў) супраць Рымскай імперыі за сваё «месца пад сонцам». Як і ў Еўропе, фарміраванне раннесярэднявечных этнагруповак у Беларусі і, канкрэтна ў вывучаемым рэгіёне, суправаджалася перамяшчэннем карэннага насельніцтва, прытокам новага, складаным этнакультурным узаемадзеяннем. Адлюстраваннем гэтых працэсаў з'явілася карэнная трансфармацыя археалагічных культур, з'яўленне новых рыс аж да ўзнікнення культурна-этнічных новаўтварэнняў. Археалагічныя помнікі банцараўскай і тушамлінскай культур, старажытнасці тыпу паселішчаў з гладкасценнай і аблітой керамікай, культура ранніх доўгіх курганоў (пскоўска-паўночнабеларускага тыпу), полацка-смаленскія курганы розных традыцый — усё гэта сведчанні працэсу фарміравання раннесярэднявечных племянных этнагруповак. Вядомыя па пісьмовых крыніцах «летьгола», «кривичи», «полочане», «нарова» прымалі ўдзел у фарміраванні раннесярэднявечнага насельніцтва Беларускага Падзвіння. Гістарычны лёс гэтага насельніцтва звязаны з працэсамі славянізацыі мясцовага балцкага і часткова прыбалтыйска-фінскага насельніцтва. Гэты працэс быў складаным і працяглым і на розных этапах, і ў розных мясцінах суправаджаўся як асіміляцыяй карэннага насельніцтва, так і растварэннем новага славянскага.




Карта 10. Напрамак рассялення крывічоў у Днепра-Дзвінскім міжрэччы (VI—X стст.) па В.М.Ляўко: а — паўднёвая мяжа пскоўскіх крывічоў у V—VI стст.; б, в — паселішчы (селішча, гарадзішчы) банцараўскай, тушамлінскай культур і апошняй чвэрці I тыс. н.э.; г — могільнікі культуры доўгіх курганоў; д — курганы з трупаспаленнем XI ст. з ляпной керамікай; е — напрамкі руху крывічоў.

### 4.2. Славянскае рассяленне на тэрыторыі Беларускага Падзвіння

***Даныя тапанімікі і гідранімікі аб славянскім засяленні тэрыторыі басейна Заходняй Дзвіны.*** Даследаванні тапанімічных і гідранімічных назваў сведчаць аб тым, што насельніцтва Беларускага Падзвіння да рубяжа I і II тысячагоддзя ў сваёй аснове было балтамоўным. На сённяшні дзень з'яўляецца аксіёмай тое, што пры сутыкненні двух этнасаў і іх змешванні дамініруе мова больш шматлікага і лепш сацыяльна-арганізаванага народу. Наадварот бывае толькі тады, калі прышлы этнас з'яўляецца ў прапарцыянальна меншай колькасці і тады ён проста асімілюецца (раствараецца) у пераважаючым чужародным асяродку, пакідаючы пасля сябе нязначныя сляды. Гэта можна прасачыць на прыкладзе славянізацыі рэгіёна басейна Заходняй Дзвіны.

Пытанне аб тым, якім чынам і калі рассяляліся славяне на тэрыторыі Беларусі да сённяшняга дня, з'яўляецца дыскусійным. У той жа час даследчыкі ўпэўнены ў тым, што хвалі славянскай міграцыі былі розначасовыя і рознанакіраваныя. Працэс славянізацыі працягваўся некалькі стагоддзяў. З актывізацыяй славянскага рассялення мясцовае насельніцтва часткова адступіла, але ў большай сваёй масе было асімілявана славянамі. Тым не менш балцкія анклавы захоўваліся яшчэ на працягу некалькіх стагоддзяў. На гэта звярнуў увагу ў пачатку XX ст. нямецкі вучоны-лінгвіст К. Буга (Buga, 1925, s. 26—55).

Яшчэ раней вядомы філолаг Я.Ф. Карскі пісаў, што «…Основная масса предшественников славян в Белоруссии — литовцев и латышей, жила на Западной Двине и Немане и отдельными поселениями простиралась, постепенно уменьшаясь, временами небольшими островками, на юге до левых притоков Припяти, и на востоке, возможно, до Оки…» Вучоны адзначыў шляхі міграцыі славян «…с юга (от Припяти и ее притоков) и с запада (быть может, с Западного Буга и Нарева). Сначала к Неману, оттуда к Западной Двине на север и до Десны и Оки на востоке…» (Карский, 1904, с. 63).

Значнай падзеяй у вывучэнні гідраніміі лясной зоны Усходняй Еўропы з'явіўся выхад у 1962 г. капітальнага даследавання В.І. Тапарова і А.М. Трубачова «Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья». Аўтары пераканаўча паказалі, што гідраніміка Верхняга Падняпроўя і Падзвіння мае шматлікія сувязі з гідранімікай сучаснай Латвіі і Літвы. У той жа час, акрамя балтыйскага, тут выразна выяўляецца прысутнасць фінамоўнага, іранскага і нават цюркскага элементаў (Топоров, Трубачев, 1962, с. 222—245). Пазней В.І. Тапароў вызначыў дамінуючы балтыйскі кантэкст у басейне Акі

і вярхоўі Заходняй Дзвіны. Дарэчы, ён указваў, што для Віцебска і Віцьбы тлумачэнне на падставе славянскай крыніцы вельмі спрэчнае (Топоров, 1990, с. 365—380).

Даволі падрабязны разгляд літоўскіх элементаў у беларускай тапаніміці і мікратапаніміцы быў зроблены беларускім лінгвістам М.В. Бірылам і літоўскім — А.П. Ванагасам (Бірыла, Ванагас, 1968).

З канца 60-х — пачатку 80-х гг. XX стагоддзя пытаннямі тапанімікі і Верхняга Падняпроўя займаўся польскі даследчык Е. Ахманьскі. Ён даказаў, што на поўначы Беларусі на працягу доўгага часу захоўваліся астраўкі балцкага насельніцтва. Асаблівую ўвагу даследчык прысвяціў балцкім анклавам ў Талачынскім, Лагойскім і Докшыцкім раёнах. Што датычыць усёй Беларусі, то вучоны падкрэсліваў, што паўднёвая мяжа распаўсюджання балцкай тапанімікі адпавядае паўднёвай мяжы культуры штрыхаванай керамікі (Ochmacski, 1970, s. 183—191; Ён жа, 1981).

Гідронімы Падзвіння ў 70-80-я гады дэталёва вывучала беларуская даследчыца Е.М. Катонава. Згодна з яе сцвярджэннем, на тэрыторыі Беларускага Падзвіння 17,5 % балтыйскіх гідронімаў, 18,5 % — славянскіх; 54 % гідронімаў блізкія як да балтыйскіх, так і да славянскіх; 8 % — адносяцца да фіна-угорскіх (Катонава, 1971, с. 25—30; яна ж, 1981, с. 177—184). Важным з’яўляецца назіранне Е.М. Катонавай аб падабенстве шматлікіх гідронімаў Верхняга Падняпроўя і Падзвіння з польскімі назвамі.

У гэтыя ж гады вывучэннем айканіміі Падзвіння займалася Л. Грыгор’ева. Яна прыйшла да высновы, што ў фарміраванні айканіміі Падзвіння роля балтыйскага элементу больш значная, чым у іншых беларускіх рэгіёнах. У айканіміі Беларускага Падзвіння даследчыца вылучыла два арэалы — заходні і ўсходні. Для заходняга арэала характэрна наяўнасць назваў з суфіксамі літоўскага паходжання. Усходні рэгіён характэрны іх адсутнасцю і больш высокай прадуктыўнасцю айканімаў, афармленых славянскімі пасіўнымі і патранімічнымі суфіксамі (Грыгор’ева, 1990, с. 141—148).

Вялікую ўвагу вывучэнню гідраніміі басейна Заходняй Дзвіны ўдзяліла гідраніміст Р.І. Аўчыннікава. Даследчыца падкрэслівае, што ў адносінах да гідронімаў балцкага і славянскага паходжання субстратнай з’яўляецца фіна-угорская. У пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя аўтар сумесна з Р.І. Аўчыннікавай супаставілі даныя археалогіі і гідраніміі Беларускага Падзвіння і прыйшлі да высновы, што дадзены рэгіён у старажытнасці з’яўляўся зонай сутыкнення балтыйскага і фіна-угорскага этнасаў. Гэты фактар адбіўся на рассяленні славян у Падзвінні. Сведчаннем гэтага і з’яўляецца своеасаблівасць палачан. якія займалі асаблівае месца ў крывічскім саюзе плямёнаў (Шадыро, Овчинникова, 1992, с. 60—62).

***Антрапалагічныя даныя.*** У вырашэнні праблемы славянскага засялення тэрыторыі Беларускага Падзвіння выкарыстанне даных антрапалогіі ўскладняецца фактарам панавання на працягу амаль усяго I тысячагоддзя абраду крэмацыі. Вядома, што абрад інгумацыі з’яўляецца тут толькі ў X ст. н.э. Таму ў распараджэнні даследчыкаў маюцца толькі матэрыялы курганных пахаванняў X—XIII стст. якія, хутчэй за ўсё, адлюстроўваюць сфарміраваныя ў працэсе метысацыі антрапалагічныя тыпы. Аднак выкарыстанне рэтраспектыўнага метаду дазваляе, па-першае, вызначыць удзельную вагу як мясцовых (субстратных), так і прышлых (суперстратных) кампанентаў; па-другое — весці пошукі па выяўленню першапачатковага антрапалагічнага тыпу носьбітаў славянскай культуры, якія рассяляліся ў басейне Заходняй Дзвіны.

Антрапалагічныя даследаванні насельніцтва Полацкай зямлі вядуцца з канца XIX ст. Вывучэннем чарапоў заходніх крывічоў займаўся польскі антраполаг Ю.Д. Талька-Грынцэвіч (Talko-Hryncewicz, 1904). Краніялагічныя матэрыялы з раскопак Ф. Вярэнькі, В. Шукевіча, Е. Цэгак-Галубовіч вывучалі таксама польскія антраполагі Л. Седлячэк і А. Ужосак. У выніку даследаванняў Л. Седлячэк прыйшоў да высновы, што чарапы дрыгавічоў найбольш блізкія да чарапоў крывічскіх курганоў Полаччыны, а параўнанне з іншымі чарапамі летапісных усходніх славян даследчык адзначае найбольшую блізкасць крывічоў з северанамі (Sedlaczek, 1929).

Краніялагічныя серыі крывічоў з раскопак А.М. Ляўданскага і І.А. Сербава вывучаў савецкі антраполаг Г.Ф. Дэбец. Яшчэ ў 20-х гадах XX ст. Г.Ф. Дэбец прыйшоў да высновы, што бліжэйшыя аналогіі старажытным славянам Беларусі ў расавых адносінах знаходзяцца ў групах, этнічна неславянскіх. Уключэнне тэрыторыі сучаснай Беларусі ў кола славянскіх культур не суправаджалася колькі-небудзь значнымі перасяленнямі, а адбывалася шляхам акультурацыі (Дебец. 1932, с. 73). У манаграфіі «Палеоантропология СССР» пры разглядзе агульнай сукупнасці крывічскіх краніялагічных серый (пскоўскія, смаленскія, цвярскія, полацкія крывічы) Г.Ф. Дэбец адзначаў, што яна не аднастайная: на усходзе і паўднёвым усходзе, там, дзе ў курганах сустрэты фінскія ўпрыгожанні, ступень выяўлення еўрапеоіднасці змяншаецца (Дебец, 1948, с. 248). Пры гэтым заходнія крывічы (полацкія крывічы — палачане — ***В.Ш.***) прадстаўлены яўным еўрапеоідным тыпам і серыя полацкіх крывічоў выяўляе найбольшае падабенства з краніялагічнымі серыямі радзімічаў і дрыгавічоў (Дебец, 1948, с. 248).

Развіваючы думкі Ф.Д. Дэбеца вядомы антраполаг Т.А. Трафімава адзначала, што крывічы ўключаюць у свой склад некалькі антрапалагічных тыпаў. Так, полацкая група характарызуецца дакладна лакалізаваным «широколицым европеоидным» тыпам, то ва ўсходніх абласцях рассялення крывічоў сустракаецца больш «круглоголовый вариант со слабомонголоидными признаками» (Дебец, Трофимова, Чебоксаров, 1951, с. 460). Раскрываючы генезіс антрапалагічных тыпаў, Т.А. Трафімава ўказвала, што «мезо-долихокранный широколицый европеоидный « тып (класічныя прадстаўнікі — полацкія крывічы) можна прасачыць не толькі ў сярэдневяковых славян Беларусі, але таксама сярод некаторых фінскіх, балцкіх плямёнаў і нават на тэрыторыі Скандынавіі — гэта значыць на вялікім абшары. У выніку міграцый і працэсаў эпахальнай зменлівасці гэты арэал паступова змяншаўся і размываўся, але пры гэтым у шэрагу рэгіёнаў захоўваецца старажытны тып з некаторымі «протоевропейскими» прызнакамі (Дебец, 1948, с. 251). Да гэтых рэгіёнаў, хутчэй за ўсё, адносілася і культурна-гістарычная вобласць Беларускага Падзвіння.

Даліхакранны тып крывічоў В.В. Бунак разглядаў як старажытную форму балтыйскага тыпу і звязваў яго распаўсюджанне ад правабярэжжа Дняпра да Балтыйскага мора. Ён, таксама як і Т.А. Трафімава, падкрэсліваў антрапалагічную неаднастайнасць усходніх славян (Bunak, 1932). На жаль, краніялагічныя серыі з музеяў Беларусі, якія вывучаў Г.Ф. Дэбец, загінулі падчас Другой сусветнай вайны.

Новы этап у антрапалагічным вывучэнні праблемы этнагенезу ўсходніх славян звязаны з даследаваннямі Т.І. Аляксеевай (Алексеева, 1973). Агульнасць фізічнага тыпу заходніх крывічоў, радзімічаў і дрыгавічоў і іх падабенства са сярэднявечным лета-літоўскім насельніцтвам Т.І. Аляксеева тлумачыць праяўленнем рыс адзінага для іх субстрату.

У 1965 г. у Інстытуце мастацтвазнаўства этнаграфіі і фальклору АН БССР была створана група антрапалогіі, якая ў 1990 г. рэарганізавана ў Аддзел антрапалогіі і экалогіі. З гэтага моманту пачынаецца збор матэрыялаў па старажытнаму насельніцтву Беларусі і складванню краніялагічных астэалагічных і аданталагічных калекцый. У 1969 г. І.І. Салівон абараніла кандыдацкую дысертацыю на тэму «Палеантрапалогія Беларусі і пытанні паходжання беларускага народа (па краніялагічных матэрыялах II тыс. н.э.)». Вывучаючы чарапы з курганоў XI—XII стст. і чарапы з могільнікаў XVIII—XIX стст. і параўноўваючы іх з суседнімі тэрыторыямі, даследчыца прыйшла да высновы, што шэрагам прыкмет, якія характарызуюць вышыню пераносся і гарызантальную прафіліроўку твару, чарапы з тэрыторыі Беларусі збліжаюцца з усходнімі латышамі і эстонцамі і адрозніваюцца ад рускіх абласцей, якія суседзяць з Беларуссю, і ад украінцаў. І.І. Салівон таксама даказала, што славяне пры сваім рассяленні засталі на тэрыторыі сучаснай Беларусі старажытнае насельніцтва, якое звязана з Усходняй Прыбалтыкай. Даследчыца падкрэсліла таксама пераемнасць і вялікае падабенства сучаснага і сярэднявечнага насельніцтва Беларусі (Саливон, 1969, с. 9—13).

Асаблівай увагі вартая праца І.І. Салівон, Л.І. Цягака і А.І. Мікуліча «Новые антропологические материалы к проблеме этногенеза белорусского народа», якая выйшла ў 1973 годзе. На думку І.І. Салівон «… Спецыфічны комплекс краніялагічных прызнакаў некалькі паслабленай еўрапеоіднасці з эпохі сярэднявечча захоўваецца да сучаснасці ў амаль нязменным выглядзе сярод усходнеславянскага насельніцтва толькі на тэрыторыі Беларусі. Гэты факт сведчыць у карысць значнай ролі старажытнага мясцовага (даславянскага насельніцтва ў фарміраванні антрапалагічнага тыпу беларусаў). На карысць гэтага сведчаць амаль поўная нязменнасць скулавай шырыні і вышыні твару на працягу апошняга тысячагоддзя, што дазваляе меркаваць аб удзеле ў фарміраванні антрапалагічнага тыпу беларусаў элементаў, паходжанне якіх звязана з Прыбалтыкай» (Саливон, Тегако, Микулич, 1973, с. 4—5).

Шэраг дакладаў, прысвечаных антрапагенезу беларусаў, быў падрыхтаваны да канферэнцыі «Этнагенез беларусаў», якая павінна была адбыцца ў снежні 1973 г. у Мінску. На жаль, канферэнцыя не адбылася, але тэзісы былі надрукаваны (Этнагенез беларусаў, 1973). Прывядзём некаторыя вытрымкі з іх, якія тычацца тэмы нашай работы. Так, маскоўскі антраполаг Т.І. Аляксеева адзначала, што «… Блізкасць антрапалагічнага тыпу (сучасных — ***В.Ш.***) беларусаў, рускіх Смаленшчыны і часткова Калінінскай вобласці з літоўцамі бясспрэчна…» (Алексеева, 1973, с. 79—82). Маскоўскі антраполаг В.В. Бунак падкрэсліваў: «… Паўднёвая граніца балтыйскай зоны праходзіць у Беларусі паміж Дняпром і Нёманам па вярхоўях левых прытокаў Заходняй Дзвіны. Прылягаючая з поўдня вобласць левых прытокаў Прыпяці па комплексу прызнакаў правільней адносіць да пераходнага тыпу паміж балтыйскай і днепра-карпацкай зонамі…» (Бунак, 1973, с. 86—89).

Краніялагічныя матэрыялы ў канкрэтным выпадку з Полацкай зямлі, атрыманыя ў выніку раскопак Г.В. Штыхава, Ю.А. Заяца, Л.У. Дучыц вывучаліся І.У. Чаквіным і А.І. Кушніром. У 1981 г. быў дэпаніраваны рукапіс І.У. Чаквіна «Антропологическая и демографическая характеристика древ-

нерусского населения Подвинья и Понеманья» (Чаквин, 1984). Вынікі даследаванняў сярэдневяковага насельніцтва Полацкай зямлі былі апублікаваны ў канцы 80-х гадоў XX стагоддзя (Кушнир, Чаквин, 1987). Аналіз матэрыялаў дазволіў выявіць у складзе масіўных «классических» форм полацкіх крывічоў шэраг адносна «узколицых» элементаў (Кушнир, Чаквин, 1987). Аўтары ўключаюць полацкіх крывічоў у адну групу з дрыгавічамі, радзімічамі, смаленскімі крывічамі. Была выяўлена таксама пэўная мазаічнасць краніялагічных паказчыкаў паўночных і цэнтральных рэгіёнаў: цэнтральная група выступае як адносна масіўная ў параўнанні са смаленскімі крывічамі, у той час як паўночна-заходняя (памежная з латгаламі) група мае большае падабенства з паўднёвымі групамі палачана-дрыгавічскага памежжа (Кушнир, Чаквин, 1987).

Апошнія антрапалагічныя даследаванні сведчаць аб тым, што курганнае ўсходнеславянскае насельніцтва з тэрыторыі Беларусі (смаленска-полацкія крывічы, радзімічы, дрыгавічы) выяўляе падабенства з балтамі, якія ў эпоху жалеза былі тэрытарыяльна звязаныя з Верхнім Падняпроўем (днепрадзвінская культура — ***В.Ш.***) і носьбітамі культуры штрыхаванай керамікі (Алексеева, 2002). Факт падабенства полацкіх крывічоў да сярэднявечнага лета-літоўскага насельніцтва Т. Аляксеева тлумачыць фарміраваннем славян у бліжэйшым суседстве з балтамі на падобнай антрапалагічнай аснове ў большменш аднародным расава-генетычным асяроддзі (Алексеева, 2002, с. 310; 1973, с. 82). Важнае значэнне для апошняга даследавання мае выснова, зробленая Р. Дзянісавай аб адсутнасці генетычнай пераймальнасці паміж мясцовымі «штрыхавікамі» і культурай ўсходнелітоўскіх курганоў (Денисова, 1990, с. 42). Аднак апошняе не выключае магчымасці метысацыі абодвух тыпаў на момант X—XII стст. (Емельянчык, 2003, с. 39). Бліжэйшыя аналагі антрапалагічнаму тыпу латгалаў Усходняй Латвіі Р.Дзянісава знаходзіць сярод полацкіх крывічоў (Денисова, 1990, с. 68).

У апошні час даследаваннямі па краніялогіі насельніцтва Падзвіння займаецца В.А. Емельянчык (Емельянчик, 2002, с. 122—129; 2003, с. 38—41). Ёю даследавана краніялагічная серыя, прадстаўленая матэрыяламі пахаванняў з тэрыторыі Полацкай зямлі з раскопак Г.В. Штыхава, Л.У. Дучыц, Г. Семянчука. Даследаваныя В. Емельянчык матэрыялы з грунтавога могільніка Дрысвяты — Пашавічы (Браслаўскі раён) выявілі значнае падабенства з краніялагічнай серыяй латгалаў Усходняй Латвіі. Даследчыца выказвае гіпотэзу аб шлюбных сувязях прыйшоўшага ўсходнеславянскага насельніцтва, пераважна мужчын, з мясцовымі балцкімі жанчынамі (Емельянчык, 2003, с. 39—40). Акрамя традыцыйна марфалагічнага аналізу, даследчыца вывучае палеадэмаграфію і палеаэкалогію. У рамках сумеснага беларуска-расійскага праекта па тэме «Праблема славянскага засялення беларуска-расійскага рэгіёна басейна Заходняй Дзвіны ў эпоху ранняга сярэднявечча» В.А. Емельянчык выканала раздзел «Антрапалагічная характарыстыка насельніцтва Беларускага Падзвіння». Вынікі яе апошніх даследаванняў дапамагаюць высвятленню пытанняў гістарычнага лёсу насельніцтва паўночнай Беларусі ў канцы I — пачатку II тысячагоддзя н.э. і чакаюць як мага хутчэйшага з’яўлення ў друку.

***Даныя мовазнаўства аб славянскім засяленні Падзвіння.*** Асноўным этнічным паказчыкам часцей за ўсё называюць мову. Але вядома, што мова і этнагенез народа — з’явы не сінхронныя. Так, беларускую мову як крытэрый для вызначэння беларусаў у якасці славянскага этнасу пачынаюць называць толькі з XIII—XIV стст. Але яе зараджэнне на падставе шматлікіх мясцовых балцкіх дыялектаў і разнастайных дамешкаў старaславянскай мовы адносіцца да больш ранняга часу. Беларуская мова, як сцвярджаюць даследчыкі-лінгвісты, з’яўляецца адным з важнейшых паказчыкаў балцкага субстрату (Аппель, 1880, с. 197—224; Buga, 1925, s. 26—55; Карский, 1962, с. 384—398; Лексічныя…, 1969; Лаучюте, 1972, с. 101—109; Арашонкова і др., 1973, с. 27—37; Мартынов, 1976, с. 89—94; Прохарава, 1993; Полетаева, 2000, с. 41—52 і інш.).

Арэал распаўсюджання балтыйскіх моў у старажытнасці ахопліваў Прыбалтыку, Падзвінне, Верхняе Падняпроўе, вярхоўе Волгі. Сучасныя балтыйскія мовы распаўсюджаны на тэрыторыі Літвы, Латвіі і часткова паўночна-заходняй Беларусі (Балтийские языки, 1990, с. 64; Гаучас, 1985, с. 174—176). Па назіраннях даследчыкаў, на паўночным захадзе Беларускага Падзвіння па-літоўску гаварылі яшчэ ў XX ст. і многія лічылі сябе літоўцамі (Грынблат, 1959, с. 523—543; Гаучас, 1988, с. 195—213).

На думку Ф.Д. Клімчука, беларускі этнадыялектны арэал у агульных рысах склаўся ўжо ў VIII ст. н.э. Даследчык падкрэслівае, што з’яўленне славянскага элементу на тэрыторыі Беларусі адбывалася на працягу некалькіх этапаў і было абумоўлена кантактамі з балтыйскай мовай. Пазней усе гэтыя працэсы адбываліся на паўночным захадзе Беларусі, дзе да сённяшняга дня захаваліся астраўкі з літоўскамоўным насельніцтвам (Климчук, 1983, с. 25—26).

Па назіраннях вядомага лінгвіста В.У. Мартынава, этапы фарміравання беларускай мовы супадаюць з хвалямі славянскай міграцыі. Моўныя кантакты праходзілі ў працэсе асіміляцыі мясцовага




Карта 11. Беларускія дыялекты і групы гаворак: 1 — паўночна-ўсходні дыялект; 2 — паўднёва-заходні дыялект; 3 — сярэднябеларускія гаворкі; 4 — палеская група гаворак; 5 — мазырская група гаворак; 6 — паўночная група гаворак; 7 — віцебска-магілёўская група гаворак; 8 — паўночна-заходняя падкрупа гаворак; 9 — мяжа паміж усходнім і заходнім варыянтамі днепра-дзвінскай культуры; банцараўскай, тушамлінскай і калочынскай культурамі эпохі ранняга сярэднявечча.

насельніцтва і таму непасрэдныя крыніцы пранікнення шэрагу лексем канчаткова згублены. Аднавіць іх магчыма толькі шляхам супастаўлення з літоўскім лексічным матэрыялам (Мартынов, 1976, с. 89—94). Гэту працу дэталёва праводзіла С.М. Прохарава. Ёй удалося прасачыць, што побач з балта-славянскімі інавацыямі шырокага распаўсюджання маюцца інавацыі больш вузкага распаўсюджання, а таксама канструкцыі, якія тыпалагічна супадаюць толькі з літоўскімі, ці толькі з латышскімі моўнымі канструкцыямі. Канкрэтна ў басейне Заходняй Дзвіны яна выявіла моўныя асаблівасці, якія супадаюць з латгальскімі (Прохарова, 1993, с. 1—22). Яшчэ раней аб гэтым пісала М.І. Лекомцава, вывучаючы філалагічныя сістэмы голядзі і днепра-дзвінскіх балтаў (Лекомцева, 1981, с. 52—61; Яна ж, 1982, с. 88—96). Гэтыя лінгвададаныя сведчаць аб міграцыйных рухах з тэрыторыі Падняпроўя ў напрамку да Акі і ў вярхоўі Заходняй Дзвіны.

Лінгвісты выявілі ляхіцкія рысы ў дыялектах крывічоў (Глускина, 1962; Николаев, 1989, 1990). Так, С.М. Глускіна вызначыла «мазурение» у пскоўскіх гаворках, якія вельмі блізкія да гаворак басейна Заходняй Дзвіны (Глускина, 1962, с. 28—57). С.Л. Мікалаеў аб'ядноўвае па шэрагу прызнакаў крывіцкія дыялекты з ляхіцкімі і супрацьпастаўляе іх усім усходнеславянскім (Николаев, 1990, с. 62). Усе гэтыя даныя сведчаць аб міграцыях з тэрыторыі Павіслення, што знаходзіць пацверджанне і ў археалагічным матэрыяле.

На рубяжы I і II тысячаагоддзяў у выніку актыўнага рассялення славян і хрысціянізацыі краю для абарыгенаў устанаўліваецца двухмоўе — з аднаго боку дзве кніжныя мовы — царкоўна-славянская і старраславянская мовы, а з другога — шматлікія балцкія дыялекты, якія перарастаюць у балта-славянскае сінтэзіраванае поўнагалоссе.

Першыя пісьмовыя крыніцы, якія ўтрымліваюць элементы старажытнай беларускай мовы адносяцца да XII ст. (полацкія граматы, смаленска-полацкія — рыжскія гандлёвыя дамовы). На старраславянскай мове пачынаў размаўляць горад, насельніцтва якога ўяўляла сабой этнічны кангламерат. Полацкія эпіграфічныя помнікі пачатку XIII тысячагоддзя (надпісы на камені ў Сафійскім саборы, надпісы царквы

Спаса-Еўфрасіньеўскага манастыра) у адносінах графіка-палеаграфічных нормаў арыентаваны на кіеўскую кніжную традыцыю, але ў іх яшчэ фіксуюцца дыялектныя з'явы полацка-смаленскай гаворкі.

Асаблівую цікавасць для нас уяўляе праекцыя ў старажытнасць крывічскіх лінгваархаізмаў, на падставе якой С.Л. Мікалаеў правёў дыферэнцыяцыю племянной мовы крывічоў на пскоўскі, старажытнанаўгародскі, смаленскі, верхняволжскі, полацкі і заходні (Николаев, 1990, с. 15). Смаленскі (заходняя частка), полацкі і заходні дыялекты звязаны з Беларускім Падзвіннем і грунтуюцца на даных дыялектычнага атласа беларускай мовы і Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак. Гістарычная класіфікацыя гаворак карэспандуецца з данымі археалагічных даследаванняў на тэрыторыі Беларускага Падзвіння, Верхняга Падзвіння і сумежных тэрыторый і адпаведна рэгіянальнымі асаблівасцямі, якія фіксуе тут археалогія і аб чым ужо ішла гаворка вышэй.

### 4.3. Актывізацыя славянскага рассялення і гістарычны лёс насельніцтва Беларускага Падзвіння ў канцы I — пачатку II тысячагоддзя н.э.

***Рассяленне у канцы I тысячагоддзя н.э. (культура полацка-смаленскіх курганоў з трупаспаленнем).*** З канца VIII — пачатку IX ст. у жыцці насельніцтва Беларускага Падзвіння можна прасачыць значныя змены. На ўсёй тэрыторыі пачынаюць распаўсюджвацца курганныя насыпы з трупаспаленнем паўсферычнай формы, якія ў шэрагу выпадкаў уваходзяць у склад могільнікаў з доўгімі насыпамі на правабярэжжы Заходняй Дзвіны. Рэчавы комплекс носіць істотную розніцу ад старажытнасцей 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. Гэта, перш за ўсё, адносіцца да керамічнага посуду. Слабапрафіляваны посуд знікае, і на змену яму прыходзяць гліняныя гаршкі новай мадыфікацыі, якія з'яўляюцца прататыпамі гаршкоў ганчарнай вытворчасці. Адчувальныя змены назіраюцца ў характары жаночых упрыгожанняў. Змены ў матэрыяльнай культуры становяцца настолькі адчувальнымі, што невыпадкова яны звязваюцца з новай культурай «полацка-смаленскіх доўгіх курганоў». Да сённяшняга дня, на жаль, паселішчы гэтай культуры вельмі цяжка вычленіць. Гэта, у сваю чаргу, вельмі ўскладняе вырашэнне шматлікіх пытанняў, звязаных з жыццядзейнасцю насельніцтва і яго сувязей з папярэднім перыядам гістарычнага развіцця.

Асноўнымі крыніцамі для вырашэння шматлікіх праблем напярэдадні стварэння дзяржавы на вывучаемай тэрыторыі з'яўляюцца курганныя старажытнасці культуры доўгіх курганоў ці полацка-смаленскага тыпу. Гэтыя матэрыялы дапамагаюць высветліць пытанні рассялення славян на тэрыторыі Падзвіння, этнакультурных узаемаадносін у канцы I — пачатку II тысячагоддзя н.э. і фарміраванню насельніцтва, якое ўвайшло ў склад першай дзяржавы на тэрыторыі Беларусі — Полацкага княства.

Канец I тысячагоддзя і асабліва пачатак II тысячагоддзя н.э. з'яўляецца перыядам так званага афармлення Еўропы. Па ўсёй Еўропе ў гэты час назіраецца дэмаграфічны выбух і шматлікія міграцыйныя працэсы. Дзяржаватворчыя працэсы набылі максімальную моц і шырокі размах. Сацыяльна-эканамічная, палітычная і этнічная сітуацыя на тэрыторыі Беларускага Падзвіння, безумоўна, залежала ад агульнаеўрапейскай абстаноўкі. З пачатку II тысячагоддзя н.э., як па ўсёй Беларусі, так і ў вывучаемым рэгіёне Падзвіння паўсюдна назіраецца рэзкае павялічэнне колькасці курганных могільнікаў. Адносіць гэта толькі за кошт унутраных дэмаграфічных працэсаў нельга. Вынікі археалагічных даследаванняў сведчаць аб пастаянных прытоках новага насельніцтва, галоўным чынам славянскага.

Для вывучэння этнічных пытанняў менавіта курганныя могільнікі старажытнасці з'яўляюцца вельмі важнай крыніцай. Як вядома, пахавальны абрад з'яўляецца вельмі кансерватыўным і адлюстроўвае рэлігійныя вераванні і традыцыйныя звычаі канкрэтнага насельніцтва. Кожны курган — гэта закрыты комплекс з характэрнымі рэчамі пэўнай тэрыторыі і насельніцтва. Прышэльцы часцей сяліліся асобна, але часам і ў тых жа пасяленнях, што і мясцовае насельніцтва. Нягледзячы на кансерватызм, паступова ў матэрыяльнай і духоўнай культуры, у традыцыях назіраецца ўзаемаўплыў. Археалогія фіксуе яго перш на перш па дэталях касцюма і ў большасці — па жаночых упрыгожаннях.

Курганныя старажытнасці Беларускага Падзвіння Х—ХІ стст. вельмі разнастайныя. Адны ўтрымліваюць больш балцкіх элементаў, як у абрадзе пахавання, так і ў наборы рытуальных рэчаў; у іншых можна назіраць з'яўленне элементаў славянскай культуры. Жаночыя галаўныя ўпрыгожанні — вяночкі-вайнагі, складзеныя з бронзавых пранізак характэрны, як вядома, для балцкага і прыбалтыйска-фінскага насельнітцва. Але прымацаваныя да іх скроневыя колцы з'яўляюцца ўжо сведчаннем складвання камбінаванага балта-славянскага тыпу ўпрыгожанняў. У кожным канкрэтным выпадку балта-славянскае ўзаемадзеянне адбывалася па-рознаму. Так, у курганным могільніку каля в. Перавоз Глыбоцкага раёна ў адным з насыпаў быў зафіксаваны балцкі пахавальны звычай: галаўны ўбор быў аздоблены ажурнымі пласцінкамі; ля ног знаходзіліся 2 зааморфныя бранзалеты. У склад упрыгожанняў уваходзілі

нагрудныя ланцужкі, бубенчыкі, шкляныя пацеркі, пярсцёнкі. Прысутнічалі і амулеты з іклаў жывёл. У гэтым жа могільніку ў іншых насыпах былі знойдзены тыпова крывічскія наборы ўпрыгожанняў: бранзалетападобныя скроневыя колцы і каралі з шкляных пацерак (Дучыц, Квяткоўская, 1994, с. 58—70).

Падобная з’ява назіралася і ў курганным могільніку каля в. Дзмітраўшчына каля Полацка: у адных насыпах зафіксаваны толькі тыпова балцкія рэчы (ланцужкі з падвескамі); у другіх — крывічскія скроневыя бранзалетападобныя колцы і каралі з шкляных пацерак (Тарасаў, Дучыц, Семянчук, 1995, с. 230—241).

Пры вывучэнні пытання этапаў засялення славянамі Падзвіння пэўнае значэнне маюць каменныя курганы і курганна-жальнічныя могільнікі, распаўсюджаныя на тэрыторыі Полацкай зямлі. З пачатку II тысячагоддзя н.э. гэтыя помнікі размешчаны ўздоўж лініі Брэст — Віцебск і далей на Пскоўшчыне і Наўгародчыне. В.В. Сядоў прыйшоў да высновы, што яны адлюстроўваюць шляхі перасяленцаў з тэрыторыі Мазовіі да Наўгародчыны (Седов, 1992, с. 100—104; 2002, с. 196—200). Шэраг фактаў з тэрыторыі Беларусі пацвярджаюць думку В.В. Сядова, і перш за ўсё — вынікі раскопак каменных курганоў. Яшчэ ў канцы XIX ст. уладальнік маёнтка Пуцілкавічы, што на Ушаччыне, Ф. Вярэнька раскапаў у тутэйшым курганна-жальнічным могільніку каля 40 пахаванняў. На жаль, вынікі раскопак поўнасцю не надрукаваны, але інфармацыя аб іх прыведзена ў кнізе Л.Д. Побаля «Древности Белоруссии в музеях Польши» (Мн., 1979, с. 117—123). Сярод знаходак: бронзавыя ўпрыгожанні, шкляныя пацеркі, пазалочаныя бляшкі ад галаўных убораў. Шмат пахаванняў арыентаваны галавой на ўсход. Польскі антраполаг Л. Седлячэк, які вывучаў чарапы з гэтых пахаванняў, прыйшоў да высновы, што чарапы з земляных курганоў ідэнтычны чарапам з суседніх падобных насыпаў крывічоў, а чарапы з каменных курганоў падобны да матэрыялаў з каменных магіл Панёмання (Sedlaczek, 1929). У пачатку 30-х гадоў XX ст. на могільніку ў Пуцілкавічах Зм.Каваленя раскапаў яшчэ адно пахаванне. На чэрапе (заходняя арыентыроўка) захаваліся пазалочаныя бляшкі ад галаўнога ўбору (Каваленя, 1932, с. 188—198).

Цікавасць уяўляе курганны могільнік каля в. Лясная Міёрскага раёна, які вывучаў аўтар разам з Л.У. Дучыц у 80-х гадах. Усяго было даследавана каля 30 магіл, палова з каторых мела каменную вымастку (брукоўку), на якой знаходзіліся рэшткі пахаваных. у некалькіх выпадках шкілет быў абкладзены камянямі рознай велічыні. Своеасаблівасць курганнага могільніка ў тым, што акрамя мужчынскіх пахаванняў, арыентаваных на ўсход, былі выяўлены 2 жаночыя пахаванні, таксама з усходняй арыентыроўкай. Сярод пахавальнага інвентару маюцца зааморфныя бранзалеты, вітая шыйная грыўня з петлепадобнымі канцамі, вітыя бранзалеты, шкляныя і янтарныя пацеркі і інш. (Дучыц, 1988, с. 104—109). Усходняя арыентыроўка жаночых пахаванняў хутчэй за ўсё звязана з уплывам усходнелітоўскіх звычаяў (аўкштайтаў). Што датычыць мужскіх пахаванняў у каменных курганах, то іх усходняя арыентыроўка, як указвалася вышэй, звязана, на думку В.В. Сядова, з мазаўшанамі. Менавіта ўсходняя арыентыроўка мужчынскіх пахаванняў маркіруе рух насельніцтва з Павіслення на Пабужжа, а потым праз Цэнтральную Беларусь да Полацка і Віцебска на Пскоўшчыну і Наўгародчыну. Падкрэслім, што падобная арыентыроўка ўсплывае на тэрыторыі Латгаліі (гл. сюжэт аб латыголі).

У якасці дадатковага пацвярджэння гэтай высновы па беларускіх матэрыялах можна спаслацца на матэрыялы раскопак могільнікаў з каменнымі аабгародкамі на Лагойшчыне каля вв. Сухая Гара і Прудзішча. Падчас раскопак тут знойдзены шчытковыя скроневыя колцы, характэрныя для наўгародскіх славен (Дучыц, Ганецкая, Іоў, Лашанкоў, 2002, с. 196—200; 2004, с. 181—190). Дарэчы, тапонімы тыпу «Словены» сустракаюцца на Беларусі. Вызначыць іх суадносіны з этнонімам «словени» вельмі складана. Упрыгожанні, характэрныя для наўгародскіх славен сустракаюцца і на тэрыторыі Паўночнай Беларусі. Прататыпы ім вядомы з тэрыторыі Польшчы і ў каменных курганах Панямоння (Rauhut, 1971, s. 435—653; Квятковская, 1998). Яшчэ ў 1928 г. каля вёскі з адпаведнай тапанімічнай назвай Славены, што знаходзіцца на Ушаччыне, два каменныя курганы раскапаў У.А. Сербаў. у аснове аднаго кургана было зафіксавана пахаванне па абраду крэмацыі са знаходкамі жалезнага нажа і ганчарнай пасудзіны. У насыпе было выяўлена жаночае пахаванне па абраду інгумацыі з арыентыроўкай на паўночны захад, пахавальны інвентар якога ўтрымліваў: падвеску — дырхем, бронзавая бразготка, шкляныя пацеркі і гліняны гаршчок. У другім кургане (інгумацыя) знойдзена бронзавая бразготка і гліняны гаршчок (Сербаў, 1930, с. 199—211).

Аб перасяленні на тэрыторыю Беларускага Падзвіння выхадцаў з Панямоння сведчаць матэрыялы раскопак курганна-жальнічных могільнікаў каля вв. Перавоз Глыбоцкага і Волча Докшыцкага раёнаў. Прышэльцы сяліліся сярод мясцовага насельніцтва, а памерлых супляменнікаў сталі хаваць на агульным могільніку. Мясцовае насельніцтва з цягам часу пераняло пахавальны звычай мігрантаў, і ў каменных магілах ужо хавалі змешанае насельніцтва. Такім чынам, можна сцвярджаць, што ў каменных магілах пахаваны нашчадкі крывічоў і перасяленцы з Панямоння.

Асаблівую цікавасць выклікае багатае жаночае пахаванне (курган 11), якое датуецца XI ст. Сярод знаходак: каралі са шкляных пацерак, бронзавыя бубенчыкі, амулеты з іклаў жывёл. Галаўны ўбор быў абшыты алавянымі ажурнымі пласцінкамі. На руках былі 4 пярсцёнкі, на нагах два зааморфныя бранзалеты і тут жа гліняная пасудзіна, на донцы якой было кляймо ў выглядзе свастыкі. Асаблівай увагі заслугоўвае адзін з пярсцёнкаў, які па форме і арнаментацыі падобны пярсцёнку з прускага могільніка Рувніна Дольна з Польшчы (Дучыц, Квяткоўская, 1994, с. 104—109; Odoj, 1956, s. 177—196).

Падобная сітуацыя зафіксавана і на могільніку каля в.Ваўча Докшыцкага раёна паблізу вытокаў Віллі. Тут таксама земляныя курганы змяняюцца каменнымі курганамі, а потым каменнымі магіламі. У каменных курганах знойдзены пазалочаныя бляшкі на чэрапе. Такія ж упрыгожанні маюцца і ў каменных магілах, дзе дадаткова выяўлены пярсцёнкі і гліняны посуд (Квятковская, Дучиц, 1992, с. 30—32).

Спалучэнне земляных і каменных кургаоў у адным могільніку з жальнічнымі магіламі зафіксавана на тэрыторыі Падзвіння яшчэ з XIX ст. У сярэдзіне XIX ст. падобныя аб’екты каля вв. Нача і Шпакаўшчына апісаў К. Гаворскі (Говорский, 1853, с. 98—103). Падобныя помнікі пад Віцебскам (маёнтак Кахоўка) вывучалі ў канцы XIX ст. Я.Р. Раманаў і А.П. Сапуноў. Былі знойдзены бранзалетападобныя скроневыя колцы. Л.У. Дучыц указвае на аналагічныя курганы і ў іншых месцах Полацкай зямлі (Дучыц, 1996, с. 38—41). Узнікненне вялікіх могільнікаў з каменнымі курганамі і магіламі жальнічнага тыпу сведчыць аб тым, што міграцыі час ад часу адбываліся цэлымі пасяленнямі. Адзначым цікавы факт, што ў канцы XIX ст. у вытоках Бярэзіны (дняпроўскай — ***В.Ш.***) даследчыкі зафіксавалі народныя назвы каменных кургаоў і магіл як «жалі». Менавіта такую ж назву мелі аналагічныя помнікі на тэрыторыі Польшчы. Адсюль гэта назва дайшла да Пскоўшчыны і Наўгародчыны, дзе і атрымала шырокае распаўсюджанне.

У 2005 г. ў паўднёва-заходніх ваколіцах возера Селява (Крупскі р-н) аўтар разам з Л.У. Дучыц правялі раскопкі курганна-жальнічнага могільніка (падрабязна гл. (В. Шадыра, 2006). Даследаванні курганна-жальнічных помнікаў на сённяшні дзень, на жаль, даволі рэдкія. І таму кожнае намаганне ў гэтым накірунку маюць важнае навуковае значэнне. Спынімся падрабязней на сюжэце даследавання гэтага аб’екта, што дае магчымасць прасачыць гістарычны лёс насельніцтва ваколіц возера Селява ў больш позні час. Старажытны могільнік быў выяўлены гісторыкам-краязнаўцам А.П. Аляхновічам і знаходзіцца ў 0,5 км на поўнач ад в. Дакучын, на ўсход ад сучасных могілак паблізу невялікага воз. Худавец. На сённяшні дзень захаваліся 15 земляных кургаоў і 6 жальнікаў. Вышыня кургаоў 0,5—0,8 м, дыяметр 5—8 м. Частка пахавальных насыпаў была знішчана ў час лесапасадкі некалькі гадоў назад. На поўдзень ад курганна-жальнічнага могільніка знаходзіцца познесярэднявечны могільнік з каменнымі надмагіллямі і каменнымі крыжамі. Мы раскапалі два земляныя курганы (на паверхні аднаго былі камяні) і дзве жальнічныя магілы. У першым кургане ў яме глыбінёй 1 м быў знойдзены шкілет арыентаваны на захад. Палажэнне рук не прасочвалася. Каля тазавых костак знойдзена бронзавая паясная спражка дыяметрам 3 см. На ім захаваліся вузлы ад скуранога раменьчыка і ад жгута з шарсцяных нітак. Да іх, верагодна, падвешвалі амулеты. У другім кургане на дне ямы (глыбіня 1 м) выяўлены шкілет, арыентаваны на паўднёвы захад. Правая рука сагнута ў локці і пакладзена на пояс. Левая рука сагнута ў локці і кісць на плячы. На чэрапе ў адзін рад ад скроні да скроні ляжалі дзесяць металічных бляшак са слядамі пазалоты. Памеры бляшак 1 х 1 см. Па вуглах бачна адтуліна для прышывання. Такімі пласцінкамі ўпрыгожвалі галаўныя ўборы, звычайна паўсферычнай шапачкі, якія шылі з тканін або вязалі з нітак. Падобныя галаўныя ўборы характэрны для XII—XIII стст. на тэрыторыі Панямоння. Знаходкі ў Дакучыне сведчаць аб міграцыях насельніцтва з больш заходніх раёнаў.

Былі раскапаны 2 жальнічныя магілы. Гэта невысокія насыпы, якія па перыметру абкладзены камянямі. Трэба падкрэсліць, што такія пахавальныя канструкцыі яшчэ мала вывучаліся на тэрыторыі Беларусі. Гэта выклікана ў значнай ступені тым фактарам, што іх традыцыйна лічылі познесярэднявечнымі могільнікамі і таму навукоўцы мала звярталі ўвагі на іх фіксацыю і тым больш даследаванне. У навуковую літаратуру ў асноўным увайшлі толькі тыя жальнічныя магілы, якія знаходзіліся побач з землянымі курганамі.У першым жальніку ў яме глыбінёй 1,2 м было знойдзена пахаванне мужчыны ростам 1,8 м. У жальніку № 2 ў яме глыбінёй 1,3 м выяўлены рэшткі двух шкілетаў — з правага боку мужчынскага, з левага — жаночага. Шкілеты арыентаваны на паўднёвы захад. Каля жаночага шкілета знойдзены бронзавы віты пярсцёнак, драцяны перагнуты пярсцёнак, фрагмент драцянога скроневага кальца і сярэбраная завушніца. Усе выяўленыя рэчы характэрныя для XI—XIII стст.

Амаль усе даследчыкі каменных магіл на тэрыторыі Беларусі (Полацкая зямля) (Звяруга Я.Г., Квяткоўская А.В., Дучыц Л.У. і інш.) адзначаюць іх блізкасць з аналагічнымі помнікамі Панямоння і Падляшша. Вялікая колькасць каменных кургаоў на тэрыторыі Полацкай зямлі назіраецца ў асноўным




Карта 12. Напрамкі славянскага рассялення на тэрыторыі Беларусі ў IX—XI стст. н.э.

у XI—XII стст. Яны з’яўляюцца як асобнымі групамі, так і ў складзе земляных курганных могільнікаў, менавіта ў тых раёнах, якія былі яшчэ слаба засвоены славянамі. Гэты фактар дазволіў В.В. Сядову сцвярджаць, што напад на землі яцвягаў і галіндаў кіеўскіх і валынскіх князёў у XI — пачатку XII стст. выклікаў перасяленне з Мазовіі на паўночны ўсход (Седов, 2000, с. 14). Вядома, што абрад пахавання ў каменных курганах быў яшчэ раней занесены з карэнных яцвяжскіх земляў. Як сведчаць матэрыялы, на Беларусі ў многіх месцах перасяленцы падсяляліся да мясцовага крывіцкага насельніцтва. Аб гэтым сведчаць згаданыя вышэй матэрыялы з раскопак Л.У. Дучыц курганоў каля в. Перавоз Глыбоцкага раёна. Праведзеныя намі даследаванні ў Дакучыне таксама пацвердзілі гэты факт. Дарэчы, гэта самы ўсходні пункт распаўсюджання гэтай гістарычнай з’явы на Беларусі, які даследаваўся археолагамі.

Такім чынам, каменныя курганы (жальнікі) на тэрыторыі Полацкай зямлі па сваёй канструкцыі і пахавальнаму інвентару вельмі падобныя да падобных аб’ектаў на паўднёвым і паўночным захадзе. Яны сведчаць аб шматлікіх міграцыях насельніцтва на тэрыторыю Беларусі, галоўным чынам з паўднёвага захаду. Больш канкрэтна аб часе і шляхах гэтых перасяленняў можна весці размову толькі пасля дадатковага накаплення новых матэрыялаў і іх дэтальнага аналізу.

Датыроўка каменных курганоў і курганна-жальнічных могільнікаў узрастае па лініі ад Брэста да Віцебска. Хаця рэзкіх адрозненняў як па канструкцыі іх, так і па пахавальнаму інвентару ў зададзеным напрамку распаўсюджання не назіраецца.

Усё вышэйсказанае дазваляе пагадзіцца з пунктам гледжання В.В. Сядова, што ў сувязі з ваеннымі дзеяннямі кіеўскіх і валынскіх князёў у XI — пачатку XII стст. на землях яцвягаў і галіндаў — частка насельніцтва з Мазовіі рушыла на паўночны ўсход. Але для нас вельмі важнае значэнне мае той факт, што, як указваў В.В. Сядоў, у Мазовію, а потым у Падляшша, абрад пахавання ў каменных магілах распаўсюдзіўся яшчэ раней з карэнных яцвяжскіх зямель (Седов, 2000, с. 14). Пацверджаннем гэтаму з’яўляюцца каменныя абкладкі ў найбольш ранніх курганах Браслаўшчыны, у тым ліку і дасле-

даваных аўтарам разам з Л.У. Дучыц у могільніку Рацкі Бор (Дучыц, Шадыра, 2004, с. 143—146), дзе адчуваюцца імпульсы з Павіслення. Тое ж самае назіраецца і ў курганным могільніку каля в. Лясная Міёрскага раёна, дзе прасочваюцца ўплывы (міграцыі) з боку Усходняй Літвы. Аб гэтым сведчыць усходняя арыентыроўка жаночых пахаванняў, бурштынавыя пацеркі бітрапецападобнай формы. У больш усходнім напрамку такія прыкметы не назіраюцца.

Аб міграцыях з паўднёвага захаду і захаду ў Браслаўскае Паазер'е сведчаць вынікі раскопак курганных могільнікаў каля вв. Укля і Багіно. Так, пахаванні з сярпом і бранзалетамі на руках (Укля) характэрны для земгалаў (Дучыц, 1996а, с. 114, 115). Грыўні з пашыранымі заходзячымі адзін за другі канцамі, а таксама з трапецападобнымі падвескамі (Багіно) часцей за ўсё ўжывалі ўсходнія літоўцы, латгалы і селы (Tautavicius, 1996, s. 350—357).

Літоўскі археолаг Г. Забела заходнюю частку сучаснай Браслаўшчыны адносіць да ўсходняй ускраіны зямлі Нальша. Ён выдзеліў тут чатыры воласці (Опса, Багіно, Браслаў, Маскавічы) і прапанаваў назваць гэты рэгіён Браслаўя. На яго думку гэтыя землі не паспелі аформіцца ў Нальшы, бо ў сярэдзіне XI ст. пачалася экспансія полацкіх князёў у заходнім напрамку Падзвіння, і важнейшыя гарадзішчы былі пераўтвораны ў апорныя пункты Полацкага княства (Zabiela, 1992, s. 12—24).

Сляды пажарышчаў на гарадзішчах (Пруднікі, Браслаў, Маскавічы і інш.), якія перакрываюць напластаванні канца I — пачатку II тыс. сведчаць аб ваенных дзеяннях у гэты час. Да гэтага перыяду адносіцца спыненне жыццядзейнасці на селішчы Пруднікі, дзе да канца X ст. пражывала латгальскае насельніцтва (Шадыро, 1993, с. 144). З гэтага часу на гарадзішчы Пруднікі з'яўляецца славянскі керамічны посуд. Аналагічная сітуацыя характэрна і для Браслава, Маскавіч і іншых умацаваных паселішчаў, якія пераўтварыліся ў апорныя ваенныя пункты (фарпосты) Полацкай дзяржавы.

Наяўнасць у курганах Браслаўскага Паазер'я аукштайцкіх, земгальскіх і латгальскіх элементаў, звязаных своеасаблівасцямі пахавальнага абраду і інвентару, факт ужо добра вядомы. Усе гэтыя фактары дазваляюць у пэўнай форме пагадзіцца з гіпотэзай Г. Забелы. У любым выпадку рэгіянальная своеасаблівасць Браслаўскага Паазер'я ў канцы I — пачатку II тыс. н.э. відавочна. Безумоўна, гэтыя асаблівасці маюць больш раннія карані, з пачатку 2-й паловы I тысячагоддзя і звязаны з этнакультурнымі працэсамі ранняга сярэднявечча на тэрыторыі Заходняга рэгіёна Беларускага Падзвіння, аб чым мы ўзгадвалі вышэй.

Курганныя старажытнасці ўсходніх тэрыторый Верхнядзвінскага, Расонскага, Глыбоцкага, Полацкага, Ушачскага раёнаў з пачатку II тысячагоддзя носяць больш-менш аднолькавы характар як па абраду пахавання, так і па інвентару. Гэта пахаванні па абраду інгумацыі ў аснове, ямах і зрэдку ў насыпах. Арыентыроўка пахаванняў у большасці выпадкаў заходняя. Зрэдку сустракаюцца паўднёвая, паўночная і ўсходняя. Жаночы пахавальны інвентар у асноўным прадстаўлены караламі з разнастайных шкляных пацерак, бронзавых бразготак, бранзалетападобных і пярсцёнкападобных скроневых колцаў. Сустракаюцца вітыя шыйныя грыўні, зааморфныя бранзалеты, падкôвападобныя фібулы, спражкі і г.д. Упрыгожанні ў сваёй большасці носяць балцкі этнапаказальны паказчык. На ўсход ад цэнтральнага (***В.Ш.***) рэгіёна Беларускага Падзвіння (Полацкае Падзвінне) балцкія рэчы сустракаюцца ў меншай колькасці.

Такім чынам, аналіз археалагічнага матэрыялу паказвае, што да канца I тысячагоддзя на тэрыторыі Беларускага Падзвіння пранікненне славян адбылося невялікімі групамі галоўным чынам з паўднёва-заходніх і паўднёвых напрамкаў. Рассяленне крывічоў, на наш погляд, трэба разглядаць асобна, бо этнічная прыналежнасць іх да славян вельмі спрэчная, асабліва на ранняй стадыі фарміравання і міграцыйных рухаў. З пачатку II тысячагоддзя н.э. і асабліва з канца XI ст. археалогія фіксуе актывізацыю працэсаў славянскага засялення Паўночнай Беларусі. Уключэнне тэрыторыі Беларускага Падзвіння ў кола славянскіх культур не суправаджалася татальнай зменай насельніцтва. Наадварот, археалагічныя даныя сведчаць аб амаль паўсюдным своеасаблівым спалучэннем культур — мясцовай ўсходне-балцкай і новай славянскай, якая яшчэ раней увабрала ў сябе элементы іншых культур, у тым ліку і заходніх балтаў.

### 4.4. Узнікненне гарадоў, фарпостаў і феадальных сядзіб-замкаў

Інтэнсіфікацыя культурных і сацыяльна-эканамічных працэсаў на тэрыторыі Беларускага Падзвіння наступае з апошняй чвэрці I тысячагоддзя н.э. Тут, як і на сумежных абшарах, дзвюма кардынальнымі падзеямі з'явіліся рассяленне ўсходнеславянскіх плямёнаў і інтэнсіфікацыя сацыяльна-эканамічных працэсаў, якія абумовілі фарміраванне гарадоў і развіццё дзяржаўных інстытутаў.

Трэба падкрэсліць, што менавіта з гэтага часу ў славяна-балта-фінскім кантэксце рашучае значэнне набываюць працэсы сінтэзу на розных узроўнях — сацыяльна-палітычным, гаспадарчым і культурным. У культурна-археалагічных комплексах вывучваемага рэгіёна наглядна прасочваюцца з'явы акультурацыі, калі асобныя селектыўна выбраныя лакальныя элементы разнастайных археалагічных комплексаў арганічна ўключаюцца ў новае адзінства — супольнасць. Галоўнай прычынай гэтаму з'яўлялася славянская каланізацыя, у выніку якой разнастайныя рэгіянальныя старажытнасці, звязаныя з культурнымі асаблівасцямі банцараўска-тушамлінскага кшталту, ранніх доўгіх курганоў і паселішчаў з аблітой керамікай з цягам часу знікаюць.

У выніку славянскага рассялення ўсе мясцовыя адметнасці пастунова нівеліруюцца, адлюстроўваючы складаны характар узаемадзеяння славянскага балцкага і часткова фіна-угорскага насельніцтва. Гэты працэс адбываўся ў розных раёнах разнастайнымі шляхамі і рознымі тэмпамі.

Па В.В. Ключэўскаму важнейшыя эканамічныя следчанні, якімі суправаджалася рассяленне славян па Дняпру (і Заходняй Дзвіне адпаведна — ***В.Ш.***) і яго прытоках былі: 1) развіццё паўднёвай і ўсходняй, чарнаморска-каспійскага гандлю славян і выкліканага ім лясных промыслаў; 2) узнікненне старажытных гарадоў на Русі з цягнуўшыміся да іх гандлёва-прамысловымі акругамі. Абодва факты можна адносіць да VIII ст. (Ключевский, 1987, лекцыя VIII, с. 141).

З развіццём гандлю сярод гэтых аднадворкаў узнікалі зборныя гандлёвыя пункты, месцы прамысловага абмену, куды звераловы і бортнікі зыходзіліся для гандлю, для «гостьбы» як казалі даўней. Такія зборныя пункты атрымалі назвы «погостов». З цягам часу, з прыняццем хрысціянства на гэтых мясцовых сельскіх рынках (кірмашах — ***В.Ш.***) як звыклых людскіх зборышчах, перш за ўсё ставіліся хрысціянскія храмы: тады пагост атрымаў значэнне месца, дзе знаходзіцца сельская прыхадская царква. Пры цэрквах хавалі нябожчыкаў: адсюль пайшло значэнне пагоста як могільніка. Дробныя сельскія рынкі цягнулі да больш буйных, якія ўзнікалі на асабліва важных гандлёвых шляхах. З гэтых буйных рынкаў, якія былі пасрэднікамі паміж мясцовымі прамыслоўцамі і іншаземнымі рынкамі, як адзначае В.В. Ключэўскі — паўсталі старажытныя гандлёвыя гарады па грэка-варажскаму гандлёваму шляху (Ключевский, 1987, с. 141).

Такім чынам, у самых старажытных гарадах на тэрыторыі Беларускага Падзвіння зафіксаваны артэфакты трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н.э., асабліва прыкметныя ў Віцебску і Лукамлі. Гэтыя археалагічныя аб'екты — гарадзішчы, на думку Г.В. Штыхава, з'яўляліся абшчыннымі цэнтрамі ранняга сярэднявечча і яны могуць прэтэндаваць на ролю непасрэдных папярэднікаў усходнеславянскіх гарадоў на беларускіх землях (Штыхов, 2004).

У шэрагу выпадкаў у розначэтнічным асяродку балта-славянскага насельніцтва назіраецца заканамернасць у фарміраванні ўмацаванай часткі горада (дзядзінца) на падставе гарадзішча-сховішча жалезнага веку. Вядучую ролю ў гэтым працэсе адыгрывалі славянскія пасяленцы, якія актыўна выкарыстоўвалі пры гэтым як мясцовае насельніцтва, так і наёмнікаў-скандынаваў.

Гарады ўзніклі ў працэсе рассялення славян на месцы канцэнтрацыі пасяленняў (гарадзішчаў, селішчаў) 3-й чвэрці мясцовага насельніцтва (пераважна балцкага), якія з'яўляліся цэнтрамі рода-абшчынных аб'яднанняў насельніцтва і выконвалі адміністрацыйныя функцыі перыяду ваеннай дэмакратыі. Падчас актыўнай славянскай каланізацыі ў шэрагу выпадкаў гэтыя абшчынныя цэнтры пераўтвараліся ў апорныя пункты, якія выконвалі сацыяльна-эканамічныя функцыі дзяржаватворчых працэсаў.

Рэгіён Беларускага Падзвіння адносіцца да тых раёнаў Усходняй Еўропы, дзе не былі вядомы раннія формы урбанізацыі, вынікі якіх пачынаюцца ў антычнасці. З'яўленне гарадоў тут, як і на ўсёй тэрыторыі Старажытнай Русі, было абумоўлена развіццём сацыяльна-эканамічных адносін у асяродку мясцовага насельніцтва, пераважна славянскага ў перыяд складвання раннефеадальных структур і дзяржаўнасці.

Бібліяграфія па пытаннях узнікнення ўсходнеславянскіх гарадоў настолькі вялізная, што толькі пералік даследчыкаў і іх прац зойме не адну старонку апісання. Аўтар спецыяльна не займаўся гарадской праблематыкай, але каб прасачыць гістарычны лёс насельніцтва Беларускага Падзвіння напярэдадні стварэння дзяржавы, неабходна прасачыць эвалюцыю пасяленчаскай структуры насельніцтва, звязанай з падзелам яго на сельскае і гарадское. Вывучэнне гістарыяграфіі праблемы ўзнікнення гарадоў прывяло нас да высновы, што ў асноўным усе даследчыкі XX ст. па дадзенаму пытанню звязаны са

схемай поглядаў на гэту праблему вядомага рускага гісторыка канца XIX ст. В. Ключэўскага, якая атрымала ў літаратуры назву «гандлёвай тэорыі». В. Ключэўскі лічыў, што славяне падчас рассялення ў VII—VIII стст. н.э. ва ўсходнім і паўночна-ўсходнім накірунку знаходзіцца на стадыі разлажэння племянных і родавых саюзаў. На новых месцах, занятых у працэсе каланізацыі, славяне селяцца асобнымі дварамі, былыя сувязі распадаюцца, радство замяняецца суседствам, пачынае фарміравацца «новое сцепление», абумоўленае ўжо эканамічным інтарэсам, рухаючай сілай якога і быў знешні гандаль і, перш за ўсё, з Усходам. Гандаль сцягваў асобныя двары ў сельскія гандлёвыя скапленні (пагосты), потым у вялікія гандлёвыя гарады, да якіх цягнуліся вакольныя тэрыторыі. Гэтыя гарады ўзніклі ў VIII ст. як зборныя месцы гандлю і пункты складзіравання тавараў. У IX ст. гарады акружаюцца ўмацаваннямі, у іх канцэнтруецца ваенная сіла грамадства, асноўнай мэтай якога была ахова гандлёвых шляхоў. «Узброены гандлёвы горад, — як лічыў В.В. Ключэўскі, — стаў вузлом першай буйной палітычнай формы, якая завязалася сярод усходніх славян на новых месцах жыхарства» (Ключевский, 1987). Наступныя канцэпцыі ўзнікнення гарадоў (Юшкоў С.В., Ціхаміраў М.Н., Грэкаў Б.Д., Фраянаў І.Я., Куза А.В., Талочка П.П., Сядоў В.В., Штыхаў Г.В., Лебедзеў Г.С., Булкін В.А. Ляўко В.М., Тарасаў С.В., Мяцельскі А.А., і інш.) запаўнялі схему В.В. Ключэўскага канкрэтна-гістарычнай факталогіяй і разглядалі горад як сацыяльна-эканамічнае ўтварэнне, дзе гандлю прыдавалася ці першаснае, ці другаснае месца. Не ўнікаючы ў разгляд гэтых канцэпцый адзначым, што асноўныя напрамкі ў вывучэнні праблематыкі паходжання гарадоў на сучасным этапе ляжаць ідэі, якія выказвалі раней С.В. Юшкоў, М.Н. Ціхаміраў і Б.Д. Грэкаў. Ідэі, напрыклад, Б.Г. Грэкава падтрымліваюць тыя даследчыкі, якія дапускаюць разнастайнасць шляхоў станаўлення горада і пераўтварэння іх у цэнтры феадальнага кіравання пры эвалюцыі іх з пасяленняў розных тыпаў (у тым ліку і гандлёва-рамесніцкіх паселішчаў — ***В.Ш.***). Сярод вядомых даследчыкаў — паслядоўнікаў падобных поглядаў можна назваць Н.Н. Вароніна, Б.А. Рыбакова, В.В. Карлава, Д.А. Аўдусіна, В.В. Сядова, Г.В. Штыхава (Воронин, 1951, с. 9—11; Рыбаков, 1982, с. 94; Карлов, 1976, с. 37; Авдусин, 1980, с. 24—42; Седов, 1987, с. 12—31; 1989, с. 6—55; Штыхов, 1982, с. 45—80).

Своеасаблівая канцэпцыя ўзнікнення гарадоў прадстаўлена ў работах І.Я. Фраянава і яго сааўтараў (Фроянов, 1980, с. 216 і наст. Фроянов, Дворниченко, 1988, с. 22—40). Сутнасць разумення працэсу ўзнікнення гарадоў на Русі складаецца з таго, што паходжанне гарадоў адбылося не ў рамках феадальнай, а першабытна-абшчыннай фармацыі, г.зн. звязана з познім этапам родавага ладу. Менавіта тады «организация общества становится настолько сложной, что дальнейшая его жизнедеятельность без координирующих центров оказывается невозможной» і таму з'яўляюцца такія цэнтры — гарады. Яны выступаюць у якасці, перш за ўсё, ваенна-палітычных, адміністрацыйных і культурных (рэлігійных) асяродкаў, у той час як рамесніцкая функцыя не з'яўлялася вызначальнай і ў літаратуры моцна перабольшваецца (Фроянов, Дворниченко, 1988, с. 28—34, 38).

Нам бліжэй даследаванні вучоных, якія шырока выкарыстоўваюць археалагічныя матэрыялы. Так, В.В. Сядоў выдзяляў некалькі перыядаў у агульным працэсе ўтварэння горада. На яго думку, у VII—VIII стст. у арэале ўсходнеславянскага свету сярод земляробчых паселішчаў з'явіліся пасяленні, дзе працавалі рамеснікі-прафесіяналы. З цягам часу падобныя пасяленні становяцца таксама гандлёвымі цэнтрамі і іх лепш за ўсё называць протагарадамі. Наступны перыяд у гісторыі горадабудаўніцтва па В.В. Сядову звязаны са з'яўленнем раннефеадальных гарадоў у IX ст. Зразумела, што не ўсе протагарадскія цэнтры перараслі ў раннефеадальныя гарады, а толькі тыя, якія дадаткова да гандлёва-рамесніцкіх функцый мелі яшчэ і адміністратыўныя (палітычныя, ваенныя, культавыя). В.В. Сядоў зрабіў спробу разгледзець паходжанне старажытнарускіх гарадоў у кантэксце агульнаеўрапейскага працэсу станаўлення гарадоў (Седов, 1989, с. 6—55). Ён адзначаў, што ў VII—VIII стст. на ўсход і поўнач ад Рымскай імперыі, на землях германцаў, славян і балтаў з'явіліся «неаграрныя» гандлёва-рамесніцкія пасяленні (іх называюць па-рознаму: протагарады, эмбрыёны гарадоў, прагарады, вікі, гандлёвыя факторыі і інш.). Гэтыя пасяленні ўзніклі, перш за ўсё ў рэгіёнах канцэнтрацыі сельскага насельніцтва, а сярод іх жыхароў вядучую ролю адыгрывалі рамеснікі-прафесіяналы і купцы. В.В. Сядоў указваў, што «пачатак некаторых протагарадскіх пасяленняў абумоўлены развіццём шырокіх гандлёвых сувязяў» (Седов, 1987, с. 12—31; 1989, с. 6—55).

Прыкметнай з'явай у гістарыяграфіі вывучэння гарадоў з'явілася публікацыя ў 1974 г. невялікага артыкула В.А. Булкіна і Г.С. Лебедзева «Гнездово и Бирка» (Булкин, Лебедев, 1974, с. 11—17), у якой упершыню за многія гады было дакладна заяўлена аб значнай (а іншы раз, нават вызначаючай) ролі міжнароднага гандлю ў працэсе станаўлення першых гарадоў. «В VIII—IX вв. на магистральных путях Северной и Восточной Европы, — указваюць В.А. Булкін і Г.С. Лебедзеў, — возникли поселения нового типа, служившие

для реализации новых общественных функций». Пазней гэтыя ж даследчыкі ўжо разам з І.В. Дубавым у 1978 г. больш дакладна вызначылі канцэпцыю станаўлення гарадоў на Русі. Самай старажытнай формай дагарадскіх пасяленняў, на іх думку, былі племянныя цэнтры VIII—IX стст., якія ў IX—X стст. абрасталі гандлёва-рамесніцкімі пасадамі. Іншым тыпам з'яўляліся ўзнікаўшыя ў VIII ст. і галоўным чынам у IX ст. адкрытыя гандлёва-рамесніцкія пасяленні, дзе канцэнтравалася шматлікае рознаэтнічнае насельніцтва, звязанае з далёкім гандлем, ваеннымі паходамі і рамяслом. Інтэграцыя прота- і раннегарадскіх пасяленняў завяршылася да канца X — пачатку XI ст., калі сфарміравалася аднастайная структура горада, якая складалася з княжаскага дзядзінца і рамесніцка-гандлёвага пасаду (Булкин, Дубов, Лебедев, 1978, с. 138—140).

Трэба адзначыць, што звычайна з'яўленне старажытных гарадскіх пасяленняў даследчыкі разглядаюць з пункту гледжання агульных заканамернасцей для ўсёй тэрыторыі Русі, у рэчышчы агульнай дынамікі развіцця ўсходнеславянскага грамадства. Аднак вядома, што ў розных рэгіёнах не апошнюю ролю адыгрывалі спецыфічныя рысы, звязаныя з канкрэтна-гістарычнымі своеасаблівасцямі. Невыпадкова на поўначы Русі дзяржаватворчыя працэсы насілі больш дэмакратычныя формы (народнае веча), а на поўдні складаліся больш аўтарытарныя формы праўлення.

Беларускае Падзвінне па свайму геаграфічнаму размяшчэнню знаходзілася на паўночным ускрайку славянскага свету. Дзякуючы водным шляхам, адсюль адкрываліся выхады да гандлёвых цэнтраў Балтыкі і да багатых футрамі абшараў Поўначы і Паўночнага Усходу. Гэта тэрыторыя ўяўляла перакрыжаванне важнейшых міжнародных гандлёвых шляхоў Усходняй Еўропы. Невысокая, ў адрозненне ад паўднёвых тэрыторый урадлівасць глебы пры густых лясных масівах і шырокай забалочанасці — усё гэта вызначала характар сельскага рассялення і асаблівасць фарміравання гарадскіх пасяленняў. Час узнікнення апошніх быў тут вельмі блізкім з пачаткам славянскага рассялення і нават часам гарады былі заснаваны непасрэдна ў працэсе засваення новых тэрыторый. Яны нараджаліся пераважна не паступова, як цэнтры сельскага насельніцтва, а першапачаткова раслі ў месцах асноўных шляхоў міжнароднага гандлю як цэнтры такога гандлю і рамяства, а таксама як адміністратыўныя і ваенныя пункты (Полацк, Віцебск, Лукамль). Менавіта гэтыя функцыі былі вызначальнымі, на нашу думку, для ўзнікнення горада, у той час як наяўнасць паблізу ад яго масы сельскіх паселішчаў першапачаткова не з'яўлялася абавязковым. У далейшым наяўнасць ці адсутнасць гэтага фактару аказвала моцнае ўздзеянне на характар развіцця гарадскога цэнтра. Гарады, якія ўзніклі на гандлёвых шляхах (Полацк, Віцебск, Лукамль і інш.), у параўнанні з гарадамі — цэнтрамі сельскіх акруг у большай ступені з'яўляліся поліэтнічнымі па складу насельніцтва і характару матэрыяльнай культуры.

Праз тэрыторыю Беларускага Падзвіння — будучага ядра Полацкай зямлі, па рэках басейна Заходняй Дзвіны і Дняпра праходзіў вядомы гандлёвы шлях «з варагаў у грэкі», які адыграў вялікае значэнне ў сацыяльна-эканамічным развіцці мясцовага насельніцтва і ў прыватнасці з'яўленні і пашырэнні колькасці населеных пунктаў, у тым ліку і гарадоў, якія кантралявалі гандлёвыя шляхі, а таксама садзейнічалі гандлёва-рамесніцкай дзейнасці. Таму значную ролю ў жыцці насельніцтва Падзвіння ў развіцці яе дзяржаўнасці і ваенна-палітычнай гісторыі адыгралі скандынавы (нарманы, варагі), асноўная зацікаўленасць якіх першапачаткова была звязана з умацаваннем уздоўж асноўных водных артэрый, якія вялі да мясцовых і далёкіх рынкаў, да крыніц здабычы золата і іншых каштоўнасцей. У месцах важных і складаных участкаў водных шляхоў каля волакаў, парогаў, у месцах раздваення рэк на рукавы, узнікалі ўмацаваныя пасёлкі, якія кантралявалі шляхі і забяспечвалі іх ахову. З такіх мясцін у шэрагу выпадкаў выраслі гарады. Так пачыналася гісторыя Полацка, Віцебска, Лукомля, Браслава і іншых гарадоў Беларускага Падзвіння. Такім чынам, славянскае рассяленне, узнікненне гарадскіх пасяленняў, фарміраванне гандлёвых шляхоў, першыя з'яўленні скандынаваў-нарманаў — усе гэтыя з'явы адносяцца да аднаго гістарычнага перыяду і храналагічна да вельмі кароткага адрэзку часу і цесна ўзаемасвязаны паміж сабой.

Гісторыя насельніцтва Беларускага Падзвіння ў апошняй чвэрці I тысячагоддзя н.э. звязана, як мы бачылі вышэй, з разнастайнымі з'явамі сацыяльна-эканамічнага, этнакультурнага і духоўнага кшталту. Сведчаннем гэтага з'явілася ўзнікненне гандлёва-рамесніцкіх і ваенных цэнтраў у VIII—X стст. на абшарах паўночнага, заходняга і ўсходнееўрапейскага арэала, у тым ліку і ў заходнедзвінскім рэгіёне. Узнікненне гарадскіх пасяленняў было абумоўлена канчатковым распадам родаплемянных сувязяў, фарміраваннем новых структур мясцовага грамадства і складваннем у заходнедзвінскім рэгіёне трансеўрапейскіх гандлёвых шляхоў паміж Балтыкай, Усходам і Поўднем.

Гэта прывяло да ўтварэння адносна стабільнай і шырокай эканамічнай сістэмы з гандлёва-рамесніцкімі цэнтрамі і палітычным насельніцтвам, якая ўцягнула ў сваю арбіту розныя рэгіёны як Беларускага Падзвіння, так і блізкія і далёкія землі і народы. Што датычыць асноўнага насельніцтва Беларускага Падзвіння ў канцы I тысячагоддзя н.э. — крывічоў-палачан, то іх можна разглядаць як

федэратыўнае тэрытарыяльнае аб'яднанне рознаэтнічнага насельніцтва, якое было падпарадкавана вядучым этнасам, у якім дамініраваў славянскі элемент. Такія ўтварэнні характэрны для палітычных аб'яднанняў перыяду ваеннай дэмакратыі. Спачатку яны абапіраліся на скапленні ці «гнёзды» умацаваных паселішчаў-гарадзішчаў і выконвалі ролю ваенна-адміністрацыйных адзінак. Асобныя буйныя такія паселішчы з цягам часу ператвараліся ў гарады ўжо як шматфункцыянальная дзяржаўная катэгорыя. Генезіс развіцця гэтага працэсу — горадаўтварэння добра прасочваецца на прыкладзе Полацка.

***Полацк.*** Па сцвярджэнню Г.В. Штыхава, Полацк — гэта племянны цэнтр заходніх (полацкіх) крывічоў, якія сфарміраваліся ў другой палове I тысячагоддзя н.э. у выніку рассялення славян на тэрыторыю, занятую балтамі і часткова фіна-уграмі (Штыхаў, 1992, с. 100). Гарадзішча, на якім ён узнік, размешчана прыкладна ў 1,0 км ад вусця Палаты на правым яе беразе. Яго плошча складае менш 1 га. Культурны пласт магутнасцю да 4,5 м уключае ў сябе і рэшткі старажытных земляных умацаванняў. Раскопкі на гарадзішчы выявілі матэрыялы днепра-дзвінскай культуры першых стагоддзяў н.э. тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны, а таксама рэшткі дрэва-земляных збудаванняў, якія загінулі ў выніку моцнага пажару.

Пры даследаванні на паселішчы («предградье») побач з гарадзішчам выяўлена ляпная кераміка на плошчы 0,3 га тыпу смаленска-полацкіх курганоў IX — пачатку X ст. Даволі рэдкай для Полацка з'яўляецца знаходка слабапрафіляванага гаршка VIII ст. н.э. з прамым венчыкам і пашырэннем у верхняй частцы, аналогіі можна знайсці з матэрыялаў Ізборскага гарадзішча пад Псковам (Штыхов, 2004, с. 314). У сярэдзіне 80-х гадоў XX ст. С.В. Тарасаў выявіў напластаванні з позняй ляпной керамікай на тэрыторыі Ніжняга Замка ўжо на левым беразе Палаты, плошча якога складала 8 га (Тарасаў, 1998, с. 39).

У выніку шматгадовых археалагічных даследаванняў тапаграфія Полацка на раннім этапе яго існавання выглядае наступным чынам: горад, які існаваў у IX ст. і згадваецца ў летапісе, знаходзіўся на берагах Палаты (на гарадзішчы і прымыкаючых тэрыторыях горад у X—XI стст. хутка развіваўся (Ніжні Замак). У XI ст. яго дзядзінец быў перанесены з гарадзішча на Верхні Замак (плошча 10 га) у месцы зліцця Палаты з Заходняй Дзвіной, дзе каля 1050 г. і быў пабудаваны Сафійскі сабор (Штыхов, 2004, с. 314).

***Віцебск*** (Витьбеск) як горад сфарміраваўся з асобных пасяленняў крывічоў у IX—X стст. У больш раннія часы ў ваколіцах Віцебска зафіксавана канцэнтрацыя гарадзішчаў і паселішчаў, у тым ліку і ў вусці Віцьбы. Амаль усе гарадзішчы ўзніклі яшчэ ў эпоху жалеза. Паселішчы 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э., якія размяшчаліся каля гарадзішчаў, зафіксаваны як у самым Віцебску, так і яго акругах: Старое Сяло. Лужасна. У VI—VIII стст. на старых гарадзішчах былі ўзведзены новыя моцныя абарончыя збудаванні (Штыхов, 2004, с. 215). Гэта былі абшчынныя цэнтры, якія выконвалі ваенна-адміністратыўныя функцыі над адпаведнымі акругамі (Тимощук, 1999).

Умацаваныя пасяленні Віцебска ў VI—VIII стст. размяшчаліся на ўзвышшах сярод забалочанага поплаву р. Віцьбы. Першапачатковым умацаваным цэнтрам Віцебска была Замкавая Гара. Гэты абшчынны цэнтр функцыянаваў з сярэдзіны I тысячагоддзя н.э. (Штыхов, 2004, с. 215). Ілюстрацыяй, як выглядаў гэты цэнтр у той час, можа служыць, на думку Г.В. Штыхава, археалагічны комплекс каля пас. Лужасна, які добра захаваўся і знаходзіцца ў 10 км ад гістарычнага цэнтра Віцебска. Лужаснянскае гарадзішча з'яўлялася абшчынным цэнтрам для носьбітаў банцараўскай археалагічнай культуры. Яно размешчана на вяршыні выцягнутага ўзвышша вышынёй 15—20 м сярод балота і ўмацавана штучнымі землянымі збудаваннямі. З поўначы да яго прымыкае селішча-спадарожнік, па плошчы ўдвая большае за гарадзішча (Штыхаў, 2003, с. 262). Існаванне гэтых пунктаў спынілася ў IX ст. і толькі Віцебск працягваў развівацца ў якасці цэнтра, які выконваў функцыі горада, дзе адбывалася канцэнтрацыя ваенна-адміністрацыйнай і гандлёва-рамесніцкай дзейнасці ўзнікаючай дзяржавы.

***Лукамль*** упершыню ўзгадваецца ў «Поучении Владимира Мономаха» у 1078 г. Гарадзішча (Замак) размешчана на правым беразе р. Лукомкі. У выніку раскопак на працягу сямі палявых сезонаў Г.В. Штыхаў устанавіў, што першымі насельнікамі гарадзішча былі носьбіты днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур. Пражывалі яны тут з рубяжа н.э. (Штыхов, 1978, с. 43). Пры раскопках зафіксавана глянцаваная (лашчоная) кераміка з рабром у верхняй частцы сасуда, якая па матэрыялах селішча Абідня датуецца II—III ст. н.э. У ніжніх пластах зафіксавана кераміка ад слабапрафіляванага посуду, падобнага на посуд ніжняга пласта Віцебска. Выяўлена шмат матэрыялаў, якія маркіруюць старажытнасці 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э.: бронзавы выраб з выемчатай чырвонай эмаллю, біканічныя, праселкі з вялікай адтулінай, бронзавы бранзалет з патоўшчанымі канцамі VI—VIII стст. (падобны да бранзалетаў, выяўленых намі на гарадзішчы Клішына на воз. Сялява, што размешчана ў 20 км на поўдзень — ***В.Ш.***). На гарадзішчы, як указвае Г.В. Штыхаў, выяўлены посуд, падобны таму, які зафіксаваны ім пры вывучэнні абарончых збудаванняў на Полацкім гарадзішчы. Гэта гаршкі

з акруглымі плечыкамі, добра вядомыя па раскопках доўгіх курганоў VIII — пачатку X ст. на Полаччыне і Смаленшчыне (Штыхов, 1978, с. 43). Дакладны час пабудовы абарончых збудаванняў тут не вызначаны, але безумоўна, яны ўжо былі, перш чым тут сталі жыць полацкія крывічы, якія ў сваю чаргу ўзвялі ў IX ст. драўляна-земляныя ўмацаванні, што загінулі падчас пажару ў X ст. (Штыхаў, 1978, с. 44). Ляпная кераміка. па назіранню Г.В. Штыхава, прадстаўлена ў асноўным трыма групамі: 1) посуд жалезнага веку ( у большасці — днепра-дзвінскай культуры), 2) культуры тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі, 3) культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў VIII — пачатку X ст. Апошні тып ляпной керамікі, як і ў Віцебску знаходзіцца ў верхнім гарызонце ніжняга пласта і суіснае з керамікай тыпу Банцараўскага гарадзішча і з раннеганчарным посудам (Штыхов, 1978, с. 46). Побач з гарадзішчам выяўлены селішчы VI—XVIII стст., якія ў свой час выконвалі розныя функцыі, галоўнымі з якіх былі пасадскія пасяленні.  Агульная плошча пасадаў складала 13 га ў IX—XIII стст., г.зн. на працягу ўсёй гісторыі гэтага «маладога горада».

Такім чынам, Лукамль з родаабшчыннага мясцовага балцкага насельніцтва быў пераўтвораны пры рассяленні славян на поўначы Беларусі ва ўмацаваны пасёлак-крэпасць крывічоў. На гарадзішчы, на думку Г.В. Штыхава, магчыма, знаходзіўся родавы старэйшына са сваімі сваякамі ці «княжий муж» з чэлядзю, які збіраў даніну з мясцовага насельніцтва. У IX—XIII стст. Лукамль уяўляў сабой невялікі горад з пасадамі спачатку на правым, а потым на левым беразе Лукомкі.

***Браслаў*** (у крыніцах XV—XVI стст. — Браславль), як лічаць некаторыя даследчыкі (гл. падрабязней: Штыхов, 1978, с. 55—59), заснаваны полацкім князем Брачыславам Ізяславічам і названы яго імем. На думку вядомага беларускага філолага В.А. Жучкевіча, тапонім мог утварыцца ад балцкага brasta (брод), з пазнейшым славянскім пераасмысленнем (Жучкевич, 1974, с. 35). Гарадзішча Замкавая Гара, размешчанае на перашыйку паміж воз. Дрысвяты і Навята мае вышыню каля 15 м і пляцоўку (200 х 100 м), абнесеную магутным валам. У выніку раскопак Л.В. Аляксеева, Г.М. Семянчука атрыманы матэрыялы 3-й чвэрці I тысячагоддзя н.э. (прафіляваны і баначных формаў посуд). У ніжнім пласце таксама зафіксавана ляпная кераміка, блізкая да ганчарнай, форма якой нагадвае гаршкі з доўгіх курганоў VIII — пачатку X ст. Тут знойдзены два бранзалетападобныя колцы, характэрныя для крывічоў, лаўралісты наканечнік стралы VIII ст. (Алексеев, 1960, с. 67; Семянчук, 1991, с. 64). Ніжні слой аддзяляецца ад сярэдняга праслойкай пажарышча таўшчынёй ад 5 да 20 см, які датуецца канцом X — пач. XI ст. Першыя насельнікі з’явіліся на Замкавай Гары ў Браславе хутчэй за ўсё ў VIII ст. н.э. У IX — пачатку XI ст. сюды пранікл і крывічы і пачаўся працэс асіміляцыі абарыгеннага балцкага насельніцтва. Відаць, у канцы X — пачатку XI ст. тут быў заснаваны ўмацаваны ваенны пункт — фарпост, які развіваўся як парубежны горад Полацкай зямлі.

***Гарадзец*** узгадваецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1162 годам у сувязі з паходам князя Рагвалода Барысавіча супраць Валадара Глебавіча «приходи Рогъволодъ на Володаря с Полочаны к Городцю. Володаръ же не да ему полку въ дне но ночь выступи какъ из города с Литвой и многа зла створися в ту ночь. Он ихъ избиша а другыя руками изоимаша множьства пока изъбьеных» (Ипатьевская летопись, 1962, с. 14). Даследчыкі лічаць, што гэта быў добра ўмацаваны горад і, магчыма, нават цэнтр удзельнага княства. Пошукі летапіснага Гарадца праводзіліся ў шмат якіх пунктах з такой назвай, але слядоў там не знаходзілі (Археалогія і нумізматыка Беларусі, 1993, с. 155). Г.В. Штыхаў лічыць, што хутчэй за ўсё гэты ўмацаваны пункт размяшчаўся на месцы гарадзішча Гарадзец паблізу мястэчка Лужкі ў Шаркаўшчынскім раёне пры ўпадзенні Мнюты ў Дзісну (Штыхаў, 1985, с. 169—174). Раскопкі апошніх гадоў пад кіраўніцтвам С.Д. Дзярновіча дазваляюць сцвярджаць, што ў VIII—IX стст. на беразе Мнюты знаходзілася ўмацаванае паселішча полацкіх крывічоў, росквіт якога прыпадае на X — першую палову XI стагоддзя. Далейшае вывучэнне помніка, магчыма, раскрые тайну летапіснага Гарадца.

Такім чынам, у самых старажытных гарадах на тэрыторыі Беларускага Падзвіння зафіксаваны артэфакты трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н.э., асабліва прыкметныя ў Полацку, Віцебску, Лукамлі. Гэтыя археалагічныя аб’екты — гарадзішчы, на думку Г.В. Штыхава, з’яўляліся абшчыннымі цэнтрамі ранняга сярэднявечча і яны могуць прэтэндаваць на ролю непасрэдных папярэднікаў усходнеславянскіх гарадоў на беларускіх землях (Штыхов, 2004).

У шэрагу выпадкаў у рознаэтнічным асяродку балта-славянскага насельніцтва назіраецца заканамернасць у фарміраванні ўмацаванай часткі горада (дзядзінца) на падставе гарадзішча-сховішча жалезнага веку і ранняга сярэднявечча. Вядучую ролю ў гэтым працэсе адыгрывалі славянскія пасяленцы, якія актыўна выкарыстоўвалі пры гэтым як мясцовае насельніцтва, так і наёмнікаў-скандынаваў.

Акрамя ўмацаваных пунктаў (гарадоў), якія ўзгадваюцца ў летапісах на тэрыторыі Беларускага




Карта 13. Гарады і ўмацаваныя пасяленні (крэпасці, фарпосты, замкі) на тэрыторыі Беларускага Падзвіння: гарады і ўмацаваныя пасяленні: 1 — Полацк; 2 — Віцебск; 3 — Лукамль; 4 — Гарадзец; 5 — Браслаў; 6 — Дрысвяты; 7 — Маскавічы; 8 — Рацюнкі; 9 — Пруднікі; 10 — Дзісна.
Умоўныя абазначэнні: 1 — гарады; 2 — умацаваныя пасяленні.

Падзвіння, вядомы шэраг іншых апорна-абарончых крэпасцяў (фарпостаў) — Дрысвяты, Маскавічы, Рацюнкі (Браслаўскі р-н), Пруднікі (Вята) (Міёрскі р-н), Свіла 1 (Глыбоцкі р-н). Узмацненне фартыфікацыйнага будаўніцтва на гэтых пунктах і пераўтварэнне іх у крэпасці-фарпосты звязана з пашырэннем Полацкага княства-зямлі на рубяжы X і XI стст. Адначасовае ўзвядзенне ўмацаваных пунктаў у Браславе, Дрысвятах, Маскавічах, Рацюнках, Прудніках сведчаць аб устанаўленні мяжы на паўночным захадзе. Паўночная мяжа ў Полацкага княства ўтварылася ў выніку паходаў Усяслава Полацкага на Пскоў і Ноўгарад у 1065 і 1066 г. І была ўмацавана фарпостамі Межава, Некалач, Еменец.

Па гісторыі Полацкай зямлі напісана шмат прац, у тым ліку і па пытаннях фарміравання яе тэрыторыі (Насонов, 1951; Алексеев, 1966; Штыхов, 1978; Семенчук, 1990, 1993; Левко, 1994, 1996, 1997, 2004 і г.д.). У дадзеным выпадку нас цікавіць этнічны склад насельніцтва гарадоў і феадальных сядзіб Полацкага княства на рубяжы I і II тысячагоддзяў н.э. у межах Беларускага Падзвіння, каб прасачыць гістарычны лёс насельніцтва краю. Як ужо ўзгадвалася, з актывізацыяй славянскага рассялення ўзвядзенне ўмацаваных пунктаў было неад’емнай часткай дзяржаўнай палітыкі. Каб замацаваць за сабой землі і нейтралізаваць элітную частку мясцовага насельніцтва ў гарады, крэпасці-сядзібы і замкі мэтанакіравана засяляліся выхадцы з розных і часцей з далёкіх зямель. Умацаваныя пункты былі месцамі збору даніны, праводзілі кантроль над воднымі шляхамі і ажыццяўлялі палітыку старшага Полацка над акругай. Акрамя мясцовага насельніцтва, у крэпасцях жылі дружыннікі з сем’ямі і вызначыць этнічны склад насельніцтва таго ці іншага рэгіёна дапамагаюць знойдзеныя пры раскопках разнастайныя артэфакты і ў прыватнасці жаночыя ўпрыгожанні, якія з’яўляюцца дакладным этнічным маркерам. Часцей за ўсё суадносіны рэчаў з умацаваных паселішчаў-крэпасцей і з курганных могільнікаў наваколля ўказваюць на рэзкія адрозненні. Асабліва гэта характэрна для канца X і XI стагоддзяў. У самім Полацку знойдзены сямілопасныя скроневыя кольцы і плецяныя бранзалеты, характэрныя для вяцічаў; куршскія бранзалеты, бранзалетападобныя скроневыя кольцы і іншыя ўпрыгожанні, якія сустракаліся на значнай тэрыторыі. У навакольных курганах (Баркі, Рудня, Глінішча, Захарнічы, Плусы, Дзмітраўшчына) выяўлена вялікая колькасць тыпова балцкіх упрыгожанняў (сплошчана-выпуклы арнаментаваны бранзалет, нагрудныя ланцужкі з трапецападобнымі падвескамі, падковападобныя фібулы, вайнагі і г.д.).

Адзін з памежных пунктаў Полацкага княства на паўночным захадзе ў Дрысвятах, які на сённяшні дзень добра даследаваны (Дрысвяцкі археалагічны комплекс — ***В.Ш.***) вельмі паказальны ў разглядаемым пытанні. Так напрыклад, Г.М. Семянчуком каля вв. Дрысвяты і Пашэвічы на грунтавым могільніку было раскапана 37 пахаванняў, большая частка з якіх была з упрыгожаннямі і прадметамі побыту. Даследчык параўнаў пахаванні дрысвяцкага могільніка з суседнімі помнікамі — курганамі каля Опсы, Уклі, Бельмонтаў на Браслаўшчыне, а таксама на тэрыторыі Літвы і Латвіі. Своеасаблівасць Дрысвяцкага могільніка — гэта вялікая колькасць рэчаў побыту, якія характэрныя менавіта для жыхароў гарадскога пасялення. Калі супастаўляць упрыгожанні, знойдзеныя на гарадзішчах у Браславе, Маскавічах, Пруднiках з комплексамі набораў упрыгожанняў з навакольных курганоў (Заборныя, Гумна, Укля, Лясная, Вусце, Рацкі Бор, Богіна, Опса і г.д.), то у пластах умацаваных паселішчаў выяўлены рэчы, характэрныя для іншаземных тэрыторый (бранзалетападобныя скроневыя кольцы, падвескі-конікі,

манетападобныя падвескі і г.д.). у курганах знойдзены артэфакты мясцовага паходжання (нагрудныя ланцужкі, вайнагі, зааморфныя бранзалеты і г.д.).

Асабліва рознаэтнічным было маскавіцкае пасяленне. Тут у выніку шматгадовых даследаванняў Л.У. Дучыц выяўлены рэчы, уласцівыя крывічам, наўгародскім славенам, вяцічам, лівам, прыбалтыйскім фінам, земгалам, аукштайтам і скандынавам (Дучыц, 1991). Праблема прысутнасці скандынаваў на вывучаемай тэрыторыі і іх ролі ў Полацкім княстве даволі поўна асветлена ў гістарычнай навуцы. Акрамя ваеннай службы, нарманы займаліся гандлем, з'яўляліся місіянерамі-прапаведнікамі хрысціянства. Асобных груп сярод мясцовага насельніцтва яны не складалі, але доўгі час захоўвалі свае традыцыі і абрады. У асноўным скандынавы сяліліся ў гарадах, але сустракаліся і ў сельскіх пасяленнях. Сведчаннем таму можа быць, напрыклад, жаночае пахаванне з курганнага могільніка каля в. Укля (Браслаўскі р-н), якое было праведзена па скандынаўскаму звычаю — гліняны гаршчок быў пакрыты жалезнай шыйнай грыўняй і побач ляжала касцяная праколка з зааморфнай галоўкай. Скандынаўская сярэбраная шыйная грыўня ўваходзіла ў склад скарба IX ст., знойдзенага каля в. Добрына Лёзненскага раёна. Два спіралепадобныя бранзалеты, падобныя скандынаўскім, уваходзілі ў склад скарба каля в. Парэчча Глыбоцкага раёна (Рябцевич, 1965, с. 121—160). Са скандынаўскім звычаем звязана размяшчэнне галавы казла ці барана каля ног нябожчыка ў курганных пахаваннях (Шо, Залезкі Глыбоцкага раёна) (Голубович Е., Голубович В., 1945, с. 126—137). Да скандынаваў маюць адносіны пахаванні з гіркамі-разнавесамі каля в. Опса (Дучыц, 1991). Вялікую цікавасць уяўляюць знаходкі больш за ста костак жывёл з рунічнымі (скандынаўскімі) надпісамі і знакамі, на якіх можна прачытаць мужчынскія імёны, малітвы, заклінанні (Мельникова, 2001). У цэлым артэфакты, якія можна адносіць да скандынаўскіх, выяўлены падчас раскопак амаль на ўсіх аб'ектах Беларускага Падзвіння, якія ўтрымлівалі пласты канца I — пачатку II тысячагоддзя н.э. (Полацк, Віцебск, Лукамль, Браслаў, Маскавічы, Рацюнкі, Пруднікі і г.д.).

Трэба адзначыць, што разнастайнасць гарадскога насельніцтва ў пачатку II тысячагоддзя назіраецца па ўсёй тэрыторыі Усходняй Еўропы. Антраполагі, супастаўляючы вынікі з абмераў чарапоў з гарадскіх і сельскіх могільнікаў, неаднаразова падкрэслівалі адрозненні ў генафондзе гарадскога і сельскага насельніцтва. Археалагічныя і антрапалагічныя даныя сведчаць аб тым, што першапачаткова гарады засяляліся ваеннымі дружыннікамі з славянскіх пасяленцаў на балцкіх землях (Саливон, 1997, с. 270—278). З цягам часу гарадское насельніцтва папаўнялася за кошт нявольных сялян, палонных, рабоў-уцекачоў і г.д. Летапісы даволі часта паведамляюць аб захопе палонных у якасці здабычы падчас ваенных сутычак. Так, полацкі князь Брачыслаў у 1021 г. вярнуўся з Наўгародскай зямлі з палоннымі, а яго пераемнік Усяслаў у 1066 г. размясціў за Полацкам цэлы наўгародскі пагост. З адным з такіх пагостаў краязнавец В. Ермалёнак звязвае вёску Наўгароды ў Міёрскім раёне (Ермоленок, 1998, с. 107—110).

Далейшы лёс рэгіёна Беларускага Падзвіння з канца X — пачатку XI ст. звязаны са стабілізацыяй дзяржаўных структур, актыўным распаўсюджаннем хрысціянства, фарміраваннем новых эканамічных раёнаў і росту ўнутранай эканомікі Полацкай дзяржавы. Гэтыя працэсы суправаджаліся стварэннем новай сістэмы пасяленняў «новых гарадоў». Гэтыя моманты ўвасоблены «ў суіснаванні т.зв. парных гарадоў, з'явах пераносу гарадоў і якія добра вядомы з гісторыі беларускіх гарадоў па даследаваннях, галоўным чынам Г.В. Штыхава, Э.М. Загарульскага, П.Ф. Лысенкі, В.М. Ляўко, М.А. Ткачова, С.В. Тарасава, Т.С. Бубенькі, Л.У. Калядзінскага, А.А. Трусава, І.У. Ганецкай, А.А. Мяцельскага, В.Я. Собаля, А.В. Іова, П.А. Русава і іншых беларускіх даследчыкаў, намаганнямі якіх стала магчымым прачытаць шматлікія старонкі з жыцця старажытных гарадоў Беларусі.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Археалагічныя матэрыялы з Беларускага Падзвіння разам з данымі лінгвістыкі, этнаграфіі, антрапалогіі і ў шэрагу выпадкаў пісьмовых крыніц дазваляюць стварыць рэканструкцыю гістарычнага працэсу развіцця насельніцтва тэрыторыі Паўночнай Беларусі (басейн Заходняй Дзвіны) на працягу І тысячагоддзя н.э. да стварэння дзяржаўнага ўтварэння на гэтай тэрыторыі — Полацкага княства.

На рубяжы І тысячагоддзя да н.э. і І тысячагоддзя н.э. тэрыторыя Прыдзвінскага краю прадстаўлена насельніцтвам балцкай этнічнай арыентацыі днепра-дзвінскай археалагічнай культуры, якая ўступіла ў завяршаючы этап свайго развіцця. Галоўнымі помнікамі гэтай культуры застаюцца гарадзішчы — ўмацаваныя пасёлкі земляробаў, жывёлаводаў, паляўнічых і рыбаловаў. Гарадзішчы ў апошні перыяд існавання культуры набываюць дадатковую фартыфікацыйную магутнасць у выглядзе складанай сістэмы валоў і равоў.

Побач з агульнымі элементамі ў культуры гарадзішчаў Беларускага Падзвіння (заходні і цэнтральны раёны — ***В.Ш.***) вылучаюцца асаблівасці, якія адрозніваюць гэту тэрыторыю ад аднакультурнай вобласці Аршанска-Смаленскага Падняпроўя і Віцебскага Падзвіння. Гэта, перш за ўсё, перавага ў керамічным комплексе баначных форм посуду, часцей сустракаемая арнаментацыя яго (скразныя адтуліны, ямкавыя ўцісканні, пракрэсленыя народныя лініі і г.д.). Доўгачасовае выкарыстанне вырабаў з каменя і косці. Наяўнасць спецыфічных рэчаў (жалезныя сярпы, рубчастыя бранзалеты, сярпы з прамавугольнай спінкай, касцяныя шпількі і г.д.) і адчувальны ўплыў з боку Прыбалтыкі. Доўгачасовая перавага жывёлагадоўлі над земляробствам. На тэрыторыі Беларускага Падзвіння вызначаныя спецыфічныя асаблівасці культуры групуюцца ў заходні варыянт (асноўная тэрыторыя басейна — ***В.Ш***.) і часткова ўсходні (смаленскі) — куды ўваходзіць Віцебскае Падзвінне. Лінія размежавання варыянтаў праходзіць па лініі Езярышча — Шуміліна — Бешанковічы — Чашнікі. Найбольш рэльефна рэгіянальныя асаблівасці праявіліся ў першай палове І тысячагоддзя н.э.

Своеасаблівасць культуры разглядаемых плямёнаў звязана са значным знешнім уплывам і ў першую чаргу з боку культуры штрыхаванай керамікі, а таксама культур Прыбалтыкі. На асноўнай тэрыторыі басейна амаль не адчувалася ўплыву паўднёвых культур і тут амаль не зафіксаваны (Віцебскае Падзвінне мае спарадычныя фактары) складаныя этнакультурныя працэсы постзарубінецкага часу.

Усе субстратныя асаблівасці знайшлі свае адлюстраванне ў асноўным у культуры тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі і яе варыяцыях, якія мелі месца на вывучаемай тэрыторыі ў 3-й чвэрці І тысячагоддзя н.э. Фарміраванне раннесярэднявечнага насельніцтва Беларусі, у тым ліку і Беларускага Падзвіння, адбывалася пад уплывам агульнаеўрапейскага працэсу Вялікага перасялення народаў.

У залежнасці ад напрамкаў пранікнення этнакультурных уплываў на тэрыторыі Беларускага Падзвіння выдзяляюцца 3 раёны: заходні, цэнтральны і ўсходні, якія адлюстроўваюць культурагенетычныя працэсы, што адбываліся на асноўнай тэрыторыі басейна Заходняй Дзвіны з IV—V стст., а на ўсходзе з III ст. н.э. *Заходні раён* характэрны прыбалтыйскім ўплывам, што прывяло да распаўсюджвання к захаду ад лініі воз. Асвея — р. Дзісна — воз. Нарач — старажытнасцей тыпу паселішч з гладкасценнай і аблітой керамікай і часткова культуры ўсходнелітоўскіх курганоў. *Цэнтральны раён* (Полацкае Падзвінне) звязаны з фарміраваннем і распаўсюджваннем старажытнасцей банцараўскай культуры і ранніх доўгіх курганоў у басейне Полацкага Падзвіння. Сімбіёз з мясцовымі культурнымі традыцыямі даў жыццё своеасаблівасцям банцараўскай культуры ў выглядзе яе атокінскага варыянту на правабярэжжы Заходняй Дзвіны. *Усходні раён* (Віцебскае Падзвінне) — месца лакалізацыі старажытнасцей як банцараўскай, так і тушамлінскай культур. Своеасаблівасці Заходняга і Цэнтральнага рэгіёнаў Беларускага Падзвіння адлюстроўваюць галоўным чынам субстратныя рэлікты ўсходняга варыянту днепра-дзвінскай культуры эпохі жалеза і постзарубінецкіх старажытнасцей.

Міжплемянная дыферэнцыяцыя насельніцтва Беларускага Падзвіння ў эпоху ранняга сярэднявечча суадносіцца з этнонімамі крывічоў (крывамі), палачанамі, латыголлю і наровай. Сваеасаблівасці крывічоў-палачан звязаны з адрозненнем культуры ранніх доўгіх курганоў (пскоўскай мадыфікацыі) ад культуры смаленскіх доўгіх курганоў. Полацкія крывічы (палачане) мелі больш раннія карані і традыцыі, узмоцненыя балцкім (латгальскім) і прыбалтыйска-фінскім (нарова) субстратам.

Гістарычны лёс раннесярэднявечнага насельніцтва Беларускага Падзвіння звязаны з актыўным пранікненнем славянскіх груповак, галоўным чынам з паўднёвага ўсходу і паступовай асіміляцыяй мясцовага балцкага насельніцтва. З гэтага моманту пачынаецца славянізацыя балтаў, якая паскорылася

дзяржаватворчымі працэсамі і абумовіла з'яўленне спецыфічных рыс асобнай славянскай моўна-этнічнай супольнасці, якая і лягла ў аснову фарміравання беларускай народнасці. Падмурак пачатку гэтых працэсаў можна бачыць ужо ў раннесярэднявечных этнагрупоўках Беларускага Падзвіння.

Прыкладна з VIII ст. н.э. у жыцці насельніцтва Беларускага Падзвіння назіраюцца змены, якія выкліканы, хутчэй за ўсё, рухам насельніцтва ва ўсходнім напрамку. Скарачаецца тэрыторыя распаўсюджвання банцараўска-тушамлінскіх старажытнасцей і паўсюдна назіраецца фактар пашырэння рэчаў, якія маркіруюцца як латгальскія старажытнасці, і ўсходнелітоўскіх курганоў. Адбываецца новая хваля прытоку насельніцтва з Літоўскага Панямоння і Латышскага Падзвіння. Змены этнасу, хутчэй за ўсё, не адбылося, бо ўсе гэтыя з'явы праходзілі ў асяродку роднаснага ўсходнебалцкага ў сваёй аснове этнічнага масіву. У выніку складаных этнакультурных узаемаадносін на тэрыторыі Паўночнай Беларусі і сумежных тэрыторый фарміруецца новая культура «доўгіх курганоў» ці «полацка-смаленскіх доўгіх курганоў», якая ўвабрала ў сябе як элементы субстратных старажытнасцей банцараўска-тушамлінскага выгляду, так і новых — заходніх, якія няслі на сябе рысы балцкага і часткова славянскага характару. Асноўныя помнікі гэтай культуры — курганныя насыпы з трупаспаленнем канца VIII—X ст. н.э.

Адначасова ў гэты час на тэрыторыі Беларускага Падзвіння пачынаюць пранікаць славянскія групіроўкі насельніцтва, якія ўтвараюць крывіцкі саюз плямёнаў, у склад якога ўваходзяць і палачане як асноўнае ядро насельніцтва Полацкага Падзвіння. З гэтага часу пачынаецца актыўны працэс асіміляцыі і выцяснення балтамоўнага насельніцтва славянскім этнасам ці падпарадкаваннем яго ў рамках славянскай дзяржавы — Полацкага княства. Гэты працэс доўжыўся, мяркуючы па археалагічных даных, да XI—XII стст., а можа, і пазней.

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

| | |
|---|---|
| АНБ | — Акадэмія навук Беларусі |
| АО | — Археологические открытия |
| АН СССР | — Академия наук СССР |
| АСГЭ | — Археологический сборник Государственного эрмитажа |
| БД | — Белорусские древности |
| БДПУ | — Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя М.Танка |
| БДУ | — Беларускі дзяржаўны універсітэт |
| БелСЭ | — Беларуская савецкая энцыклапедыя |
| БелЭН | — Беларуская энцыклапедыя |
| ВЭИНП | — Вопросы этнической истории народов Прибалтики |
| ВЯ | — Вопросы языкознания |
| ГАЗ | — Гістарычна-археалагічны зборнік |
| Известия ГАИМК | — Известия Государственной академии истории материальной культуры |
| ГЭ | — Государственный эрмитаж |
| ДБ | — Древности Белоруссии |
| ЗРАО | — Записки Русского археологического общества |
| ЗОРСА | — Записки отделения русской и славянской археологии |
| ИАК | — Известия археологической комиссии |
| ІГ НАНБ | — Інстытут гісторыі НАН Беларусі |
| КСИА | — Краткие сообщения Института археологии АН СССР |
| КСИИМК | — Краткие сообщения Института истории материальной культуры АН СССР |
| ЛГУ | — Ленинградский государственный университет |
| МАБ | — Материалы по археологии Беларуси |
| МАО | — Могилевское археологическое общество |
| МДУ | — Магілёўскі дзяржаўны універсітэт |
| МИА | — Материалы и исследования по археологии СССР |
| МИСО | — Материалы по изучению Смоленской области |
| ПВЛ | — Повесть временных лет |
| ПГКБ | — Помнікі гісторыі і культуры Беларусі |
| Тр. ПОКЭ | — Труды Прибалтийской объединенной комплексной экспедиции |
| Працы… Т. 1 | — Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кн. 5. Працы кафедры археалогіі. Мн., 1928 |
| Працы… Т. 2 | — Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кн. 11. Працы археалагічнай камісіі. Мн., 1930 |
| Працы… Т. 3 | — Працы секцыі археалогіі Інстытута гісторыі Беларускай акадэміі навук. Мн., 1932 |
| РА | — Российская археология |
| РАН | — Российская академия наук |
| СА | — Советская археология |
| СА БАН | — Секцыя археолёгіі Беларускай Акадэміі навук |
| САИ | — Свод археологических источников |
| СГАИМК | — Сообщения Государственной академии истории материальной культуры |
| Тр. ГИМ | — Труды Государственного исторического музея |
| УЗСПИ | — Ученые записки Смоленского педагогического института |
| ABS | — Acta Baltico-Slavica |

# СПІС ВЫКАРЫСТАНЫХ КРЫНІЦ І ЛІТАРАТУРЫ


**Архіўныя крыніцы**

Дучиц Л.В., Шадыро В.И. Отчет о раскопках курганов на северо-западе Белоруссии в 1986 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 952. 6 с., 24 іл.

Митрофанов А.Г. Дневник раскопок «Поддубники» в 1956 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 86. 14 с.

Митрофанов А.Г. Отчет о полевых работах Западнодвинского отряда в 1974 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 473. 47 с., 26 іл.

Семенчук Г.Н., Ткачев М.А. Отчет об археологических раскопках на «Замковой Горе» в г. Браславе Витебской области в 1989 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 1182. 29 с., 52 іл.

Ткачоў М.А. Справаздача аб палявых даследаваннях днепра-дзвінскага атрада за сезон 1976 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 1032. 17 с.

Ткачев М.А. Браславский район Витебской области (Дрисвяты). Отчет за 1980 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 703. 8 с., 25 іл.

Ткачев М.А. Исследование Днепро-Двинского отряда (Кричев, Горы, Браслав, Иказнь) в 1989 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 1032. 17 с., 25 іл.

Шадыро В.И. Отчет о полевых исследованиях в 1977 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 614. 14 с., 38 іл.

Шадыро В.И. Раскопки городища «Замок» близ д.Прудники Миорского района в 1983 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 833. 47 с., 40 іл.

Шадыро В.И. Отчет о раскопках городища и селища Прудники Миорского района Витебской области в 1984 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 895. 25 с., 36 іл.

Шадыро В.И. Раскопки городища и селища Прудники Миорского района и обследование памятников в Полоцком, Глубокском и Миорском районах Витебской области и Молодечненском районе Минской области в 1985 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 941. 23 с., 41 іл.

Шадыро В.И. Отчет о раскопках селища и городища близ д.Прудники Миорского района Витебской области (зона затопления Даугавпилской ГЭС) в 1986 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 951. 50 с., 50 іл.

Шадыро В.И. Отчет о раскопках городища и селища близ д.Прудники Миорского района в 1987 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 1013. 71 с., 49 іл.

Шадыро В.И. Отчет о полевых исследованиях в Миорском и Глубокском районах Витебской области в 1989 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 1138. 50 с., 63 іл.

Шадыро В.И. Отчет о раскопках в Глубокском, Миорском и Браславском районах Витебской области в 1990 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 1206. 54 с., 83 іл.

Шадыро В.И. Отчет о полевых исследованиях в Миорском и Городокском районах Витебской области в 1991 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 1352.6 с., 88 іл.

Штыхов Г.В. Отчет об археологических исследованиях в Витебской области и Логойске в 1965 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 259. 45 с., 46 іл.

Штыхов Г.В. Отчет об археологических исследованиях в Северной Белоруссии в 1967 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 349. 100 с., 103 іл.

Штыхов Г.В. Отчет об исследованиях Полоцко-Витебского отряда в 1969 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 350. 60 с., 28 іл.

Штыхов Г.В. Отчет о раскопках в Витебске и обследовании археологических памятников в Витебском и Городокском районах в 1972 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 413. 11 с., 36 іл.

Шут К.П. Отчет о полевых археологических работах в 1964 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 237. 31 с., 61 іл.

Шут К.П. Отчет о полевых работах в 1965 г. / Архіў ІГ НАНБ, спр. № 257. 54 с., 69 іл.

**Музеі**

Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі. КП 11570/38, 39, 41, 42.

Полоцкий историко-археологический заповедник. КП 5-2329/14.

**Літаратура**


Авдусин Д.А. Происхождение древнерусских городов (по археологическим данным) // Вопросы истории. 1980. № 12. С. 24—42.

Александрович Н.П. Ихтиофауна из раскопок Масковичского городища (X—XIV вв.) // Древности Белоруссии и Литвы. Минск: Наука и техника, 1982. 176 с.

Алексеев Л.В. Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины // ВЭИНП. Труды ПОКЭ. М., 1959. С. 273—316.

Алексеев Л.В. Раскопки древнего Браслава // КСИА. М., 1960. Вып. 81. С. 95—106.

Алексеев Л.В. Городище Девичья Гора в г.Мстиславе // КСИА. М., 1963. Вып. 94. С. 73—79.

Алексеев Л.В. Полоцкая земля: Очерки истории северной Белоруссии в IX—XIII вв. М., 1966. 295 с.

Алексеева Т.И. 1973. Этногенез восточных словян по данным антропологии. М., 1973.

Алексеева Т.И. О некоторых особенностях сложения антропологического типа славян // Этнагенез беларусаў. Тэзісы дакладаў. Мінск, 1973. С. 79—82.

Алексеева Т.И. Этногенез и этническая история восточных славян // Восточные славяне. Антропология и этническая история. М., 2002.

Амброз А.К. Раннеземледельческий культовый символ («ромб с крючками») // СА. М., 1965. № 3. С. 36—48.

Арашонкава І., Грынавецкене А., Мацкевіч Ю., Рамановіч Я., Чабярук А., Шаталава Л. Лексіка балтыйскага паходжання ў беларускіх гаворках // Беларуская лінгвістыка. Мінск, 1978. № 3. С. 27—37.

Археалогія Беларусі. Жалезны век і ранняе сярэднявечча. Мінск: Беларуская навука, 1999. Т. 2. 504 с.

Археалогія Беларусі. Сярэдневяковы перыяд. Мінск: Беларуская навука, 2000. Т. 3. 554 с.

Беляев И.Ф. История Полоцка или Северо-Западной Руси до Люблинской унии. М., 1872. 456 с.

Бірыла М.В., Ванагас А. Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы. Мінск, 1968. С. 4—12.

Буданова В.П. Варварский мир эпохи Великого переселения народов. М.: Наука, 2000. 460 с.

Бунак В.В. Балтийская антропологическая зона и ее границы // Этнагенез беларусаў. Тэзісы дакладаў канферэнцыі. Мінск, 1973. С. 86—89.

Булкин В.А., Лебедев Г.С. Гнездово и Бирка (к проблеме становления народов) // Культура средневековой Руси. Л., 1974. С. 11—17.

Булкин В.А., Дубов И.В., Лебедев Г.С. Археологические памятники древней Руси IX—XI веков. Л., 1978. 150 с.

Булкин В.А. Кривичи и славяне в верховьях Днепра и Двины // Древняя Русь: новые исследования. Славяно-русские древности. СПб., 1995. Вып. 2. С. 218—237.

Ванагас А.П. Максимальный ареал балтской гидронимии и проблема происхождения балтов // Этнографические и лингвистические аспекты этнической истории балтских народов. Рига, 1980. С. 119—123.

Васкс А.В. Керамика эпохи поздней бронзы и раннего железа Латвии. Рига: Зинатне, 1991. 198 с.

Вассар А.К. К изучению племен I—IV вв. в западной и юго-западной Эстонии. Таллинн, 1956. 162 с.

Верхнее Поднепровье и Подвинье в III—V веках н.э. Материалы. Раннеславянский мир. М., 2002. Вып. 4. 100 с.

Волкайте-Куликаускене Г.К. К вопросу о некоторых женских головных украшениях VIII—IX вв. в Восточной Литве // Труды АН ЛитССР. Серия А. Общественные науки. Вильнюс, 1975. № 4(53). С. 85—95.

Воронин Н.Н. К итогам и задачам археологического изучения древнерусского города // КСИИМК. М., 1951. Вып. 11. С. 5—29.

Вяргей В.С. Археалагічная навука ў Беларускай ССР. 1919—1941 гг. Мінск: Навука і тэхніка, 1992. 144 с.

Гавритухин И.О. Маленькие трапециевидные подвески с полоской прессованных точек по нижнему краю // ГАЗ. Мінск, 1997. № 12. С. 43—58.

Гаучас П. К вопросу о восточных и южных границах литовской этнической территории в средневековье // Балто-славянские исследования. М., 1986. С. 195—213.

Глускина С.М. Морфологические исследования над звуком (ch) в псковских говорах // Псковские говоры. Псков, 1962. С. 28—57.

Гісторыя Беларусі. Старажытная Беларусь. Мінск, 2000. Т. 1. 352 с.

Говорский К.А. Поездка (4 сентября 1852 г.) из г. Полоцка по так называемой Ольгердовой дороге // Записки императорского археологического общества. СПб., 1853. Т. 5. С. 88—97 (приложение).

Говорский К.А. Археологические изыскания в окрестностях г. Полоцка // ЗАО. СПб, 1853. Т. 5. Прилож. V. С. 98—103.

Голан А. Миф и символ. М., 1994. 225 с.

Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР // КСИИМК. М., 1945. Вып. 11. С. 126—137.

Городцов В.А. Старшее Каширское городище // Известия ГАИМК. М., 1933. Вып. 85. 240 с.

Горский А.А. Баварский географ и этнополитическая структура восточного славянства // Древнейшие государства Восточной Европы. Материалы и исследования 1995 года. М., 1997. С. 271—282.

Гофф Ж. Цивилизация средневекового Запада. М., 1992. 376 с.

Граков Б.Н. Каменское городище на Днепре // МИА. М., 1954. № 36. 240 с.

Граудонис Я.Я. Латвия в эпоху поздней бронзы и раннего железа. Рига: Зинатне, 1967. 165 с.

Григалавичене Э., Мяркявичюс А. Древнейшие металлические изделия в Литве. Вильнюс: Мокслас, 1980. 115 с.

Гринблат М.Я. К вопросу об участии литовцев в этногенезе белорусов // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959. С. 523—543.

Грыгор’ева Л. Славяна-балтыйскія сувязі ў айканіміі Беларускага Падзвіння // Bałto-słowiańskie związki językowe. Wrocław – Warszawa – Kraków, 1990. S. 141—148.

Гуревич Ф.Д. Археологические памятники Великолукской области // КСИИМК. М., 1956. Вып. 62. С. 95—107.

Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.-Л., 1962. 222 с.

Гурин М.Ф. Кузнечное ремесло Полоцкой земли. IX—XIII вв. М.: Наука и техника., 1987. 152 с.

Гурин М.Ф. Производство и обработка железа в Беларуси (V в. до н.э. — XVIII в.): Автореф. дисс… докт. ист. наук. / Минск, 1990. 45 с.

Давидан О.И. Стратиграфия нижнего слоя Староладожского городища и вопросы датировки // Археологический сборник. ГЭ. Л., 1976. Вып. 17. С. 101—118.

Данилайте Е. Штрихованная керамика в Литве (некоторые данные по вопросу об этногенезе литовцев): Автореф. дисс… канд. ист. наук. / Вильнюс, 1968. 32 с.

Даниленко В.М. Пізьнозарубінецькі пам’яткі киівского типу // Археологія. Київ, 1976. № 19. С. 65—92.

Даугудис В. Некоторые данные о хронологии и происхождении керамики с шероховатой поверхностью // ДБ. Минск, 1966. С. 163—165.

Денисова Р.Я. География антропологических типов балтских племен и этногенетические процессы в начале тысячелетия н.э. на территории Литвы и Латвии. Балты, славяне, прибалтийские финны. Этногенетические процессы. Рига, 1990. С. 28—81.

Дмитриев С.В. К вопросу о функционировании и генезисе этнонима «кривичи» // Язычество восточных славян. Л., 1990. С. 143—149.

Довнар-Запольский М.В. Очерки истории Кривичской и Дреговичской земель. Киев, 1891. 170 с.

Древности эпохи переселения народов V—VIII веков. М., 1982. 264 с.

Дробушевский А.И. Уваровичское рало // ГАЗ. Мінск, 1996. № 10. С. 5—7.

Дубінскі С.Д. Раскопкі Банцараўскага гарадзішча каля Менску // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мінск, 1927. № 1. С. 360—363.

Дубінскі С.А. Досьледы культур жалезнага перыяду на Віцебшчыне, Магілёўшчыне, Меншчыне / / Працы… Мінск, 1928. Т. 1. С. 275—285.

Дубінскі С.А. Археалагічная праца на Беларусі ў 1919—1928 гг. // Працы… Мінск, 1928. Т. 1. С. 257—261.

Дучыц Л.У., Шчаглова В.В. Жывёлагадоўля і паляванне ў жыцці насельніцтва Маскавіцкага гарадзішча // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. Мінск, 1987. № 2. С. 75—80.

Дучиц Л.В. Курганная группа у д. Лесная Миорского р-на // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988. С. 104—109.

Дучиц Л.В. Курганы белорусско-литовско-латышского пограничья // Исследования в области балто-славянской духовной культуры (Погребальный обряд). М., 1990. С. 163—170.

Дучыц Л.У. Браслаўскае Паазер’е у IX—XIII стст. Мінск: Навука і тэхніка, 1991. 120 с.

Дучыц Л.У., Шадыра В.І. Аб славянскім рассяленні на паўночным захадзе Беларусі (па матэрыялах курганнага могільніка каля в. Вусце Браслаўскага раёна) // Весці АН Беларусі. Серыя грамадскіх навук. Мінск., 1992. № 3—4. С. 73—79.

Дучиц Л.В., Митрофанов А.Г. Городище Ратюнки // ГАЗ. Мінск, 1994. № 5. С. 163—182.

Дучыц Л., Квяткоўская А. Пахавальныя помнікі наваколля Падсвілля // ГАЗ. Мінск, 1994. № 7. С. 58—70.

Дучыц Л.У. Курганны могільнік каля в. Укля Браслаўскага раёна // ГАЗ. Мінск, 1996а. № 8. С. 111—120.

Дучыц Л. Курганна-жальнічныя могільнікі на тэрыторыі Полацкай зямлі (да пастаноўкі пытання) // ГАЗ. Мінск, 1996б. № 10. С. 38—41.

Дучыц Л. Жывёлы і птушкі ў пахавальным абрадзе кurганоў Беларусі // Беларусь у сістэме еўрапейскіх культурных сувязяў. ГАЗ. Мінск, 1997. № 11. С. 147—151.

Дучыц Л.У. Касцюм на тэрыторыі Беларусі ў І тысячагоддзі н.э. (паводле археалагічных даных) // ГАЗ. Мінск, 1997. № 11. С. 99—109.

Дучыц Л., Ганецкая І., Іоў А., Лашанкоў М. Прудзішчанскі могільнік // ГАЗ. Мінск, 2002. № 17. С. 196—200.

Дучыц Л., Ганецкая І., Іоў А., Лашанкоў М. Новыя раскопкі могільніка Сухая Гара ў Лагойскім раёне // ГАЗ. Мінск, 2004. № 19. С. 181—190.

Дучыц Л., Шадыра В. Раскопкі курганоў ва ўрочышчы «Рацкі Бор» каля г. Браслава Віцебскай вобласці // ГАЗ. Мінск, 2004. № 19. С. 143—146.

Дубынин А.Ф. Щербинское городище. В сб.: Дьяковская культуры. М., 1974. С. 198—281.

Егорейченко А.А. К истории населения Белоруссии в раннем железном веке // СА. М., 1982. № 1. С. 54—61.

Егорейченко А.А. Очковидные подвески на территории СССР // СА. М., 1991. № 2. С. 171—181.

Егорейченко А.А. Железный век Браславского Поозерья // Браслаўскія чытанні. Браслаў, 1994. С. 20—22.

Егорейченко А.А. Древнейшие городища Белорусского Полесья (VII—VI вв. до н.э. — II в. н.э.). Минск, 1996. 148 с.

Егорейченко А.А. Этнокультурная ситуация в Белорусском Подвинье в железном веке // ГАЗ. Мінск, 1996. № 10. С. 8—11.

Егорейченко А.А. Городище и селище Зазоны // Браслаўскія чытанні. Матэрыялы IV навукова-краязнаўчай канферэнцыі. Браслаў, 1997. С. 22—26.

Егорейченко А.А. Днепро-двинская культура в Браславском Поозерье // ГАЗ. Мінск, 2002. № 17. С. 19—22.

Емельянчык В. Роля міграцый у фарміраванні антрапалагічнага складу беларусаў (да гісторыі праблемы) // ГАЗ. Мінск, 1997. № 11. С. 5—8.

Емельянчык В. Комплексная антрапалагічная характарыстыка насельніцтва Полацкай зямлі X—XIII стагоддзяў (па даных краніялогіі) // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. Матэрыялы канферэнцыі. Полацк, 2002.

Емельянчык В. Краніялагічная характарыстыка матэрыялаў грунтавога могільніка Дрысвяты-Пашавічы (XI—XIII стст.) // Браслаўскія чытанні. Матэрыялы VI навукова-краязнаўчай канферэнцыі. 7—8 мая 2003 г. Браслаў, 2003. С. 38—41.

Енуков В.В. Ранние этапы формирования смоленско-полоцких кривичей. М., 1990. 262 с.

Еремеев И.И. Верхнее Подвинье и сопредельные территории в конце I — начале II тысячелетия н.э.: Автореф. дисс… канд. ист. Наук / Москва, 2002.

Ермалёнак В. Шляхі Усяслава Чарадзея на Дзісеншчыне // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі (матэрыялы III Міжнароднай канферэнцыі, 21—23 красавіка 1997 г.). Полацк, 1998. С. 107—110.

Ефимова Ю.В. Хронология вещевого комплекса днепро-двинской культуры Верхнего Поднепровья // Городцовские чтения. Материалы к 100-летию деятельности В.А.Городцова в ГИМ. Труды ГИМ. М., 2005. С. 188—194.

Жучкевич В.А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Минск, 1974.

Загорульский Э.М. Археология Белоруссии. Минск, 1965. 227 с.

Загорульский Э.М. Древняя история Белоруссии: Очерки этнич. истории и матер. культуры (да IX в.). Минск, 1977. 135 с.

Загорульский Э.М. О летописных «племенах» восточных славян // Веснік БДУ. Серыя III. Минск, 1992. С. 10—15.

Загорульский Э.М. Начало формирования населения Белоруссии (дославянский период). Минск, 1996. 46 с.

Загорульский Э.М. Проблема этнической атрибуции памятников второй половины I тысячелетия н.э. на территории Беларуси // Веснік БДУ. Серыя III. Мінск, 1996. № 3. С. 24—31.

Зайковский Э. О погребальном обряде у населения культуры штрихованной керамики // Lietuvos archeologija. 9. Vilnius: Akademia, 1992. Psl. 104—107.

Зайкоўскі Э. Духоўная культура ў жалезным веку // Гісторыя Беларусі. Мінск: Экаперспектыва, 2000. Т. 1. С. 118—122.

Зариня А.Э. Одежда латгалов по материалам археологических раскопок последних лет. // Труды ПОКЭ. М., 1959. Т. 1. С. 510—522.

Зариня А.Э. Вилайне латгалов в VII—XIII вв // СА. М., 1960. № 3. С. 203—216.

Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. Мінск: Навука і тэхніка, 1989. 208 с.

Звяруга Я.Г. Беларускае Павілле ў жалезным веку і раннім сярэдневякоўі. Мінск, 2005. 174 с.

Здроевский А. Белорусы Дисненского уезда Виленской губернии // Русский антропологический журнал. М., 1905. № 3, 4. С. 127—151.

Зинкявичюс З., Гаучас П. Восточная граница распространения литовского языка в прошлом по данным топонимики // Проблемы этнической истории балтов. Рига, 1985. С. 174—176.

Иванов В.В., Топоров В.Н. О древних славянских этнонимах // Славянские древности. Киев, 1980. С. 11—14.

Ильютик А.В. Пряслица и грузики из городищ раннего железного века бассейна Березины // ГАЗ. Мінск, 1994. № 5. С. 185—198.

Ипатьевская летопись // Полное собрание русских летописей. М., 1962. Т. 2.

Каваленя А.Зм. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці і Усяж — Бук і Лукамкі // Працы III. Менск, 1932. С. 234—235.

Казакявичюс В. Оружие балтских племен II—VIII веков на территории Литвы. Вильнюс, 1988. 160 с.

Казанский М.М. О балтах в лесной зоне России в эпоху «великого переселения народов» // Археологический вестник. СПб., 1999. № 6. С. 404—417.

Каргопольцев С.Ю., Бажан И.А. К вопросу об эволюции трехрогих кельтовидных лунниц в Европе (III—VI вв.) // Петербургский археологический вестник. СПб., 1993. № 7. С. 113—121.

Каргопольцев С.Ю., Щукин Н.Б. О находках оружия позднеримского времени на западе Ленинградской области // Археология и история Пскова и Псковской земли. Материалы научного семинара 2000 г. Псков, 2001. С. 228—241.

Карлов В.В. О факторах экономического и политического развития русского города в эпоху средневековья (к постановке вопроса) // Русский город (историко-методологический сборник). М., 1976. С. 32—69.

Катонава Е.М. Заходнедзвінская гідранімія на тэрыторыі Беларусі. Пытанні беларускай тапанімікі. Мінск, 1970. С. 153—158.

Катонова Е.М. Данные гидронимии о балто-славянских контактах на севере Белоруссии // Балто-славянские исследования. 1980. М., 1981. С. 177—184.

Катонава А.М. Аб паходжанні некаторых гідронімаў басейна Заходняй Дзвіны на тэрыторыі Беларусі // Веснік БДУ. Мінск, 1971. Серыя 4. № 1. С. 25—30.

Квятковская А.В., Дучиц Л.В. Новые раскопки могильников на Витебщине // Археология и история Пскова и Псковской земли. Псков, 1992. С. 30—32.

Квятковская А. Ятвяжские могильники Беларуси (к. XI—XVI вв.). Вильнюс, 1998.

Кирпичников А.Н. Снаряжение всадника и верхового коня на Руси в IX—XIII вв. // САИ. Л., 1973. Вып. Е1-36. 140 с.

Климчук Ф.Д. К вопросу об утверждении славянского лингвистического элемента на территории нынешней Белоруссии. Балто-славянские этноязыковые отношения в историческом и ареальном плане // Тезисы докладов II балтийской конференции. Минск, 1983. С. 25—26.

Ключевский В.О. Курс русской истории. Сочинение в 9 т. Т. 1. Лекцыя 8. М.: Мысль, 1985. С. 128—142.

Колосовский Ю.В. Новые данные о памятниках 3-й четверти I тысячелетия Верхнего Поднепровья Белоруссии // Тэзісы дакладаў і паведамленняў Беларускай дэлегацыі на VI Міжнародным кангрэсе славянскай археалогіі. Мінск, 1996. С. 43—44.

Колосовский Ю.В. Новые данные о раннеславянском поселении у д.Вежки в Оршанском Поднепровье // Гісторыя Беларусі. Жалезны век і сярэднявечча. Мінск, 1997. С. 37—39, 75.

Коляда В.В. Роль подсечного земледелия в преобразовании ландшафтов Витебской области в раннем железном веке // Географические аспекты рационального природопользования. Минск, 1985. С. 35—40.

Короткевич Б.С., Мазуркевич А.Н. Пять вариантов днепро-двинской культуры // Петербургский археологический вестник. СПб, 1992. № 2. С. 63—82.

Короткевич Б.С. Ранний железный век в верховьях Западной Двины и Ловати: Автореф. дисс… канд. ист. наук / СПб., 2004. 30 с.

Кравченко Т.А. Шатрищенский могильник (по раскопкам 1966—1969 гг.). В кн.: Археология Рязанской земли. М., 1974. С. 163—183.

Краснов Ю.А. Из истории железных серпов в лесной полосе европейской части СССР // КСИА. М., 1966. Вып. 107. С. 17—27.

Краснов Ю.А. Раннее земледелие и животноводство в лесной полосе Восточной Европы. М.: Наука, 1971. 168 с.

Кузавініс К. Пра балтыйскія мікратапонімы і этнонімы // Пытанні беларускай тапанімікі. Мінск, 1970. С. 159—160.

Кузьмин А.Г. К вопросу о «полочанах» Начальной летописи // Древние славяне и их соседи. М., 1970. С. 125—127.

Куликаускене Р. Погребения с конями у древних литовцев // Советская археология. М., 1953. Т. 17. С. 211—222.

Кухаренко Ю.В. Археологические памятники Полесья // САИ. М., 1961. Вып. Е1-57. 70 с.; 44 таб.

Кухаренко Ю.В. Зарубинецкая культура // САИ. М., 1964. Вып. Д1-19. 68 с.

Кушнир А.И., Чаквин И.В. Новые материалы к антропологической характеристике населения Полоцкой земли X—XIII вв. // История и археология Полоцка и Полоцкой земли. Тезисы конференции «К 1125-летию Полоцка». Полоцк, 1987. С. 29.

Ласкавый Г.В. К истории оружия Белорусского Подвинья в VI—XIII вв. // Полоцкий летописецъ. Полоцк, 1993. № 1 (2). С. 19—38.

Лаучюте Ю.Л. Лексические балтизмы в славянских языках // ВЯ. 1972. № 3. С. 102—109.

Левко О.Н., Колосовский Ю.В. Новые данные о памятниках железного века Северо-Восточной Белорусии // Археология и история Пскова и Псковской земли. Тез. докл.. Псков, 1990. С. 57—59.

Левко О.Н. Пути и характер расселения славян на территории северо-восточной Белоруссии // VI Международный конгресс славянской археологии. Тез. докл. советской делегации. М.: Наука, 1990. С. 38—41.

Левко О.Н. Памятники второй половины I тысячелетия н.э. северо-восточной Беларуси в свете формирования племенных «княжений» // ГАЗ. Мінск, 1994. № 5. С. 207—226.

Левко О.Н. Население днепро-двинского междуречья в VI—XI вв. (этнический состав, социальная и территориальная структура). Этногенез и этнокультурные контакты славян // Труды VI Международного конгресса славянской археологии в Новгороде 26—31 августа 1996 г. М., 1997. Т. 3. С. 156—165.

Ляўко В.М. Смаленска-Полацкае памежжа ў Верхнім Падняпроўі (па археалагічных і пісьмовых крыніцах) // ГАЗ. Мінск, 1997. № 12. С. 172—180.

Левко О.Н. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси. Минск: Беларуская навука, 2004. 280 с.

Лекомцева М.И. К реконструкции фонологических систем языков голяди и днепро-двинских балтов // Балто-славянские исследования. М., 1981. С. 88—96.

Литовское народное искусство. Украшения древних литовцев. Вильнюс, 1954. Кн. 1. 452 с.

Лопатин Н.В., Фурасьев А.Г. О роли памятников III—V вв. в формировании культур Псковских длинных курганов и Тушемли-Банцеровщины // Петербургский археологический сборник. СПб., 1994. Вып. 9. С. 136—142.

Лопатин Н.В. Днепро-двинская культура как компонент культуры длинных курганов // Этногенез и этнокультурные контакты славян. Труды VI Междунар. конгресса славянской археологии. М., 1997. Т. 3. С. 166—176.

Лопатин Н.В. Культурные традиции населения Верхнего Поднепровья и Подвинья в III—V вв. н.э.: Автореф. дисс… канд. ист. наук / РАН. Институт археологии. М., 2000. 24 с.

Лопатин И.В. Происхождение керамических традиций III—V вв. н.э. в Днепро-Двинском регионе / / Археология и история Пскова и Псковской земли. Материалы научного семинара 2000 года. Псков, 2001. С. 163—171.

Лошенков М.И. Эсьмоны – городище-убежище первой половины I тысячелетия н.э. в бассейне реки Друть // Археалогія і старажытная гісторыі Магілёўшчыны і сумежных тэрыторый. Магілёў, 1994. С. 90—103.

Ляўданскі А.Н. Археолёгічныя досьледы ў Полацкай акрузе // Працы… Мінск., 1930. Т. 2. С. 157—198.

Ляўданскі А.Н. Археолёгічныя досьледы ў Віцебскай акрузе // Працы… Мінск., 1930. Т. 2. С. 93—104.

Ляўданскі А.Н. Археолёгічныя досьледы ў БССР пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі // Працы… Мінск, 1932. Т. 3. С. 215—218.

Лявданский А.Н. Археологические исследования в БССР после Октябрьской революции // СГАИМК. 1932 г. № 7, 8. С. 54—61.

Ляўданскі А.Н., Палікарповіч К.М. Археалагічныя доследы ў БССР у 1933—1934 гг. // Зап. БАН. Мінск, 1936. Кн. 5. С. 210—217.

Ляшкевіч Э.А., Зубей А.У. Памерная і ўзроставая характарыстыкі прамысловых рыб з гарадзішча Маскавічы па субфасільных рэштках (Браслаўскія азёры) // Весці НАНБ, серыя біялаг. навук. Мінск, 2001. № 4. С. 101—104.

Максимов Е.В. Памятники зарубинецкого типа в с. Суботове // КСИА. АН УССР. Киев, 1960. Вып. 9. С. 29—42.

Мартынов В.В. Типы лексических балтизмов в белорусских диалектах // ABS. 1976. Т. 9. S. 89—94.

Мачинский Д.А. Славяне на территории Белоруссии в I в. до н.э. – XII в. н.э. // Этногенез белорусов: Тез. докл. Минск, 1973. С. 56—60.

Мачинский Д.А. Этнокультурные и культурные процессы в Северной Руси (период зарождения древнерусской народности) // Русский север. Л., 1986. С. 3—29.

Медведев А.М. Посоховидные булавки // ГАЗ. Мінск, 1995. № 7. С. 172—212.

Медведев А.М. Раскопки городища в Белыничском районе // Гістарычныя лёсы Верхняга Падняпроўя. Матэрыялы рэгіянальнай канферэнцыі. Магілёў, 1995. Ч. 1. С. 110—120.

Медведев А.М. Беларуское Понеманье в раннем железном веке (I тысячелетие да н.э. — V в. - н.э.). Минск, 1996. 200 с.

Медведев А.М. О времени прихода славян на территорию Беларуси (характеристика источников) // Тэзісы дакладаў і паведамленняў беларускай дэлегацыі на VI Міжнародным кангрэсе славянскай археалогіі. Ноўгарад. 26—31 жніўня. Мінск, 1996. С. 57—59.

Мядзведзеў А.М. Насельніцтва лясной паласы Усходняй Еўропы і падзеі Вялікага перасялення народаў (да пастаноўкі праблемы) // ГАЗ. Мінск, 1996. № 10. С. 12—20.

Мядзведзеў А. Да пытання аб паходжанні беларусаў (па даных археалогіі і мовазнаўства) // ГАЗ. Мінск, 1993. № 13. С. 10—15.

Медведев А.Ф. Ручное метательное оружие. // САИ. М., 1966. Вып. 1—36. 118 с.

Мельниковская О.Н. Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М: Наука и техника, 1967. 196 с.

Меховский М. Трактат о двух Сарматиях. М.-Л., 1936. 288 с.

Микляев А.М. Каменный – железный век в междуречье Западной Двины и Ловати // Научный доклад дисс. доктора наук. СПб., 1993. 69 с.

Минасян Р.С. Селище Узмень // АСГЭ. Л., 1972. Вып. 14. С. 112—117.

Минасян Р.С. Новые памятники раннего железного века на юге Псковской области // АСГЭ. Л., 1974. Вып. 16. С. 133—141.

Минасян Р.С. Классификация серпов Восточной Европы железного века и раннего средневековья / / АСГЭ. Л., 1978. Вып. 19. С. 47—85.

Минасян Р.С. Железные ножи с волютообразными навершиями // Проблемы археологии. Л., 1978. Вып. 11. С. 148—152.

